# Маладосць

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(691) ЧЭРВЕНЬ, 2011**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар

**Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**

# 6



**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва»,**
**г. Мінск**

## У НУМАРЫ:

**Таццяна СІВЕЦ.** Госць часопіса «Маладосць» . . . . . . . . 3
**Уладзімір ГУНІЧ.** Неабсяжная далеч дарог. Вершы . . . . . . . . 4
**Святлана ДЗЯНІСАВА.** Старыцкія замалёўкі . . . . . . . . 6
**Творы фіналістаў літ. конкурсу «БРАМА МАР».** Шлях да любові. . . . . . . . 15
**Надзея СТАТКЕВІЧ.** Папялішча. Раман . . . . . . . . 19
**Андрэй ГУЦАЎ.** Рэмаркі Шэкспіра. Вершы . . . . . . . . 54
**Юры НЕСЦЯРЭНКА.** Сага пра школу музыкі . . . . . . . . 56
**Андрэй ЖВАЛЕЎСКІ, Яўгенія ПАСТАРНАК.** Гімназія № 13. Раман-казка. Працяг . . . . . . . . 64
**Ян РАДВАН.** Радзівіліяда. Працяг . . . . . . . . 85
**Як дапамагчы ТВОРЦАМ?** (Парады А. Бадака) . . . . . . . . 90
**Андрэй СУЗІНЬ.** Пішу ў формах, ад якіх не становіцца сумна . . . . . . . . 92
**Ала ПЕТРУШКЕВІЧ.** Пра гарадзенскі клуб паэтаў, або Лабірынты прывіднага замка . . . . . . . . 95
**Святлана МАРОЗАВА.** Стэфан Баторый і Гродна . . . . . . . . 98
**Валянціна СМАНЦАР.** Каледж для творцаў . . . . . . . . 105
**Алёна ЗЕНЧЫК.** У модзе — беларускае! . . . . . . . . 110
**Васіль ВІТКА.** Салавей. Верш . . . . . . . . 116
**Расціслаў БЕНЗЯРУК.** Сем урокаў мудраца . . . . . . . . 117
**Юрый ПАТАЛКОЎ.** Адвечнае ў манаграфіі Міколы Мікуліча
«Паэзія Заходняй Беларусі (1921—1939)» . . . . . . . . 122
**Таццяна СІВЕЦ.** Размова на адну цыгарэту . . . . . . . . 125
**Людміла ДУЧЫЦ, Ірына КЛІМКОВІЧ.** Час збіраць камяні . . . . . . . . 131
**Ядзвіга РАМАНОЎСКАЯ.** «Роднай нівы я мільённая часціна...» . . . . . . . . 136
**Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС.** Краязнаўчы даведнік.
Літаратурныя мясціны Беларусі. Працяг . . . . . . . . 140

***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 13 244 руб.***
***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 9470 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 16 694 руб.***
***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 6710 руб.***

Дызайн вокладкі *Веранікі ШНІП,* фота на вокладцы *Кастуся Дробава*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 06.06.2011. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 13,44. Тыраж 2480 экз. Заказ 1435. Кошт нумара ў розніцу 10 000 руб.
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru** **http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**



# Госць часопіса «Маладосць» — начальнік упраўлення культуры Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта Аляксандр Лойка



**— Шаноўны Аляксандр Часлававіч, ці часта Вам даводзіцца гартаць старонкі часопіса «Маладосць»?**

— Часта чытаю большасць беларускіх выданняў, перыядычны друк Міністэрства культуры — газеты «Культура» і «ЛіМ», «Краязнаўчую газету», часопіс «Мастацтва». «Маладосць» — абавязкова ў гэтым пераліку.

**— У 6 нумары «Маладосці» Гродзеншчыну прадстаўляюць вершамі Анатоль Брусевіч, гістарычным расповедам Святлана Марозава, літаратуразнаўчым аналізам Ала Петрушкевіч і ўспамінамі дзяцінства народжаная ў Гродна празаік і журналіст Святлана Дзянісава. Расказваецца і пра Гродзенскі каледж мастацтваў. А якіх гродзенцаў хацелі б зараз прыгадаць Вы?**

— Найперш, гістарычныя постаці, лёсы якіх звязаны з Гродзеншчынай: Максіма Багдановіча, 120-годдзе са дня нараджэння якога мы адзначаем сёлета, Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава. А таксама нашага земляка кампазітара Аляксандра Шыдлоўскага. У чэрвені — стагоддзе са дня яго нараджэння. І канечне, маладых літаратараў, лёсам якіх апякуецца Абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі .

**— Якім чынам, на Вашую думку, Радзіма чалавека ўплывае на яго лёс, у прыватнасці, на Ваш?**

— Радзіма фарміруе светаўспрыняцце, усведамленне свайго месца ў жыцці, прызначэнне ў Сусвеце. І ўсё гэта грунтуецца на генетычнай памяці аб продках, аб лепшых нацыянальных рысах характару: працалюбстве, невычэрпнай творчасці, гасціннасці, міралюбстве, маральнасці і кульце сям'і. Апошнія дзве рысы, што трывожна, парушаны глабалізацыяй, таму мы сваёй працай імкнёмся іх аднавіць і ўтрымаць, гэтак жа, як традыцыйную культуру ўвогуле.

**— Як сёння варта выхоўваць у маладога чалавека любоў да свайго краю, з маладосці выклікаць цікавасць да сваёй гісторыі і мастацтва?**

— Любоў да свайго краю мы, сродкамі ўстаноў культуры, выхоўваем праз аўтэнтычны фальклор, рамёствы, абрады, народную песню, у якіх усё: і любоў да родных мясцін, і гісторыя, і жыццёвая філасофія, і маральнасць беларусаў. Установы культуры вядуць значную тэматычную інфармацыйна-краязнаўчую работу. Мы старанна рыхтуем, змястоўна, высакаякасна і творча праводзім мерапрыемствы да галоўных свят нашай краіны. У клубах і навучальных установах працуе каля трох тысяч творчых фарміраванняў. Навучанне выяўленчаму мастацтву, харэаграфіі, ігры на музычных інструментах знаходзіцца на вышэйшым узроўні. І вядзецца яно, пераважна, на ўзорах беларускага мастацтва. Дарэчы, на тэрыторыі Гродзеншчыны — 9 замкаў — сведкаў слаўнай і годнай гісторыі беларусаў. У вобласці праводзяцца «музейныя ўрокі», увогуле, мы робім вялікую і патрэбную справу.

**— Сённяшняя творчая моладзь не абмежавана ні ў меркаваннях, ні ў прасторы. А што робіцца на Гродзеншчыне, каб утрымаць здольнага маладога чалавека ад пераезду ў сталіцу ці за межы нашай краіны?**

— Моладзь ахвотна застаецца ў Гродне, таму што мае магчымасць рэалізаваць сябе на педагагічнай працы ў трох каледжах культуры і мастацтва, у прафесійных калектывах — тэатрах, філармоніі і г. д. Пры ўладкаванні на працу адразу прадстаўляем жыллё — ствараем усе ўмовы для сумленнай працы. Чакаем толькі ідэй, а іх ажыццяўленне — ужо наш — кіраўніцтва галіны — клопат.

**— Што, на Вашую думку, галоўнае ў рабоце з творчай моладдзю?**

— Па-першае, знайсці паразуменне і агульныя кропкі погляду на перспектыўныя формы дзейнасці. А яшчэ — давер, падтрымка…

**— Прадоўжыце, калі ласка, фразу: «Маладосць — гэта…»**

— Маладосць — гэта сіла, тэмперамент, крыніца ідэй, бязмежныя фізічныя і творчыя магчымасці. Гэта платформа, з якой бярэцца старт на ўсё жыццё. Трэба толькі, каб гэтая платформа была роўнай, без хібаў, каб яе не перакулілі шкодныя звычкі. А аснова яе трываласці — зноў жа народныя традыцыі і высокае мастацтва…

**— Што б Вы хацелі пажадаць чытачам гэтага нумара часопіса «Маладосць»?**

— Вясна і лета — гэта юнацтва і маладосць жыцця, самыя лепшыя, насычаныя яго перыяды. Жадаю не траціць марна ніводнай гадзіны, самім тварыць свой лёс у непарыўнасці з нашай краінай. Шчыра співаць беларускія песні, выконваць нашы непараўнальныя танцы, ганарыцца сваёй гісторыяй і крочыць па жыцці з маладой душой!

**— Дзякуй Вам, Аляксандр Часлававіч!**

***А вас, сябры, я запрашаю перагарнуць далей старонкі «Маладосці», каб даведацца больш пра маладых беларускіх творцаў і іх жыццё!..***

***Вашая Таццяна СІВЕЦ***

*Уладзімір ГУНІЧ*

# НЕАБСЯЖНАЯ ДАЛЕЧ ДАРОГ

*Уладзімір Гуніч нарадзіўся ў 1991 годзе ў Мінску. Студэнт юрыдычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Друкаваўся ў часопісе «Бярозка».*



**Рэдкае, на жаль, сёння пачуццё радасці ад прачытання вершаў маладога творцы, не пакідала мяне, калі дакрануўся да радкоў Уладзіміра Гуніча. Павеяла нязмушанай чысцінёй пачуцця, тым светлым радасным настроем, які заўсёды быў характэрны для творчасці многіх беларускіх паэтаў. Нешта ад Максіма Багдановіча, нешта ад Тодара Кляшторнага, нешта ад Уладзіміра Жылкі... Што і казаць, слаўныя папярэднікі Уладзіміра, і тое, што іх уплыў адчуваецца ў яго вершах, гаворыць аб пераемнасці пакаленняў, вернасці традыцыям айчыннай паэзіі. Гэта і дадатны бок, і пэўная небяспека, бо літаратура, як і жыццё, пастаянна развіваецца і патрабуе новага асэнсавання рэчаіснасці, адчування цяперашняга часу і сённяшніх клопатаў сучаснага чалавека. Але гэта, я мяркую, да Уладзіміра яшчэ прыйдзе. Галоўнае, што ў яго вершах б'іць светлая крынічка сапраўднай паэзіі, што яны напісаны добрай беларускай мовай, што штукарства і ўяўная філасафічнасць іх пакуль абмінулі. Ёсць грунт, ёсць глеба, на якой, спадзяюся, ўзрастуць яркія і прыгожыя кветкі. Дык, у добры час!**

*Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ*

* * *

Неба поўніцца змярканнем,
Залатая цішыня,
Сонца казачным убраннем
Захінае крозы дня.

За дарогаю бярозы
Пахілілі тонкі стан,
Сняцца ім на лісцях слёзы,
Каля іх палёг бур'ян.

У азёрах тонуць промні,
Дзесьці цепліцца касцёр,
Быццам край вячэрні поўніць
Цішыня далёкіх зор.

Астывае неба ззянне,
З ім кастра няспынны жар,
Толькі месяц да світання —
Твой суддзя і валадар.

* * *

Ціхі вечар, соннае балота,
Сонца лье ружовае змярканне,
Колкіх хвой маўклівая самота
І бяроз узорнае убранне.

Ды на мхах раскінуліся росы,
І лясун дзесь ходзіць задуменны,
Распускае у бярозаў косы,
Заплятае тонкія праменні.

Ля бяроз красуюцца брусніцы,
Першых зор пачуўшы прывітанні,
Ім цяпер пад вечар ціха спіцца…
Лесавік іх знойдзе на світанні.

* * *

У аблоках хаваюцца зоры,
Дзесьці месяц захутаны свеціць,
Вечарэюць за небам прасторы,
Рэчка песню таемную цепліць.

Сіні месяц забраўся высока,
Не дастанеш рукою змарнелай,
Строга ён пазірае, далёка,
Нешта шэпча зямлі схаладнелай.

Зледзянеламу кажа світанку,
Небасхіл асвятліўшы: «Даволі!
Я забраў тваё сонца да ранку,
Каб яно не свяціла ніколі».

* * *

Адшумела пара залатая,
Адзвінелі за клёнам дажджы,
Зноў над полем завея гуляе
У вячэрняй марознай цішы.

Зноў абшары у сінім убранні,
Аксамітны красуецца снег,
Толькі чутна — марозныя сані
Пачынаюць удалеч свой бег.

Толькі бомы звіняць, свецяць зоры
І бушуюць вятры на шляхах,
І алмазныя стынуць азёры
У нязведаных сініх краях.

Дзесьці месяц стаіўся за хмарай,
Зледзянелы хавае свой рог,
А пад ім — неспазнанаю марай —
Неабсяжная далеч дарог.

* * *

Даруй, бяроза белая,
Пасланніца вясны,
Пакутніца нясмелая
Ля велічнай царквы.

Што шчырымі малітвамі
Цябе не зберaглі,
Прыпала ты галінкамі
Да самае зямлі.

Ляжыш цяпер, зламаная
Бяздушнаю рукой,
Чужынцам абадраная,
Залітая слязой.

Ля берага над возерам
Адной ужо царкве
Кідаць удалеч позіркі
На човен, што плыве.

Рыбак, з надзеяй беднаю,
Што стаў на бераг той,
Запаліць свечку верную
Бярозе на спакой.

Не знойдуць іскры дзіўныя
Ні сцежак, ні дарог,
Пачуць малітвы сціплыя
Не зможа Вечны Бог.

Не плач, бяроза родная,
Твой корань шчэ жывы,
Заззяе дрэва новае
Вясною ля царквы.

Святлана ДЗЯНІСАВА

# СТАРЫЦКІЯ ЗАМАЛЁЎКІ

*Святлана Дзянісава нарадзілася ў 1972 годзе ў Гродне. Скончыла медыцынскае вучылішча і біялагічны факультэт БДУ. Працуе намеснікам галоўнага рэдактара глянцавага часопіса «Женский журнал».*



**Можна па-рознаму ставіцца да «вясковай» прозы. Але, як бы ні прадракалі ёй смерць, яна не тое што не сыходзіць у нябыт, але, наадварот, прыцягвае і натхняе сучасных аўтараў.**

**Трэба прызнаць, што пісаць на такія распрацаваныя тэмы цяжка. Па-першае, непазбежна будуць узнікаць асацыяцыі і параўнанні з папярэднікамі, па-другое, амаль немагчыма пазбегнуць паўтораў. Ад другой небяспекі нашу дэбютантку ратуе тое, што за аснову сваіх замалёвак яна бярэ прыватныя ўспаміны, і гэта надае творам шчырасці, інтымнасці. Святлана Дзянісава максімальна ўважліва, да драбніц узнаўляе карціну вясковага побыту. Цеплыня дзіцячых успамінаў, няспешная плынь аповеду, што вельмі адпавядае зместу, нечаканая, амаль постмадэрнісцкая трактоўка бібліятэкі — здаецца, зусім нядрэнна для дэбюту.**

*Алена КАРП*

***Старыцкія — гэта значыцца, напісаны як успамін пра Старыцу — вёску ў Капыльскім раёне Мінскай вобласці. Там прайшло, лічыце, усё маё дзяцінства. Бог ты мой, якім жа яно было цікавым! Пераканацца ў гэтым можна, прачытаўшы хаця б гэтыя замалёўкі.***

## НА МОГІЛКАХ

— Пара ўжо мне ў беразак, — любіў паўтараць мой дзед Міця, лежачы на канапе.

Яшчэ мо і цяпер так паўтарае, бо і па гэты дзень жывы, дзякуй Богу. Але ж раней, у дзяцінстве, я бачыла свайго дзеда кожны дзень, а цяпер — не. Дык вось, ляжа мой дзед Міця на канапу, пакладзе адну руку на жывот, другую сабе пад галаву і прыгаворвае:

— Э-хе-хе. Пара мне ўжо ў беразак.

А бабка яму з кухні:

— Унё-нё, надумаўся! Яшчэ і Хіма жыве, і Натоль не пайшоў, а ты ўжо збіраешся.

— Хіма? Так, Хіма жыве, — пагодзіцца дзед. — Дык і Стэфка ж яшчэ нічога. Соўгаецца.

— А ты ўжо ўлёгся! Ніяк не дачакаешся!

— Чакаю, ну.

— Ой-вой, і не брыдка. Я мо раней пайду. Ты ж мне ўсе вантробы пераеў. З Хімы некалі вачэй не зводзіў. А Стэфка тая? Хустку белую завяжа і едзе на павозцы. «Міцька, Міцька». Пфу, няма пра каго гаварыць!

— Слухай, а Маня ўжо памерла?

— Маня? Даўно. Адмучылася.

— Гэта ж Лёнік яшчэ жывы?

— Лёнік? Жывы. Што яму зробіцца? Учора ў магазіне бачыла. Паўлітру браў.

Бабка доўга з дзедам гаварыць не будзе, у яе суп варыцца. А дзед яшчэ некалькі разоў паўторыць:

— Э-хе-хе.

Той беразак ад хаты не вельмі далёка: угару падняцца ды прайсці направа колькі метраў. Па левую руку будзе выган, а насупраць ужо могілкі. Самыя звычайныя. Магілкі на іх дагледжаныя. Бо старыцкія людзі ходзяць сюды часцяком. Каго б ні неслі хаваць, уся вуліца выходзіць развітвацца. А потым, пастаяўшы моўчкі ля сваёй брамкі, у хату ніхто адразу не ідзе, кожны стараецца далучыцца да жалобнай працэсіі. Ідуць ужо не моўчкі. То ўспамінаюць нябожчыка, якім той быў добрым чалавекам, то пра жывых слова за слова гаворка завязваецца. Ідуць «памаленькуй», як у Старыцы кажуць. Спяшацца ж няма куды. Пакуль дойдуць, яшчэ пра што пагутарыць знойдзецца.

— Ці села твая курыца?

— Ат, каб яна спруцянела! Кінула яйкі і пайшла. Трэба будзе ў Капыль ехаць па куранятаў.

— І мая ж такая самая. Няма цяперака добрых курэй.

Ля самых могілак усе размовы заціхаюць. Людзі ўваходзяць сюды велічна, кожны нібы сэрцам адчувае важнасць моманту. Тут не скажуць абыякавае «быў чалавек — і няма чалавека», тут другое ў галовах. Развітаўшыся ў думках з аднавяскоўцам, кожны задасць самому сабе пытанне, кожны памаўчыць у пошуках адказу, уздыхне, ізноў памаўчыць. А потым быццам маланка блісне — усе ачуняюць.

— Нешта, мабыць, на дождж паварочвае.

— Ну, хмара з Капыля якраз сюды ідзе.

— Як засыплюць, пойдзем пройдземся. Яшчэ паспеем.

Быццам было калі інакш, але ж гэтае «пойдзем пройдземся» кажуць заўсёды. Ідуць — спачатку кожны да сваіх: пастаяць, зноў моўчкі, падумаць, паправіць кветкі, агледзець надмагілле і агароджу — ці не трэба чаго падфарбаваць? Помнікі тут ніхто не цалуе, ніхто праз іх з памерлымі не размаўляе, не скардзіцца і не жаліцца. Тыя, хто тут пахаваны, не ў граніце ці мармуры і не ў зямлі, што пад імі. Яны ў сэрцах тых, хто жывы і прыходзіць сюды, карыстаючыся любым зручным момантам. Пастаяўшы ля сваіх, збіраюцца гуртам, каб разам прайсціся яшчэ да каго.

— Хадзем да Матруны з Юзікам сходзім. От добрыя былі людзі. Ніколі табе ўпоперак нічога не рабілі. Што яна, што ён.

— Ну. І памерлі ж адзін за адным. Адразу яна, потым ён.

— Не, мусіць, ён спачатку. Гэта ж калі было?

— На Вялікдзень летась. Яна. І ён праз тыдзень.

— От ужо і помнік паставілі. Чакай, што ж напісалі, цікава. «Памяць дзяцей і ўнукаў». Ну, няхай будзе так. Добра. А во, глядзі, Гэлька Лявонішына ляжыць.

— О-ё-ёй. Бедная Гэлечка. Забілі. Ці мо само так атрымалася. Хто цяпер ведае.

— Гэта ж ён, мужык ейны. Баню напаліў, каб яна мыцца ішла, а сам з праводкай нешта намудрыў. Яе і забіла. Токам.

— Уга, дзіва што, токам. Барані Божа. Давай ля Васіля пастаім. Ці прыязджалі да яго гэты год на Вялікдзень? Ці мо не?

— Як жа ж не? І магілка во прыбраная.

— Дзівак чалавек. Пайшоў лепшага жыцця шукаць, жонку кінуў.

— Ды з мацяраю, га.

— Ну, кажу ж, што з мацяраю. Дык жонка мацяру і дагледзела да самай смерці. Глядзела, як родную.

— А ён ці быў на пахаванні?

— Быў, а як жа? Ці мо не? А чорт яго ведае. Не помню. Давай да Волькі падыдзем. Надта ж помнік прыгожы ёй паставілі.

— Добры чалавек, няхай ляжыць спакойна. А і праўда, помнік прыгожанькі, акуратненечкі такі. Я б сабе такі заказала. Добра, пойдзем ужо, бо не паранее. Дождж, небарака, даўно збіраецца, ды ўсё ніяк яму не выходзіць пайсці. Хадзем, хай усыпле, трэба ж зямлю прамачыць трохі.

І пойдуць дадому, «памаленькуй», нага за нагу, успамінаючы яшчэ і па дарозе тых, каго ўжо няма, хто пайшоў ужо з вёскі. Назаўсёды, але ж недалёка, у беразак.

## НА ЛАЎЦЫ

— Хадзем на лаўку. Я от зараз рафінаду ў рот кіну ды пойдзем. Яшчэ пакуль каровы прыйдуць, дык пасядзім трохі.

Як цяпер помню, кароў прыганялі з поля а палове на дзясятую. Але на лаўку выходзілі не менш як за гадзіну, бо трэба ж было хоць раз за дзень пабачыцца з суседзямі не здалёк, а пасядзець з імі, пагаварыць, тое-сёе абмеркаваць. Гэта была, як цяпер бы сказалі, тусоўка. Мая бабка Людміла папраўляла перад выхадам валасы, сашчапляла іх грэбнем і завязвала хустку — «накругла», як яна любіла гаварыць. Гэта значыць, каб вузел быў на патыліцы, а вушы і скроні заставаліся ледзьве прыкрытымі. Бабцы гэта вельмі пасавала. Другі раз яна магла завязаць хустачку інакш — «пад бараду», але гэта ўжо не зусім тое, самі разумееце. Папраўляючы валасы, бабуля глядзелася ў люстра, якое вісела высока на сцяне. Раней іх вешалі — высока і, пад вуглом, каб глядзела не проста наперад, а яшчэ крышачку ўніз. Цяпер так ніхто ўжо не вешае не толькі люстэркі, але і партрэты. І дарэмна. Бо партрэтам гэта вельмі пасуе, а люстэркі, схіленыя бы ў паклоне, не маюць магчымасці хлусіць, як цяперашнія. Прывёўшы ў парадак галаву, бабка брала кавалачак цукру, кідала яго ў рот і, гукнуўшы нас, унучак, выходзіла на лаўку. Мы, канечне ж, з поўнымі кішэнямі агрэсту або цукерак беглі за ёю, кінуўшы ўсе свае гульні. Бо гэта было цікава.

Вось гляньце, сядзяць ужо тры жанчынкі. Мая бабка Людміла заўсёды пасярэдзіне. Слухаючы то адну, то другую, яна паварочвае галаву то направа, то налева, і тады завязаная «накругла» хустка варушыцца на галаве, быццам шлем. Жанчынка з аднаго боку, прыбраная ў такую самую хустачку, малюе кіёчкам нейкія загадкавыя рыскі на зямлі. Другая лушчыць на спадніцы «гарбузікі». І як яны толькі маглі захавацца дагэтуль — хутка ўжо новыя будуць. Раптам гаворка замаўкае: па вуліцы нехта ідзе, трэба ж паглядзець добра.

— Скібіха? Скібіха.

— Ну, так, Скібіха. Куды ж яна?

— Мусіць, да нас.

Сцішыліся, пачакалі.

— Куды, Антонаўна, ідзеш?

— Гляджу, седзіцё, дык і мне захацелася з вамі.

— Ну, сядай. З намі добра.

— А во і Мая зараз падыдзе.

Мая, што з хаты насупраць, выбралася з вёдрамі да калодзежа. Але ж пастаіць крышачку, «пагамоніць», уважыць суседак. Ніхто тут ёй не скажа, што яна падышла з пустымі: прыкмета пра вёдры — не з гэтай вёскі. Потым яна пойдзе па ваду, а гутарка непазбежна павернецца ў яе бок.

— От Мая малайчына. Далібог, зайздросна, якія фіраначкі ў яе на вокнах. Усюды чысцінечка, вымецена, прыбрана.

— Яна ж і на дзвярах кожны тыдзень строі мяняе. Ото ж, бачыла, былі кветкі, а цяпер пеўні вышываныя.

Трэба сказаць, што дзверы ў старыцкіх хатах заўсёды рабіліся з вакенцамі, а на тыя вакенцы добрыя гаспадынькі вешалі фіранкі. Толькі не з вышыванымі прарэзамі, спрэс белыя, саматканыя, як на вокнах, а каляровыя куплёныя — вышываныя альбо з малюнкам, нанесеным фарбамі. Гэтыя першыя дзверы заўсёды вялі ў сенцы, а ўжо з іх у хату адчыняліся цяжкія, глухія, з клямкай.

— Малайчына, Мая. А во Пятроўна ідзе аднекуль. Ну і жанчына. Не старэе. Трое дзяцей, а не растаўсцела ані ніяк.

Гэта дзіўна, але ж звычайна пра поўную жанчыну ў Старыцы гавораць інакш.

— Поўная, прыгожая, адразу відаць, што здароўе добрае і жыве добра, — так казала мая бабуля пра кабет у целе.

І наадварот, пра хударлявых:

— Няма на што глядзець.

Памятаю, як яна перажывала аднойчы, што сама трошкі схуднела.

— Унё, спадніца хутка зваліцца. Сорамна ж будзе ад людзей, — гаварыла яна, знарок надзімаючы жывот, каб здавацца паўнейшай. Я яшчэ тады, дзякуючы бабцы, зрабіла выснову, што мова наша такая ж разумная, як некаторыя людзі. Бо калі папраўіцца — гэта ж значыць стаць лепшай. А як схуднець, то тады якой — горшай, чым была? Напэўна, так. І вось толькі Пятроўна выклікала супрацьлеглыя пачуцці і думкі. Ох і паважаная яна ў Старыцы жанчына! Яе яшчэ завуць Зубная, бо яна ў бальніцы людзям зубы лечыць. Слухайце, пакуль бабулі сядзяць, раскажу вам пра зубы.

Я заўсёды баялася вырываць малочныя зубы. Ужо на адной толькі нітачцы хістаецца, есці перашкаджае, а я ніяк не магу набрацца храбрасці ды выкінуць яго з рота, каб не замінаў. Вось аднойчы мая бабка і кажа:

— Баязліўка ты. Хадзем да Пятроўны.

А я тады яшчэ не ведала, што Пятроўна — тое ж самае, што Зубная. Ну і пайшла спакойна. Прыходзім да Пятроўны. Парог пераступілі — і як заўсёды: пра курэй, пра парсюка, пра дождж, халера на яго, пра камароў, што надта ж ужо шмат іх гэтым летам, каб яны спруцянелі… А потым як бы між іншым бабка кажа, што не можа яе ўнучка, гэта значыцца я, зубу свайму рады даць. Пятроўна тады пытаецца:

— Дасцё паглядзець? Я толькі, чакайце, рукі пайду памыю.

Пайшла памыла рукі, а я стаю, чакаю, бо Пятроўне ж цікава на зуб мой паглядзець.

— Ну, адкрывай рот, паказвай.

Я адкрываю.

— Во гэты? — пытаецца Пятроўна, дакранаючыся да аднаго з зубоў.

— Не, — кажу. — Не гэты.

— А які ж тады? А, мабыць, гэты.

І паказвае мне мой зуб, ён у яе ўжо ў руках. Я гляджу на яго і вачам не веру: як гэта я нічога нават і не пачула, а зуба ўжо няма ў роце? Радасныя, ідзём з бабуляй назад, дадому. І я думаю: ці гэта Пятроўна такая разумная, ці мая бабуля? А потым раблю выснову, што яны, як кажуць у Старыцы, абедзве роўныя. Вернемся мо на лаўку? Бо там яшчэ хто цікавы пройдзе.

Праехала машына. Не праехала нават — пранеслася, нібы маланка.

— От жа ж! Панакупляюць лахтамабіляў, а тады не ведаюць, што робяць, — бабчына суседка з кіёчкам у руках нават над галавою яго прыўзняла, быццам пагражаючы вадзіцелю, які не ведае, што робіць. Сапраўды, не ведае, бо, каб ведаў, ехаў бы па Старыцы значна цішэй.

— Бывае, што вадзіцель беражэ машыну, ціхенька едзе. От тады паглядзець прыемна. А тыя ж носяцца як шалёныя.

— Во-о-й, няма на што глядзець, — пагаджаецца суседка з гарбузікамі.

— У цябе, Зіна, мо ўжо агуркі ёсць?

— Ёсць, але ж пустацвету надта шмат, не ведаю, што гэта здарылася.

— У мяне летась так было. Я пустацвет у халаднік расціраю. Ай-ёй, як тады добра пахне. Ды і хараша ў талерцы выходзіць, люба глянуць.

— От добра што ты сказала. Пайду заўтра па шчаўе ды таксама навару, як ты кажаш, з пустацветам. Глядзі, Міроніха ідзе. Куды гэта яна целяпаецца? Куды, Міроніха, ідзеш?

— Трэба, дык іду.

— Не хочаш — не гавары. Сядай во тут, з намі пасядзі.

— Няма мне калі сядзець, — адказвае Міроніха і прымошчваецца на лаўку побач з Зінай.

— Раскажы, што бачыла па дарозе.

— Натоліха капу купіла, дык несла дадому. Кажу: ты ж разгарні, пакажы, што за капа. Разгарнула, паказала: прыгожая, кажу, капа. З абноўкай цябе.

— Дык дзе яна дзелася, хай бы і нам паказала.

— Шкандыбае недзе, але яшчэ далёка. Гэта ж я жвавая.

— Колькі табе ўжо, Міроніха, гадоў?

— Вой, не пытайся лепей. Колькі ёсць, усе мае. Як той казаў, не дачакаецеся.

«Як той казаў» — любімае выслоўе старыцкага чалавека. Хто ён, гэты «той», невядома, але ж нешта ён заўсёды кажа. Вы думаеце, заседзелася ўжо Міроніха, а некуды ж спяшалася? Няхай сядзіць.

— А што гэта Івану зрабілася? Ці хто ведае?

— Халера яго ведае, а больш ніхто. Я кажу: «Ванька, добры ж ты чалавек. Нашто ж табе тая ліхаманка?» А ён: «Не, цётачка, і не ўгаворвай мяне». А яна, во ўжо дзе гарлапаністая, як выскачыць з хаты ды да мяне: «Вам нашага шчасця шкода!» Але ж папомніце мае словы: вернецца ён да жонкі, быць не можа, каб не вярнуўся.

— А я б не даравала. Няхай бы памучыўся.

— Дык дзе ж ты бачыла! Яна яго чакае, свету белага без яго не бачыць.

— Сама вінавата. Не трэ было выстранчаць перад ім, як перад дзіцем.

— От дурное. Якая ж розніца? Мужчыны — гэта ж дзеці.

— Шчэ мо і мудрэй, чым дзеці.

Слова «мудрэй» тут спакон веку ўжываецца зусім не ў тым сэнсе. Вы ўжо, напэўна, зразумелі. Пра мужчын тут увогуле доўга не гавораць. На людзях кожная выкарыстоўвае прынцып «калі не добра, то лепш нічога». І толькі ў хаце, сам-насам з гаспадаром можна даць волю пачуццям, абазваўшы яго крывасмокам або вантробаедам. Але нячаста, аднаго разу на два-тры дні дастаткова.

Праехаў нехта на веласіпедзе. Не проста так, паражняком, а з поўнымі мяхамі спераду і ззаду.

— Хто гэта паехаў? — пытаецца мая бабка.

— Нешта не пазнаць, — адказвае суседка з гарбузікамі. Яны то ўжо скончыліся, але смецце ляжыць у падоле. — Паздароўкаўся, праўда, але ж я не зразумела.

— Добра нагрузіўся.

— Крапіва сёлета парасла ў лесе добрая, ды так яе свінні ядуць, што люба глянуць.

— Ды сала тады з прораззю.

— Ну, але, як крапівою карміць, дык тады з прораззю. Мне такое сала даспа-

добы. Я яшчэ люблю няхай сабе і белае, без мяса, але каб мякенькае было. У рот возьмеш — і растане. У цябе, Зіна, сёлета якое сала?

— Так сабе, не вельмі. На тры пальцы.

— На тры пальцы — то яшчэ нічога.

Таўшчыня сала ў старыцкіх гаспадынь заўсёды вымяралася на пальцы. Я, папраўдзе, ніколі не магла гэтага зразумець. Ну, прыкладзе адна гаспадыня свае пальцы да сала, і выйдзе ў яе, напрыклад, тры. А другая прыкладзе — і ўсе чатыры зойме, тоўстае будзе сала, на зайздрасць. А як гаспадар памерае, то і на два можа выйсці — зусім сала ніякаватае. Ды адно і тое ж сала. Так я думала ўсё сваё дзяцінства. А потым зразумела, што з досведам не паспрачаешся, і супакоілася. Няхай сабе мераюць на пальцы, калі так зручней. Абы сала вадзілася. А крапіва — сапраўды добрая ежа для парсючкоў. Яе прывозілі з лесу ў вялікіх мяхах і кідалі ў хлеў, дзе ў кожнага стаяла сячкарня — прыстасаванне з вялікім колам, якое трэба круціць ухапіўшы за ручку, і тады крапіва, пакладзеная ў драўляныя начоўкі, што адразу за колам, дробна сячэцца нажом. Мы некалі з задавальненнем секлі крапіву ў такой сячкарні. Будзе парсючок добра есці крапіву — будзе на «акцябрскія» ладнае сала. Ды не толькі сала, а і каўбасы, і паляндвіца. Пакуль не прыйшлі каровы, раскажу вам пра каўбасы. У маёй бабкі яны заўсёды віселі на прутку ў сенцах, пад самай столлю. Аднаго разу ішлі да яе сваякі, што прыехалі ў Старыцу на вяселле. Ведама ж, праз сенцы ішлі. Ды ў падпіцці. І захацелася ім пажартаваць. Зрэзалі яны кружок каўбасы ў бабчыных сенцах, зайшлі ў хату і кажуць:

— Паспытайце, якая ў вашай свахі каўбаса.

Бабка панюхала з недаверам, адрэзала кавалачак і з’ела.

— Ну, дык як у свахі каўбаса?

— Пахне неяк нядобра, — адказвае бабка.

Сваякі пачалі смяяцца, а бабка тады пакрыўдзілася. І правільна зрабіла, я лічу. Бо сваха — гэта не жартачкі. І наогул, у Старыцы так не жартуюць.

Вось ужо і каровы паказаліся. Жанчынкі яшчэ трошкі пасядзяць, пачакаюць, пакуль параўняюцца з лаўкай пастухі, бо трэба ж паздароўкацца ды запытацца, ці ўсё было добра, ці не замоклі, калі быў дождж, ці не запарыліся. Потым паволі, быццам неахвотна, будуць падымацца.

— Дзеткі, бяжыце ў хату па даёнку.

— Хадзем, псейка, псейка, псеечка! Хадзем дадому. Ну! Што ж гэта? Не наелася яшчэ!

— А-ёй, нагу не павалаку, здранцвела ўся, седзячы.

— Ну то, да заўтра вам.

— Ага, і вам гэтаксама.

## У БІБЛІЯТЭЦЫ

— Па абедзе, як карову прагонім, дык сходзім у бібліятэку. Возьмем кніжак. Пра пана цівуна трэба не забыцца ўзяць, надта цікавая.

Здаецца, так мая бабуля першы раз запрасіла мяне ў старыцкую бібліятэку. Па вясковых мерках гэта была вялікая бібліятэка — на дзве залы, з шырокім і доўгім сталом пасярод адной з іх, занятым газетнымі падшыўкамі, з паліцамі ад падлогі да самай столі, з надта ж важным пісьмовым сталом і такім самым па важнасці дзядзькам-бібліятэкарам. Дзядзька, праўда, час ад часу засынаў над фармулярам, але ненадоўга. Пачне пісаць, піша, тады дзеўбане носам у паперу, а тады ізноў піша, быццам нічога і не было. Смешны. Мы калі без бабулі прыходзілі, то спачатку не ведалі, як у такіх выпадках

быць, і стаялі, сцішыўшыся, пакуль не прачнецца. Потым ужо не хваляваліся, проста чакалі, бо было ж чым у гэтым чаканні займацца: кніг навокал чытаць — не перачытаць. Здаецца, якраз у такую вось хвіліну я аднойчы і адкапала на адной з паліц кніжку, змест і цэлыя сказы якой дагэтуль не забылася. І цяпер, каб трапілася мне тая кніжка, прачытала б з задавальненнем, хоць з таго часу даводзілася чытаць на гэтую тэму яшчэ і не такое. На якую тэму? «От вещества к существу» — прачытала я тады на вокладцы гэтай кніжкі. Яна была пра нараджэнне сусвету і з'яўленне жыцця на нашай планеце. З той пары як я, дзякуючы гэтай кнізе, даведалася, хто такія неандэртальцы і як выглядалі пітэкантрапы, мяне стала цікавіць біялогія. Ды і астраномія, да якой я заўсёды была цікаўная, выйшла на яшчэ больш высокія пазіцыі ў рэйтынгу, як цяпер кажуць, маіх пазашкольных заняткаў. Але цікавей за ўсё вось што. Старыцкая бібліятэка ў часы майго дзяцінства размяшчалася на ўзгорку, у адным будынку з вясковым клубам. А прыступкі ў гэтага будынка былі надта ж высокія, і, каб у той клуб ці бібліятэку трапіць, трэба было, па-першае, надта высока падымаць ногі, асабліва нам, дзецям. Мы літаральна паўзком ускараскваліся — і хто іх такімі зрабіў? А па-другое, ісці туды кожны раз было страшнавата, бо дом гэты стаяў не навідавоку, а далекавата ад астатніх будынкаў, і быў абкружаны высокімі старымі дрэвамі, у голлі якіх сядзелі вароны. Бывала, яны жудасна крычалі. Цяпер мне гэтае месцазнаходжанне здаецца сімвалічным: шлях у краіну ведаў, як любяць казаць настаўнікі, не можа быць лёгкім, і не заўсёды ж ён светлы, калі разабрацца, і страшна на ім бывае, шмат разоў потым сама ў гэтым пераконвалася. А яшчэ кожны можа ў любы момант выбраць — прачытаць штосьці цікавае, хоць бы і пра неандэртальца, ці пагуляць-патанчыць. Як мая бабка казала, ногі адбіць.

## У ЛАЗНІ

Слухайце, не магу ўспомніць, па якіх днях у Старыцы, як я была малая, хадзілі ў лазню! Здаецца, у чацвер быў жаночы дзень, а ў пятніцу мужчынскі. Ці мо не? Ат, некая розніца, як кажуць у Старыцы.

А хадзіць у тую лазню было нават вельмі цікава.

У мужчынскі дзень вечарам, як мы з бабуляй выходзілі на лаўку, можна было назіраць такую карціну: дарослыя, дужыя, з вусамі ці барадамі — адным словам, мужыкі ішлі па вуліцы з тазікамі на галовах. Быццам вялізныя шапкі, ацынкаваныя тазікі, круглыя або крыху выцягнутыя, а ў каго дык і прамавугольныя (такія мая бабка ночвамі называла), плылі над тулавамі людзей, і гэта было не тое што смешна — неяк дзіўна. Не, рукі ў іх занятыя не былі. Проста так ім было, напэўна, весялей ісці. Дарэчы, тазікі можна было і не несці — у лазні хапала тазікаў. Мая бабка ніколі не несла з сабой тазік.

Ну дык вось, уявіце сабе: заходзіце вы ў лазню, а там — як у белым воблаку, у самай яго сярэдзіне, нічога вакол не відаць. Толькі чуваць як тазікі бразгаюць — адзін аб адзін, аб каменную падлогу, аб драўляныя дошкі, на якія іх трэба было ставіць, каб памыцца. А яшчэ плюханне вады, якую выкідалі з гэтых тазікаў на падлогу не паволі, а хутка, адным рухам. Кожны такі гук аддаваўся задаволеным рэхам. А словы людзей патаналі — у гэтым плёскаце, у бразгатанні тазікаў, ды і проста таму, што іх з'ядала воблака. Сценкі лазні пакрывала белая квадратная кафля, але я чамусьці чула ад бабкі, што гэта вафля, а не кафля. Сапраўды, кафля вельмі падобна да вафлі, ва ўсіх сэнсах. Дарэчы, бабуля часам жартавала, расказваючы байку пра глухіх, што сышліся ля рэчкі, але стаяць на розных берагах. «Ты ў лазню?» — пытаецца першы. «Не, я ў лазню», — адказвае другі. «А-а-а, а я думаў, ты ў лазню». Смешна? Вядома, гэта ж Старыца.

Дык вось, нічога не чуваць, нічога не відаць, і трэба толькі мыцца, мыцца і мыцца, стоячы над тазікам з вадой. І памыцца трэба так, каб скура рыпела, як казала бабка. Праводзіш далонькай па целу — і раздаецца рыпенне. Вось гэта значыць чыста вымылася. Ведаеце, што было самае прыемнае? Адчуўшы бездакорную чысціню пад пальцамі, пайсці з тазікам да крана, па новую ваду, і, узняўшы поўны тазік над галавой, абліцца ёю. Каб аж дух заняло. А потым яшчэ раз так, і зноў, зноў, зноў, пакуль не надакучыць. А непрыемна — ісці потым дахаты з завязанай на галаве хустачкай. Бо яна хоць і прыгожая, а вельмі ж стрымлівае добры настрой. Думкі светлыя ў галаве пасля лазні з'яўляюцца, натхненне аднекуль зыходзіць, хочацца, як кажуць у Старыцы, немаведама чаго, а тут, на табе, хустка на галаве. І ўсе думкі пад ёй хутка, быццам цыркулем хто правёў, адгароджваюцца ад гаспадыні. А ўвогуле, я шкадую, што цяпер не маю магчымасці пайсці ў вясковую лазню, узяць там ацынкаваны тазік і мыцца, сагнуўшыся над ім. І што не ходзяць па вуліцах мужчыны з тазікамі на галовах. Бо, як мне цяпер здаецца, у гэтым была своеасаблівая рамантыка.

## У КУХНІ

Шафа, на якой стаялі трохлітровыя слоікі для малака, спачатку здавалася мне высокай. Каб дацягнуцца да слоіка, трэба было стаць на дыбачкі. Тады я ўяўляла сябе артысткай балета. Потым так станавіцца ўжо зрабілася неабавязкова. А затым і наогул, нават руку не трэба было высока падымаць. Цяпер тая шафа стаіць у хаце маіх бацькоў і здаецца зусім маленькай. Гэта дзіва, але пакуль яна стаяла ў хаце бабулі, я расла. Бабуліна шафа дапамагала мне расці!

Прыгожая яна. І цяпер яшчэ відаць, якая прыгожая. Хоць і простая. Дзверцы зверху — са шкельцамі, дзверцы ўнізе — спрэс драўляныя. А паміж верхам і нізам — паліца. Тады яна была зацягнута вышываным ручніком, які зрабіла мая мама. Для сваёй свякроўкі яна вышыла на белым паркалі дзівосныя кветкі. За кветкамі добра хаваліся талеркі, слоічкі з сочывам і цукар. О, гэты цукар! Калі быў кавалкамі, то доўга ён на той палічцы не затрымліваўся. А збоку, каля шафы, стаяла на табурэціку вада ў вядры. З калодзежа. Халодная — аж сківіцы зводзіла. Потым, канечне, зрабілі вадаправод, але я, калі згадваю бабчыну хату, заўсёды бачу тое вядро з вадой. Каля вядра стаяў вялізны — літровы — кубак. Эмаліраваны. Помню, наемся цукру, а тады ваду каўтаю раз за разам — не наталіцца. За вадой — газавы балон. За ім бабка хавала алей. Цяпер па літру і болей прадаюць, а раней паўлітровай шкляной бутэлькі хапала надоўга. Вядома, гатавалі ўсё на свіным тлушчы, алей жа берагі на аладкі. Ах, якія пульхныя яны выходзілі ў маёй бабулі! Раслі на вачах. А смачныя! Бабуля навучыла мяне, каб не капала цеста з лыжкі, намачыць яе ў алеі папярэдне, а тады ўжо зачэрпваць. Тады аладачкі роўныя выходзяць, акуратненькія. І міса для цеста была асобная, больш ні на што не прызначаная. У бабулі ўсё так было — поўны парадак.

Стол стаяў пад самым акном. Можна было гатаваць ежу і назіраць за тым, што робіцца ў двары — дзе корпаюцца куры, хто ідзе праз равок на поплаў, як далёка-далёка па полі плывуць караблі-камбайны. На гэтым, прызначаным толькі для прыгатавання ежы, стале заўсёды стаяла некалькі спачатку гліняных гарлачыкаў, а пазней ужо трохлітровых слоікаў з малаком — каб кісла, на сыраквашу і тварог, некалькі перакуленых дагары нагамі кубачкаў і паўлітровы слоічак з драўляным таўкачыкам для бульбы, а таксама відэльцамі і лыжкамі. Ведаеце, у майго дзядулі была свая лыжка, якую больш ніхто не браў. І ён, апроч яе, ніякай не карыстаўся. Бо лыжку гэтую, мусіць, з Сібіры прывёз. На памяць пра радзіму, якую пакінуў, калі пайшоў служыць у армію і трапіў у Беларусь. У Слуцак, як ён казаў. Трапіў у

Слуцак і ажаніўся з бабуляй, прыгожай маладой настаўніцай, бо яна тады ў Слуцкім педтэхнікуме вучылася. Ой, смешны мой дзядуля. Беларускія словы рускімі гукамі вымаўляе. Нязвыкла, але вушам прыемна.

Каля стала — газавая пліта. На дзве камфаркі, як казала бабка. На высокіх нагах, яна дазваляла — не тое што сучасныя — нешта пад сябе яшчэ паставіць або пакласці. Гэта можа падацца дзіўным, але пад бабчынай плітой ляжаў чамаданчык з курынымі яйкамі. Курэй у бабулі было мала, але які мо дзясятак яек заўсёды ў гэтым чамаданчыку вадзіўся. І амаль кожную раніцу бабуля гатавала яечню ў высокай патэльні. Такую яечню вы нідзе не пакаштуеце! Хіба толькі я вам яе прыгатую. Бо ведаю некалькі сакрэтаў. Ад бабулі, вядома. А яшчэ бабуля рабіла мачанку з малака. Не, такую, якую ўсе ведаюць, яна таксама рабіла. Але ж мачанка з малака — тая была для мяне, дзяўчынкі, што зусім не паважае мяса. Калі я пачну вам тут распавядаць пра тое, як яе зрабіць, вы, пэўна, скажаце, што так робіцца французскі соус бешамель. І будзеце мець рацыю. Але адкуль мая бабуля ведала пра той бешамель?

Насупраць пліты была печ. Звычайная печ. Бабка пякла ў ёй блінцы, сухарыкі, бульбу, сушыла грушы і варыла суп з фасолі. На печы, я вам скажу, таксама вісела паркалёвая фіранка, праца маёй мамы. Гэта калі печ не палілася. А так на прыпечку заўсёды нешта стаяла — ці то патэльня са скваркамі, якія засталіся ад сняданку і абавязкова каму-небудзь прыглянуцца да вечара, ці то гаршчочак з грэцкай кашай, ці то бляха з печанымі яблыкамі або гарбузікамі. А ў падпечку калі-нікалі вадзіліся кацяняты.

## АПТЭЧКА

Стол для сняданкаў, абедаў і вячэры стаяў у пакоі перад кухняй. Вялікі, ён заўсёды быў накрыты прыгожай цыратай і меў прасторную шуфляду. У шуфлядзе той месцілася аптэчка. Гэта мо ў вас аптэчка — невялікая скрыня з лекамі, як у мяне цяпер — невялікая шуфляда ў вялікай камбінiраванай шафе. А ў маёй бабулі аптэчка была цэлай скарбніцай. Інакш проста быць не магло. Амаль штодня да бабулі прыходзілі розныя людзі, каб папрасіць то пластыру, то аспірыну, а то і змяінага яду. Змяіным ядам бабуля націрала сабе спіну, каб не балела. І ўсім яго раіла. І ўсім гэта дапамагала. Яна была настаўніцай. Але да медыцыны заўсёды мела павагу. І таму да яе хадзілі не толькі па лекі, а і па гаючае слова. Але вернемся да той шуфляды пад цыратай. Я вельмі любіла прысесці да стала, адгарнуць цырату, выцягнуць шуфляду і перабіраць лекі, па цэлай гадзіне і болей, чытаючы незразумелыя мне словы. Выявілася, зусім гэта не марная справа была. Калі бацькі і бабуля разам з імі захацелі, каб я стала доктарам, і калі я, такая паслухмяная, не паступіўшы ў медыцынскі інстытут, пайшла вучыцца на медсястру, фармакалогія і латынь не былі для мяне вялікай праблемай. Увогуле, усё, што ёсць у мяне нематэрыяльнага, родам адтуль, са Старыцы, як ты ні круці. А з матэрыяльнага — толькі фотакарткі. Але вось дзіва: мне здаецца, што ўся мая цяперашняя кватэра нейкім чынам знаёмая з бабулінымі рэчамі і рэгулярна перадае мне прывітанні з майго дзяцінства, з бабулінай хаты. То і добра, скажу я вам!

# ШЛЯХ ДА ЛЮБОВІ

<u>*Віталь БЫЛЬ*</u>

* * *

У сінім маўчанні нябёсаў святых,
У сініх пажарах вачэй пустых
Адзін я цярпеў, і шукаў, і шалеў,
Пакуль не пачуў твой Біблійны напеў...

* * *

Ты бачыў, як пад сонцам гіне
У лабірынце павуціння
Начы дажджлівай успамін?
Высока недзе між галін,
Якіх не хвошча дождж густы, —
Ён разляціцца аб лісты.

<u>*Яўгенія ГЕТМАНЧУК*</u>

## ВЕРАСНЁВАЕ

…Водгуллем ціхім сплятаецца сон
З думкай змарнелай.
Верасень возьме цябе у палон,
Душу і цела.
Верасень будзе твой сон вартаваць,
Пець калыханкі.
Як цябе ў гэтай слаце адшукаць
Неспадзяванкай?
Ў плямах нянавісці — шлях да любві.
Сны і сустрэчы.
Што ж ты у сэрцы маім нарабіў,
Позірк хлапечы?
З ветрам цалуецца п’яная ў дым
Шэрая восень.
…Шчасце, што так і не стала маім,
ДЗЕ ЦЯБЕ НОСІЦЬ?

## АДЧЫНІМ БРАМУ МАР!

**Адкрыты конкурс літаратурнай творчасці студэнтаў «Брама мар» быў ініцыяваны кафедрай літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ. Хаця, як прызнаюцца арганізатары і выкладчыкі Аксана Бязлепкіна, Маргарыта Аляшкевіч і Уладзімір Капцаў, праект быў прыдуманы для студэнтаў і самімі студэнтамі: настолькі актыўна маладыя людзі спрычыніліся да арганізацыі і правядзення «Брамы мар». Усяго на конкурс было даслана больш як 160 заявак ад навучэнцаў дванаццаці ВНУ краіны. Творы ўдзельнікаў ацэньваліся ў пяці намінацыях: паэзія, проза, драматургія, пераклад і крытыка. У межах конкурсу сябры журы — пісьменнікі, паэты, крытыкі і перакладчыкі — праводзілі адмысловыя майстар-класы. Некаторыя студэнты нават адпрошваліся з заняткаў, каб прыйсці на творчыя сустрэчы з Людмілай Рублеўскай, Галінай Багданавай, Арцёмам Кавалеўскім, Пятром Васючэнкам, Ірынай Шауляковай. Сёння на старонках часопіса «Маладосць» — творы фіналістаў «Брамы мар» — спраўджаная надзея сучаснай беларускай літаратуры.**

*Віка ТРЭНАС*

*Наста ЗАХАРЭВІЧ*

* * *

Любіш гуляцца ў футбол? Тады слухай байку,
Толькі ўважліва, ды не паблытай нічога.
Першую ролю грае саколка, па-сучаснаму «майка»,
А ўсё астатняе — так пакрысе, патроху.
Калі ты зусім пачаткоўца — гуляй асцярожна.
Поле — як армія, з духамі і дзядамі,
З часам табе гэтаксама ўсё будзе можна,
Толькі глядзі, каб чакаць не прыйшлося гадамі.
Каб не трапляць табе ў показкі сярод заўзятараў,
Цела сваё трымай чыстым паўсюль і заўсёды.
Нават калі і слата, абыходзься без плямаў ты.
Ты ж яшчэ хочаш героем быць гэтага года?..
Брамнік каманды суперніка — твой найлюцейшы вораг,
І неістотна, што ён твой найлепшы сябра.
Нават тады, калі трапіш мячом ты ў лоб яму,
Не задавайся пытаннем, ці яно таго варта.

* * *

Ты вар'ят.
Абіраеш адзежу па колеры.
Сёння чамусьці сіні.
Аніколі не сварышся з гонарам.
Ён маўклівы.
Ты вар'ят.
Калі нехта глядзіць табе ў вочы —
Проста смяешся.
Калі нехта ў твой бок пакрочыць —
Гаворыш з сэрцам.
Ты вар'ят.
Ты ніколі не молішся Богу,
Часам бавішся — паліш іконы,
Але варта адчуць трывогу —
І адразу на парозе касцёла.
Ты проста вар'ят.
Я хаця й не агностык,
У разгадку тваю я не веру.
Лепей проста ў касцёле
Табе адчыняць буду дзверы.

*Анастасія ЛЕВЫЧЭНКАВА*

* * *

Мы губляем іголку святога
У слупочках штодзённай канвы,
У нашага гаротнага Бога
Мог інфаркт быць, калі б быў жывы.

Праз усё, што я бачу навокал,
Ужо льецца няспынная сінь.
Адчуваю Ўсявышняе Вока
І вар'яцтва, што блізка зусім.

А ў маім адзінокім маўчанні
Палымнеюць здагадкі-штуршкі.
І аднойчы скажу: ты даруй мне,
Шлях абраны — занадта цяжкі.

*Тацяна САРОКА*

## ТЫ ПАЙШОЎ

Ты пайшоў... Гучна грукнулі дзверы.
Ты нічога з сабою не браў.
Мне пакінуў… надзею і веру:
Не падман — ты таксама кахаў…

Ты пайшоў… вінавата і нішча…
Ты з любові нічога не ўзяў.
Ты з кахання зрабіў папялішча…
І нічога ў душы не схаваў…

Ты пайшоў… Сэрца-брама замкнецца.
Вартаўнік — дзікі боль — на замкі.
І адчайнае з вуснаў не рвецца:
«Мой няскораны! Мой дарагі…»

Ты пайшоў... Я паспела сагрэцца
Шэрым дымам, што лёг на зямлі.
Ты пайшоў... А вынесла сэрца…
Пасадзіла у попел любві.

Ты пайшоў… І гаркавая слота
Прамачыла сухую раллю.
З майго сэрца сышла адзінота —
Я кахаю. Я зноўку люблю.

Ты пайшоў… Ды застаўся на месцы.
Засталася. Каханнем каб жыць,
Адрадзілася з попелу сэрца…
А тваё — з чорнай плямай. Маўчыць…

***Exe Кім Ург***

## ЗА ВЯЛІКІМІ БАРАМІ

За вялікімі барамі,
за глыбокімі вадамі,
за шматбітнымі
PGP-ключамі
веды —
найпершае ліха маралі.
Тэхнасвет — дзіцячая цацка,
лабірынт навырост.
Залаты молат
ўжо дарослага бога
грымнуў аб глебу
пад нагамі
кволых чалавекаў.

…
Заўчора ўзляцелі —
мы збеглі
у вырай сабачы,
на слой сёмы аблочча;
а сёння —
да д’ябла пайшло
астатняе ***ўсё***.
Цмокавы лапы тытанам
рэжуць, расхінаюць
густы сусветны смог.
Крылле цяжка
штурхае наперад абгарэлы жывот.

…
Сканаў
пілот
(уражлівасць цела —
дэміурга дурота)
бензіну — паўчопу.
Грымуар буркоча:
самому не ўзняцца, —
а ён з кніг тых,
што не падмануць.
Непрытомны шэпт Зямлі:
нежывая, арганіка шыпіць
на рэкі — а тыя кіпяць, —
крыўляецца
сплаўленымі
алмазнымі драбінкамі
калісьці гнуткіх і пругкіх ліянаў.

…
І толькі зверху,
з па-над хмараў
металічны рогат —
бы неўміручых смех
(хто нежывы, той не памрэ):
— *Атмасфера, ха-ха-ха!*
*ты мая ўся*! —
да золку гэтага,
ці да ранку заўтра
(калі рухавік
попелам не
задыхнецца).
*Свет мой, сусвеце,*
ты — мой назаўжды,
а я —
апошняя ***злая***
мроя твая.

## ЦІ ПОМНІШ ТЫ

*Ці помніш ты,*
*як мы былі,*
*як мы былі*
*і быў*
        той час дажджоў?
*Як сам-адзін,*
*як я ішоў,*
*як я ішоў,*
        блукалі мы.
Ці помніш ты:
бадзяліся па сцежках
і тапталі мы асфальт,
        збілі з тропу
        мы свой лёс —
заткнулі глытку
        чаравікам.
І двое сцерлі ўшчэнт
падэшвы ступняў
і светам гэтым — сеткавіцу.
А зараз і цяпер
мы ходзім-цягнемся-стаім
на клычанай падшэўцы
тутэйшае прасторы.
Ці помніш ты…
а ці ***хочаш*** ты —
        ***помніць***?!
Ці ***здолеюць***
пырскі дажджу —
        дзіркі паветра —
змаўчаць,
        ***не на-га-даць***?!
Тады і там
ты станеш
догмай
        новае веры,
безумоўна шалёным,
знічом і прарокам,
урэшце — рэлігіяй,
старою, як рэптыліі,
звар'яцелаю рэліквіяй,
брамаю
ў сіняга
полымя пекла,
пекла
        *дагары нагамі*,
пекла
        *дагары нагамі*,
пекла
        *дагары нагамі*,
сіняга полымя пекла.

Надзея СТАТКЕВІЧ

# ПАПЯЛІШЧА*

## Раман

### У частцы І:

*У дзяцінстве Феліцыян Офенберг, ратуючыся ад завірухі, разам з дзядзькам трапляе ў хату Тараса Валашэвіча, дзеда Зулісі. Дзеці знаёмяцца. Ужо юнаком Феліцыян разам з сябрам Якавам Нямірам зноў спыняецца ў той жа вёсцы, дзе сустракае Зулісю. Яму ўсё больш падабаецца гэтая незвычайная дзяўчына.*

*Прыгожую сялянку Улляну забіраюць у панскі маёнтак па просьбе маленькай панначкі Людовікі.*

*Пасля Паўночнай вайны ў Мінску здараецца эпідэмія чумы.*

*Феліцыян прыязджае ў замак Радзівіла, дзе цяпер служыць Няміра. На наступны ж дзень Якаў гіне на дуэлі. Офенберг абяцае адпомсціць, але сам цудам уратоўваецца ад смерці.*

### Частка ІІ

* * *

Халодная падлога касцёла здавалася Катажыне кавалкам лёду, які скаваў цяпер Дняпро. За ноч падмёрз бруд, і яго белай коўдрай накрыў нечаканы снег, які, быццам пёркі з крылаў анёлаў, павольна падаў на вузкія вуліцы і дахі дамоў. Ён хутка мусіў растаць, бо так звычайна здаралася на Асяніны, калі на некалькі дзён зямля прыбіралася ў свой святочны ўбор, а пасля зноў пачыналі ліць дажджы.

На вуліцы каля адчыненых дзвярэй кружыліся сняжынкі, і самыя неасцярожныя, што неспадзёўкі заляталі ўнутр, падалі на падлогу, але не таялі. У касцёле, акрамя дзяўчыны, нікога не было, і паветра яшчэ не паспела сагрэцца. Катажына стаяла на каленях перад Дзевай Марыяй і шаптала малітву. Прасіла за бацьку, мачаху і маленькага брата, а яшчэ за Феліцыяна і Якава, каб вярнуліся жывымі.

Катажына ўпершыню сустрэла іх на гэтай плошчы каля касцёла. Хлопцы ведалі адзін аднаго з маленства: Якаў з дазволу бацькі нярэдка прыязджаў да сябра, а Феліцыян гасцяваў у яго. Пан Няміра часцей адпраўляў сына аднаго. Ён не любіў ездзіць у горад, аддаваў перавагу вясковай ідыліі. Пан не зносіў, як ён гаварыў, «сапсаванага гарадскога жыцця», пагардліва ставячыся да рамеснікаў і гандляроў. Першым, з кім пазнаёмілася дзяўчына, быў Якаў. Тады яна якраз вярталася з касцёла, калі ў фурманкі, што праязджала міма, адляцела кола. Адтульываліўся танклявы, з рабаціннем на кірпатым носе хлопец. Ён спачатку разгубіўся, а пасля выцягнуў кола і пачаў біць яго нагамі. Катажына не ўтрымалася і пырснула са смеху.

— Калі б вы былі мужчынам, шаноўная спадарыня, — прамармытаў ён, прытрымліваючы прывязаную да пояса шаблю, — то я не дараваў бы гэткай абразы.

* Працяг. Пачатак у № 5, 2011 г.

Дзяўчына перастала смяяцца і адказала:
— А вы ўявіце, што я — мужчына, толькі ў спадніцы.
Яна агледзелася і заўважыла дзве палкі каля сцяны суседняй крамы. Дзяўчына ўзяла адну, а другую прапанавала хлопцу:
— Пакажыце, чаго варты ваш гонар, шаноўны!
— Якаў Няміра, — пакланіўся хлопец. — Сапраўдны пан, спадарыня, б'ецца на шаблях ці страляецца на пісталетах.
Ён зірнуў яшчэ раз на Катажыну і пачырванеў:
— Ды і не магу я з вамі біцца: мужчыны не носяць спадніц.
Панначка раззлавалася:
— Можаш і будзеш!
З гэтымі словамі дзяўчына моцна стукнула яго па нагах.
— Нападай!
Якаў сціснуў ад болю зубы, але не крануўся з месца. Катажына здзівілася і зноў замахнулася, каб ударыць мяккацелага шляхціца, толькі нехта ззаду схапіў палку і вырваў з рук. Калі яна павярнулася, то ўбачыла яшчэ аднаго шляхціца. Яго чорныя, як вугаль, вочы разглядвалі дзівачку. Погляд быў цяжкі.
— Што, мяне таксама ўдарыш? — спытаў ён.
— Ён не павінен быць такім! Заўсёды трэба ўмець адказваць за крыўду, а то астатнія не будуць цябе паважаць!
— Хто табе гэта сказаў?
Дзяўчына не адказала і вырвала кій у яго з рук.
— Абараняйся!
— У чым я перад табой вінаваты?
— Абараняйся!
— Не буду, — спакойна адказаў Феліцыян. — Ты зможаш ударыць чалавека без зброі?
З гэтымі словамі ён павярнуўся спінай.
— Бі.
Катажыну гэта абразіла. Яна нейкі час стаяла нерухома, а пасля шпурнула палку і пайшла прэч. Сябры паглядзелі адзін на аднаго і пабеглі яе даганяць. З таго часу і крочылі па жыцці разам... Толькі цяпер, калі яны пасталелі, дзяўчына пачала прыкмячаць, што ставіцца да маладога Офенберга не як да названага брата, а кахае яго. Як заўсёды, малілася за абодвух у час іх вандровак, але найперш чакала Феліцыяна і хвалявалася за яго. Таму і цяпер, укленчыўшы перад укрыжаваннем, прасіла аберагчы каханага.

Касцёл быў напоўнены сонечным святлом. Катажына знарок заўсёды прыходзіла тады, калі было яшчэ няшмат парафіян, большасць з якіх з'яўлялася не толькі дзеля малітвы. Яна не любіла няшчырага пошапту вуснаў, вачэй, якія шукалі ў людскім натоўпе ці то каханкаў, ці то вышэйшых асоб, каб лісліва ім усміхнуцца. Не ўсе хадзілі ў касцёл, каб размаўляць з Божым Сынам і прасіць дапамогі ў Найяснейшай Панны. Такія маліліся апантана, але для выгляду. Фанатыкі ж даходзілі нават да лютасці: біліся галовамі аб падлогу, абменьваліся аплявухамі або гасілі агаркі свечак аб уласнае цела.

Аднойчы яна бачыла пана, пра якога гаварылі, што ён забіў у п'яным шаленстве сына. Той замольваў свой грэх, хвошчучы сябе папругай, да канца якой былі прымацаваны кавалкі цвікоў. Цела даўно было раздзёрта да крыві, а няшчасны ўсё біў сябе і нікога блізка не падпускаў. Прыходзіла ў касцёл жанчына з «прыспаным» немаўляткам на руках. Босая, у адным рубішчы, яна доўга малілася, крычала і білася аб халодную падлогу. Дзікія людзі, дзікі час...

Выйшаўшы з касцёла, Катажына крочыла па вуліцы і дзівілася на першы снег, што падаў на брукаваную плошчу. Звычайна ў гарадах Рэчы Паспалітай брукаваліся галоўныя дарогі і гандлёвыя плошчы, і Рэчыца не была выключэннем.

З першай паловы шаснаццатага стагоддзя горад быў моцнай крэпасцю, да якой нельга было падступіцца праз вышыню берагоў Сожа. Разам з Оршай, Старым Быхавам, Магілёвам, Шкловам і Рагачовам Рэчыца ўваходзіла ў памежную сістэму абароны на Дняпры. На жаль, акрамя гонару, наступствам таго былі доўгія аблогі і разруха ў выпадку чарговай грызні з расейцамі. Першапачатковым ядром Рэчыцы было ўмацаванне, размешчанае на беразе Дняпра і аддзеленае ад астатняй часткі горада глыбокім ровам. Праз яго былі перакінуты два масты да невялікай фартэцыі, дзе заўсёды ставілі варту і ноччу рабілі абавязковы абход. Яе пяць шматгранных вежаў, як сцвярджалі віцебскія купцы, нагадвалі «круглікі» іх гарадскіх замкаў, але тутэйшыя мяшчане адмоўна круцілі галовамі і апантана пачыналі даводзіць адваротнае. Ашыйнікам вакол цэнтральнай часткі Рэчыцы цягнулася рыса абарончых збудаванняў. Там размяшчаліся царква, гандлёвая плошча, кляштар і дамы заможных жыхароў. Камянічкі шляхты і купцоў чаргаваліся з халупамі небагатых мяшчан, а крытае саломай жытло рамеснікаў і чэлядзі нічым не адрознівалася ад сялянскіх халуп. Частка жыхароў трымала і быдла, мела зямлю за межамі горада, што надавала некаторым вуліцам выгляд вясковых.

Катажына мінула карчму, хату цырульніка з вывешанай мядніцай[1], затым прайшла яшчэ некалькі хат і апынулася каля камянічкі. Дзяўчына паднялася на ганак, адчыніла дзверы і накіравалася па доўгім калідоры, які злучаў усе пакоі. Кабінецік, куды яна ўвайшла, быў невялікі, але светлы і ўтульны. Мэбля там была расстаўлена такім чынам, каб у гаспадыні ўсё было пад рукой. Каля вакна стаяў столік, а па баках — крэслы. Шафа для кніг у чалавечы рост, лакіраваная кітайскай алеяй, знаходзілася ў куце. Каля яе на сцяне вісеў партрэт шляхцянкі, якая была апранута па модзе, што адышла гадоў дваццаць таму. На ёй была доўгая, да каленяў, белая камізэлька з фальбонамі і вузкімі рукавамі, карсаж са шнуроўкай з чорнымі стужкамі крыж-накрыж. На галаве — высокі каптурык паверх вогненна-рудых валасоў, а на нагах чорныя чаравікі са спражкамі на высокіх чырвоных абцасах. У руках жанчына трымала белыя лілеі, і такі ж букет жывых кветак стаяў на маленькім століку пад партрэтам.

На дварэ ўжо пачало цямнець, і святло ад полымя свечак, што стаялі ў прыгожым падсвечніку сярод выплаўленых залатых руж, адбівалася чароўным бляскам на рудых косах дзяўчыны. Катажына скінула з плячэй хустку, апусцілася каля люстэрка на зэдлік, абцягнуты конскім воласам. З люстэрка на яе глядзела дзяўчына, чые няправільныя, але выразныя рысы твару прыцягвалі ўвагу. Вусны малінавага колеру вабілі, ды толькі строгі позірк яе зялёных вачэй перасцерагаў, што калючыя шыпы ў малінніка. Катажына дастала грабеньчык з куфэрка. Ён быў зроблены з косткі, і майстар узорам ад першага да апошняга зубчыка працягнуў нітачку чорнага плюшчу з кветкамі чырвонай лілеі. Дзяўчына распляла валасы і пачала расчэсваць іх. Раптам дзверы зарыпелі, і прасунулася галава служкі.

— Да вас панна Багдана.

— Добра, Глэся, зараз спушчуся. А хаця... няхай адразу ідзе сюды.

Глэся кіўнула і збіралася ісці, але Катажына гукнула яе:

— Глэся.

— Чаго?

[1] Каб зацікавіць пакупнікоў і паказаць, што ў доме жыве цырульнік, ён звычайна вывешваў мядніцу (медны таз), кравец — бот.

— Не «чаго», а «слухаю»!
— Слухаю, панна.
— Прынясі сюды тую тканіну, што мы купілі ўчора ў краме.
— Угу.
— Глэся!
— Слухаю, панна!
Дзверы зачыніліся, і яна пачула павольную хаду служкі, а праз некаторы час у пакой увайшла дзяўчына.

* * *

Знешне яна нагадвала ляльку: невысокага росту, з кароценькімі пухленькімі ручкамі і круглым тварам, абсыпаны рабаціннем носік. Але было ў агульным вобразе паненкі нешта няўлоўнае, што згладжвала першае ўражанне дзіцячай абыякавасці. Магчыма, бляск вялікіх шэрых вачэй, у якіх танчылі ў шалёным карагодзе гарэзлівыя агеньчыкі. Дзяўчына нецярплівa крывіла вусны і чакала, пакуль сяброўка выкажа сваё меркаванне наконт яе новай сукенкі.

— Падабаецца? — не вытрымала яна. — Ну, чаму нічога не гаворыш? Табе першай паказваю.

Катажына пакруціла галавой. Яна перахапіла погляд Глэсі, якая так і хацела ляпнуць: «Колькі б качка ні мудрылася, а лебедзем не будзе». Панна звяла бровы, і Глэся зразумела, што дорага ёй абыдзецца прымаўка, калі не стрымае язычок.

— Не, не падабаецца.
— Я рада, што ты так сказала.
Катажына кінула на яе здзіўлены позірк.
— Праўда?
Багдана грацыёзна прайшла ўздоўж пакоя, спынілася каля люстэрка і павярнулася на абцасах аксамітных чаравічак.
— Я ведала, што менавіта гэтак і адкажаш.
Шляхцянка, асцярожна прытрымліваючы пышныя складкі сукенкі, уселася на зэдлік і зноў прамуркатала:
— Значыць, добрая сукенка. Я была ўпэўнена, што табе не спадабаецца.
Раптам яна схамянулася:
— Не пакрыўдзілася?
— Не.
Багдана адмоўна пакруціла галавой, прымружыла вочы і засмяялася:
— Але ўсё ж крыўдуеш.
— Не звяртай увагі.
— Вось гэта я і хацела пачуць.
Катажына здзіўлена падняла вочы. Па выглядзе сяброўкі яна зразумела, што тая і не думала жартаваць.
— Значыць, табе не будзе непрыемна, калі скажу, што яна занадта адкрытая?
— Дык жа не ў касцёл збіраюся!
Яна закаціла вочкі і ўтаропілася ў акно, але вусны не змаглі стрымаць усмешкі, якую не хацела паказваць.
— Едзеш на баль?
— Так. Сам пан Жывіцкі прыехаў, каб выказаць прыхільнасць. Бацька запэўніў, што наша фамілія абавязкова з’явіцца. Затым паабяцаў панам Збрацэвічу і Звяхоўскаму.
Катажына ўсміхнулася.

— Пры думцы пра баль у цябе вочы пачынаюць гарэць і шчокі пунсавеюць.

Багдана апусціла павекі і прашчабятала:

— Гарацъ! А як інакш? Я б на цябе паглядзела, калі б ты даведалася, хто там будзе!

Катажына абыякава пацiснула плячамі.

— Станіслаў Жывіцкі. Ён толькі прыехаў з Венецыі і, напэўна, не праміне магчымасці павесяліцца.

— Якая ты злосная! Гэта ж Станіслаў! Божа, Станіслаў!

Яна падскочыла з крэсла, абняла рукамі плечы і закружылася пасярод пакою.

— Апроч цябе, за ім яшчэ палюе з дзясятак паненак са сваімі матухнамі, якія мараць выдаць дачок за такога багатага жаніха, — пакпіла яна. — На жаль, гэты жаночы ліслівец акрамя «Bardzo przyjemnie, droga panna-jaskółka» nic nie wie!

Багдана надзьмулася.

— А што, можа, зманіла? Вось чаму ў нядзелю на балі ў Война ў пана Якава пакрыўдзіла?

— Ат, дурасць! Ну, што яшчэ не так зрабіла? Нават з маёнткам і халопамі ён не будзе лепшым кандыдатам для мяне.

— Адкуль ведаеш? Чорны мак, ды смачны, белая рэдзька, ды горкая.

— Не патрэбны і ўсё! Ды... — яна супынілася, — мой бацька ўсё роўна бізуном выдасць за таго, каго сам выбера. Тут ужо як ні круці...

Яна ўздыхнула і прысела.

— Ах, каб пан Станіслаў прапанаваў збегчы з ім хоць за мора, то не стала б і думаць — паляцела б! Але ж не ўсе тыя жэняцца, што любяць і кахаюць. Вось скажы, якія чары патрэбны, каб сэрца ператварылася ў лёд? І птушцы адной нудна, а ты ні на каго і не глядзіш, нікому не ўсміхаешся, танчыш рэдка. Не пашанцуе тваймy нарачонаму. Дарэчы, хоць што-небудзь пра яго ведаеш?

— Бацька з маці ўчора гаварылі пра гэта.

— Чаму ж маўчала? Ну, расказвай! Хто такі?

Катажына пацiснула плячыма.

— Яшчэ не ведаю. Нас пакажуць адно аднаму на балі ў пана Жывіцкага. Дамову такую нашы дзяды заключылі, а бацькі павінны выканаць.

Тым часам дзверы зноў адчыніліся, і ў пакой прасунула галаву Глэся.

— Панна, — звярнулася яна да Катажыны, — там краўчыха прыходзіла. Тканіну і новыя ўзоры прынесла.

— Скажы, каб не чакала: заўтра сама да яе заеду. А табе, Глэся, колькі разоў гаварыла, каб стукала, перш чым уваходзіць!

Глэся прамаўчала.

— Панна шмат чаго гаворыць, — ціхенька буркнула яна, але гаспадыня і госця пачулі.

— Хамка! — выкрыкнула Багдана. — Табе трэба язык адарваць, каб менш рот адкрывала! Глядзі, а то паскарджуся пану, і ён загадае цябе розгамі пакараць ды адашле на кухню!

Глэся пабялела і спужана пачала лапатаць:

— Панначка, залаценькая, пашкадуй! Я больш слова благога не скажу! Панначка, даражэнькая...

Яна павалілася ў ногі шляхцянкам.

— Глэся! — не вытрымала Катажына. — Зараз жа падыміся і змоўкні!

Глэся падскочыла і апусціла вочы.

— Адпусці краўчыху і прынясі мне нарэшце маю сукенку!

Служка кіўнула і, шморгаючы носікам, выбегла з пакоя. Яна вярнулася з вялікім пакункам і нават не паглядзела на шляхцянак. Калі яго разгарнулі, Багдана вохкнула.

— Прыгожая, — уздыхнула яна. — Вось чаму табе мая не спадабалася. З чыіх накідаў краўчыха рабіла?

— З маіх.

— Прыдумаеш і мне што-небудзь?

Катажына ўсміхнулася і кіўнула ў знак згоды.

— Апрані! Я хачу паглядзець. Глэся, ідзі дапамажы гаспадыні.

Сукенка сапраўды была вельмі прыгожая. Не было ніводнай лішняй дэталі, і ўсё, што прысутнічала, — ад самай маленькай складачкі да вышыўкі — надавала яшчэ большага хараства. Багдана стаяла і не верыла вачам, быццам перад ёй была не Катажына. Светла-шэры колер са срэбным адлівам да прыполу пераходзіў ад святлейшага да больш цёмнага, і складвалася ўражанне, бы яна ўздымаецца па-над зямлёй. Уся ўвага канцэнтравалася на дзіўным, нават незвычайным спалучэнні колеру сукенкі і бляску шыкоўных рудых валасоў, якія былі акуратна сабраны ўверсе і адкрывалі доўгую белую шыю. Плечы агаляліся зусім трошкі, тонкі стан ахапіў чорны гарсэцік, вышыты срэбнымі ніткамі. Драбнюткія кветкі руж перапляталіся з галінкамі язміну, што слаўся па баках плаўнымі стужкамі. Гэтыя кветкі распускаліся, квітнелі і закрывалі бутоны, калі даходзілі да шва паміж гарсэтам і спадніцай. Багдана стаяла ў захапленні, а Глэся ж круцілася каля гаспадыні і вохкала.

— Ой, панначка, а верасок і ў цяньку зацвітае. Калі б я была вашым бацькам, то адразу такую павяла б пад вянец. Час вам жонкай нечай стаць.

— Што ты такое гаворыш, Глэся! — засаромелася Катажына.

— Праўду кажу, панначка, — не саступала служка. — Над вамі душа нечая лётае, якая маці сабе шукае. Значыць, у дзіцё хутка ператворыцца, а яно без мужа не бывае.

— Бывае, — хіхікнула Багдана.

— Але не ў маёй панначкі, — запярэчыла служка.

Багдана абурылася:

— Брашы, ды не кусай!

Яна павярнулася да Катажыны і пакрыўджана сказала:

— Заседзелася я ў цябе. Час ужо дадому збірацца. Сёння з Рэчыцы ад’язджаеш?

— Так.

— Тады ўбачымся ў Жывіцкіх.

Яна абняла сяброўку і выйшла з пакоя.

* * *

Па дарозе Катажына загадала вазніцы звярнуць да маёнтка Офенберга, які знаходзіўся якраз недалёка ад гасцінца. Дзяўчына асцярожна паднялася па прыступках на ганак і пастукала ў дзверы. За яе спінай стаяла Глэся і дрыжэла ад холаду. Ім адчыніла служка і запрасіла да гаспадыні, якая грэлася каля пячуркі. Тая вельмі ўзрадавалася госці, абняла яе і сама правяла да пакояў гаспадара.

— Госць у дом, Бог у дом, — паўтарала пані Тэафілія.

Калі Катажына зайшла ў кабінет, стары Офенберг аж крэкнуў ад неспадзёўкі. Ён ляжаў на жываце ў ложку і вохкаў, бо лекар ставіў яму на плечы і карак п’явак.

— Дачушка! Ці ж гэта ты? Зусім забылася на старога дурня, не наведваеш. Падыдзі бліжэй, а то мне самому ўжо моцы не стае, нават крывапусканне не дапамагае. Толькі вось ад гэтай поскудзі на нейкі час робіцца лепш. Хутка, мусіць, у вырай...

Ён змоўк, але праз момант загаварыў зноў.

— Што за справа прывяла цябе сюды? Сядай, калі не цураешся, — і паказаў на крэсла каля ложка. — Распавядай.

Катажына прысела і з пяшчотай паглядзела на яго.

— Я прыйшла развітацца, дзядзька.

— Няўжо так хутка з'язджаеце?

— У бацькі з'явіліся неадкладныя справы, ды і Марціна трэба наведаць.

— Гэты вісус у езуіцкім калегіуме ў Пінску навучаецца?

— Так, толькі бацька забраць яго адтуль хоча.

— Самадур! Кідаецца ад аднаго да другога, а дзіця пакутуе. Няхай бы за дачкой глядзеў, а то без мужа яшчэ! Тое нядобра для такой маладой і прыгожай, — сказаў ён і зірнуў на шляхцянку.

Тая засаромелася і схіліла галаву.

— Не прымушайце мяне гэта слухаць, дзядзька.

Офенберг паківаў галавой.

— Ох, доня, хацеў жа, каб ты маёй сыновай была. Ды, напэўна, лёс іншы. Ат, добрай жонкай будзеш!

— Дзядзька!

Дзяўчына апусціла вочы.

— Я буду добрай жонкай для добрага мужа.

Сцяпан пасур'ёзнеў, задумаўся, але нічога на гэта не адказаў, а перавёў гаворку:

— Дык надоўга едзеце?

— Так, бацька ўжо выехаў з мачахай.

— Каб яго качкі стапталі! І не зайшоў наведаць перад ад'ездам!

— Дык жа не мог, трэба было хутка збірацца, — пачала апраўдвацца дзяўчына. — Вы, дзядзька, да нас прыязджайце на баль.

Стары ўздыхнуў.

— Выбачай, але сама бачыш — косткі не данясуць. Дарэчы, ведаў, што прыедзеш. Нешта мне ў апошні час сны сняцца праўдзівыя...

Лекар выйшаў на некаторы час, а Катажына пагладзіла яго па сівых валасах.

— Ой, донечка, сэрца за цябе баліць... Адно ведаю, ты разумная, таму стрываеш. Трэба было табе нарадзіцца хлопцам. Розумам Пан Бог цябе не абдзяліў, годнасцю ды мудрасцю, урэшце, таксама.

— А розум і мудрасць...

— Ведаю, што хочаш сказаць, — перапыніў шляхціц. — Не, донечка, гэта крыху розныя рэчы, прычым я, пры магчымасці, выбраў бы апошняе. Навука вочы адчыняе, ды не кожнаму разумнаму добра жывецца.

Ён замаўчаў і зірнуў на лекара, які зноў увайшоў.

— Праўду гавару, пане лекар?

— Залатыя словы, яснавяльможны. А цяпер, я прашу прабачэння ў паненкі, няхай нас пакіне. Тое не для яе вочак.

Катажына выйшла з камянічкі і накіравалася да вазка.

— Змёрз, Яшка? — запыталася яна ў вазніцы.

— Калі добрая панна паабяцае, што загадае наліць па прыездзе... — пачаў здалёку ён.

— Можаш нават не працягваць! Добра, рушай!

— Слухаю, панна, — Яшка тузануў лейцамі, і сані крануліся. — Пайшлі!

Тоненькі белы абрус заслаў зямлю, праз які дзе-нідзе прадзёўбаўся быльняк, аблеплены снежнай церухой. На полі былі бачныя заечыя сляды і заблытаныя мышыныя сцежкі. Гасцінец хутка прывёў да лесу, дзе было ціха і светла, а лапкі ялінак і соснаў абцярушыла белая вата.

Катажына любавалася блакітным небасхілам. Калі перад вачыма ўзнік малады Офенберг, сэрца балюча зашчымела. Ён смяяўся разам з ёй і трымаў за руку, а коні імчалі па гасцінцы і неслі іх удалячынь... Прачнулася яна ад таго, што сані, наехаўшы на купіну, ледзь не перакуліліся.

— Даруйце, пані, не заўважыў, — пачаў апраўдвацца Яшка.

Яна кіўнула і адвярнулася, шкадуючы, што ўжо не можа заснуць.

Калі яны прыехалі ў бацькоўскі маёнтак, брамы былі адчынены, бо гасцей там чакалі даўно. Як толькі сані завярнулі на прасторны двор, туды збеглася дворня і заяўкалі сабакі. Катажына саскочыла на зямлю і пакрочыла да ганка. Увайшоўшы ў бацькоўскі кабінет, панна заўсміхалася. Пан Юзаф сядзеў за сталом, падпёршы сківіцу рукой і драмаў. Дзяўчына падышла бліжэй і пацалавала яго ў лоб, ад чаго бацька адразу прачнуўся.

— Касюнечка! Не думаў, што так хутка вернешся. Як даехала, доню? Здарожылася?

— Змерзла трошкі.

— Тады паразмаўляем з табой пасля. Зараз адпачні, а я паклічу цябе.

Панна ўважліва паглядзела на бацьку, той аж сумеўся ад яе позірку.

— Размова будзе пра вену[1] і будучы баль?

Пан Юзаф кіўнуў.

— Ад цябе нічога нельга схаваць. Можа, гэта і добра. Мне будзе прасцей табе растлумачыць, а табе лягчэй зрабіць тое, што загадаю. Ад гэтага залежыць годнасць нашай фаміліі, Катажына.

Дзяўчына кіўнула і выйшла з пакоя.

* * *

Васілька не ведаў, куды дзець сябе ад крыўды. Карцела што-небудзь раструшчыць, зламаць і гэтым адвесці душу. Ён схапіў чыгунок, бразнуў ім аб падлогу і шпурнуў нагой у кут. Пасля агледзеўся, каб яшчэ што знайсці, і ўбачыў сякеру. Хлопец вылаяўся і выбег на двор. Добра, што котка, якая круцілася пад нагамі, імгненна ўсё зразумела і схавалася за печ, а то не пашанцавала б ёй тады. Гавораць жа, што трэба ката за хвост укусіць, каб злосць прайшла. Злаваў жа Васілька не столькі на дзеда, колькі на сябе. Што казаць — дурань чубаты! Чаго чорт цягнуў за язык? А дзед такога не даруе — вось і перапала па рагах. Ды і каб сам быў вінаваты, а то ж Жданец... Каб яго скруціла!

Ашалелы, ён выскачыў з хаты і адчуў непрыемную прахалоду. Ступіўшы некалькі крокаў, хлопец ледзь не праслізнуўся. Выратавала тое, што паспеў ухапіцца за кустоўе, якое нарасло тут улетку. «Добра, што не ссек», — падумаў і, скурчыўшыся ад холаду, агледзеўся. Погляд спыніўся на пуні, дзе ў мяккім сене, мабыць, было ўтульна. Ён падышоў бліжэй і пачаў караскацца па драбінах. Пуня была запоўнена на трэць, таму туды можна было залезці і добра паспаць. Хлопец кульнуўся праз



[1] Матэрыяльнае забеспячэнне пасагу жонкі маёмасцю мужа.

галаву, пасля чаго апынуўся каля бакавой сценкі. Пахла пылам і палыном. Каля ўваходу сена было аблеплена ільдзінкамі, таму Васілька папоўз углыб, каб зарыцца ў мякіну і заснуць.

Пакуль поўз, сена скалола калені, і Васілька пачаў шкадаваць, што пацёгся сюды. Раптам хлопец насцярожыўся, бо ў куце нешта заварушылася. Але, падумаўшы на котку, ён злосна прыкрыкнуў:

— А ну адсюль! Ідзі лепш у хляве на мышэй палюй!

Але шоргат не сціхаў. Васілька хацеў быў праверыць, што там за звер, як раптам заўважыў дзве постаці. Адначасова адчуў, як ззаду нехта наскочыў і паспрабаваў збіць з ног. Невядомы быў аднаго росту з ім і такі ж танклявы, таму ў яго нічога не атрымалася. Тады на дапамогу прыйшоў яшчэ адзін. Разам яны адужалі небараку.

— Пусціце, чэрці! — толькі і паспеў крыкнуць. — Каб вас!

Яго крыўдзе не было меры, калі злодзеі запхалі яму ў рот яшчэ і пук сена з бруднай анучай. Затым хлопцу звязалі рукі ды, што самае крыўднае, уселіся на спіну, каб не дрыгаўся. Гэта было апошняй кропляй. Васілька ашалеў і пачаў выбівацца, спрабуючы іх з сябе скінуць. Гэта прыйшлося не даспадобы тым, і меншы ўрэзаў хлопцу.

— Ляжы, шэльма, — зашыпеў ён.

У Васількі пацямнела ўваччу, і хлопец на нейкі момант нават страціў прытомнасць. Цяпер чужакі пачалі спрачацца паміж сабой.

— Ты што робіш? Навошта так?

— Не падабаецца?

— Не.

— А жыць хочаш?

— Я б таксама біўся ва ўласнай пуні.

— Дык жа ён... — пачаў апраўдвацца той.

— Змоўч!

У той момант з цемені пачуўся тоненькі галасок:

— Адпусціце яго.

Бугай памякчэў.

— Пусцім, Іванка, але на золку, калі сыдзем самі.

— А зараз?

— Зараз нельга, бо раскажа пра нас.

— Я хачу сам пра тое спытаць. Падвядзіце.

Хлопцы вагаліся.

— Дзед Мітрафан, што рабіць? — запытаў адзін з іх у чалавека, які стаяў у цемры побач з малым.

— А ты не чуў? Рабі, што Іванка кажа.

Той паслухаў і падвёў малога бліжэй да Васількі, які паспеў ачомацца і разглядваў з надзеяй малечу. Вочы хлопчыка былі завязаны ручніком, а твар быў без крывінкі, з тоненькімі вуснамі і ўпалымі шчочкамі. Як кволая сцяблінка, ён, здавалася, хістаўся нават ад чалавечага подыху. Хлопчык прысеў і асцярожна дакрануўся тоненькімі ручкамі да твару Васількі, абмацаўшы кожную ямачку з барады і да самых бялявых віхураў.

Хлопцу зрабілася ніякавата. Шкадоба перамагла крыўду і злосць.

— Ты ж не скажаш пра нас? — запытаў Іванка.

Васілька мукнуў і адмоўна пакруціў галавой. На гэта малы засмяяўся танюсенькім званочкам.

— Развяжыце яго.

Бэйбусы стаялі нерухома.

— Развяжыце! Ён не раскажа, — зноў паўтарыў Іванка.

Тыя паслухаліся, выцягнулі кляп і вызвалілі рукі. Хлопец цяжка ўздыхнуў і пацёр самлелыя рукі.

— Толькі не ўздумай дурыкі кідаць, — папярэдзіў яго адзін.

— Ды ну цябе! — кінуў Васілька.

— Гавару адзін раз!

— А што калі і не? Заб'еш?

— Сваё атрымаеш з гакам.

— Зноў удвух на аднаго? Харобрыя хлопцы! Хто ж вас так у Масковіі біцца навучыў?

— Скуль ведаеш, што мы адтуль?

— А ці ж не чутна? Лапочаце неяк па-іншаму, ды і груба.

— Можа, голас асіп? — засмяяўся меншы. — Я сюсюкаць не люблю і не ўмею.

— Дурное кажаш.

Васіль памаўчаў і зноў спытаў:

— Доўга ішлі? Адкуль?

— З Ноўгарада.

— Багата. А зараз куды ногі павядуць?

Хлопцы пераглянуліся.

— То ўжо не твая справа. Пытаеш зашмат. Галава адна, а языкоў дзесяць. Лепш бы прынёс чаго паесці.

— Не, нельга яго адпускаць, — запярэчыў старэйшы.

— Трэба, бо непакоіцца будуць, ды і Іванка дзень нічога не браў у рот. Няхай ён з гэтага слова возьме, што языком часаць не будзе. Перад малым яму сорамна будзе, калі як...

— Я не скажу, — перапыніў яго Васіль.

— Вернешся?

— Угу.

— Глядзі!

Хлопец вылез з дзіркі, па драбінах спусціўся і патупаў дахаты. Не было нават і думкі, каб расказаць пра тых, хто цяпер хаваўся ў пуні. Ён дайшоў да ганка, ціхенька прыўзняў клямку і зазірнуў у сенцы. Там нікога не было. Схапіў гладышку з малаком, якая стаяла на слончыку, агледзеўся і захапіў скібу хлеба, паклаў яе ў падол разам з цыбуляй. Пачуўшы раптам, што нехта ідзе, хлопец выскачыў на двор і пакандыбаў да пуні. Там пачаў асцярожна лезці па драбінах, прытрымліваючы падол світкі зубамі, бо ў адной руцэ была гладышка, а другой чапляўся за парэнчы.

Калі наверсе пачулі яго крахтанне, то кінуліся дапамагаць.

— Ух, як пахне! Пякуць жа ў гэтым краі хлеб!

Яны пачалі дзяліць лусту, пакуль Іванка піў малако. Разламаўшы на чатыры кавалкі, хлопцы ўзялі сабе меншыя, а малечы падсунулі большы.

— Дзед Мітрафан, бяры хлеб, — сказаў старэйшы.

Дзед павярнуўся да іх і сказаў:

— Мой аддайце Іванку.

— Дык яго пакармілі, а ты, дзед, ужо другі дзень не ясі нічога. Так не давядзеш нас.

— Змоўкні! — абарваў яго малодшы.

— А што я такога сказаў? — пачаў апраўдвацца той.

— Кладзіцеся абодва, заўтра падымацца з сонцам, — прыкрыкнуў на іх стары.

Хлопцы паслухаліся. Яны ўлегліся воддаль, а Іванка аддаў гарлач Васілю і таксама пачаў класціся спаць. Малеча падсеў да дзеда і, скруціўшыся клубочкам, лёг каля яго. Стары прыгарнуў хлопчыка і шапнуў:

— Ну, цяпер засынай, Іван.

Пасля ён прыгадаў пра Васіля і загадаў яму.

— Беларусін, ідзі да хлопцаў. Пабудзеш з намі да раніцы, пакуль не сыдзем. Не крыўдуй — веру табе, але ж чорт можа за язык пацягнуць.

Васілька кіўнуў і бухнуўся ў сена каля бэйбусаў. Тыя незадаволена папыхцелі і адсунуліся. Васілька зноў падпоўз бліжэй, але браты і на гэты раз з буркаценнем адхінуліся ад яго. Хлопец не ўтрымаўся і зарагатаў.

— Я для вас як пракажоны.

— Ты дурань, — пакрыўдзіліся тыя.

— Дык жа дурнотай нельга заразіцца!

— А ну цябе!

Васіль зноў падцягнуўся бліжэй і шапнуў:

— А што з вашым малым?

— Іванкам?

— Ну.

— Хадзіў з вёскі ў вёску і старцаваў разам з братам. Так і знайшлі.

— А вочы?

Той матнуў галавой.

— Брат выкалупаў, каб шкадавалі людзі ды грошы давалі.

— Бог з табой! Брэшаш!

— Не бажыся дарэмна. На гэтым свеце і не такое пабачыць можна. Жывуць і людзі, і нелюдзі. Мы, як іх сустрэлі, у п’янага малечу адбілі і ўцяклі, а па дарозе сустрэлі дзеда Мітрафана. Дзіўны ён трохі, ды няхай так...

— Угу, — згадзіўся другі, — ішоў, і за ім людзі. Шмат людзей... Вёў іх, значыцца, за сабой, дык і мы пайшлі, бо назад вяртацца ўжо нельга.

— А што так?

— Беглыя. Барын наш злы, як сабака, то во і...

Яны пераглянуліся і зірнулі на дзеда з малым.

— Спі, давай, а то распытваеш. Во народ тут дзіўны: самі ўсё слухаюць, думаюць пра нешта сваё, а табе ні гу-гу. Ваўкі...

Хлопцы ўлегліся і больш не вялі гутарку, але Васілька ніяк не мог заснуць. Ён утаропіўся ў дзве фігуркі — дзеда і Іванкі. Ляжаў, добра разумеючы, што яны, хоць і не варочаюцца, але яшчэ не змружылі вочы. Хлопчык час ад часу падхопліваўся, прыслухоўваўся да дыхання старога ды зноў скручваўся ў клубочак.

— Іванка, — паклікаў дзед.

— Угу?

— Чаму не спіш?

Малы шморгнуў носам і муркнуў:

— Баюся.

— Чаго?

— Што засну тут, а прачнуся адзін.

— Дурненькі.

— А раптам знікніце?

Дзед Мітрафан засмяяўся:

— Без цябе не пойдзем.

— Праўда?

— А то!

Ён супакоіўся і падлез бліжэй да старога.

— Дзеду, раскажы яшчэ раз пра той востраў, — папрасіў.

— Які?

— Ну, той, куды мы ідзём.

Дзед уздыхнуў.

— Ён вялікі.

— Большы, чым Ноўгарад?

— Не, — стары нават усміхнуўся. — Ноўгарад значна большы, чым Ветка[1]. Розныя людзі жывуць там. Ёсць і такія, як Павал з Міхалам. Яны хоць беглыя, але нашы веткаўцы іх прымаюць. Людзі тамака добрыя, не ведаюць спакусы віна і вераць у нашага Бога.

— А як яны туды трапілі?

— Калісьці даўно іерэй Кузьма, які служыў у Маскве ў царкве ўсіх Святых, вырашыў ісці ў Старадуб'е да свайго сябра палкоўніка Гаўрылы Іванова. Разам стварылі яны паселішча каля ракі Пануроўкі. Хутка і людзі пачалі прыходзіць. Але ж мінула колькі гадоў пасля смерці цара Фёдара Аляксеевіча[2], і царыца Соф'я Аляксееўна загадала беглых людзей, што жылі ў старадубскіх лясах, схіляць у новую веру і вяртаць на былыя землі. Стараверы пачалі разбягацца, а святары Кузьма і Стэфан вырашылі ісці на землі суседняга княства. Яны ўзялі бліжэйшых сяброў і пасяліліся на выспе, якая называлася Ветка. Вельмі хутка тут сабралася столькі люду, што яблыку недзе было ўпасці, бо вабілі сюды чуткі пра надзейны прытулак. Купцы, рамеснікі веткаўскія вядомыя, а яшчэ больш знаныя іканапісцы з манастыра.

— Дзеду, а ты гаварыў, што палілі Ветку.

— Так. Даўно тое было[3]. Імператрыцы надта ж не падабалася, што тут люд просты ад крыўды праўду шукае, вось і загадала свайму палкоўніку пакінуць Ветку толькі тады, калі яе ў попел ператворыць. Людзей тады на былое месца жыхарства вярталі, а самых «языкатых» у асобныя пасяленні адправілі. Епіскапа нашага, святога чалавека, Стэфанія ў Кіеў у турму кінулі, святара Іова — у Валдайскі манастыр, а Варэановія — у Пераяслаўскі. Ніхто з іх і не вярнуўся адтуль пасля: там і аддалі Богу свае чыстыя душы.

— А пра цуд раскажы, — не сунімаўся Іванка.

Хлопчык, відаць, ведаў усё, што казаў старац, але прагна слухаў і амаль не перапыняў.

— І цуд быў. Жыў ля ракі мніх-схімнік Лаўрэнцій. Калі прыйшлі жаўнеры і пачалі акружаць яго скіт, ён схаваўся пад раскідзістым дубам. Падняў тады рукі ўгору і звярнуўся з малітвай да святога Міхаіла. Святы ж пачуў яго, і здарыўся цуд: галіны дрэва апусціліся і схавалі Лаўрэнція. А ты верыш у цуды, Іванка? Іванка?

Малы спаў, скурчыўшыся. Дзед прыгарнуў хлопчыка да сябе і заплюшчыў вочы. Спакой, які напоўніў пуню, парушаў толькі свіст ветру і шоргат сена пад яго павевамі. Васілька доўга не мог прымгнуць вока. Калі заспявалі першыя пеўні, стараабрадцы заварушыліся. Першым падняўся дзед Мітрафан і пабудзіў братоў. Тыя ўзялі соннага Іванку і пачалі вылазіць з пуні, дзе ўчора, каб трапіць сюды,ададралі дошкі. «Вось поскудзь, — падумаў ён, — цяпер прыйдзецца забіваць зноў. Каб вас!» Ён заплюшчыў вочы і зрабіў выгляд, што спіць. Хлопец нават захроп. Калі ж шоргат сціх, ён счакаў яшчэ трохі і выглянуў з дзіркі. Па прыцярушаным гасцінцы рухаліся ўпоцемку чатыры постаці і праз нейкі час зусім зніклі з вачэй.

[1] Адзін з цэнтраў стараабрадства на землях ВКЛ, цяпер г. п. Ветка Гомельскай вобласці.

[2] Рускі цар (1666—1667).

[3] Па загадзе імператрыцы Кацярыны ІІ Ветка была спалена ў 1735 г.

* * *

Старая Параска стаяла на каленях і падкладвала сушняк у полымя. Камінчык быў зграбненькі, абкладзены магілёўскай цэглай і добра абаграваў гэты пакой, адзін з самых халодных у маёнтку. Яшчэ колькі год таму, калі яе панначка толькі нарадзілася, старая папрасіла гаспадара збудаваць гэтую пячурку. Пан Матэвуш аддаў загад, але пячурку, згодна тагачаснай модзе, перарабілі ў камін. Старая толькі ўсплёснула рукамі, але нічога не сказала, бо мода — панская справа, а ёй — абы цёпла было. Яна, хоць і мела ласку ў гаспадароў, ніколі не задзірала нос перад іншымі дваровымі. Ды ўсё ж з гэтага куточка яна амаль нікуды не выходзіла, нават на кухні і людской з'яўлялася нячаста, з-за чаго там стала чужой. Часам заўважала, што хто-ніхто нават зайздросціць, а некаторыя і не любяць, на што старалася не звяртаць увагі і ўсю пяшчоту аддавала панначцы.

Малая клалася спаць. Яна кружылася ў беленькай, з тонкага лёну сукенцы і смяялася да слёз. Адштурхнуўшыся ножкамі, яна падскоквала і даставала пальчыкамі да саламянага галубка, які вісеў над яе ложкам. Галубок пагойдваўся на аборцы і ціха шабуршэў пёркамі залацістых крыльцаў пры кожным дотыку да столі. Нарэшце Людовіка здаволілася і села.

— Бабцю, — паклікала раптам старую, — чаго ён тут вісіць? Толькі пыл збірае. Можа, выкінуць?

Параска пакруціла галавой і падышла да дзяўчынкі.

— Няхай вісіць, панначка. Я гэтую цацку зачапіла, калі ты з калыскі яшчэ без мяне не вылазіла.

— Нашто?

— Каб Сон прыходзіў.

Дзяўчынка здзівілася:

— Сон? А ён без гэтай птушкі не прыйдзе?

Параска заўсміхалася.

— Не. Увечары ціхенька паляжы, можа, што пачуеш.

— То як?

— Кожны вечар да цябе Сон прылятае.

Малая шырока расплюшчыла вочы.

— Раскажы, раскажы мне, бабцю, — пачала прасіць і пахлопала далонькай па коўдры. — Садзіся. Які ён, мой Сон?

Параска прысела і пачала распавядаць.

— Сон галубком прылятае, чапляецца лапкамі за парэнчы і крыльцамі цябе накрывае. Я ж тады сяджу і не рухаюся, каб не спужаць.

— Я яго магу бачыць?

— Не. Але калі раптам цёпленька стане, быццам маці лашчыць, то ведай — гэта Сон. Ты спіш, а птах пільнуе, каб розныя жахі ўначы не прыходзілі.

— І мой саламяны такі?

— То як жа, панначка.

— Тады няхай вісіць.

Яна супакоілася і ляжала ціхенька, разглядаючы саламяную птушку. Тут зарыпелі дзверы, і ў пакой увайшла Ульяна. Яна прынесла дровы і паклала каля каміна. Пасля села на крэсла побач і пачала пераплятаць касу, з якой вылезлі непаслухмяныя пасмы залатых валасоў. Людовіка цяпер зноў сядзела, трымаючы ў руках стужку чырвонага ядвабу, ды цікавала за ёй.

— Учора да мяне Сон не прыйшоў, — раптам сказала яна.

— Мусіць, у іншай дзяўчынкі затрымаўся, — адказала Параска.

— Таксама паненкі?
— Ён да ўсіх дзяцей прыходзіць.
— Да ўсіх?
— Але.
— Як дзіўна. Яны ж халопы.
Параска засмяялася:
— Усе дзеткі аднолькавыя. З ручкамі, ножкамі, усе плачуць і смяюцца, да мамкі просяцца.
Людовіка задумалася, пасля зноў паглядзела на Улляну.
— Учора я бачыла, як яна ноччу некуды пайшла, — зноў загаварыла.
Дзяўчына пераглянулася са старой, а Людовіка працягвала:
— Да мяне Сон не прыляцеў, вось і не спала.
Улляна пабялела і апусціла вочы.
— Я да буслоў хадзіла.
— Да якіх буслоў? — здзівілася дзіця.
— Учора было Уздвіжанне, а на яго жораў у астатніх пытаецца, калі ляцець у вырай.
— Праўда?
— Так, — пацвердзіла Параска. — На полі зжатым усе буслы збіраюцца і гамоняць.
— Я таксама хачу гэта пабачыць!
Параска пакруціла галавой.
— Яны сёння адляцелі. Наступным разам пойдзем. Цяпер жа кладзіся спаць, Сон хутка павінен прыляцець, а калі не знойдзе на месцы, то пойдзе да іншай дзяўчынкі.
— Ой, — закрычала паннaчка і пабегла да ложка. — Я так не хачу! Я буду чакаць яго!
Параска з Уллянай засмяяліся, а дзяўчо схавалася пад коўдру і замаўчала, але не вытрымала духаты і высунула галаву.
— Людовіка, — паклікала яе Параска.
— Што?
— Ты толькі пра буслоў нікому не гавары.
— Каб вусны адсохлі, калі каму раскажу.
Яна па-змоўніцку зірнула на Улляну і засмяялася.
— Бабцю, — звярнулася яна да старой, — будзеш мне пець?
— А ты хочаш?
— Хачу.
— Дык чаму ж учора сказала, каб не пела? Дарослай сябе назвала.
Дзяўчынка вінавата прамуркатала:
— Адмовілася, бо бацька быў з Альбертам. Альберт з мяне смяецца, гаворыць, што малая.
Яна паглядзела на старую і сумелася. Нянечка сядзела на зэдліку і здавалася такой маленькай, старэнькай і сумнай, што малая не вытрымала і кінулася да яе. Ручкамі абхапіла Параску за шыю і зашаптала:
— Даруй мне, Парасачка. Я больш ніколі такога не скажу.
— Ды даўно даравала, мая песта.
Яна пасадзіла дзяўчынку на калені і пачала гушкаць. Людовіка засмяялася, але не вырывалася з абдымкаў, як бывала, а заплюшчыла вочкі і сцішылася.
— Люлі-люлі-люлі, спі, мая паннaчка.
Закрывай ты хутка вочкі,

Добрай ночкі, добрай, добрай но-о-чкі.
— Раскажы пра змея, — папрасіла дзяўчынка.
— Навошта пра змея? Давай лепш пра вадзяніц, а то спужаешся і не заснеш.
— Не, спачатку пра змея, а пасля пра вадзяніц.
— Ну, добра. Жыў у нашай вёсцы чалавек. Нічога не меў: ні гаспадаркі, ні грошай, хлеб ніколі не еў. Але раптам разбагацеў. Каня купіў, хату адбудаваў, пачаў добра жыць. Вось і сталі людзі гаварыць, што яму грошы змей носіць, якога сам вывеў. Кажуць, што калі чорны певень пражыве сем гадоў, то пад канец апошняга знясе гаспадару яйка, якое нагадвае ракавінку смаўжа. Гэтае яйка носяць пад пахаю тры гады, пакуль не вылупіцца маленькае змяяня. Яго трэба песціць, трымаць у цяпле і карміць яечняй, бо калі вырасце, то пачне лятаць і адшукваць скарбы. Ці чулі такое калі?
Дзяўчаты пакруцілі галовамі. Тады Параска працягвала:
— Шмат хто лічыць, што змей той падобны да вужа ў золаце і з крыламі. Чула і такое, што гэта чалавек, але не веру. Ці ж будзе чалавек чалавеку грошы насіць за яечню? Людзі паўсюль злыя, сквапныя, за грош могуць забіць.
Яна спынілася і паглядзела на дзяўчат.
— Што, мае ясачкі, чаму прыціхлі? Лепш паслухайце пра вадзяніц, ці, як іх у нас яшчэ называюць, купалак. Гавораць, што гэта маленькія дзяўчынкі, якія памерлі нехрышчонымі. Яны маюць доўгія-доўгія валасы, якія не заплятаюць у косы, і апрануты ў празрыстыя сукенкі, а на галовах — вяночкі з белых кветак. Ёсць сярод вадзяніц і дочкі, праклятыя бацькамі яшчэ ў матчыным чэраве, і маладыя тапельніцы. Пасля Сёмухі на русальны тыдзень выходзяць яны з вады і пачынаюць гойдацца на галінах дрэў, карагоды водзяць. Тады да іх не варта падыходзіць, бо пачнуць казытаць, а пасля зацягнуць у раку і патопяць.
— Дык жа толькі хлопцаў топяць, бо нарачоных сваіх шукаюць, — сказала Улляна.
— Не, — Параска пакруціла галавой, — і дзевак таксама. Сяброўкай сваёй зробяць, а калі жанчына — жонкай свайму гаспадару.
— Каму гэта?
— Ды вадзяніку.
— І не адпусцяць? — спытала Людовіка.
— Рэдка калі такое бывае.
— А ўцячы можна?
— Хто выратуецца, той усё адно без пакарання не застанецца. У суседняй вёсцы, казалі, быў такі чалавек. Усю ноч вадзіў з імі карагоды, ды неяк збег. Цяпер то не чуе нікога, то раптам рагоча, як шалёны. Шкадуюць яго людзі, але дапамагчы ніхто не можа.
Людовіка залезла пад коўдру і буркнула адтуль:
— Ну, бабцю, аж мурашы па скуры. А ты гаварыла, што пра змея на ноч нельга, бо страшней.
Тут зарыпелі дзверы, і ў пакой зазірнула пані Марыя.
— А я думала, што дзясяты сон бачыш, цурачка мая, — сказала яна.
— Не, мамка. Мне Параска пра вадзяніц распавядала.
Пані Марыя засмяялася:
— Зноў, Параска, пужаеш казыткамі?
Параска паружавела.
— Ды хіба я пужаю каго? Я што чула, тое маёй ясачцы і распавядаю.
Пані Марыя стаяла каля дзвярэй і паглядала на дачку. Вочы яе ззялі, бо прыгадала, як сама сядзела са сваёй нянькай кожны вечар і слухала яе байкі. Тады было

так добра, спакойна ў бацькоўскім маёнтку каля парку з мядовымі ліпамі, сярод якіх салодка пахлі здзічэлыя ружы.

З задумення яе вывеў Вацлаў. Яго ніхто спачатку і не заўважыў, бо малы сядзеў за спінай у маці, учапіўшыся маленькімі ручкамі за складкі рукавоў. Хлопчыку надакучыла быць аднаму без увагі, да якой прызвычаіўся, таму ён высунуўся з-за матчынага пляча і выкрыкнуў:

— Лудові-іка!

Засмяяўся срэбным званочкам і схаваўся зноў.

Сястрычка віскнула і падбегла да яго.

— Матулечка, можна я пакалыхаю?

Пані схілілася, і малая ўзяла брацiка на рукі.

— Станіслаў, ты мяне любіш? — пыталася дзяўчынка.

— Лублу.

— Лубіш! І я цябе. А давай зараз заказычу!

Малец пачаў вывёртвацца, але не змог. Тады раптам ён заплакаў, спрабуючы такім чынам спыніць сястру. Людовіка ж не пускала, і малы паклікаў маці:

— Мама, мама, яна мяне крыўдзіць!

Нарэшце ён вызваліўся і пабег да ложка. У боціках ускараскаўся на яго і залез пад коўдру. Людовіка пачала стукаць па коўдры, каб Станіслаў выпаўз адтуль, але брацік адказваў звонкім смехам і зашыўся яшчэ глыбей.

— Стасік! Нашто ў ботах усцёгся?! Мне тады спаць пасля цябе, — крычала дзяўчынка.

— Ха-ха-ха! — толькі і даносілася з-пад коўдры. — Не выкурыш!

— Параска, скажы яму! — крыкнула яна тады на служку.

Параска пачала ўгаворваць паніча.

— Родненькі, добранькі, выходзь, а то, барані Божа, яшчэ захлынешся. Я табе казку распавяду пра вадзяніка, хочаш?

Станіслаў сцішыўся і высунуў галаву.

— Таго, што ў возеры жыве?

— Так.

Малому спадабалася прапанова, і ён выпаўз са свайго схովішча. Пані Марыя кіўнула старой і звярнулася да сына:

— Ты, Стасік, ідзі з Параскай у свае пакоі, а я пасля прыйду цябе пацалаваць.

— Мама, я хачу з вамі! — стаў прасіцца ён.

— Я казку гэтую чула, таму застануся з Людовікай. Параска табе дапаможа распрануцца і пакладзе спаць.

Яна ўсміхнулася.

— Ідзі, — буркнула Людовіка.

— Ну і пайду! Мамка, дай бусу!

Ён падбег да маці, і тая пяшчотна пацалавала шухрая ў лобік.

Калі Параска вынесла яго з пакоя, пані звярнулася да дачкі.

— Луіза, не крычы на брацiка. Ён маленькі яшчэ.

— Затое б'ецца моцна.

— Сама ж лезеш.

— Не.

— Што не?

Людовіка пачырванела і схіліла галаву. Пані кіўнула Улляне, і тая выйшла за дзверы, а жанчына абняла дачку.

— Маму, я не хачу з ім біцца.

— Добра, — шапнула пані.

Вочы малой засвяціліся.
— Я сон добры сасніла.
— Які?
Дзяўчынка залезла пад коўдру і пачала распавядаць.
— Маці Божую бачыла. Гуляла па белым-белым садзе, і раптам з’явілася Прачыстая Дзева. Мамка, яна такая прыгожая!
— А чаму думаеш, што гэта была яна?
— Сама сказала.
— Сама?
— Так. А пасля ўзяла за руку і павяла па сцежцы.
— І ты пайшла за ёй?
— Я не хацела спачатку, але згадзілася. Толькі...
— Што?
— Мне цябе было шкада.
— Чаму? Я таксама там была?
— Ага. Ты мяне клікала, але Божанька мяне не адпусціў. Мама, гэта добры сон?
— Добры, Луіза, — сумна ўсміхнулася пані Марыя. — Божанька цябе любіць.
— Тады буду спаць. Яна сказала, што хутка да сябе забярэ, гуляць са мной будзе.
— Спі.
Пані Марыя дакранулася рукой да галавы і пацалавала дачку.
— Спі, доня.
— Мама, а я хачу, каб яна мне зноў праснілася.
Вочы шляхцянкі напоўніліся слязьмі.
— Не, доню, не трэба. А як іншым дзеткам? Яны таксама хочуць пагуляць з ёй.
Яна з пяшчотай лашчыла малую і ўсміхалася праз слёзы.
— Але калі ў наступны раз Божанька павядзе цябе, то скажы, што не можаш, бо мамка не хоча адпускаць.
— А як не згодзіцца?
— Тады папрасі жаласна, каб і мяне з вамі ўзяла.
— Дык мо і Стасіка, бо не застанецца адзін.
— І Стасіка.
— А тата з Альбертам няхай тут будуць. Я не хачу з імі.
— Няхай.
— То добра. Вы ідзіце, мамка. А то Сон да мяне не прыйдзе.
Яна накрылася і заплюшчыла вочы. Жанчына схіліла галаву, пацалавала дачку і пайшла да сябе.

* * *

Над стромкімі берагамі Піны, якая дабягала да спакойнай плыні Прыпяці і ў віры злівалася з ёй, узвышалася сярод рэк і балот сапраўдная сталіца Палесся. Пінск займаў значнае месца сярод іншых пасяленняў Вялікага Княства, а ў XVI стагоддзі пышнасцю і раскошай саступаў толькі Вільні. Рэкі Піна і Прыпяць змаглі даць яму значна больш, чым дары сваіх вод. Іх глыбіня дазваляла спакойна праходзіць караблям, што служыла развіццю судаходства, а тое давала значны прыбытак. Яго вузкія вуліцы, уплеценыя ў суцэльнае павуцінне шляхоў, з завулкамі звіваліся ў вузел на замкавым пляцы. Там калісьці стаяў драўляны замак, які атачалі роў і земляны насып. Аж да часоў Боны Сфорцы ён быў рэзідэнцыяй князёў Юр’евічаў, дарэчы, паяднаных крывёй з кіеўскімі князямі, і Нарымунтаў. Але пажар вайны не пашкадаваў яго, калі ваявода Валконскі загадаў сваім атрадам спаліць замак дашчэнту.

Гэтым першым зімовым днём па бруку яго вуліцы ехала карэта. Пан Юзаф акінуў поглядам наваколле і павярнуўся да дачкі.

— Тут жывуць nobilis[1], а за другой лініяй умацаванняў селяцца простыя мяшчане. Я загадаў аб'ехаць калегіум, каб паказаць табе касцёл Святога Станіслава[2]. Ён адзін з самых старых у нашым гаспадарстве. Думаю, ты будзеш задаволена.

Катажына любавалася святыняй, якая была сапраўдным сэрцам горада, узвышалася над усімі пабудовамі і здалёк дарыла сваё святло і надзею. Далей карэта павярнула да езуіцкага калегіума[3]. Гэты будынак быў выкананы ў буйных пластычных формах ранняга барока. Барочная пластыка праяўлялася ў аркатурным і пілястравым аздабленні фасадаў, у фігурных, з багатымі валютамі тарцавых шчытах двухсхільнага даху з «заломам». Калі фурманка спынілася, шляхціц з дачкой выйшлі і пакрочылі да ўваходу.

— Адзін туды пайду, — прамовіў пан Юзаф.

— Добра, бацька. Я пачакаю.

Той стаў падымацца па лесвіцы, а дзяўчына прысела на лаву. Раптам яна заўважыла, што за ёй назіраюць дзве пары вачэй. Два маленькія хлапчукі стаялі за парэнчамі і пазіралі на шляхцянку. Катажына ўсміхнулася і паклікала іх. Малодшы з іх, павагаўшыся, зрабіў некалькі крокаў наперад і спыніўся. Большы назіраў за ім, але не жадаў выпаўзаць са свайго сховішча.

— Падыдзі, я не зраблю нічога злога, — сказала яна.

Хлопчык пасмялеў і падышоў бліжэй.

— Хто ты?

— Генлых.

— Скажы, Генрых, ты ведаеш Марціна Нямцэвіча?

Хлопчык кіўнуў.

— А дзе ён?

— Пабег туды.

— А мяне правядзеш?

— Не!

— Чаму?

— Там Тхол.

— Які Тхор?

Яна вымавіла гэта занадта гучна. Малыя скурчыліся і, відавочна, баяліся пра яго гаварыць. Абодва бялявыя, з рабаціннем на доўгіх насах і ўпалымі шчокамі, дзеці былі як заморышы, якія ледзь трымаліся на нагах. Шляхцянка працягнула руку да малодшага і ўсміхнулася. Той адказаў тым жа, зрабіў яшчэ крок насустрач, але пачулася нечая хада і хлопчыкі, як па камандзе, пабеглі прэч.

Катажына зноў засталася адна. Пачакаўшы яшчэ трохі, яна паднялася і пакрочыла ў той бок, куды паказаў малы. Доўга блукала па шырокіх калідорах, калі, нарэшце, убачыла прыадчыненыя дзверы. За імі ў пакоі вялі размову два чалавекі. Галасы гучалі прыглушана, але, зрабіўшы яшчэ некалькі крокаў, Катажына змагла чуць іх гаворку.

— Лічыце гэта неабходным? — спытаў дрыготкі голас.

— Я ўпэўнены, мой брат.

[1] Знатныя людзі.

[2] Драўляны касцёл быў закладзены ў 1396 г., але з-за частых пажараў адбудаваны з цэглы ў 1730 г.

[3] Узведзены ў 1648 г. на сродкі пінскага старосты князя Альбрэхта Станіслава Радзівіла.

— А калі не ўсе змогуць? — спрабаваў пераканаць першы голас.

— Хто будзе супраць, таго пераканаем розгамі. Гні дрэва, пакуль яно маладое.

— Але яны ж дзеці!

— Дзеці вырастаюць і слухаюцца менш. Таму будзе лепш, калі зразумеюць гэта цяпер. Вы мусіце памятаць, што дзеці — кветкі жыцця, спадар Барташэвіч. Кветкі! Разумееце? — ён засмяяўся і працягваў. — Гэта значыць, што мы з вамі з’яўляемся садоўнікамі. А што павінны рабіць садоўнікі?

Чалавек зарагатаў, і Катажына пачула яго лёгкую хаду, але зразумела, што не паспее збегчы і знерухомела. Толькі мужчына не меў намеру выйсці з аўдыторыі. Наадварот, цяпер ён стаяў яшчэ далей, чым першапачаткова.

— Бачыце гэтую герань? — спытаў ён у свайго суразмоўцы. — Той, хто яе даглядае, — дрэнны садоўнік. Калі я прынёс кветку сюды, то была найпрыгажэйшая з маёй калекцыі, а цяпер нават самая горшая з яе будзе лепшай за гэтую. Уявіце сабе, што я аддам герань вам. Даю на адсячэнне свой палец, што вы зможаце выхадзіць яе.

— Дзякую за давер...

— Вы не зразумелі, — абарваў яго езуіт. — Я гаварыў не пра кветкі, а пра нашых вучняў. Мы з вамі — садоўнікі, і можам вырасціць з гэтага насення тое, што пажадаем.

Ён зрабіў крок і паўтарыў яшчэ раз.

— Што пажадаем, спадар Барташэвіч. Дзеці вырастуць, а хто будзе мець на іх уплыў? Хто зможа накіроўваць іх думкі? І касцёл...

Катажына не пачула апошніх слоў, бо з боку лесвічнай пляцоўкі нехта тупаў па прыступках. Дзяўчына паспяшалася схавацца за выступам сцяны, і езуіт не заўважыў яе. Калі ён зайшоў у аўдыторыю, шляхцянка выскачыла і асцярожна пакрочыла да сходаў. Раптам яна пачула ўсхліпы. Катажына пачала спускацца, але, апынуўшыся ў тупіку першага паверха, нікога не знайшла. Тады шляхцянка заплюшчыла вочы ды паспрабавала па гуку зразумець, дзе знаходзілася схованка маленькага румзы. Павярнуўшыся ў той бок, адкуль, меркавала, даносіўся плач, яна расплюшчыла вочы і ўбачыла перад сабой дзверы, якія напалову прыкрывалі лесвіцу і тупік. Дзяўчына асцярожна пацягнула іх на сябе і, калі святло трапіла ў цемру, убачыла вучня, які сядзеў на каленях, закрыўшы твар ручкамі. Хлопчык нават не чуў, як яна падышла ззаду і ўздрыгнуў, калі паклала яму далонь на плячо. Ён азірнуўся і спуджана паглядзеў дзікаватымі вачыма на яе. Нарэшце зразумеў, што перад ім не прывід, а сястра і кінуўся ў яе абдымкі.

— Кася!

Але раптам, спужаўшыся свайго крыку, прыхіліўся чубатай галавой да яе жывата. Звычайна ён так рабіў, калі прыходзіў плакацца пасля чарговага бацькавага пакарання. Хлопчык абняў сястру і зашморгаў носам, але не сказаў ні слова. Катажына цярпліва чакала, калі сам распавядзе, што з ім сталася.

— Я больш не хачу заставацца тутака, Кася, — пачаў жаліцца брацік. — Я баюся.

— Цябе пакаралі?

Марцін усхліпнуў.

— За што, мой родны? — спытала яна, пагладзіўшы яго па чупрыне.

— Я спытаў у настаўніка, чаму Бог не заб’е д’ябла.

— І што табе адказалі?

— Нічога. Ён выйшаў, а вярнуўся з розгамі.

У Марціна зноў задрыжэў голас.

— Кася, мяне лупцавалі пры ўсіх. Калі бацька нічога не зробіць, я збягу адсюль.

Яна абняла яго і пацалавала ў ільняныя валасы.

— Дурасік, не гавары так. Бацька прыехаў, каб забраць цябе адсюль.

— Праўда?!

— Праўда.

— І мы сёння будзем дома?

— Ага. Пойдзем, нашто сядзець пад лесвіцай?

Хлопчык шморгнуў носікам.

— Хаваўся ад настаўніка.

— Але ж кабінеты недалёка, маглі хутка знайсці.

— Не, наадварот: тут не шукалі б. Звычайна зайца ловяць у лесе, а не на двары паляўнічага.

— Хітрун! Я б не датумкала, — засмяялася дзяўчына і пачала падымацца па прыступках.

На калідоры другога паверха яны сустрэліся з панам Юзафам. Ён ужо паспеў разабрацца з усімі справамі, з'есці абед у дырэктара і цяпер, задаволены сабой, кандыбаў па калідоры да выхаду.

— Ух, мае чэрці! — выпаліў, але адразу прыкрыў рот і пачаў азірацца, каб упэўніцца, што ніхто не пачуў яго слоў.

— Анёльчыкі, — выправіў сябе і зірнуў з блюзнерскай усмешкай на сына з дачкой. — Ну, пойдзем мо, а то я ў такім месцы, можна сказаць, Божым доме, яшчэ нараблю столькі грахоў, што нават чэрці з пекла выпруць.

— Тата, — з дакорам шапнула Катажына.

— Добра, добра, маўчу, донечка. А наш спадар-дабрадзей, — звярнуўся ён да сына, — згроб рэчы ў куфар?

— Не.

— Дык дзе ж ты так доўга бадзяўся? Хутчэй збірайся! Зараз табе служку прышлю, каб дапамог. Хадзем, доню, няхай гэтаму невуку стане сорамна, што такі няспрытны.

Ён засмяяўся і падміргнуў.

— Што стаіш, як прырос? Калі праз хвіліну не вернешся — без цябе паедзем.

Пачуўшы тое, хлопчык даў такога драпака, быццам за ім ваўкі гналіся. Бацька толькі крэкнуць паспеў ад здзіўлення. Марцін жа бег што ёсць моцы. Дужа баяўся, што бацька зменіць рашэнне. За год навучання ён зненавідзеў усё, што мела хоць нейкую сувязь з калегіумам. І не столькі апантанасць у служэнні Богу, колькі жорсткая дысцыпліна, якой прытрымліваліся езуіты, прыгнятала яго. Уляцеўшы ў пакой, ён кінуўся да сваёй паліцы, скінуў усе рэчы на ложак і пачаў іх перабіраць. Ад хвалявання Марцін нават не заўважыў, як у пакой увайшлі два хлапчукі. Абодва ў форме, бялявыя, з доўгімі насамі і тонкімі вуснамі. Яны здзіўлена пазіралі на Марціна. Нарэшце малодшы спытаў:

— Няўжо ты, Малцінка, хочаш збегчы?

Марцін азірнуўся.

— Чаму так?

— Вось лэчы пакуеш, ды і сам узлушаны.

— Ну вас! Выдумалі!

— А мы, можа, хвалюемся за цябе. Вось сёння перад Тхолам цябе абаранялі. Ты ж не прысутнічаў на занятку, — абурыўся Казімір.

Марцін паглядзеў з-пад ілба на іх. Тхорам называлі выкладчыка тэалогіі, які быў самым лютым сярод настаўнікаў. Вучні не любілі яго і злую мянушку спецыяльна вымаўлялі са скажэннем літары «р», як гэта рабіў ён.

— І што сказалі?

— Бы хворы.

— Паверыў?

— Не. Цябе ўвесь калегіум шукае. Калі знойдуць, то і ў хвост, і ў грыву дадуць!

— Радуешся?

— Дурань, мы ж сябры!

— То прабач. Не хацеў цябе пакрыўдзіць, Казімір. А ты што скажаш? — звярнуўся ён да другога.

Малец абняў Марціна і муркнуў.

— Малтын. Хочаш, я з табой збягу? Мы ж сяблы?

Хлопец заўсміхаўся.

— Не, Генрых, не трэба. Ды я і не збягаю: за мной бацька прыехаў.

Казімір уздыхнуў:

— Пашчасціла. Калі ад'язджаеш?

— Зараз.

— Вось гад, каб не прыйшлі, то і не развітаўся б!

— Не адшукаў бы.

— Брэшаш!

— Няхай і так. Але добра, што сустрэліся.

— Можа застанешся? — жаласліва папрасіў Генрых.

— Не.

— І правільна, табе іншае патрэбна, — згодна матнуў галавой старэйшы. — Галоўнае, не забывайся на нас, пішы лісты.

— Не люблю.

— Ну не, брат, прыйдзецца. А то грош цана твайму сяброўству.

Марцін махнуў рукой:

— Згода. Слухай, а чаму вы так рана?

— Рыторыкі не было, замянілі заняткамі ў тэатры, а мы прыйшлі пераапрануцца.

Ён прыслухаўся.

— Чу! Нехта ідзе!

У пакой у суправаджэнні манаха ўвайшлі служкі, якія зграблі рэчы паніча і панеслі да карэты. Марцін жа выняў з куфэрка сцізорык і падаў братам.

— Каб памяталі пра мяне.

— Ну, братка, гэта шчыры падарунак. Прымі і ты ад нас вось гэты кулон ды абяцанне прыйсці на дапамогу.

З гэтымі словамі Казімір зняў з шыі кулон і працягнуў хлопцу. Той пакланіўся і кінуўся абдымаць сяброў. Яны пастаялі так трохі на развітанне, і Марцін пайшоў прэч. Ён крочыў па калідоры і разумеў, што ў апошні раз бачыць усё гэта. Паўз яго праходзілі браты-езуіты, іншыя вучні, а ён праводзіў іх вачыма і ўсміхаўся.

Раптам з-за дзвярэй настаўніцкай з'явіўся Тхор. Учэпістым позіркам выкладчык прабегся па калідоры, адразу заўважыў Марціна і паклікаў да сябе. Таго аж затрэсла.

— Спадар, я цябе якраз шукаў. Чуў пра ад'езд. Я ад пачатку ведаў — ты ў нас ненадоўга, не прыжывешся. Адно шкада — наш тэатр згубіў добрага акцёра. Так, не маню. Жадаю поспехаў.

Марцін ужо збіраўся ісці прэч, калі Тхор раптам схапіў яго за каўнер, нахіліўся да вуха і зашаптаў:

— Не зганьбіце гонару нашага калегіума. Адзін жмук гнілой саломы ў стагу капу псуе. Я буду за гэтым сачыць, і няхай толькі...

Ён заскрыгатаў зубамі і выпрастаўся.

— Цяпер бывайце.

Словы Тхора збілі Марціна з панталыку. Узрушаны, ён выйшаў з будынка і накіраваўся да фурманкі, дзе чакалі бацька і Катажына.

* * *

Дом пінскага падстаросты Адама Пратасевіча вылучаўся сярод іншых камянічак. Зрэшты, суседнія дамы некаторых мяшчан-купцоў амаль не саступалі яму раскошай і прыгажосцю, але яму дадавала пекнасці яшчэ і выгоднае знаходжанне на ўзгорку, адкуль адкрываўся не толькі від на цэнтральны пляц, але і на касцёл езуітаў і Піну, якая павольна і рахмана гнала сваю плынь насустрач Прыпяці. Цяпер, калі сонца ззяла на яе роўнядзі, здавалася, што бераг абмываюць срэбныя хвалі.

Карэту Нямцэвічаў сустрэў служка, апрануты ў чырвоную світку. Калі пан з дзецьмі выйшлі, ён узяўся паказваць вазніцы яго месца на стайні. Другі служка чакаў на ганку і павёў іх да пакояў. У прасторных сенцах, куды ён іх спачатку завёў, для адзення гасцей была спецыяльная шафа. Падлогу ўсцілаў персідскі кілім, стаялі драўляныя крэслы з выразнымі парэнчамі ў выглядзе галоў ільва і спінкамі, упрыгожанымі роспісам дзіўных птушак. На сценах вісела пяць люстраў, у якіх адбівалася святло свечак на трох жырандолях.

Насустрач гасцям выйшаў сам гаспадар. Паны былі рады адзін аднаму ды, хоць сівыя грывы мелі абодва, ледзь не пусціліся ў скокі. Марцін з павагай нахіліўся і пацалаваў пану Адаму руку, а пасля шчокі і лоб. Калі ж той убачыў Катажыну, стары воўк не мог даць веры, бо малое дзяўчо, якое не так даўно трымаў на руках, неверагодным чынам ператварылася ў дзяўчыну.

— Кася... Выбачайце, панна Катажына. Вы ўжо нявеста! Юзаф, — звярнуўся ён да сябра. — Ці не занадта доўга перабіраеш кавалераў? Калі ўжо ўбачу сваю хрэсніцу з немаўлём на руках?

Катажына пачырванела і адвярнулася.

— Ну, доню, што за глупства? Чаму галавой круціш? Усе вы такія, ды супраць прыроды не папрэш! Мая Анэля крычала маці, жонцы маёй, што пострыг хоча прыняць, — ён засмяяўся. — Цяпер ужо трэцяга носіць пад сэрцам. Ды, з гаворкі выйшла, схадзіла б ты да яе.

— Яна цяпер у вас?

— Прывезла ўнукаў, каб бабку парадаваць. Ой жа, чэрці! Памятаеш, дзе яе былыя пакоі? Зайдзі, а мы тут з бацькам тваім пра справы мужчынскія пагутарым.

Дзяўчына выйшла з гасцёўні. Марцін жа, якога таксама ўжо не займала ні калекцыя зброі, ні мяккае крэсла, хадзіў уздоўж сцяны, счапіўшы рукі за спінай. Пан Адам заўважыў гэта і паклікаў яго.

— Чаго смуткуеш, ваяр? Зараз знайду табе кампаньёна.

Ён крыкнуў, і перад гасцямі з'явіўся малады служка.

— Янка, — вымавіў гаспадар, — пакліч сюды Тадэвуша!

— Паніч у парку практыкуецца ў фехтаванні.

— Тады адвядзі і гэтага туды. Яму, думаю, таксама не перашкодзіць памахаць шпагай, бо за год вучобы мог і забыцца, як яе трымаць.

Янка пакланіўся і пайшоў да дзвярэй, што вялі да выйсця ў парк праз веранду, а Марцін пакрочыў за ім. Калі служка з панічам выйшлі, Адам павярнуўся да сябра і сказаў:

— Нам будзе лепш у маім кабінеце, дзе ніхто не будзе перашкаджаць.

— Вы не прымаеце гасцей?
— Не.
— А як жа хлопчык? Ён без бацькоў?
— Гэта мой хрэснік. Заязджае да мяне даволі часта, а я прыгаіўся душой да яго.
— Прозвішча?
— Сын Адама Касцюшкі — Тадэвуш. Годны сын годнага бацькі. Дык чаму, кажаш, вырашыў Марціна забраць?
— Хачу, каб вучыўся на ваенны чын. Можа, парадуе мяне на старасці, стане слынным ваяром.
— А ці не так даўно вашамосць хацеў, каб малец атрымаў добрую адукацыю?
— Дык да яго навука прыстае, як гарох да сцяны. Што тут ужо зробіш?
— Змучыш дзіця, браце, са сваімі пераборамі! Куды цяпер аддаць мусіш?
— У Нясвіж.
— Ого! Корпус кадэтаў?
— Толькі цяпер «Корпус артылерыі і фартыфікацыі».
— Пане Каханку пастараўся?Ператварыў бацькаву задуму на свой капыл.
— Акрамя вайсковай архітэктуры маецца і цывільная.
— А чуў, што ў Слуцку Геранім заснаваў таксама школу кадэтаў?
— Гэтаму злодзею я і сабаку не аддам у яго школу! Кожны гад мае свой яд, а ў гэтага на ўсю Рэч Паспалітую хопіць.
— Неяк не дагадзіў табе? — засмяяўся Пратасевіч.
— Гэтага пацука толькі чорт панам кліча. Сустрэўся я з ім не так даўно ў Менску. Пыхі столькі, колькі кароль сабе не дазволіць. Увесь сам з сябе, нос у неба ўтыркнуты, а вочы, напэўна, у свінні пазычыў.
— Ды не ганьбі ты з-за аднаго ўсё кодла.
— Ты пра Рыбаньку[1]? Той у параўнанні з ім — авечка, але вось сынок яго разам з Геранімам д’яблу душу прадаў. Здаецца мне, што пасля смерці бацькі, калі некаму будзе трымаць за каўнер, пакажа яшчэ сябе.
— Не так даўно яго, дарэчы, выбралі маршалкам Літоўскага Трыбунала[2].
— Як? Хто?
— Я думаў, Юзаф, ты ўжо сталы чалавек, ды вось гаворыш, як дзіця. Падумай сам. Бацька, канечне, грошы добрыя пад ногі панам кінуў, ды яму ад гэтага хлеба на стале не паменшае. Дык чаму ж не даць пасаду? Час сыну прыйшоў. Акрамя таго, яго любіць народ, што на папойках бывае. Пра Альбанскую банду ты таксама не чуў? Брыдота! Свайму дзяржаўцу яны нахабна ў вочы смяюцца, а тут, як дваровыя сабакі, гэтаму слізню боты ліжуць...
— Кадук яго бяры! А як справы пры двары? Што новага чуваць?
— Там таксама не салодка. Тузом дворскай партыі цяпер Бруль. Яму сам кароль верыць.
— Я чуў, бы яго з Саксоніі вытурылі праз усеагульную нянавісць.
— А то! Хто ж з галоты будзе любіць таго, хто ўвёў такія падаткі, што кішэні пустыя? Ды вось гэты хцівец цяпер у нашым гаспадарстве пажывіцца захацеў. Трэба аддаць належнае, хутка, поскудзь, разабраўся ў міжусобнай валтузні. Сцяміў, што Аўгуста III[3] Расея на трон пасадзіла, значыць, і наступнага, у выпадку чаго, руская баба з-пад абцаса выкіне, таму заняў бок Чартарыйскіх.
— Я пра гэта ведаў.

[1] Міхал Казімір Радзівіл.
[2] У 1755 г.
[3] Кароль Рэчы Паспалітай, вялікі князь літоўскі.

— Няўжо? Ну і што яшчэ сарокі на крылах носяць?

— Кажуць, Чартарыйскія для яго «міласць гаспадарскую» здабылі і дакументы на годнасць падрабілі.

— І гэтым хацеў здзівіць? Цяпер такіх даволі.

— Тое не ўсё. Яго сынку да паўналецця дарасці патрэбна б было, а малец ужо варшаўскі староста.

— Шчодра.

— Вось і я пра тое. Ды не доўга сябрамі былі, бо Брулю палец у рот не кладзі... Толькі Чартарыйскія доўга не цярпелі, такую поўхву яму заехалі. Справа тут такая, што пан Генрых задумаў дачку сваю выдаць за Казіміра Панятоўскага, а сына ажаніць з дачкой Аўгуста Чартарыйскага.

— Ого! Кавалак вялікі! А Чартарыйскія?

— Адмовіліся.

Юзаф зарагатаў.

— Бедны Генрых. Калі хоча, то магу яму нявесту сярод сваёй дворні пашукаць!

— Што не бедны, то магу цябе запэўніць, а вось за абразу Чартарыйскія паплаціліся. Дачку саксонец выдаў за надворнага маршалка кароннага Юрыя Мнішка. Як ведаеш, даўняга ворага Чартарыйскіх.

— Нядоўга ліса плакалася!

— Толькі гэтае сватанне не адзінай прычынай было, з-за чаго Бруль з імі грызціся пачаў. Чартарыйскія хацелі ўвесці рэформу, ад якой сын быў бы каранаваны яшчэ пры жыцці. Яны ж на сябе коўдру цягнулі, каб адзін з іх пасля мог сабе выгоду шукаць.

— Ці не занадта ім? Адкуль такая прыткасць?

— Відаць, адчулі за спінай падтрымку Расеі.

— Але!

Пан Адам падышоў да вакна. Яго погляд на нечым спыніўся, і ён падаў знак сябру, каб той падышоў.

— Глядзі.

На невялікай пляцоўцы паміж трыма клёнамі біліся на шаблях Марцін і Тадэвуш.

— Горка мне, — выцадзіў шляхціц. — Я з Янушам таксама так гуляў, а цяпер па-сапраўднаму горлы адзін аднаму гатовы перагрызці.

— Кінь. Не трэба.

— Не магу, Юзаф. Сэрца баліць. Дзякуй, што ты мяне падтрымаў.

Нямцэвіч паклаў руку сябру на плячо і схіліў галаву.

— Адкуль ведаеш? Жыццё з нас надта ж пасмяяцца любіць, з чалавечай слабасці перад ім. Можа, так і з нашымі хлопчыкамі будзе? Праз якіх дзесяць год не на жарт шаблі скрыжуюць?

— Змоўч! Яны такога не павінны ўбачыць.

— Яны ўжо гэта бачаць.

Адам уздыхнуў.

— Бруль цяпер з рэспубліканцамі... Радзівілы аж пішчаць ад задавальнення, адчуваючы сваю моц. Пракляцце!

— Чартарыйскія іх не надта баяцца.

— За іх спінай ведаеш хто. Успомніш мае словы. У гэтым годзе іх пляменнік паслом накіраваны ў Пецярбург.

— Хто такі?

— Літоўскі стольнік — Станіслаў Панятоўскі. Чуў, можа, пра новага каханка імператрыцы?

— Што за баба!

— Чартарыйскія соймы зрываюць. Раней таксама ненавідзелі «ліберум вета», а цяпер карыстаюцца.

— А «рэспубліканцы»?

— Ім правадыроў добрых не хапае. Цяпер на чале лагера ў Кароне стаў Ян Браніцкі, а ў нашым Княстве — вялікі гетман літоўскі Радзівіл Рыбанька.

— Паглядзім, што з таго будзе.

Адам захрыпеў і паваліўся на калені. У яго пачаўся прыпадак.

— Бязладдзе... Яно спаліць гаспадарства знутры, — паспеў адказаць ён. — Пакліч лекара, я не магу дыхаць...

Праз некаторы час пан Юзаф зайшоў у кабінет. Пратасевіч ляжаў нерухома і глядзеў у адчыненае акно.

— Я ад'язджаю, Адаме, — пачаў госць.

— Не адпушчу, братка. Пабудзь, а то загадаю, каб Яшка вас з мушкетам трымаў.

Ён паспрабаваў прыўзняцца з ложка, але госць спыніў яго.

— Дарма. Не рабі так, а сам прыязджай. Хутка веселле дачцэ буду ладзіць... Згода?

— А то не! Ці ж я праміну такую магчымасць, каб выпіць за здароўе маладых. Толькі вось бачыш, да чаго давёў сябе?

Ён уздыхнуў:

— Нявеста...

— Бывай.

Юзаф падышоў бліжэй і абняў сябра.

— Старыя мы з табой, Адаме, сталі. Зломкі.

— Ды каб цябе! Я вось прыеду на вяселле і танчыць мазурку пачну, няхай толькі мне не дапаможаш!

Ён засмяяўся, але смех перайшоў у хрып, і пан выплюнуў згустак крыві.

— Прэч! Ідзі ўжо адсюль! — закрычаў праз сілу гаспадар. — Я сам! Паклікаць лекара!

Нямцэвіч вылецеў за дзверы, каля якіх яго ледзь не збіў лекар, што нёсся на званочак гаспадара.

* * *

Халоднай надарылася восень. Лісце з дрэваў абляцела яшчэ ў канцы верасня і ўслала зямлю жоўта-чырвоным дыванам. Гасцінец размылі дажджы, таму цяпер па ім было цяжка праехаць нават конна. Дождж няшчадна хлястаў твар касымі струменямі, а ад злога павеву ветру не было куды хавацца. Блізкі подых зімы папярэджваў вазніцаў, каб спяшаліся, бо хутка мароз скуе бруд на гасцінцах, і, пакуль не выпадзе снег, коні не выйдуць на лёд.

Дзед Тарас вярнуўся позна, нічога не сказаў і паваліўся на палаці. Мокры кажух ён не меў сілы зняць, гучна кашляў і скрыгатаў зубамі ад невыноснага болю ў грудзях. Напужаная Зуліся паднесла да яго ссохлых вуснаў гарлач з саладухай[1]. Стары адпіў і зноў паваліўся на сухую салому. Кроплі поту выступілі ў яго на ілбе, а кашляў так, быццам душа вось-вось выскачыць з грудзей. Зуліся дакранулася да яго і ціха прашаптала: «А кыш, Паляндра, а кыш!» Потым яна пайшла да печы, падклала сушняку і раздзьмула вуголле. Дзяўчына доўга не магла заснуць, бо ўвесь час чула енк і кашаль дзядулі. Адной было страшна ў цемры: часам здавалася, што гэта не

[1] Вегетарыянская страва з жытняй мукі, якая мела лекавыя ўласцівасці.

холад падступае да шыі, а душыць ледзяной рукой хатнік. У вёсцы верылі, што ён папярэджваў перад надыходам бяды, таму дзяўчына баялася нават раптоўнага стуку ў дзверы і, калі пачула ціхі віск на падстрэшшы, заплакала.

Разам з дажджом, мокрым снегам і шалёным ветрам па размытай дарозе ў вёску дабралася Трасца. Яна заганяла ў дамавіну ўсіх, не шкадавала нават дзяцей. Астапчыкава Хадосця доўга раўла, калі раніцай знайшла сваё немаўлятка ў калысцы нежывым. Дзяўчына ледзь не ўтапілася, балазе, выцягнулі хлопцы, але потым доўга яшчэ плакала. То, можа, так было і лепш для яго, бо да пазашлюбных дзяцей дрэнна ставіліся ў вёсцы, але і пазбавіцца ад дзіцяці не дазвалялася[1]. У суседніх Бароўках дзеўка заспала свайго і закапала ў полі. Толькі вось нехта данёс пану, а той, нядоўга думаючы, загадаў паводле Статута яе судзіць. Дзеўку схапілі, прыцягнулі на стайню і засеклі да смерці, каб іншыя такога не рабілі... Асабліва цяжка прыходзілася старым: іх адпявалі ледзь не кожны дзень. Здаралася, што некаторых не было каму і пахаваць, тады бабы ішлі ў апусцелую хату. Ад іх слоў «мо так і да мяне пасля хто прыйдзе» з прыкрасцю крывіліся маладыя хлопцы, якіх клікалі, каб несці труну.

Людзі здзічэлі ад жаху і верылі ва ўсялякія забабоны. Поп у суседнім мястэчку хапаўся за галаву, калі яму распавядалі пра тое, што рабілася ў вёсцы. Спачатку нехта пусціў плётку, быццам Адась з суседніх Гацькавічаў, едучы на возе праз Стары Бор, падвёз нейкую чорную худую бабу і тут пакінуў. Па чутках, гэта была Трасца. Уночы да яго прыйшло чалавек дзесяць са Старога Бору, прыгразілі нажом і пачалі пра ўсё дапытвацца. Адась спачатку адмаўляўся, крыж пацалаваў. Пасля зразумеў: з гэтымі кашы не зварыш, і паспрабаваў уцячы. Яго схапілі ды збілі так, што раніцай сканаў. У Сасноўках жанчыны і дзяўчаты, адзетыя ў жалобу, хадзілі Трасцу пужаць. Да самага змяркання тапталіся вакол вёскі, грукалі, крычалі, каб адагнаць хваробу. Усе вельмі баяліся благіх прыкмет. У хаце ўдавы Хадосці выпадкова скінуліся міскі з прыпечка. Гаспадыня тады ледзь з глузду не з’ехала: хвалявалася за пецярых чубатых сыноў. Казала, быццам гэта пячурнік яе перад няшчасцем папярэджвае, дрыжэла, малілася за малодшага Юраську, бо таго яшчэ пастрыгчы не паспела[2]. Толькі сама не ўберaглася: праз тыдзень пакінула ўсіх сіротамі на ахову святому Юльяну[3].

Стары Тарас ужо тры дні не падымаўся на ногі. Ён стрымліваў сябе, каб не енчыць, бо даводзіў тым унучку да плачу. За гэтыя дні прайшлі перад вачыма яго гады, а жыццё пражыць — не песеньку спець. Светлым успамінам з дзяцінства быў дзень, калі бацька падарыў яму маленькі просценькі сцізорык з касцяной ручкай і вострым лязом. Гэта быў скарб, якому зайздросцілі ўсе сябры. Прыгадаў, як у час засевак выбралі яго. Як ганарылася маці і чыста прыбірала ў хаце, бо, казала, тады і палі будуць чыстымі. Пасля ён, чубаты, у белай кашулі нясмела тупаў па першым полі і нават калі пазней займеў уласную палоску, то выходзіў у поле, як на свята. У першы дзень уставаў на золку, нетаропка збіраўся, мыў твар крынічнай вадой і выціраў абрусам, які падносіла жонка. Чамусьці запомніў той момант, як яна выняла з куфра новую кашулю, а ў вярэньку паклала свянцоную ваду, хлеб, соль, яйкі, якія павінны зберагчы ад дурнога вока і перадаць ніве жыццёвую сілу. У такі момант ён рабіў усё так, як некалі бацька. Святой вадой акрапліваў валоў і пачынаў араць, але працаваў нядоўга і вяртаўся дахаты, дзе чакала жонка, якая загадзя пякла печыва, гатавала мяса і асвячала ў царкве яйкі.

---

[1] Паводле Статута 1588 г., за забойства свайго дзіцяці маці маглі асудзіць на смерць.

[2] У дзяцей пасля годзіка адстрыгалі пасму валасоў, каб не баяліся грымот.

[3] Апякун дзяцей-сірот.

Ой, як жа ён кахаў сваю Антаніну! Пасля вяселля хату збудаваў па дзедаўскім звычаі. Напярэдадні ў месцах, дзе, меркаваў, прыйдуцца куты хаты, насыпаў жыта. Раніцай праверыў, але зерне было раскідана, быццам курыца разгрэбла. Сцяміў — праца рук хатніка. Значыць, той не жадае, каб на гэтым месцы хата стаяла. Тады зноў насыпаў чатыры кучкі ў іншым месцы, ды зноў разгроб нехта зерне. Хацеў ужо кінуць і пабудаваць, як атрымаецца, але старыя раілі з хатнікам не звязвацца. Казалі, што калі паставіць хату тут, то ноччу спакою гаспадарам не дасць. Ды, урэшце, на трэці раз дамовіўся і ў хуткім часе скончыў будоўлю.

Цяпер дзед Тарас ляжаў і дзякаваў Богу за тое, што паспелі зжаць і змалоць жыта. Борці ён таксама ўладкаваў і пачысціў, а ўвесну дачка з унукамі павінны самі справіцца. Васілька падрос, замест яго пан Незабытоўскі старэйшым на стайню возьме, яны ўжо гэта замовілі. Дачку было шкада, бо палову жыцця ўдавой пражыла, шчасця няшмат зведала, а цяпер увогуле адна застанецца. Сэрца балела за ўнучку. Дужа хацеў стары пабачыць яе ў вясельным уборы... А трасца яшчэ больш ціснула ў грудзях і перашкаджала дыханню. Дзед абвёў хату вачыма. На момант яму здалося, што перад ім стаіць яго Антаніна ды ўсміхаецца. Ці, можа, Зуліся? Яна вельмі падобна да бабкі. Ён выцягнуў руку, хацеў спытаць, але вусны не варушыліся. Дзяўчына ўсміхнулася, узяла яго далонь і павяла за сабой да святла, якое ззяла з расчыненых дзвярэй так ярка, што сляпіла вочы...

Ужо трэцюю ноч сваю моц спрабавалі маразы. Яны старанна зашклілі чыстым ільдом лужыны, узбярэжжа ракі і спакойную роўнядзь возера. Дабраліся нават да цэбраў з вадой, і калі якая гаспадыня не заносіла іх на ноч у хату, то раніцай прыходзілася выкалупваць лёд, каб напаіць быдла. Гэтай раніцай сонца свяціла ярка. Халодны паўночны вецер, які прасушыў зямлю і паабрываў апошняе лісце на дрэвах, цяпер сваволіў удосталь. Яно кружылася ў паветры, падала на дол, і вочы тапіліся ў залаціста-чырвоным сусвеце. Над краем плылі чароды птушак, луналі над зямлёй доўга, нібы чакалі, што раптам растане лёд, і не патрэбна будзе адлятаць.

Зуліся мыла ў начоўках бялізну на двары. Вада была ледзяная, і рукі аж скручвала ад яе зімовага холаду. Пасля трохі прызвычаілася, і толькі тады, калі высоўвала рукі з вады, на марозным паветры яны студзянелі, бы пакрываліся коркай лёду. Васілька сядзеў на прызбе і рэзаў на слончыку дзедаў тытунь. Моцна пахла спелымі яблыкамі, што былі раскіданы на траве. Гронкі рабіны гарэлі чырванню і звісалі над парканам. Вераб'і, якія паселі на старой яблыні, гучна ціўкалі ды неспакойна пераляталі з адной галінкі на другую.

Дзяўчына павесіла на галлё апошні ручнік і выцерла мокрыя рукі фартухом. Пальцамі цяжка было нават паварушыць. Зуліся падзьмухала на іх і пачала расціраць у далонях. Яна ўздрыгнула, калі ў суседзяў закрычаў певень. Павярнуўшыся ў той бок, яна сумна паглядзела на верхавіну бярозкі і перавяла погляд на брата.

— Нашто табе тытунь? Васілька, не рэж мне душу.

Хлопец змаўчаў.

— Васілька, — паклікала зноў, — не трэба.

Той зірнуў на яе, вінавата ўсміхнуўся і адказаў:

— Дзеду Лявону аднясу. Ты не думай, мне таксама...

Ён не дагаварыў, апусціў вочы і калі зноў падняў, то аж спужаўся.

— Зуліська, не плач, а то і мне выць хочацца.

Хлопец пераадолеў сябе, стрымаў слёзы і з дакорам паглядзеў на сястру.

— Лявон стары, ды і адзін застаўся. Баба Аўгіння заўчора памерла, калі нашага дзеда хавалі. Хто цяпер яе чалавека глядзець будзе?

Зуліся кіўнула і паглядзела ў неба. У блакітна-сіняй халоднай прасторы ляцела чарада дзікіх гусей. Яны развітваліся жалобным крыкам і, магчыма, цяпер зай-

здросцілі тым двуногім, што мелі шчасце не пакідаць родныя абшары. Гусі крычалі і ляцелі далей, а дзяўчына не магла адарваць вачэй ад гэтых драбнюткіх кропак. Пасля, крыху пастаяўшы, яна падышла да Васількі і прысела, схіліўшы галаву на яго калені.

— Што далей рабіць будзем? Маці каторы дзень ляжыць. А калі раптам?

— Змоўкні, дурніца! Сама не разумееш, што вярзеш! — прыпыніў брат.

Зуліся прыціхла і паглядзела на яго.

— Васілька, я баюся.

— Чаго?

Дзяўчына не адказала. Тады ён загаварыў больш лагодным голасам.

— Не трэба, заўтра ўсё зладзіцца, трывай.

— Добра, — згадзілася і зноў паклала галаву на калені.

Хлопцу самому раптам стала страшна, бы вось-вось пачнуцца грымоты і зямля паплыве пад нагамі. Сястра ж падняла галаву і сказала:

— Тады пайду іглiцы на падсціл Рагулі ў хлеў награбу, а ты занясеш.

— Ідзі спачатку паглядзі, як там маці.

— Добра.

Яна паднялася, абтрэсла сухое лісце са спадніцы і накіравалася да хаты. Васілька кінуў тытунь у мяшэчак і гукнуў сястру.

— Есці ёсць што?

— Рэпу варыла, капусту. Павячэраеш?

— Потым. Спачатку на дворы ўпраўлюся.

— А я да таго часу карову падаю, малако будзе.

— То няхай.

Яна падышла да дзвярэй і спынілася, бо баялася ў апошні час заходзіць у хату. Брат зразумеў гэта.

— Пайшлі разам.

Зулісі зрабілася сорамна.

— Не, — пакруціла галавой.

Дзяўчына адчыніла дзверы, і яны гучна зарыпелі. «Змазаць трэба. Рыпяць, як на хаўтуры», — падумаў хлопец і крыкнуў сястры.

— Зуліся!

Дзяўчына азірнулася.

— Што табе?

— Ты... можа б у царкву схадзіла? То гэта... свечку за здароўе маці паставіла?

Яна спахмурнела.

— За дзеда ставіла, а яно ўсё роўна.

— Ды я не...

— Схаджу, — раззлавалася яна і зачыніла за сабой дзверы.

Маці ляжала нерухома на палацях. Зуліся падышла да печы, адсунула заслонку і выняла чыгунок з вадой. Пазмятаўшы смецце з прыпечка курыным крылом, яна паклікала:

— Матулечка, табе можа што прынесці?

Маці не адказала. Тады дзяўчына падышла да яе і закрычала. Да горла падступіў камяк, і яна адчула, што ногі ўжо не трымаюць. Неяк адолеўшы млосць, дзяўчына выскачыла з хаты. Яна дабегла да дуба і там не вытрымала, упала на калені і пачала вырываць траву, б'ючы рукамі зямлю. Знямогшыся, Зуліся перавалілася на спіну, утаропілася шклянымі вачыма ў небасхіл і знерухомела.

* * *

Улляна і Людовіка сядзелі каля агню. У каміне патухалі адзін за адным вугельчыкі. Людовіка пазірала на жар і бавілася з ім: то падсоўвала бліжэй ножкі, то прымала і мацала пачырванелыя шчокі халоднымі ручкамі, якія праз хвіліну станавіліся такімі ж гарачымі.

— Давайце, панначка, прычашу ды будзеце апранацца, — сказала Улляна.

Людовіка скрывіла нос і пакруціла галавой.

— Не, не хачу. Я так хадзіць буду.

— Паважныя пані так не робяць.

— Адкуль ведаеш? Ты ж, акрамя нашага маёнтка, нідзе не была.

Улляна паднялася з падлогі і абтрэсла спадніцу.

— Чаму ж. А калі да вас прыязджалі панначкі пагасцяваць? — яна падышла да століка і ўзяла грэбень. — Ды і ваша маці...

— Што мая маці?

— Яна вельмі гожая.

Дзяўчынка ўздыхнула і сказала:

— Ага. Я хацела б быць такой.

— Так яно і ёсць. А калі мне не верыце, то спытайце ў Параскі. Яна ўжо маніць не будзе.

Дзяўчынцы словы прыйшліся даспадобы, але яна не паказала выгляду і паспрабавала перавесці гаворку.

— Уля, а чаму ў мяне ўвесь час рукі халодныя? Вось сядзім каля агню — шчокі чырвоныя ад спякоты, а рукі не.

— Мне бабуля казала, бы сэрца ў такога чалавека гарачае.

— Як то?

— Добрае, значыць, палкае.

Людовіка засмяялася і памацала ручкай левы бок. Раптам дзверы адчыніліся, і ў пакой маланкай уляцела гувернантка.

Мадам Рэўер была вельмі ўзрушана. Яна спрабавала нешта сказаць, але не магла і толькі махала рукамі ды глядзела вялізнымі вачыма на дзяўчат.

— Madam, madam, qu‘est qui c’est passe‘? — падскочыла да яе Людовіка. — Peux-je vous aider?[1]

— C‘est terriblement! Terriblement! Encore la semaine et je ne subirai pas.[2]

— Expliquez-vous, enfin, pourquoi vous criez tellement?[3]

— Louisa, monfenfant, où votre pere a trouvē un tel cuisinier? Il met mêlame dans bouillie ces ēpices afreuse. Je ne peux pas manger et je mourrai bientôt de la famine.[4]

Людовіка засмяялася.

— Chere, Madame. Si vous voulez prenez mes sucreries et petits-pains. Ils se trouvent sur la table. Prenez-les.[5]

— Ma Louisa, vous êtes le meilleur enfant que le Dieu a creē.[6]

---

[1] — Мадам, мадам, што адбываецца? Я магу вам нечым дапамагчы?

[2] — Гэта жахліва! Жахліва! Яшчэ тыдзень, і я не вытрымаю.

[3] — Растлумачце нарэшце, чаму вы так крычыце?

[4] — Луіза, дзіця маё, дзе ваш бацька знайшоў такога кухара? Ён нават у кашу кладзе гэтыя мярзотныя спецыі. Я не магу нічога есці і хутка памру з голаду.

[5] — Шаноўная мадам, калі вы хочаце, то вазьміце мае слодычы і булкі. Яны стаяць на стале. Бярыце іх.

[6] — Мая Луіза, вы лепшае дзіця, якое стварыў наш Бог.

Яна павагалася, але нарэшце падышла да куфэрка і ўзяла слодычы.

— Merci, ma petite mademoiselle. Aujourd'hui je vous perments ne venire pas pour le cours de latin.[1]

Так сказала, выціснула з сябе ўсмешку і выйшла з пакоя, а Людовіка пачала тлумачыць Улляне іх размову.

— Вось так, — скончыла яна. — Бацька загадаў класці болей спецый, як гэта робяць нашы суседзі, да якіх ездзіць па справах. Гэтым, яны лічаць, можна паказаць раскошу, бо спецыі каштуюць вялікіх грошай. Каб толькі тата чуў, што на гэты конт Параска сказала! Кажа, што ката́ пачаставала такім мясам з поліўкай, дык ён на наступны дзень ледзь не здох. Тады бабця прапанавала ў склеп спецый занесці, каб пацукі перадохлі, а то сыр і каўбасы ядуць.

Нечая павольная хада чулася з калідора. Праз імгненне дзяўчаты пачулі голас старой:

— Хто тут пра мяне гаворыць, га? Гэта вы, панначка, так сакочаце, што і ў склепе чуваць?

— Я, Параска. Як там пацукі?

Старая кіўнула.

— Здох адзін. Пайду зараз выносіць.

— Ой, бабцю, а можна я з табой пайду? — пачала ўпрошваць дзяўчынка. — Я іх ніколі не бачыла.

— Добра. Але няхай цябе Улляна спачатку расчэша і апране цёпла.

— Я не хачу апранацца.

— Тады адна пайду.

— У-у-у.

Старая заўсміхалася.

— Не пушчу голенькую. Хуценька апранайся!

Людовіка ўскочыла на ложак і паклікала Уллянну. Тая пачала завіхацца каля выхаванкі.

— А дзе чаравічкі? — буркацела малая. — Знайдзі мне чаравічкі! Уля, хутчэй!

Калі яе апранулі, Параска сказала:

— Зараз пойдзем глядзець на пацука, а пасля зойдзеш да маці. Яна хацела цябе бачыць.

— Мгу, — кіўнула дзяўчынка і пацягнула яе за руку. — Пайшлі хутчэй, а то збяжыць.

— Не збяжыць, ён нежывы.

— А калі котка з'есць?

— Гэта можа. Тады пайшлі, а Улляна прыбярэ, пакуль нас няма.

Яны выйшлі з пакоя, пакінуўшы яе адну. Дзяўчына заслала ложак, сцерла крошкі на століку і прымасцілася зноў каля каміна. Доўга сядзела так, закрыўшы вочы рукамі, пакуль не пачула над сабой голас Параскі.

— Чаго такая спалатнелая? Захварэла мо? Я некалькі дзён за табой назіраю. Што з табой, ясачка?

Улляна маўчала, але Параска прысела каля яе і чакала. Нарэшце дзяўчына не вытрымала і расплакалася.

— Што мне рабіць, цётачка, я цяжкая.

Тут старая ўсё і зразумела.

— Божачка ты мой, — пачала бедаваць яна, — не зберагла я цябе, дзіцятка. Бачыла ж, што нядобра ён на цябе глядзіць, як воўк на ягня.

[1] — Дзякуй, мая мілая дзяўчына. Сёння я дазваляю вам не прыходзіць на заняткі па латыні (фр.).

Яна прыгарнула дзяўчыну да сябе і пачала гладзіць яе галаву.

— Паплач, птушачка мая, лягчэй стане. Ой, старая дурніца. Ведала ж, што такое можа стацца. Ой, горачка нам з табой.

— Цётачка, я яму сказала, што дзіця будзе.

Старая ўздыхнула.

— А панічу з гэтага бяда невялікая. Усё адно з табой не ажэніцца. Не ў свае сані не садзіся, дзіця. Што ён сказаў табе?

— Грошай даў і загадаў да варажбіткі ісці, каб дапамагла скінуць.

— А ты хадзіла?

Улляна заплакала яшчэ больш.

— Баюся!

Старая схіліла галаву і ўздыхнула.

— Нікуды не трэба ісці. Адвар зраблю, яно само выйдзе. Вазьму грэх на душу, каб тваю не загубіць. Нікому больш не гаварыла?

Улляна адмоўна пакруціла галавой.

— То добра, бо сама ведаеш, што за забойства дзіцяці цябе таксама не пашкадуюць. Зараз ідзі ў людскую, чакай мяне там да вечара і нічога не еш. Што маўчыш?

— У людскую не пайду.

— От дзеўка! Ну тады знікні з вачэй, а калі сцямнее, то прыходзь у маю каморку!

Увечары Параска доўга варыла нешта ў чыгуне, потым астудзіла, выліла ў гладыш і пашаптала над вадой. Непрыемны пах, ад якога цягнула на ваніты, стаяў у каморы. Адвар гэты не толькі смярдзеў, але і меў да таго ж брыдкі цёмна-зялёны, як балотная ціна, колер. Улляна з агідай глядзела на келіх, які працягнула ёй старая.

— Нельга так з лекамі, — сказала жанчына. — Калі ты іх не будзеш шанаваць — не дапамогуць. Пі!

Дзяўчына ўзяла келіх, але рукі дрыжэлі, і яна выпусціла яго. Параска плюнула і пачала выціраць падлогу анучай.

— Чаго тут баяцца? — злавала яна на дурное дзяўчо. — Думаеш нарадзіць крапіўніка? Дзіця ўсё жыццё пакутаваць будзе, бо ніхто яго за чалавека не палічыць.

Старая вымыла рукі і адцадзіла адвар, які застаўся на дне, у новы келіх.

— Добра, што не ўсё выліла. Калі б зноў прыйшлося варыць, то зёлак бы не хапіла. А ну, бяры і моцна трымай!

Улляна праглынула слёзы і выпіла адвар. Параска паглядзела на яе з жалем, узяла пусты келіх і загадала:

— Цяпер ідзі і кладзіся. Ноч паспіш, а пасля пабачым. Калі ў жываце забаліць, то не звяртай увагі і не ўставай з ложка. Горш будзе.

Улляна кіўнула, але не паспела зрабіць і некалькі крокаў, як адчула, што ногі не слухаюцца, а дзікі боль раздзірае цела. Яна войкнула і павалілася на падлогу. У непрытомнасці ляжала і чула, як над ёй нахілілася старая, а потым пабегла на стайню, каб знайсці каго, хто б мог аднесці дзяўчо ў пакой. Апошняе, што запомніла, была пяшчота нечых дужых рук, якія асцярожна падхапілі яе і паднялі ў паветра.

Раніцай, калі прачнулася, дзяўчына пачула два галасы. Параска з кімсьці гаварыла каля яе ложка.

— Магла забіць, — дакараў мужчынскі голас.

— Па-іншаму ж ніяк, хлопча. Бачыў, як у Ігумене ў лялькі гуляюць на плошчы каля касцёла? Там ёсць адна з саламянай каронай.

— Ну.

— Дык калі б дазналіся пра яе ганьбу, то вадзілі б па плошчы з такой каронай разам з грахом, каб іншыя не рабілі! Сядзі лепш тут, а я да панначкі пайду. Прачнецца — скажаш.

Дзеры зарыпелі і зачыніліся, а хлопец падышоў бліжэй. Ён дакрануўся да дзявочай шчакі і прамовіў:

— Расплюшчы вочы. Бачу, што не спіш: павекі міргацяць.

Улляна паслухалася.

— Чаму ты тут?

— Табе ўчора блага было.

— Усю ноч са мной быў?

Міхась кіўнуў і дадаў:

— Крычала ў сне.

У дзяўчыны шалёна закалацілася сэрца.

— Што гаварыла? Ну, чаго маўчыш?

Міхась бліснуў вачыма і сціснуў кулакі.

— Заб'ю яго! Сябе не пашкадую, але адпомшчу. Няхай толькі трапіць на вочы!

Улляна закрыла твар далонямі.

— Божа, — прашаптала яна і пачула, як хлопец падняўся ды выйшаў за дзверы.

* * *

Нетаропкім, мяккім поступам Катажына ішла па калідоры да свайго пакоя. Лёгкасць хады і няўлоўная жаноцкасць прысутнічалі ў кожным яе руху. Зачыніўшы дзверы, яна заплюшчыла вочы і стаяла некалькі хвілін, не кранаючыся з месца. З адчыненага акна веяла холадам. Панна здзівілася: перад яе адыходам яно было зачынена. Відаць, шалёны вецер змог падужаць рамы і цяпер гуляўся па пакоі. Ён раскідаў паперы, а тонкія свечы на далікатных падстаўках скаціліся ў вугал, фіранкі былі абарваныя і кідаліся ў бакі пад кожным павевам, сцябаючы сцены. На ложку ж ляжаў вялікі чорны сабака. Ён вінавата пазіраў на гаспадыню.

— Талан! — крыкнула на нечаканага госця. — Ты зараз жа пакінеш пакой!

Сабака завіляў хвастом, але не крануўся.

— Талан!

Яна сур'ёзна глядзела на яго, але хацелася чамусьці рассмяяцца: такія вочы былі ў гэтага бандыта. Яшчэ шчанём прывучала яго да парадку і паслухмянасці, але Марцін распесціў сабаку, які больш не слухаўся загадаў і выкідваў розныя дурыкі. Вось і цяпер, нягледзячы на шматлікія спробы адвучыць Талана ад звычкі забірацца на яе ложак, ён зноў прабраўся ды ўсцёгся на падушкі. Шляхцянка падышла да сабакі і, ухапіўшыся за ашыйнік, пацягнула на сябе, каб змусіць саскочыць на падлогу. Талан упарціўся, але скарыўся.

— Прэч адсюль! — крыкнула яна.

Талан хрыпеў, вінавата віляючы хвастом. На крык гаспадыні ў пакой убегла Глэся і вывела сабаку. Катажына падышла да расхінутага вакна, зачыніла яго і, трохі памарудзіўшы, прысела ў крэсла. Яна перавяла позірк на партрэт, які вісеў над столікам, адкуль на яе глядзела маці. Не маючы больш моцы трымаць у сабе пачуцці, дзяўчына закрыла твар далонямі і заплакала. Тонкія плечы ўздрыгвалі, а рудыя валасы, якія выбіліся з тоўстай касы, спадалі на іх і гарэлі полымем.

— Матулечка, я больш не стрываю, — прашаптала яна.

Неадольнае пачуццё наканаванасці, якую не ў стане была змяніць і аспрэчыць, здалося занадта жорсткім. Раптам стала шкада бацьку і не хацелася расставацца з Марцінам. Але і іншая думка заляцела ў галаву. Яна зноў стала каля люстэрка і выпнула жывоцік. Усмешка з'явілася на твары маладой шляхцянкі. На момант дзяўчына заплюшчыла вочы, але сумелася, засаромелася свайго выбрыку і закрыла

твар далонямі. У пакой прасунула галаву Глэся, каб сказаць, што бацька загадаў збірацца.

— Прынясі маю новую сукенку і пакліч служак, — загадала ёй гаспадыня.

— То ж хіба я не спраўлюся? — пакрыўдзілася тая, але не пасмела аслухацца.

Калі Катажына апранулася, то падышла да століка, адчыніла замкнёную на ключ шуфляду і выцягнула адтуль маленькі куфэрачак. У ім ляжалі старыя срэбныя завушніцы і ланцужок з кулонам, якія належылі яе маці.

— Дапамажы мне!

Служка кінулася да пані, асцярожна ўзяла ўпрыгожанні і вохкнула:

— Што за прыгажосць, паннaчка! А які ўзор выбіты! Гэта ж трэба: сплеценыя кветкі шыпшыны.

Катажына нічога не адказала, а паказала на дзверы:

— Скажы бацьку, што я сабралася.

На двары ў гэты час мітусілася чэлядзь, іржалі коні і чуўся сабачы брэх. Пан Юзаф аддаваў апошнія загады, хадзіў з важным выглядам і пакрыкваў на халопаў. Часам ён зрываўся на самых нетаропкіх і лупіў іх пугай, якую трымаў у левай руцэ. Нарэшце ўсе паселі ў фурманкі, і гаспадар загадаў ехаць. Катажына стрымала хваляванне ў сэрцы і заплюшчыла вочы, зрабіўшы выгляд, што задрамала. Так яна хацела пазбегнуць непатрэбнай размовы з мачахай, якая звычайна бесперапынна малаціла ў дарозе языком. З бацькам таксама не хацелася весці размовы, бо і так доўга гаварылі ўчора, таму так і сядзела, змружыўшы вочы і схіліўшы галаву на плячо Марціну.

Па прыездзе іх віталі залпамі, а на ганак выскачыў сам гаспадар. Паны расцалаваліся і пакрочылі да вялікай залы, дзе ўжо сабраліся госці. Яны доўга пра нешта гаманілі, нават часам узнімалі голас, але хутка сцішваліся і працягвалі гаворку спакойна. Катажына, якая адразу апынулася ў кампаніі дзяўчат, краем вока назірала за панамі. Ёй раптам стала зразумела, чаму іх фамілія была запрошаная сюды ў якасці ганаровых гасцей, а бацька так нерваваўся перад ад’ездам. Раптам ёй стала агідна, але ўсё ж схіліла галаву і стрымала слёзы.

Усіх запрасілі да стала, і Жывіцкі пачаў застолле, выпіўшы за здароўе ўсіх прысутных, пачынаючы з больш знатных і паважаных. Самым жаданым госцем гаспадар назваў пана Юзафа, што, канечне, прыйшлося даспадобы апошняму. Пасля падышла чарга астатніх. Менш вяльможных шляхціцаў ён проста назваў па чарзе, не падымаючы кожны раз келіх, а ўзняў і выпіў, калі сказаў пра ўсіх. Некаторых нават не памятаў па прозвішчы, таму адзначаў позіркам. За кожным госцем стаялі слугі якія падлівалі віно ў келіхі, часам не абмінаючы ўвагай і сябе. Жанчыны пакутвалі ад таго звычаю, бо не кожная кабета магла выпіць столькі, колькі лезла ў глоткі яснавяльможным. Жанчыны вылівалі віно ў талеркі або пад стол, што прыводзіла да казусаў, бо пры гэтым маглі пацярпець чые-небудзь порткі ці сукенка. Але зухаватыя слугі ў той жа момант зноўку напаўнялі келіхі для чарговага тосту.

Было відаць, што пан Жывіцкі стараўся, хацеў паказаць сваё багацце і тое, колькі грошай было заплочана за баль. Тры пакоі былі заняты гасцямі, стаялі сталы для гульні ў карты, а служкі сноўдалі туды-сюды і бесперапынна нешта падносілі. Свечкі асвятлялі ўсе куты, паўсюль былі развешаны карціны, ляжалі дываны і грымела музыка. Гаспадар задаволена пазіраў на гасцей, сачыў за іх тварамі, а пасля падняўся і абвясціў для ўсіх, што будзе піць за самага дарагога госця.

— Пан Юзаф, калі нам ужо радніцца, то ведай, мой даражэнькі, — ты і твая сям'я будзеце самымі чаканымі ў маёй сядзібе. Добраму госцю брамы самі адчыняюцца.

Нямцэвіч, расчулены, палез цалавацца да гаспадара, а прысутныя абмяняліся шматзначнымі позіркамі. Цяпер усім стала зразумела, хто з'яўляецца нарачонай Станіслава, бо да гэтага ўсё трымалі ў сакрэце, абяцаючы, што на балі кожны зможа задаволіць сваю цікавасць. Катажына адчула, як больш чым сотня вачэй утаропілася ў яе. Некаторыя свідравалі вачыма з зайздрасцю, іншыя проста з цікавасці. Не абышлося без злосных позіркаў закаханых паненак і сяброўак маладога шляхцюка, па якіх можна было зразумець іх расчараванне і крыўду. «Божа, дай мне моцы вытрымаць», — падумала яна і схіліла галаву. А будучыя родзічы тым часам увайшлі ў азарт.

—Усіх запрашаем на вяселле! — крычаў пан Юзаф.

— І яно будзе найпышнейшым! Ніхто не зраўняецца! — дадаў Жывіцкі.

Твары прысутных трохі скрывіліся, але ніхто не стаў пярэчыць. Зараўлі трубы, барабаны і пачулася нават страляніна. Госці падняліся і пачалі крычаць, праслаўляючы будучых маладых.

— Няхай будучы жаніх вып'е з чаравічка нявесты! — крыкнуў нейкі пан з сівой чупрынай.

Яго падтрымалі госці, і ўсе погляды звярнуліся да Станіслава. Ён надзьмуўся, але падняўся і падышоў да Катажыны. З непрыхаванай фанабэрлівасцю зняў чаравічак і паглядзеў на нарачоную. Яму падалі гарэлкі, і паніч з аднага маху выпіў. Па зале пранёсся адабральны рогат паноў і хіхіканне паненак. Катажына адвяла позірк, але Станіслаў схапіў яе за руку і вывеў на сярэдзіну залы. І тады абвясцілі танцы. Прыгожая музыка напоўніла пакоі, і госці пусціліся ў скокі. Маладыя паненкі аж свяціліся, стралялі вочкамі, а кавалеры так і слаліся лістом. Пасля быў менуэт, які ўваходзіў у моду, затым кадрыля, і змянілася гэта ўсё на «сваё» — казачка, «ходжанага» і «гоненага». Старыя ж выбралі карты. Катажына танчыла шмат, але цяпер не заўважала, з кім даводзілася быць у пары. Яе засмучала тое, што адбыўшы першы танец, Станіслаў зрабіў выгляд, нібы не бачыць яе, а пасля наогул некуды знік. Тым часам гаспадар падаў знак, і музыка спынілася. Пан Жывіцкі прапанаваў гасцям ісці на двор глядзець феерверк. Катажына памкнулася да выхаду, і ў гэты момант пачула размову двух служак.

— Гаспадар будзе задаволены: цвярозых сёння не будзе. Паны ўпіліся да свінячага роху. Як гавораць, п'юць, як у бочку льюць. Адзін ужо з лесвіцы скаціўся, а палова ляжыць, як нежывыя.

— Ага. Паны Маляўскі і Рогач морды набілі адзін аднаму. А я бутэльку змог схаваць. Пасля разап'ём, калі ўсё сцішыцца. Заўтра наш пан зноў іх будзе лячыць гарэлкай.

— А то! Зноў раніцай пачнецца баляванне.

— Ды пасля вяселле... Жонкі такіх будуць чакаць, а ім абы выпіць. Паніч заўчора вярнуўся з апошняга балю. Маці запытала, дзе быў, дык той адказаў, што ў касцёле.

— А яна?

— «Ці не ў тым касцёле, дзе чаркі звіняць?» І давай яго па спіне вучыць розуму!

Другі зарагатаў:

— Цяжка будзе панам! Ой, цяжка!

— Ну, глядзі, каб ад пітва пасля не пайшлі за вяселлем хаўтуры, бо не па-чалавечы ж нап'юцца.

— А ты што не так п’еш? Табе волю, дык і не...

— Цыц, — той спужаўся, — глядзі, паннfamначка нас слухае.

Яны сціхлі і схілілі галовы перад Катажынай, а дзяўчына пайшла далей.

Раптам яна заўважыла Станіслава, які памкнуўся да яе.

— Мы з вамі, шаноўная спадарыня, так і не паспелі пагаварыць, — зашаптаў ён.

— Яшчэ будзе час, шаноўны, альбо вы некуды спяшаецеся?

Станіслаў раптам папунсавеў і сціснуў кулакі.

— Я б хацеў спачатку ва ўсім разабрацца. Вы павінны ведаць, што спадарыню бачу ў першы раз, але пачуцці так і не... тым больш нашы бацькі так хочуць, і я вымушаны, — апошняе слова ён падкрэсліў, — вымушаны скарыцца, але душа, натура... Шаноўная пані разумее?

— Я заўважыла б, што гэтая партыя, дарагі спадар, не залежыць ад нас абаіх. Як было сказана, гэта вырашылі нашы бацькі, а мы з вамі вымушаны падпарадкоўвацца і паважаць іх намаганні ў імя агульнай славы роду і для гонару Айчыны. Я з такім жа пачуццём вымушана скарыцца перад наканаваннем і прашу ў Пана Бога толькі аднаго — цярпення, каб быць разам з вамі.

Твар Станіслава скрывіўся, і шляхціц не знайшоў нічога лепшага, як мыкнуць у адказ. «Ёлуп, — падумала Катажына, — я змагла даць табе словам аплявуху, а ты і не ведаеш, што сказаць. Ой, маўчы, дурань, разумнейшым будзеш». Яна ўсміхнулася і прамовіла на развітанне:

— Здаецца, пана кліча да сябе бацька. То расстанемся ненадоўга, бывайце, яснавяльможны.

***Працяг будзе***

Андрэй ГУЦАЎ

# РЭМАРКІ ШЭКСПІРА



*Андрэй Гуцаў нарадзіўся ў 1967 годзе ў вёсцы Галавінцы Гомельскага раёна. Вучыўся на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта, затым — у Латвійскім універсітэце. Аўтар зборнікаў паэзіі «Адчужэнне», «Шалёная ноч».*

**Калі традыцыі заходнееўрапейскай паэзіі XX стагоддзя далучаюцца да светабачання сучаснага беларускага інтэлектуала і кнігалюба, атрымліваецца ўнікальная эстэтыка. Андрэй Гуцаў ніколі не імкнуўся стаць папулярным аўтарам. Здаецца, адзіная і заўсёдная яго мэта — застацца самім сабой. Глыбокая філасафічнасць, якой прасякнута вершаваная нізка, спадзяёмся, стане адкрыццём для ўважлівага чытача. У жыцці кожнага чалавека бываюць моманты, калі хочацца, узяўшы ў рукі любімую кнігу, застацца з ёй сам-насам. Каб адчуць, што акрамя штодзённых клопатаў ёсць яшчэ і духоўныя, што ўсе каштоўнасці раней ці пазней знікаюць, акрамя адной — звычайнай душэўнасці, простай спагады, шчырай сардэчнасці. Усё гэта можна знайсці ў вершах Андрэя Гуцава.**

*Віка ТРЭНАС*

* * *

мяняючы колер
скідаючы сон
не праўда не зло не дарога
мільёны анёлаў мільярды імён
і Кніга
раскрытая Богам
я ведаю ўсё
але веды ва ўрон
і жыць
не гаворачы строга
мяняючы колер
скідаючы сон
не праўдай не злом не дарогай

### РЭМАРКІ ШЭКСПІРА

Замоўч, Кароль!
Бо я
Скажу, чаго не сцерпіш:
Паўцарства за каня —
Не паўжыцця за вершы!
Праз неба незапісанага твора
Зірні хоць раз у кліканую смерць...

Замоўч, Кароль!
Анёлаў рогат морыць.
Такі, што і каню больш не сцярпець!

### АТРАКЦЫЁН МАРАЛЬ

Тады, калі ўжо больш няма чаго губляць,
тады, калі няма ўжо пра што марыць,
прыходзім мы: адзіныя.

Нас цэлы народ.
Мы існуем не ў прасторы, а ў часе.

У заёрзаныя (і не вельмі) крэслы
карусэлі шалёнай
зямлі вакол Сонца мы ўскокваем
на поўным хаду.
Мы ловім Радасць!

О, так! Мы — народ.
Мы заўсёды сучаснікі і не маем права
самавызначэння.

Прыходзяць сябры і пытаюць:
«За каго паміраеш?»
Падступае вораг і просіць:
«Скажы, як памерці?»
Прыходзіць каханая — кажа:
«Навошта твой скон?»

Са сваіх магчымых меркаванняў
між няведання
я гадую ў сабе Цывілізацыю Адзіноты
і, быццам Бог, прадбачу:
яе зваюючь барбары Любові,
іх — пастухі Нянавісці,
пасля — сумесна ўзводзяць
і асвойтваюць Сусвет
Дабра і Зла...

Але тады, калі ўжо больш
няма чаго губляць,
тады, калі няма ўжо пра што марыць,
мы — адна і тая ж смерць.
Мы, адзіныя.

## З АБУДЖЭННЯЎ УМАРА ХАЯМА

Дабрыдзень, Ваша Рэвалюцыя!
Зямлі і Неба Каламуць!
Паранармальная Канструкцыя!
Сто грам!.. «Агдам»!..
Ці як Вас там
яшчэ завуць?

Касмічны Змей
з Сусвету просіцца!
Чаруе чары Грам-У-Грам!
Гарачку порачы без просыпу,
Вярзуць прарокі лжэ імам!

Мужык сякеркаю гуляецца!
Бяруцца ў рожкі Слон і Вош!
І хай без правілаў змагаюцца...
ІХ ПОДЗВІГ ЖЫЦЬМЕ!!!

Ну і што ж,

Дабрыдзень, Ваша Рэвалюцыя!
Зямлі і Небу ў Горле Косць!
Да справы — Лепшая Інструкцыя!
Дабрыдзень, Ваша, Ваша Мосць!

* * *

Свеціць неба шчымлівасцю верасня,
у адхланне вады
ападаюць лісты,
час разбіты, час файны і цэласны, —
я баюся адчуць сябе.

Дэкламуе зямля спеласць коласа,
і не толькі адзін,
хто сівее — палын,
а над дахам анёл — зыркім полазам, —
я баюся адчуць сябе.

Правяць кветкі праз сон колер сутнасці, —
сорак кропель дажджу
выклікае вяшчун, свет размыты, свет
ясны за мутнасцю, —
я баюся адчуць сябе.

І мажлівая ноч — не суперніца!
І прыўзнята далонь,
і шугае агонь!
І крычаць, што вясна больш не вернецца...
Я баюся адчуць Сябе!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пахне неба шчымлівасцю верасня,
у засвецце вады
прападаюць лісты,
лёс разбіты, лёс файны і цэласны, —
я баюся адчуць цябе.

*Юры НЕСЦЯРЭНКА*

# САГА ПРА ШКОЛУ МУЗЫКІ

*Юры Несцярэнка нарадзіўся ў 1965 годзе ў вёсцы Прыбар Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў Мінскі інстытут культуры. Музыкант, лідэр гурта «White Night Blues».*



**Падаецца, эпіграфам да сваіх апавяданняў Юры Несцярэнка дае зразумець, што не варта падзяляць іпастасі празаіка і музыкі. Прынамсі, яго творы — гэта той выпадак, калі няма падстаў сумнявацца ў праўдзівасці напісанага і за тэкстам выяўна бачыцца асоба аўтара.**

**Апавяданні Юрыя Несцярэнкі — гэта не традыцыйная, лінейная проза, да якой збольшага прывык чытач. Іх вылучае сінтэз эсэістыкі і аўтабіяграфіі, мастацкі густ, пачуццё меры і ў рэшце рэшт чалавекалюбства. Бо каб выбіраць выратавальную іронію там, дзе мог бы быць злосны сарказм, насамрэч трэба любіць людзей і жыццё.**

**Далібог, у гэтым ёсць простая і вельмі сімпатычная мудрасць — пераступіць праз жыццёвыя нягоды і граць блюз. Сапраўдны прыдняпроўскі (карыстаючыся вызначэннем з апавядання «Telecaster»)? Постсавецкі (зважаючы на антураж)? Зрэшты, можна адкінуць дэфініцыі. Ключавое слова тут — сапраўдны. Бо зайграна-та добра.**

*Алена КАРП*

***Я ні ў якім выпадку не паэт***
***і ні ў якім выпадку не музыкант.***
***Дзесяць стагоддзяў таму***
***гэта не падзялялася, і я не бачу нагоды,***
***каб падзяляць гэта сёння...***
Б. Г.

Школа, дзе выкладаюць, адпаведна і вывучаюць, музыку, магчыма, з'яўляецца адным з цікавейшых вынаходстваў чалавечага грамадства ў перадачы пэўнага досведу. На пытанне «якога менавіта?» звычайна адказваюць «культурнага». Але ж нам да сённяшняга часу так і невядомы сапраўдныя таямніцы мелодыі, гармоніі і рытму. Як і на каго яны ўплываюць, хто і ў якой меры адчувае гэты ўплыў, а хто толькі памыляецца, думаючы, што адчувае? І самае галоўнае — якая інфармацыя перадаецца, адкуль і куды? З'яўляемся мы першапачатковымі стваральнікамі і адзінымі ды апошнімі спажыўцамі вынікаў гульні з рэзанансам гукавых хваляў ці толькі медыумамі, што аднекуль атрымліваюць і перадаюць далей нешта такое, што закранае нас адно што на падсвядомым узроўні? Ці мелі старажытныя музыкі свае школы? Ці іхні сакральны досвед складаўся дзякуючы бесперапыннаму руху, бясконцай дарозе, таму і звалі іх вандроўнымі? І што клікала іх у тую дарогу — прага дзіўных прыгод ды неверагодных спатканняў ці неадольнае жаданне адкрыцця, звязанае з іншымі краямі ды невядомымі культурамі?

...Саксафаніст Матт Густафсан заплюшчыў вочы, паднёс інструмент да вуснаў і знерухомеў, нібыта шукаючы патрэбную хвалю, на якой павінна

пачацца музыка. У свеце пражэктараў яго адзінокая постаць на аграмаднай сцэне выглядала загадкава і прымушала чакаць чагосьці цікавага, нязвыклага, неверагоднага. Перапоўненая зала сталічнай філармоніі ўважліва чакала. Зорка скандынаўскага фры-джаза раптам напружыўся, згорбіўся, прысеў і, рэзка распрамляючыся, выдаў першы гук. Гэта не была музычная нота. Гэта быў сіп, што пераходзіў у віск. Потым сіпатыя гукі пасыпаліся бязглуздымі, неўпарадкаванымі плынямі. Яны лупілі па свядомасці, і здавалася, што галоўнай мэтай вядомага саксафаніста і яго інструмента было выдаваць любыя гукі, акрамя тых, што за доўгую гісторыю станаўлення сучаснай культуры стала прынята называць музычнымі. Ён хацеў здзівіць, хацеў паказаць нешта такое, чаго не паказваў ніхто, акрамя яго, хацеў шакіраваць, збіць са звычайнай хвалі ўспрымання музыкі. Увесь час хацелася спытацца — чаго яму не хапала ў дзяцінстве, што ён страціў ці не паспеў набыць?..

Верагодна, у малодшым школьным узросце, медыум з мяне атрымліваўся не дужа добры, таму што правучыўшыся недзе з год у музычнай школе, я быў адлічаны як «неперспектыўны». З гэтага перыяду выдатна запомніліся ўступныя экзамены, аўтарытэтная камісія чалавек з васьмі за сталом з традыцыйным графінам, а таксама стан той камісіі, блізкі да сапраўднай медытацыі. Жадаючых авалодаць музычнай практыкай ды тэорыяй, карацей кажучы, палепшыць майстэрства медыумаў, набілася ў маленькі калідорчык музычнай школы столькі, што было вельмі складана праціснуцца да дзвярэй прыёмнай камісіі. Хаця, здаецца, «ціснуцца» трэба было больш праз бацькоў патэнцыяльных медыумаў. Будучы гонар музычнага мастацтва, гэта значыць мы, самыя маленькія ўдзельнікі ўрачыстай акцыі, па чарзе падыходзім да камісіі і барабанім па стале, адбіваючы нескладаныя рытмы.

Атмасфера мерапрыемства чамусьці засталася ў памяці нейкай напружанай і нервовай. Амаль што ўсе дзеці ўпершыню сутыкнуліся з такім «выпрабаваннем», таму некаторыя, не разумеючы, чаго ад іх хочуць, перадавалі не зусім рытм, а недзе і дынаміку. Цяпер я стаўлюся да гэтага менш за ўсё з іроніяй — дзеці на такіх «экзаменах» не выступкалі патрэбны рытм зусім не таму, што не чулі яго, а магчыма таму, што, напрыклад, адчувалі сябе няёмка ці не жадалі нешта паказваць перад тым, хто ім не спадабаўся. Шмат з тых, хто ў свой час атрымаў адзнаку «незадавальняюча», на самай справе маглі валодаць і выдатным слыхам, і цудоўным пачуццём рытму. Памятаю, што майму школьнаму сябру на прыёме ў музычную школу не пашанцавала. Ён не прайшоў выпрабаванне рытмам, засяродзіўшыся на тым, чым менавіта гэты рытм адбівалі. У будучым ён скончыў тэхнічную ВНУ і стаў неблагім інжынерам.

...Барадатыя, з пасечанымі тварамі, аграмадныя мужчыны з мячамі, баявымі сякерамі, вострымі коп'ямі ў руках абкружылі зусім яшчэ юнага хлопца, які з жахам прыціскаў да грудзей дзве дудкі. Адну маленькую, крыху большую за даўжыню далоні, другую вялікую, амаль на два ўласныя локці. Уперад выйшаў сапраўдны волат, на галаве якога спраўна сядзеў шалом з бычынымі рогамі.

— Я ведаю яго. Гэта сын Густафа з Берага Арлінага Возера. Ён лічыцца скальдам, але кажуць, што галава яго крыху не ў парадку. Вельмі дзіўна грае на сваіх дудках...

Другі вялізны вікінг з капой рудых валасоў і рудой барадой наблізіўся да хлопца і павольна вымавіў: «Ну, калі ты скальд, пакажы, як ты на сваіх дудках распавядзеш пра нашу сустрэчу...» Хлопчык стаяў, апусціўшы ўніз галаву. Ён цяжка дыхаў — ці то ад страху, ці то ад хвалявання. Адчувалася, што ён вельмі напружаны, але ніякіх рухаў рабіць не спяшаўся. Руды вікінг павысіў голас: «Ну, ты будзеш нам іграць ці

не?!» Хлопчык раптам адскочыў убок. Шырока расставіў ногі, заплюшчыў вочы і нерухома стаяў некалькі імгненняў. Потым паднёс маленькую дудку да вуснаў і зноў стаяў, нібыта чакаючы патрэбнага моманту, каб зайграць. Ён згорбіўся, уцягнуў галаву ў плечы, і чакаў, чакаў, гіпнатызуючы сваім чаканнем і ўсіх астатніх. Як не сачылі за ім ваяры-вікінгі, але ж першы гук змусіў іх літаральна адхіснуцца, калі хлопец нечакана моцна і пранізліва віскнуў з дапамогай свайго інструмента. Ад напругі юны музыка пачырванеў. Ён зрабіў паўзу, набраў поўныя лёгкія паветра і зноў выдаў рэзкі, вельмі моцны і высокі гук. Ён працягваў выдзьмуваць гэтыя трывожныя, зусім немеладычныя гукі, падаў на калені, усхопліваўся, куляўся цераз галаву. Ён увайшоў у нейкі незразумелы экстаз і дудзеў хвіліну, дудзеў другую, дудзеў трэцюю, чацвёртую, пятую... Руды вікінг таксама пачырванеў і напружыўся, нават неяк ненатуральна надзьмуўся, нібыта і яму вельмі цяжка даваліся гэтыя крыклівыя, трывожныя, занадта нервовыя гукі...

Мне здавалася, што першы настаўнік па спецыяльнасці мяне адразу не ўпадабаў. Можа быць таму, што з-за баяна мяне было дрэнна відаць? Ці за тое, што я не мог навучыцца на ім іграць? А гэты вялізны чалавек любіў канкрэтыку. «Цягні мацней!» — крычаў ён, патыхаючы перагарам, і ператвараўся на маіх вачах у сапраўднага Змея Гарыныча з казак, выпуск якіх наладзіла савецкае выдавецтва «Дзіцячая літаратура». Я ж, як ні намагаўся, усё не мог ператварыцца ў Іллю Мурамца з тых жа казак, каб спрачацца са Змеем Гарынычам. Таму з усёй моцы цягнуў мех і выдаваў гукі больш падобныя на нягучнае ржанне каня вядомага багатыра. Чым, напэўна, вельмі раздражняў Гарыныча (насамрэч настаўніка звалі Леанід Восіпавіч, і ўсё насельніцтва мястэчка ведала яго па мянушцы Уцёсаў).

Леанід Восіпавіч, расхваляваўшыся, што я не дужа добра імітую голас багатырскага каня, выходзіў у суседні кабінет, дзе яго калега выкладаў акардэон. За перагародкай з фанеры, што замяняла сцяну, яны нядоўга абмяркоўвалі некаторыя вытворчыя пытанні, прычым, амаль заўсёды быў чутны ціхенькі звон бутэлечкі аб шкляначку. Ведаеце тост за мілагучнасць беларускай мовы? «Ці лілі, ці не лілі? Ці лілі, ці не лілі?» Чамусьці ўсё, што адбывалася ў той час з маім настаўнікам, цяпер асацыіруецца ў мяне з гэтым выдатным беларускім музычным тостам. Калі настаўнік вяртаўся, то дыхаць было ўжо ўвогуле немагчыма, таму што з рота ў яго вылятаў бадай сапраўдны агонь, які, здавалася, выпальваў увесь кісларод вакол Леаніда Гарыныча і яго ахвяры.

...Вялізны чалавек з рудой барадой і ўскудлачанай шавялюрай таго ж колеру спрытна насіўся па паляне. Ён раз'юшана крычаў: «Шчанюк! Я цябе навучу, як паважаць старэйшых! Ты хацеў мяне абразіць! Клянуся Одзінам, у цябе гэта не атрымаецца!..» Але той, каго ён так прагнуў дагнаць, быў маладзейшы, спрытнейшы і нашмат больш лёгкі. Да таго ж маладому хлопцу, які прыціскаў да грудзей свае дудкі, дадаваў моцы страх апынуцца ў руках раз'юшанага варвара. Іншыя вікінгі са смехам назіралі за гэтай пагоняй і толькі выгуквалі: «Ды пакінь ты яго, Дацкая Галава! Мы ж табе казалі, што гэта сын Густафа, вельмі дзіўны скальд! Ты ж сам і напрасіўся на яго музыку!..»

Апісваючы ў такіх фарбах свайго першага настаўніка музыкі, я карыстаюся цяпер дзіцячымі ўражаннямі. Нікуды не падзець пэўны перыяд «вогнепаклонства» майго выкладчыка, але ўвогуле гэты чалавек быў нядрэнным спецыялістам, зусім не апошнім у нашай музычнай школе. Які, да таго ж, у свой час, у сярэдзіне 60-х гадоў, гэтую школу (разам з калегам па суседнім кабінеце) ўласнаручна пабуда-

ваў. Пазней мяне яшчэ вельмі ўразіў той факт, што ў сваёй працоўнай кніжцы Леанід Восіпавіч меў толькі адзін запіс: ён быў прыняты на працу па заканчэнні музычнага вучылішча, а праз сорак з нечым гадоў звольнены ў сувязі з выхадам на пенсію. Для мяне, з маімі дзясяткамі працоўных запісаў з розных гарадоў і самых разнастайных арганізацый, гэта быў узорна-паказальны выпадак.

Вяртаючыся да адноснай храналогіі, калі праз гадоў пятнаццаць пасля сумнага досведу навучання музыцы, я ўладкаваўся на працу ў тую ж школу выкладаць гітару, мы сябравалі з Леанідам Восіпавічам, і я часта заходзіў да яго ў кабінет. На яго пытанне: «Як жа такое здарылася?», я заўсёды адказваў: «Не турбуйцеся, Леанід Восіпавіч, гэта не той выпадак, калі здарылася нешта жудаснае...»

...Матт Густафсан утрымліваў увагу залы больш за гадзіну. Так, былі тыя, што сыходзілі — дзясятка два чалавек не здолелі праслухаць да канца вельмі спецыфічную праграму зоркі сусветнага фры-джаза. Напрыклад, бабуля, якая прывяла на сапраўдны джазавы канцэрт ўнука-саксафаніста гадоў дзесяці, рабога, патрапіла ў крыху няёмкае становішча. Калі зала заціхла ў чаканні першага твора, малы таксама чакаў свайго адкрыцця. Але калі спадар Густафсан выдаў першыя гукі і заціх, набіраючыся моцы, каб зайграць далей, хлопчык шчыра, на ўсю залу сказаў: «Бабуля, дык ён жа іграць не ўмее...» Бабулю такое адкрыццё не надта ўражвала, яна ўпарта спрабавала разабрацца з гэтым пытаннем яшчэ хвілін пятнаццацьдваццаць. Але яе нервовая сістэма больш вытрымаць не змагла — яны з унукам пакінулі залу.

У хлопчыка, які стараўся не адставаць ад бабулі, увесь час было нейкае дзіўнае адчуванне. Ён даганяў яе і спрабаваў зазірнуць у вочы. Але бабуля (якая, дарэчы, была высокай прыгожай рудавалосай жанчынай скандынаўскага тыпу — яе продкі паходзілі аднекуль з Даніі) упэўнена крочыла да аўтамабільнай стаянкі і, здавалася, не звяртала на ўнука ўвагі. А хлопчыку так карцела пагаварыць з ёй пра дзіўнага саксафаніста. Але ён ніяк не мог сфармуляваць свае думкі пра тое, што даўным даўно, значна раней, чым ён з'явіўся на гэты свет, ужо нешта падобнае аднойчы было...

## TELECASTER

Праз дваццаць год пасля апошняй вайны ў вёсцы Прыбар яшчэ не было электрычнасці. Тагачаснае кіраўніцтва вызначыла агульны тэрмін «неперспектыўны» ў адносінах да невялікіх паселішчаў. Прыбар апынуўся ў гэтай невясёлай катэгорыі. Вось стаяла сабе вёска на беразе Дняпра ў поўнай гармоніі з навакольным асяроддзем ды ў адпаведнасці з набытым за папярэднія стагоддзі досведам выжывання.

Бацьку пасля заканчэння лесагаспадарчага факультэта, накіравалі ў прыбарскае лясніцтва. Яго маладая жонка, мая маці, да таго, як нарадзіла мяне, уладкавалася на працу ў вясковую краму. Тэрмін пасляродавага адпачынку быў усяго два месяцы. Далей можна было не працаваць, але і дапамогі ніякай не прадугледжвалася. Маці зноў пачала гандляваць у краме, пасля закрыцця якой увечары кожнага дня працягвала нешта прадаваць проста з хаты, куды забірала тавар з працы. Хата стаяла недалёка ад крамы. Тавар быў вядома які — хлеб ды гарэлка.

Напэўна, ужо на трэцім месяцы жыцця я дакладна спазнаў, што такое сапраўдны прыдняпроўскі блюз. Адна са звычайных карцінак таго часу: да мамы ў краму заходзіць вусаты, барадаты дзед. «Галя! Іду міма вашай хаты, чую малеча моцна крычыць! Я зайшоў у пакой, пагайдаў, паразмаўляў з ім... Але ўсё роўна крычыць!..»

Мама вешала на дзверы крамы аркушык з настальгічным для кожнага савецкага чалавека надпісам: «Буду праз 15 хвілін» і бегла мяне карміць.

Адзіны чорна-белы фотаздымак тысяча дзевяцьсот шэсцьдзесят пятага года захаваў такі момант: на драўляным ганку вясковай хаты мама трымае мяне на руках. Яна ў прыгожай сукенцы. Лёгкая хустачка, завязаная ззаду. Мы мружымся ад сонца. Магчыма нядаўна прайшоў дождж, таму што босыя маміны ногі брудныя па шчыкалатку. Праз дваццаць гадоў пасля апошняй вайны ў вёсцы Прыбар не было яшчэ і дарог...

Бацька быў першым чалавекам у вёсцы, хто набыў тэлевізар. Калі праблема бездарожжа сяк-так вырашылася, і тэлевізар усё ж патрапіў дадому, то без электрычнасці абысціся было немагчыма. Адзіным выйсцем стаў перасоўны электрарухавік, які тата заводзіў як мага далей ад хаты, каб ён не заглушаў гук тэлеэфіра. За першыя дні тэлесеансаў у бацькоўскай хаце перабывала ўся вёска. Невядома, наколькі тата тады ўсведамляў, што стаў своеасаблівым распаўсюджвальнікам тэлехваль у сваім рэгіёне. Хутчэй за ўсё не звяртаў увагі. У тыя часы, дарэчы, гэта была вельмі папулярная тэма, сапраўдная мода ў галіне найноўшых тэхналогій — магчымасць перадачы інфармацыі з дапамогай тэле- і радыёхваль вакол зямнога шара, у стратасферы, у космасе. Ідэя захоплівала думкі звычайных людзей, будаўнікоў вялікай сацыялістычнай будучыні краіны Саветаў.

Хаця, шчыра кажучы, мода гэтая датычылася і ўсяго астатняга свету, і гадоў за дзесяць да вышэй згаданых падзей амерыканец Ліо Фэндэр зарэгістраваў назву аднаго са сваіх вынаходніцтваў: электрагітары з цэльным корпусам «Fender Telecaster». Крыху раней ён спрабаваў зарэгістраваць для гэтага інструмента брэнд «Broadcaster» (што азначае «той, хто распаўсюджвае радыёхвалі»), але вядомая фірма па вытворчасці барабанаў ужо запатэнтавала такую назву і адсудзіла сваё права яе выкарыстоўваць. Таму, з нарастаючай папулярнасцю тэлебачання, наступным крокам у распрацоўцы брэнда Ліо Фэндэр вырашыў выкарыстаць назву новай ступені інфармацыйных тэхналогій — «Telecaster». Што адпавядае словаспалучэнню «той, хто распаўсюджвае тэлехвалі». Пазней гэты вядомы канструктар электрагітар прыдумаў назву «Stratocaster» для сваёй наступнай распрацоўкі...

Як дзіўна ўсё пераплятаецца ў гэтым свеце — значна пазней я адыграў шмат блюзавых канцэртаў менавіта на «стратах». А бацька ўжо ў сталым узросце ўспамінаў, што далучыўся да сапраўднай таямніцы перадачы і прыёму тэлехваль на вялікія адлегласці, калі наладзіў сваеасаблівы фізіка-бія-тэхнічны ланцужок: крыніца энергіі — прымач тэлехваль — аператар, кіраўнік працэсу. Лічы, сапраўдны «тэлекасцер».

*Анатоль БРУСЕВІЧ*

# ЗА ДЗВЯРЫМА



*Анатоль Брусевіч нарадзіўся ў 1977 г. у Гродне. Скончыў філалагічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Паэт, перакладчык, даследчык польска-беларускіх літаратурных сувязей. Аўтар зборнікаў паэзіі — «Дуэль» і «Падаю ў неба».*

**Анатоль Брусевіч — цікавы і, відавочна, апошні прадстаўнік той кагорты гарадзенскіх творцаў, што яскрава заявілі пра сябе на пачатку дзевяностых. Што эксперыментавалі ў паэзіі, ладзілі творчыя суполкі, але заўсёды аберагалі сваю асабістую прастору, шанавалі мастакоўскую волю, таму, зрэшты, і засталіся на адзіноце ў найноўшым айчынным літаратурным працэсе.**

**У аснове паэзіі Анатоля Брусевіча, па вызначэнні літаратуразнаўцы Ігара Васільевіча Жука, — дуэль двюх эстэтык. Класічнай беларускай літаратуры нашаніўскай пары з яе пакланеннем красе, светласці, апалагетам якой быў Максім Багдановіч, і дэкадансу, што выразна заяўлена яшчэ ў першай кнізе паэта «Дуэль».**

**Анатоль Брусевіч — гарадзенскі паэт. Маецца на ўвазе не месца нараджэння ці сталага жыхарства. Гэта іншае. Такіх адзінкі. Нават калі яны раптам з'язджаюць, усё роўна застаюцца гарадзенскімі паэтамі.**

*Ала ПЕТРУШКЕВІЧ*

* * *

Мяне мой шлях заблытаны прывёў
У сумны край, дзе мне наканавана
Зламаць свой лёс аб крылы ветракоў
І адляцець у змрочную нірвану.

І там, на дне пачуццяў і высноў,
Пакуль паходня веры не пагасне,
Я буду не вадою, а віном
Паіць свайго траянскага пегаса.

* * *

Свет не варты, каб я разбіўся
Аб жалеза-бетонны быт.
Мне абрыдла сухое лісце
На шляху, што тым больш абрыд.

Я іду па халодных сходах,
Што вядуць у краіну сну.
Сярод ценяў чужых мелодый
Я ніяк не знайду сваю.

Мой знявечаны, шэры голас
Быў у момант забіты той,
Калі слава блюзнеркай голай
Пацягнулася ўслед за мной.

Мёртвы вецер на чорных крылах
Мне прыносіць ахвярны дым.
За душою паўзе магіла,
Праглынаючы ўсе сляды.

* * *

Пакінуўшы пустэчу весялосці,
Самота адышла з маёй душы.

Я бачыў яе згорбленую постаць,
Захутаную ў шэрыя дажджы.

Нібыта маці, скрыўджаная сынам,
Скаваная маўчаннем і тугой,
Яна маю самотную краіну
Зрабіла зноў вясёлай і пустой.

* * *

П'ю малітву, нібы віно,
Да мяжы, за якой ад Бога
Застаецца адзін вянок
І бурштынавы смак зямнога.

П'ю малітву, і горкі пах
Разліваецца па-над светам.
Усміхаецца моўчкі Вакх
Мне з-за хмараў усмешкай светлай.

* * *

Бадзяюся ў шэрым сусвеце,
Шукаючы нейкае выйсце…
Скажы, калі ведаеш, вецер,
Што ёсць абсалютная ісціна?

Ты кажаш, што ісціна побач —
За першым вуглом далягляду.
Прабач, але ў поглядзе Бога
Я бачу насмешку Пілата.

* * *

Я — рака,
Правы прыток Стыксу.
Ты — рака,
Левы прыток Леты.
Наракаць —
Значыць не знаць сэнсу:
У радках —
толькі абрыс мэты.
Мы плывём.
Кожны ў сваё мора.
Мы ляцім.
Кожны ў сваё пекла.
Чалавек —
Гэта адбітак хворы
уяўлення Бога
Пра чалавека.

**ЗА ДЗВЯРЫМА**

Адчынены дзверы. За імі,
Нібыта акцёры на сцэне,
Хістаюцца сінія цені
У страшнай і злой пантаміме.

Зачынены дзверы. Ды толькі
Праз вока замочнай шчыліны
Мелодыя злой пантамімы
Варушыцца ржавай іголкай.

* * *

Жыву на жоўтай мяжы
Жывых і мёртвых пытанняў.
Божа, дапамажы
Дажыць да твайго світання,

Убачыць, як на крыжах
Спачнуць і зноў уваскрэснуць
Светлы і цёмны жах
І нехта яшчэ трэці.

І можна будзе тады
На жоўтай мяжы стагоддзяў
Збіраць па кроплі гады,
Каб смагу ў смерці спатоліць.

* * *

Я — хлеб, расцярушаны
ў тысячы крошак,
Таму мною можна карміць толькі птушак.

Рассыпце мяне па восеньскіх скверах,
Па вулках радзімы — мокрых і шэрых.

Няхай пакаштуюць белага хлеба
Жыхары невясёлай паловы неба.

## 12 ВЕРАСНЯ

*Бацьку*

Сёння, халодным ранкам,
Звыклым восеньскім ранкам,
Дзеці бягуць у школу,
Людзі ідуць на працу,
Сонца крочыць на захад.
Сёння, днём вераснёўскім,
Дзеці прыйдуць са школы,
Прывалакуцца людзі
З цяжкай штодзённай працы,
Сонца ў небе застыне
Глуханямым маўчаннем.
Сёння, вечарам сінім,
Вечарам самым звыклым,
Людзі з дзецьмі збяруцца
Ў цесных і брудных кухнях,
Каля патэльняў з бульбай,
Каб праглынуць са скваркай
Сонцы смажаных яек.
Заўтра, халодным ранкам
Зноў іх чакае школа,
Праца і позірк неба…
Неба ўсіх нас чакае.

## ДАРОГА

У пошуках злых парадоксаў
Знаходжу чужыя сляды,
Якія кіруюцца ў восень,
Ці можа, як я, — ў нікуды.

Іду і выходжу на бераг
Забытага рэхам ракі.
З вады пасміхаецца шэрасць,
Ашчэрыўшы вершаў радкі.

У кроплі самотнага неба
Люструецца ўсё і нішто
І моўчкі штандарам ганебным
Спадае на позірк-флагшток.

У пошуках злых парадоксаў
Губляецца ўласны мой след.
«Глядзіце, ішоў нехта босы!» —
Усклікне чарговы паэт.

* * *

Вандрую па белай рацэ
Насустрач пашарпаным содням,
Трымаючы ў левай руцэ
Вясло, а у правай — паходню.

Нясуць мяне хвалі ракі
Туды, дзе канцы і пачаткі,
Бы змеі, сплятуцца ў клубкі,
А памяць паставіць пячатку.

Мяне там сустрэнуць сябры —
Нявольнікі ўласных ілюзій.
Іх вёслы зламаны аб быт,
А Зніч аплявалі ім людзі.

Аддам агонь і вясло,
А сам захлынуся ў чаканні,
Што вершы дапіша пясок,
Які пад маімі нагамі.

Андрэй ЖВАЛЕЎСКІ,
Яўгенія ПАСТАРНАК

# ГІМНАЗІЯ № 13*

*Раман-казка*

ЧАСТКА 1

## КЛЮЧ З ЧАТЫРОХ ЧАСТАК

Глава 11

### КЛЮЧ. ЗЯМЛЯ

* * *

...Сеўкіна група нічога толкам не змагла, хоць яны і спрабавалі прабіцца наверх адразу каля ўваходу ў падземны калідор. Мішка тыкаў у зямлю сваёй любімай трубкаю — і кожны раз упіраўся ў што-небудзь неадольнае. Пакуль ён займаўся разведкай, астатнія толькі і рабілі, што падбіралі розныя штуковіны, — Лёля сачыла, каб гэта было штосьці максімальна бяскрыўднае, — і капалі на іх адварам з бутлі.

Хутка высветлілася, што гэтыя штучкі можна падзяліць на дзве групы — зусім нядаўнія, што засталіся з апошняй вайны, і старадаўнія, часоў бітвы на Нямізе. Кладавік зноўку ажывіўся і з усіх сіл тлумачыў «жывыя карцінкі». І дарэчы, аказалася, што ён меў рацыю — не шмат чаго за гэтыя стагоддзі змянілася.

— Вось, глядзі, — казаў ён, — гэта дзядулька лыка вяжа...

На карцінцы з'явіўся сівы дзед, які плёў лапаць.

— Звычайна лыка не вяжуць, — сказаў Мішка.

— Ну, калі не вяжа, — хіхікнуў Кладавік, — значыцца, ужо і дыхаць не можа.

— А навошта гэтак шмат? — здзівілася Лёля, таму што на карцінцы побач са старым з'явілася цэлая гара лапцяў.

— Дык сакавік жа месяц! — выгукнуў Кладавік. — Пары лапцяў дні на тры, можа, хопіць... А калі ісці далёка, дык і на меней.

— Вой, які крыжык прыгожанькі! — усклікнула Люба, выцягваючы чарговую штучку з-пад каменя.

Кропля адвару, і ў падзямеллі з'явілася немаўля. Хлопчык быў маленькі, зморшчаны і крычаў так, што калі быў бы гук, дык усе дакладна аглухлі б.

— Вох, гэта ж наш асілак! — у замілаванні прамовіў Кладавік. — Хвядося вось-вось нарадзіць павінна была, а калі ўсё закруцілася, вось і разрадзілася тут. Цімафеем назвалі.

На карцінцы Цімафея загортвалі ў вышываныя пялюшкі.

— Ай, прыгажосць якая! — сказала Лёля.

---

* Працяг. Пачатак у № 1, 2, 3, 4, 5 г. г.

— А то ж! — Кладавік умомант прыняў самавіты выгляд. — Ты на кашулі паглядзі! Вышывалі дзяўчаткі, вох якія цуды вышывалі! І ўсё не проста так, сэнс ва ўсім быў, кожны звярок на сваім месцы, кожная кветачка — абярэг.

На маленькага Цімафея ў гэты час накінулі знойдзены крыжык.

— Нешта я не ўцямлю, — сказала Люба, — гэта яго хрысцяць так? А дзе бацюшка?

— Ды ты разумееш, бацюшкі тады яшчэ не ўсюды былі, — сказаў Кладавік. — Глядзі: крыжык як быццам і хрысціянскі, а ўвесь у звярках і кветачках. Зараз я вам пакажу...

Кладавік палез кудысьці ў куток, доўга там корпаўся, нічога не знайшоў.

— Вой, а дай жа ты мне бутлю, — сказаў ён, — я проста сюды капну, на гэтую палічку, яна павінна памятаць...

На карцінцы з'явіўся пакой, людзі, якія штосьці мармыталі сабе пад нос...

— Што гэта? — запытаўся Антон.

— Гэта яны моляцца! — сказаў Кладавік. — Вы на палічку, на палічку глядзіце.

На палічцы побач з абразамі стаялі незразумелыя балванчыкі.

— Гэта што? — здзівілася Люба.

— Ідалы.

— Якія ідалішчы паганыя? — удакладніў Антон.

— Што ты! — замахаў рукамі Кладавік. — Гэта ж Пярун! Вялікі Бог! І Вялес побач з ім.

— Зноў Вялес, — прамармытаў Сеўка, — кот таксама пра яго казаў...

Карцінка трошкі расплылася, а потым зноўку стала выразнай.

— А гэта ўжо яўрэі, якіх бацюшка тут хаваў, — сказаў Кладавік. — Таксама маліліся, вох, як маліліся...

— А дзе іх абразы? — запытаўся Антон.

— А ў іх няма, — сказаў Кладавік. — Я пытаўся, а яны кажуць: «А ў нас Бог у сэрцы...» Во як...

Лёля пырснула трошкі адвару на лаўкі, і на іх выплылі дзве карціны. На адной дзяўчына з доўгай светлай касою нешта шыла, на другой маладая чарнабровая жанчына цыравала шкарпэтку, высунуўшы ад напружання кончык языка. Потым з'явілася бабуля, якая нешта расцірала ў ступцы, потым дзіця, якое заціскала ў руцэ ляльку з пакулля, і тут жа, следам, жанчына, якая карміла грудзьмі... Карцінкі змяняліся, як у калейдаскопе: то лучыны, то свечкі, то лапці, то вайсковыя боты, то драўляныя міскі, то чыгункі.

— Вось як трэба гісторыю вывучаць! — узрушана сказала Маша. — Вой, а што гэта яны з кашуляй робяць?

— А гэта абрад такі: калі кашулю кроілі, дык, што для каўняра вырэзвалі, унутр працягвалі, каб, значыцца, сілы назапашваліся. І песні спявалі спецыяльныя...

— А чаму тут толькі жанчыны і дзеці? — запытаўся Антон.

— У апошнюю вайну тут мужчын не было, з іх яўрэяў нават у гета не бралі, на месцы расстрэльвалі... В-вось як... — сумна сказаў Кладавік, — а ў даўнія часы дык гэтак справа была. Жыў у нас у Менску старац. Ды і не стары ён быў, проста сівы ўвесь... Па цяперашніх часах увогуле хлапчук, гадкоў трыццаць яму было...

— Старац! — фыркнула Маша. — У мяне маме амаль сорак, а яна кажа...

— Дык час жа суровы быў. Вось таму дзядульку, што лыка вязаў, таксама гадкоў сорак.

— Нічога сабе! — здзівілася Люба. — А выглядае на ўсе семдзясят!

— Дык вось старац, — працягнуў Кладавік, — былі ў яго мроі розныя. Часам як ускочыць, як закрычыць... Ну а потым кажа, што заўтра з кім здарыцца... І ўсе

яго слухалі, ведалі, што ён не памыляецца, ужо калі сказаў, дык гэтак і будзе. І вось аднойчы ён проста на вечы...

— На чым? — запыталася Люба.

— Ну, веча — гэта сход такі, — патлумачыў Кладавік, — дык вось, проста на вечы ён устаў і абвясціў, што, маўляў, мае даражэнькія, бяда да нас ідзе. Будзе, казаў, крывавая бойня, усіх павырэзваюць, нікога не пашкадуюць. Дык, калі жыццё нашых дзядоў, жонак і дзяцей нам дорага, то давайце зробім схоў, дзе ім можна схавацца. Вось так гэтае падзямелле і з'явілася. Адышлі ад горада, як мага далей, знайшлі гэты дуб, за яго і зачапіліся. Доўга капалі, з любоўю рабілі... Вы ж бачыце. Колькі стагоддзяў прайшло, а лавы вунь як новыя!

— А потым? — запытаўся Антон.

— А потым прыскакаў ганец з Полацка з граматай...

— Гэта тая, што мы бачылі? Тая, што фатаграфавалі? Вось з гэтай штуковінай? — запыталася Лёля, паказваючы на круглячок, які Маша пакінула на лаве.

— Вух ты! — сказаў Кладавік. — Гэта ж князя Ізяслава пячатка, была называлася. Толькі тое, што вы мне тыкаеце, гэта статут для вірніка. Пакажы-тка.

І Кладавік пачаў напеўна чытаць з мабільніка, смакуючы кожнае слова:

«А се поклон вирный: вирникоу взяти седмь ведор солоду на неделю, тоже овен любо полот, или две ногате; а в средоу резаноу, веже сыры, в пятницоу тако же; а хлеба по колькоу моугоуть ясти, и пшена; а кур по двое на день; коне четыри поставити и соути им на роте, колько могоуть зобати; а вирникоу шесть десять гривен и десять резан и два на десяте веверици; а переде гривна; или ся пригоди в говение рьбами, то взяти за рыбы седмь резан; то всех коун пять на десяте коун на неделю, а борошна колько могоуть изъясти; до недели же вироу сбероуть вирници; то ти оурок Ярослава».

— Чаго? — запытаўся Сеўка. — Я, акрамя «Яраслава», нічога не разабраў. І хто такі вірнік?

— Вірнік — гэта той, хто розныя паборы княжыя збіраў.

— Кшталту падатку? — запытаўся Сеўка.

— Ага, — усміхнуўся Кладавік, — кшталту... Прыімчыць ад князя і знаходзіцца тут тыдзень. І за тыдзень трэба было яму сабраць віру, і пакуль ён тут быў вунь колькі ежы яму ставілі.

— А што за рэзаны? — запыталася Маша, пазіраючы ў тэлефон.

— Грошы, — адказаў Кладавік, — усё проста было: грыўна гэта дваццаць нагат альбо дваццаць пяць кун, альбо пяцьдзясят рэзан.

— Проста, — яхідна сказала Лёля.

— Добра, я вам зараз перакладу, — злітаваўся Кладавік і зноўку ўтаропіўся на экран мабільніка: «А вось вірны статут: вірніку ўзяць на тыдзень сем вёдзер соладу, таксама хлеба і проса, колькі змогуць з'есці, а курыц па дзве на дзень. А чацвёра коней паставіць і даваць ім корму колькі змогуць з'есці. А вірніку ўзяць шэсцьдзясят грыўняў і дзесяць рэзан і дванаццаць вевярыц, а спачатку грыўню. А калі здарыцца пост — даваць вірніку рыбу, і ўзяць яму за рыбу сем рэзан. Усіх тых грошай пятнаццаць кун на тыдзень, а мукі даваць, колькі змогуць з'есці, пакуль вірнікі збяруць віры. Вось табе статут Яраслава».

— Нічога сабе яны жэрлі! — абурыўся Мішка.

Аказалася, што ён перастаў тыкаць трубкаю ў зямлю і таксама прыслухоўваецца да лекцыі Кладавіка.

— Толькі я не дачуў, чаго там сем вёдзер належала ўзяць?

— Соладу. Каб піва варыць.

— Сем вёдзер? — здзівілася Маша.

— Дык жа на тыдзень! — узгарэўся Кладавік.

— Вядро ў дзень, — удакладніў Антон.

— А што ж там піць! — памяркоўна ўсміхнуўся Кладавік. — Тады піва самі варылі. Духмянае было, смачнае...

— Вядро ў дзень, — задумліва сказала Лёля, — а ён жа яшчэ і пaборы пасля гэтага збіраў... Можа, ён усё-ткі не адзін піў? Ці вёдры былі значна меншымі?

— Проста людзі былі, не раўня цяперашнім. Волаты! — сказаў Кладавік.

— І трава была больш зялёная, — засмяялася Лёля. — Ты кажаш як мая бабуля! І наогул, знайшоў чым выхваляцца — вядро піва за дзень любы дурань выпіць можа.

— Менавіта, што дурань, — хмыкнуў Антон.

Кладавік засоп і зрабіў выгляд, што пакрыўдзіўся.

— Цікава, — сказала Маша, — а калі хто-небудзь калі-небудзь яшчэ трапіць сюды і пырсне на гэтую лаву чарадзейным зеллем, яна яму і нас пакажа?

— А як жа! — сказаў Кладавік.

Маша тут жа пачала абтрасацца ад смецця.

— Бацюхна-кладавік, — сказала Лёля, — ты пра гэты схоў недаказаў. Прыскакаў тады ганец ад князя, і што?

— І ўсё. Грамату прывёз. А ў грамаце загад, усім хто можа — уступіць у княжую дружыну. Усе мужчыны і пайшлі да Нямігі, — Кладавік кіўнуў направа. — Ну, а жонак і дзяцей — сюды, у схоў. Але не ўсе пайшлі, нехта ў Менску застаўся...

І дзядок махнуў рукою кудысьці ўлева. Сеўка адчуў нестыкоўку і насцярожыўся.

— Не зразумеў, — сказаў ён. — У Менску — гэта ў Мінску?

— Ну няхай сабе ў Мінску, — кіўнуў Кладавік. — Дык вось...

— Пачакай, — няветліва перабіў яго Сеўка, атрымаў штурхель локцем ад Лёлі і паспешліва паправіўся: — Даруй, Кладавік-бацюхна! Я нешта заблытаўся.

Дзядок строга паглядзеў на нахабнага маладога чалавека, але той упарціўся.

— Значыцца, там, — Сеўка паказаў направа, — Няміга. А там — ён тыцнуў у супрацьлеглы бок, — Мінск?

— У старадаўні час гэтак і было!

— А нас вучылі, што старажытны Мінск якраз на Нямізе і стаяў! У сэнсе, там, дзе Няміга ў Свіслач упадала.

Кладавік падпёр рукой галаву.

— Вох-хо-хо-хо, — уздыхнуў ён. — Вось вучаць вас, вучаць, а чаму вучаць... Першае... — Дзядок пачаў загінаць маршчыністыя пальцы. — ...навошта Менску на Нямізе стаяць, калі ён на Менцы стаяў?! Другое. Як ён мог стаяць на Нямізе, калі там Няміга стаяла?!

Цяпер ужо ва ўсіх у вачах чыталася такое відавочнае непаразуменне, што Кладавік з непрыхаванай паблажлівасцю пачаў тлумачыць:

— Ну Няміга... Крэпасць вартавая. Абазначае «Бяссонніца», гэта значыць там круглыя суткі варта не спала! Туды і пайшлі біцца, да крэпасці! А каля гандлёвага пасада, які сэнс біцца?

Ён абвёў усіх такім строгім позіркам, што нават Сеўка не стаў удакладняць — чаму каля крэпасці змагацца лепей, чым каля пасада.

— А зараз трэцяе, — Кладавік пачаў супакойвацца і амаль дружалюбна паказаў на Машу. — Ну-тка, што ты там казала пра братоў, якія Менск бралі?

Маша з гатоўнасцю адтарабаніла:

— «Браты ўзялі Менск, пазабівалі мужчын, а жонак і дзяцей забралі ў палон і пайшлі да Нямігі...»

— Вось! — урачыста абвясціў дамавік. — Не НА Нямігу, а ДА Нямігі! Не НА раку, а ДА горада! Ішлі яны ад Менска да Нямігі якраз над гэтым самым сховам. Добра, што хоць дзеці засталіся. Адседзеліся тут, вылезлі. Забітых — пахавалі, паплакалі. Ды і пачалі далей жыць-пажываць... А цяпер вунь які горад выбудавалі. І народу — не праштурхнуцца.

Кладавік сеў на лаву, тым самым даючы магчымасць зразумець, што лекцыя скончана. Мішка са шкадаваннем вярнуўся да свайго занятку — тыцкання трубкаю ў столь.

Сеўка паглядзеў на яго і задумліва вымавіў:

— Калі гэтае падзямелле выкапалі падчас бітвы на Нямізе, дык колькі ж гадоў прайшло? Маш, ты ў нас усё ведаеш.

— 942 гады, — хутка выгукнула Маша.

— Для роўнага ліку, 1000, — задумліва сказаў Сеўка.

— 950, — удакладніла Машка.

— Добра, — Сеўка быў настроены дабрадушна і спрачацца не хацеў, — няхай 950 гадоў, іншымі словамі дзевяць з паловай стагоддзяў... Ніхто не памятае, як хутка культурны пласт нарастае?

— Па-мойму, метр у стагоддзе, — сказала Люба. — Я была на экскурсіі на раскопках, і нам расказвалі...

— Метр у стагоддзе, — перапыніў яе Сеўка, — значыцца за дзевяць з паловай стагоддзяў мы маем дзевяць з паловай метраў... Гэта трохпавярховы дом...

Мішка знерухомеў з трубкаю ў руцэ. На яго твары бачылася разгубленасць і крыўда адначасова.

— Колькі? — уразілася Лёля.

— Граф Монтэ-Крыста доўга падземны ход капаў? — засмучана запытаўся Сеўка.

— Доўга, — змрочна адказала Машка.

— Падобна, нам давядзецца шукаць другі выхад, — сказаў Антон і працягнуў знарок бадзёрым голасам. — Давайце не будзем адчайвацца і падумаем, што нам рабіць далей.

Усе зноўку замаркоціліся.

— Мы шукалі «земляную» падказку, — успомніла Лёля, — а потым загледзеліся на гэтае падзямелле.

— Ага, — падхапіў Сеўка, — гэтак яно і ёсць! А што гэтая курыца казала, я маю на ўвазе цёцю Ларысу, хто-небудзь памятае?

— Капайце ўглыб чацвёртага вымярэння, — сказала Маша. — І там, на глыбіні вялікай бітвы...

— Дык гэта ж тут! — усклікнуў Сеўка.

Усе падхапіліся і пачалі азірацца.

— А што шукаць? — запыталася Люба.

— Ды хто ж яго ведае! — прамовіла Лёля. — Нешта звязанае з зямлёю... Нам павінна дапамагчы зямля... Дарэчы, зямля нам ужо дапамагла, яна захавала гэтую падказку. Але дзе?

— Зямля захавала, зямля захавала, — мармытаў сабе пад нос Антон. — Тут мала зямлі, адзін камень...

— А падлога! — сказала Лёля. — Падлога ж земляная!

І яны пачалі дружна калупаць падлогу. Толькі з гэтага мала што атрымалася — зямля не паддавалася, па цвёрдасці яна за столькі стагоддзяў зраўнялася з каменем. Мішка зноўку вярнуўся да столі.

— Шукайце, дзе мякчэй! — загадаў Антоха, які не збіраўся проста так здавацца.

Усе разышліся па падзямеллі і пачалі абшукваць кожны сантыметр залы. Адна Лёля стаяла ў цэнтры і глядзела на сцяну невідушчымі вачамі.

Спачатку Антона гэта злавала — усе працуюць, а яна ў сценку вырачылася, пасля стала непакоіць — надта нерухома стаяла Лёля. Ён падышоў і ціхенька крануў яе за плячо.

— Ты ў парадку? — запытаўся ён.

— Ага, — адказала яна замагільным шэптам.

— Лёля, — ціха сказаў Антон, — давай, ты пойдзеш наверх, га? Хочаш, я табе дапамагу?

— Ты яе яшчэ на руках аднясі! — фыркнуў Мішка. — Стаіць тут, прынцэса!

Мішка пачаў з падвоенай сілай дзяўбці столь, а Антону раптам у галаву прыйшла выключна шалёная думка, нават не думка, а вобраз — карцінка. Ён, Антон, але старэйшы, пераносіць цераз парог Лёлю. Яна нават ужо не дзяўчынка, а дзяўчына, і на ёй доўгая белая сукенка і вянок з кветак.

Лёля ўздрыгнула, ажыла і паглядзела на Антона.

— Сапраўды! — шэптам сказала яна. — Парог! Абярэгі клалі пад парог!

Лёля кінулася да ўваходу ў падзямелле. Антон пасля хвіліннага замяшання — за ёю.

— Дзесьці тут! — мармытала Лёля. — Парог... дзе ж тут парог...

Яны з Антонам у чатыры рукі рыхлілі зямлю, часам сутыкаючыся пальцамі, тут жа адхоплівалі іх і праз некалькі імгненняў зноўку сутыкаліся. Астатнія, перапыніўшы свае пошукі, абкружылі Лёлю і Антона, падсвечвалі ім ліхтарыкамі. Шукаць усё адно можна было толькі ўдваіх — больш ніхто б не змясціўся.

Парог — амаль цалкам сатлелую дошку — знайшлі даволі хутка, але зямлю пад ім давялося грунтоўна пераварушыць.

— Дзіўна, — Мішка патыцкаў зямлю, ледзьве не адціснуўшы Антону палец, — паўсюль утаптана, а тут не...

— Таму што паўсюль хадзілі, — патлумачыў Кладавік, зацікаўлена пазіраючы на старанні астатніх, — а на парог не наступалі. Нельга наступаць! — апярэдзіў ён пытанне Сеўкі.

Раптам Лёля з Антонам адначасова выгукнулі:

— Ёсць!

І разам выцягнулі на святло ліхтарыкаў невялікую, але важкую скрыначку, не больш запалкавай. Лёля расціснула пальцы, саступаючы Антону, і той паднёс скрыначку да вачэй. Яна аказалася цёмнай, злёгку гузаватай і са счасанымі вугламі.

— Дзіўна, — сказаў Сеўка, — як быццам не метал... і дакладна не дрэва! Камень, ці што?

— У любым выпадку, — уздыхнуў Антоха, — тут нам рабіць больш няма чаго.

## Глава 12

## КЛЮЧ. ПАВЕТРА

Пасля падзямелля змрок школьнага калідора здаўся ясным днём. Усе падбадзёрыліся і, не згаворваючыся, не чакаючы каманды Антона, рушылі ў сталоўку. Там іх ужо чакаў Сталавік, які завохкаў, заахкаў і пачаў кідаць на стол талеркі.

— Схуднелі ўшчэнт! Гарачанькага вам, вось гарачанькае!

Усе ўзяліся з апетытам наварочваць пачастунак, адначасова згадваючы ўсё, што бачылі ў падзямеллі. Сталавіку за адвар разрыў-травы падзякавалі разоў пятнац-

цаць, ад чаго той прыйшоў у поўную дабрадушнасць і нават, здаецца, стаў трошкі большым у памерах. Ён знік, але хутка вярнуўся з кухні з вялізным духмяным пірагом, выклікаўшы дадатковае захапленне. Зрэшты, усе захапленні аціхлі — у ратоў быў занятак.

Толькі двое не ўдзельнічалі ў гэтым свяце жывата — Мішка і Антоха. Люба адразу заўважыла гэта, падсела да Мішкі і асцярожна запыталася:

— Ты чаго не ясі? Смачны пірог, — яна падала кавалак, — з капустаю.

— Што? — здзівіўся Сеўка. — А мой кавалак з рыбаю!

— А ў мяне з тварагом! — Маша нават разламала свой пірог, каб прадэманстраваць начынку.

— У мяне з ягадамі! — засмяялася Лёля і крыкнула ў бок кухні. — Ну, Сталавікбацюхна, дзякуй! Усім дагадзіў!

Люба тым часам ледзьве не прымусам сунула кавалак ў Мішкаву руку. Той цяжка ўздыхнуў і, падпарадкоўваючыся ўгаворам, адкусіў. Позірк яго пацяплеў:

— Нічога не з рыбаю! І не з тварагом! З варэннем... малінавым.

Мішка, сам таго не жадаючы, расплыўся ва ўсмешцы. Люба з палёгкаю заківала:

— Ага... Сапраўды! З малінавым! Ты еш!

Мішка кінуў удаваць пакорлівасць лёсу і з задавальненнем запхнуў у рот кавалак пірага.

— А чаго такі сумны быў? — Люба зараз нагадвала ці-то маці, ці-то бабулю.

— Дарэмна мы адтуль пайшлі, — пражаваўшы, сказаў Мішка. — Трэба было стары ход дзяўбці. Я сантыметраў на дзесяць прасунуўся.

Маша, выціраючы пальцы сурвэткамі, якія прадбачліва аднекуль з'явіліся, здзівілася:

— Ты што, Беркін? Гэтак ты месяц будзеш калупацца — па дзесяць сантыметраў.

— А што, — абурыўся Мішка, — лепш тут сядзець? Там, хаця б ніякая нечысць за сцяною не шуміць! Антоха! Ты чаго маўчыш?

Антон, які ўвесь гэты час безуважна глядзеў ў талерку, уздыхнуў і стомлена сказаў:

— Хочаш капаць? Капай! Толькі памочніка сабе вазьмі!

— Пойдзеш да мяне ў памочнікі? — весела запытаўся Мішка ў Любы, даядаючы пірог.

Тая з гатоўнасцю кіўнула.

— І я з табою пайду! — раптам падала голас Маша. — Заадно... пашукаю там. Можа, яшчэ што знайду цікавае.

І аўтаматычна праверыла кішэню, дзе ляжаў прыхоплены знізу малітоўнік.

Антон зразумеў, што на галодны жывот ён больш нічога талковага не прыдумае, і ўзяўся за пірог. У яго кавалку аказалася мяса.

* * *

Калі Мішка з улюбёнаю трубкай наперавес, Любка з бутляю разрыў-травы і Машка са шпагаю пайшлі, Антон наладзіў нараду на тэму «Дзе шукаць апошнюю падказку?» Пытанне «Як адчыніць прадапошнюю?» па маўклівай згодзе вырашылі не ўзнімаць — як паказаў вопыт, падказкі раскрываюцца самі па сабе, калі прыходзіць час.

— Чацвёртая стыхія — паветра! — разважаў Сеўка, сёрбаючы кісель. — Значыцца, трэба выйсці на свежае паветра!..

Антоха з сумненнем пакруціў галавой.

— Паветра ўсюды, — задумліва сказала Лёля. — Можа, і ісці нікуды не трэба?

— Трэба-трэба! — запярэчыў Сеўка. — Усе тры разы мы некуды хадзілі, значыцца, і цяпер пойдзем. Метад аналогій, зразумела?

Лёлі было не вельмі зразумела, але яна паважала Сеўкіны думкі, таму прамаўчала. Сеўка расцаніў гэта як падтрымку і прамовіў:

— Так! Вада — у басейне, агонь — у кабінеце хіміі, зямля — у сутарэннях, паветра... паветра...

Усе з цікавасцю сачылі за ходой яго думкі і чакалі, што вось-вось — і Сеўка з адолее лагічную перашкоду. Але з ходу не атрымалася. Сеўка яшчэ некалькі разоў паўтарыў «Паветра...» і засаромлена замоўк.

— Добра, — ён залпам дапіў рэшту кісялю, — паспрабуем інакш. Вада і агонь — ворагі. А яны ў нас былі... у супрацьлеглых частках школы. Зямля і паветра — таксама супрацьлегласці. Значыцца, калі зямля ўнізе...

Сеўка зрабіў эфектную паўзу.

— На даху! — згодна кіўнула Лёля. — Ты разумнік!

* * *

Мішка, як заведзены, тыцкаў і тыцкаў у столь, зрэдку дапамагаючы сабе рыкам. Маша з Любаю засяроджана адграбалі зямлю, баючыся ляпнуць што-небудзь Мішку пад руку — такі раз'юшаны ў яго быў выгляд. Але праз дзесяць хвілін і ён выдыхнуўся, праверыў трубкаю глыбіню адтуліны і злосна сплюнуў:

— Гэтак мы да старасці капаць будзем.

— Можа, дзе-небудзь яшчэ паспрабаваць? — спагадліва запыталася Люба.

— Ага, — падхапіла Маша, — вы тут пашукайце, а я пакуль пагляджу... раптам яшчэ якая-небудзь штучка «загаворыць».

Яна схапіла бутлю і пацягнула яе ў дальні куток. Было бачна, што Маша з самага іх прыходу ў падзямелле чакала магчымасці «паадчыняць» старыя рэчы. Мішка ўздыхнуў і пачаў прастукваць сцены.

* * *

— Слухай, а чаму нам раней не прыйшло ў галаву на дах залезці? Можа, адтуль нармальнае неба пабачым? — запыталася Лёля, пазіраючы, як Антон з Сеўкаю збіваюць амбарны замок з дзвярэй, што вялі на дах.

— Нам яшчэ шмат чаго ў галаву не прыйшло, — сказаў Антон.

— Слухай, — прамовіў Сеўка, аддыхваючыся, — можа, у цябе ёсць якая-небудзь траўка для збівання замкоў?

— Не, — сумна адказала Лёля, — давядзецца вам самім.

— Дарэмна мы Мішку адпусцілі, — прамармытаў Антон.

— Давай метадам рычага, — скеміў Сеўка, падабраўшы пад нагамі кій, — тут упромся, і...

Замок шчоўкнуў і адляцеў, дзверы адчыніліся, і яны асцярожна вылезлі на дах.

— Страшнавата... — прамармытаў Сеўка, пазіраючы на чорны купал замест неба.

— А калі ўніз скочыць, цікава, што будзе? — запытаўся Антон, падыходзячы да самага краю.

Сеўка зараз жа падабраў камень і кінуў яго ўніз. Ні плюху, ні груку... увогуле нічога. Камень проста знік, паляцеў у нікуды. Тады Сеўка размахнуўся і шпурнуў наступны камень убок. Ён праляцеў літаральна некалькі метраў, а потым быццам уліпнуў у нябачную сцяну, паквэцаную смалою. Гэтак і застаўся вісець.

— Зразумела, — сказаў Антон, — з уцёкамі можна не эксперыментаваць.

— Тады давайце шукаць. Я пачну адтуль, — Лёля махнула рукой і накіравалася да вызначанай кропкі.

Нейкі час на даху было ціха, чулася толькі засяроджанае крактанне і сапенне шукальнікаў. Яны сумленна стараліся агледзець кожны сантыметр у сябе пад нагамі. Хвілін праз пятнаццаць Антону надакучыла поўзаць на карачках, ён разагнуўся, пацягнуўся і сустрэўся вачамі з...

* * *

Машка з запалам пырскала адварам разрыў-травы то на паўз'едзеную іржою місу, то на пацямнелыя каменьчыкі, рассыпаныя на падлозе — і прагна ўзіралася ў карцінкі, якія ўзнікалі перад ёю. Мішка ў суправаджэнні Любкі метадычна абстукваў сцены. Ён падумваў ужо пра тое, каб кінуць усё і вярнуцца да Антохі, але тут нечакана кладка адгукнулася гулам.

— Гэта як тады ў падвале, — узрадавалася Люба. — Давай, паспрабуем раскалупаць сценку! Маш! Хадзі, дапаможаш!

У шэсць рук, дапамагаючы сабе трубкай і іншымі падручнымі прыладамі, яны змаглі трошкі парушыць кладку.

— Надакучыла калупацца! — сказаў Мішка. — Ану-тка, дзяўчынкі, адыдзіце.

Люба і Маша ледзьве паспелі расступіцца, як Мішка падхапіў адну з лаў і з разгону пратараніў ёю сцяну. Лава разляцелася на дошкі і трэскі, але і камяні пырснулі ў розныя бакі. А ў праломе, які ўтварыўся...

* * *

Тое, што гэта не дамавік, Антоха зразумеў адразу. Па-першае, рост. Нармальны высокі мужчына, з барадою і вусамі. Па-другое, позірк. Ён глядзіць звысоку, і не таму што сядзіць на нейкім выступе, ён глядзіць звысоку па вызначэнні. Ён глядзіць як гаспадар. Як добры гаспадар. Як гаспадар, які прыйшоў пацікавіцца: а што гэта тут такое ў яго гаспадарцы адбываецца.

Антон з цяжкасцю перамог жаданне пакланіцца, адступіў на некалькі крокаў, тузануў за рукі Лёлю і Сеўку і сказаў:

— Добры дзень...

— Добры дзень... — прашалясцелі Лёля з Сеўкам, разглядаючы гэтага незразумела каго.

Мужчына тым часам спакойна саскочыў з пастамента і падышоў бліжэй. Ішоў ён упэўнена, усміхаўся шырока, усім сваім выглядам дэманструючы спакой і добрую фізічную форму. І ўвогуле трымаўся вельмі ўпэўнена.

— Згубілі нешта? — лагодна запытаўся ён.

— Нешта накшталт гэтага... — сказаў Антон.

— Можа, дапамагчы?

* * *

Высокая, вельмі худая жанчына глядзела на Мішку з выклікам. У яе асляпляльна чорных валасах дзе-нідзе праглядваліся сівыя пасмы.

— Што, Бер, — сказала яна хрыпла. — Гаспадар па маю душу прыслаў?

— Не, — адказала за ўсіх Маша. — Мы самі. А вы што там робіце?

— Вы самі, — задумліва прамармытала чорнавалосая жанчына, і прымружылася ў промні ліхтара. — Ды, зрэшты, што самі...

— Мы выхад наверх шукалі, — падаў голас Мішка. — Вы не ведаеце, дзе ён?

Незнаёмка крыва ўсміхнулася.

— Вой, — спахапілася Люба, — вы ж у бядзе. Мы можам дапамагчы?

* * *

Антон усё чакаў, што нешта скажа Лёля, што яна скеміць, з якой чарговай нечысцю ім пашэнціла сустрэцца, але Лёля моўчкі пакусвала кончык касы, а другой рукою ўчапілася ў свой медальён, так што костачкі пальцаў пабялелі.

— А вы Дахавік? — запытаўся Сеўка.

— Я? — здзівіўся барадач, потым задумаўся, хмыкнуў і сказаў: — Ну нешта кшталту таго...

— А можа, вы нам павінны падказку аддаць? — запытаўся Сеўка.

Яго нічога не насцярожыла — Дахавік дык Дахавік.

— Я? Павінен? — здзівіўся мужчына, і ў яго голасе прарэзаўся метал, але ён імгненна ўзяў сябе ў рукі. — Не, вы мяне, відаць, з кімсьці блытаеце.

— Шкада, — сказаў Сеўка.

* * *

— Для пачатку, — папрасіла жанчына, — разбярыце гэтую сценку.

Дзяўчынкі і Мішка пераглянуліся і пачалі выламваць камяні з патрэсканай кладкі, кідаючы позіркі на незнаёмку. Яна не спрабавала ім дапамагчы. Неўзабаве стала зразумела чаму — запясці і лыткі чорнавалосай былі аперазаны кайданамі. Ад кайданоў да сцяны цягнуўся цяжкі іржавы ланцуг. Рукі і ногі былі разведзены так, што паланянка нават пачухацца не магла.

Жанчына маўчала, але гэтае маўчанне падганяла лепш, чым усялякія крыкі.

* * *

— А вы ўвогуле як тут апынуліся? — запытаўся барадач.

— Замок збілі, — сказаў Сеўка.

— Не, не на даху, а ўвогуле.

— Увогуле? — Сеўка запнуўся і паглядзеў на Антона, не ведаючы што адказаць.

— Выпадкова, — сказаў Антон, — са школы выйсці не паспелі.

Уважлівы позірк працяў Антона, ён з вялікай цяжкасцю ўтрымаўся ад таго, каб не заплюшчыць вочы.

— Выпадкова, кажаш... Ну-ну...

* * *

Нарэшце пралом у сцяне стаў даволі вялікім, каб праз яго змагла пралезці Маша. Толькі тады чорнавалосая адазвалася.

— Вады...

Госці разгублена агледзеліся.

— Я зараз наверх збегаю, — заспяшалася Люба, але жанчына яе спыніла.

— А гэта што? — тыцнула яна ў амаль поўную бутлю.

— Гэта адвар разрыў-травы, — патлумачыла Маша. — Ён чарадзейны...

— Я ведаю, што такое разрыў-трава, — рэзка перапыніла яе чорнавалосая. — І які з яе адвар. Дай!

Маша ўлезла да паланянкі і прыклала бутлю, якую прасунуў Мішка, да яе вуснаў. Тая пачала піць з незвычайнай прагаю і не адарвалася, пакуль бутля не апусцела.

* * *

— А вы як тут апынуліся? — выціснуў Антон.

— Шчыра? — запытаўся барадач.

Антон кіўнуў.

— Прыйшоў з вамі пазнаёміцца. Мне здалося, што гэта можа быць нам карысна. Нам усім... А ты, дзяўчына-прыгажунечка, чаго маўчыш? — ласкава ўсміхнуўся мужчына Лёлі. — Звычайна ты за словам у кішэню не лезеш.

— Звычайна? — напружыўся Антон. — Што вы пра нас ведаеце?

— Ды няшмат, не хвалюйся. Але чуткі ж па школе ходзяць, мне расказваюць, пераказваюць...

— Хто вы? — хрыпла запыталася Лёля.

— Я — ваш сябар! — сказаў барадач і прамяніста ўсміхнуўся. — Хоць многія тут мяне называюць Гаспадаром.

* * *

Маша адняла бутлю ад вуснаў цяжка дыхаючай паланянкі.

— А вы хто? — запыталася яна.

— Я — ваш сябар, — усміхнулася чорнавалосая, прыслухалася да ўласных адчуванняў і з асалодай дадала: — Праўда... Разрыў-трава... Ну-тка, адыдзі, шэрая!

Маша, памятаючы пра нядаўні таран сцяны лаваю, паспешліва выбралася вонкі. Але паланянка не спяшалася. Яна паволі выдыхнула, уздыхнула, аднаўляючы дыханне, прыжмурылася і... пацягнула ланцугі на сябе. Гэта было надзвычайнае відовішча: тоненькая, зграбная жанчына раптам ператварылася ў скрутак цягліц. Гартаванае жалеза зарыпела, вохнула — і паддалося. Два ланцугі адзін за адным ляснулі, вызваляючы чорнавалосую.

— Як жа добра, — прамармытала яна і сцепанула плячыма. — Клянуся Вялесам!

Яны глядзелі на яе, не даючы веры вачам. Чорнавалосая падміргнула Любе:

— Ты там нешта пра вадзіцу зверху казала? Прынясі, будзь разумніцай! Ногі яшчэ вызваліць трэба.

Любку зараз жа здзьмула з месца.

* * *

— Але для вас я проста сябра, — мужчына працягваў усміхацца. — І як сябар гатовы вам дапамагчы. Што вам там трэба было? Нейкая падказка?

— Ага, — ціха прамовіла Лёля. — Ключ... А дакладней, чвэрць ключа. Тры чвэрці ў нас ужо ёсць.

І яна яшчэ мацней сціснула кулончык на сваёй шыі.

«Сябар» проста працягнуў да яго сваю руку, але Лёлі здалося, што яна пачула загад, якому ніякім чынам нельга не падпарадкавацца. Яна пакорліва зняла кулон і аддала мужчыну.

Той пакачаў «перавернутую адзіначку» у руцэ, усміхнуўся:

— Зразумела, — і вярнуў знаходку Лёлі. — Значыцца, засталася апошняя чвэртка.

Антону ў яго голасе пачулася насмешка. Ён увогуле чамусьці адчуваў незразумелую варожасць да гэтага бамбізы, хоць той нічога дрэннага ім не зрабіў і нават не пагражаў. І, як тут жа высветлілася, наадварот, вырашыў дапамагчы.

— Апошняя падказка... — прамармытаў ён, нешта выглядваючы ў сябе пад нагамі. — Апошняя дэталька... Дзесьці тут яна была.

Мужчына ўзняў галаву:

— А! Вось яна!

* * *

— Дык як жа вас усё-такі завуць? — запыталася Маша. — І чаму я шэрая?

Чорнавалосая, якая працягвала з асалодаю размінацца, адказала з усмешкай:

— Не крыўдуй за «шэрую». Проста... ты не белая і не чорная. Так што, калі хочаш, можаш лічыць сябе жоўтай ці сіняй. А завуць мяне...

Тут яна трошкі задумалася, быццам перабірала ў думках варыянты.

— Завуць мяне... Паляндра, — з нейкім здзіўленнем адказала яна. — Зусім я адвыкла ад гэтага імя. У апошні час мяне найчасцей называлі проста — Паланянка.

Болей Маша з Мішам нічога запытацца не паспелі — зверху ледзьве не кулём звалілася Любка, якая цягнула трохлітровы слоік з вадою. Паляндра прагна выхапіла слоік з яе рук і пачала піць вялікімі глыткамі. Апаражніўшы слоік, Паланянка са смехам адставіла яго і ў два кароткія рыўкі вызваліла ногі.

— Вольная! — рассмяялася яна на ўсё падзямелле. — Вольная!

* * *

Антон, Лёля і Сеўка ўтаропіліся туды, куды паказваў Гаспадар.

І пабачылі камень, які так і застаўся вісець, прыліплы да нябачнай сцяны.

— А як мы яго дастанем? — пачухаў галаву Сеўка.

— А гэта ўжо я не ведаю, — пацiснуў плячамі мужчына. — Не я яго туды закінуў.

Антон паспрабаваў дацягнуцца да каменя, але не дастаў добрых паўтара метры. Між тым барадач злёгку нахіліў галаву, быццам да нечага прыслухоўваўся ўнізе.

— Ну, — сказаў ён заклапочана, — з вамі я пазнаёміўся, а цяпер мне трэба ісці. Жадаю ўдачы!

І ён лёгка ступіў з даху ў двор, але не зваліўся, як гэта трэба па законах фізікі, а быццам апусціўся на прыступку. Так і пайшоў, крок за крокам па нябачнай лесвіцы. Сеўка памкнуўся пайсці за ім, але нага, якою ён кратаў паветра, праваліліся ў пустату. Антоха ледзьве паспеў падхапіць свайго сябрука-прыродазнаўцу.

* * *

— Падзякаваць бы табе трэба, — сказала Паляндра. — Распавядзі-тка, дзяўчына, можа, дапамога табе якая патрэбна?

— Нам бы падказку апошнюю, — сказала Люба.

Паляндра паморшчылася, пазіраючы кудысьці ў столь.

— З гэтым без мяне ўжо разабраліся. Што-небудзь яшчэ?

— Можа, дадому нас выпусціце? — запыталася Маша.

— Не магу, сіл малавата, — сказала паланянка.

— Тады адчыніце вось гэта! — папрасіла Люба, працягнуўшы Паланянцы падказку, знойдзеную ў падзямеллі.

Паляндра лёгка даткнулася пальцамі да каменя.

— Я гэта адчыніць не змагу, гэта не да мяне, — спахмурнела яна. — А вось ты...

Паляндра тыцнула пальцам у Любу.

— Адчыняй, — сказала яна. — Толькі я не ўпэўнена, што ты мне за гэта дзякуй скажаш...

Дзяўчынка асцярожна ўзяла ў рукі падказку, і ў яе руках зараз жа адшчоўкнулася каменнае вечка. У маленькай скрыначцы ляжаў чарговы медальён.

— Дзякуй, — ціха сказала Люба.

— Добрая дзяўчынка, — усміхнулася Паланянка, — ці дурніца. Але гэта пакуль...

І дабрадзейка пайшла скрозь сцяну.

* * *

Антон, Лёля і Сеўка сядзелі на даху, не зводзячы вачэй з каменьчыка, які вісеў у паветры проста над імі, але быў цалкам недасягальным.

— Ну і? — запытаўся Антон. — У каго якія ідэі?

— Гэта не дамавік, — сказала Лёля, — і не Дахавік.

— Гэта зразумела, — адмахнуўся Антон. — Я пра падказку.

— Не, не зразумела, — гнула сваё Лёля. — Ён — сіла. Ён вельмі вялікая сіла...

— Ды хопіць табе! — раўніва абарваў яе Антон. — Давай дастанем падказку, каб выбрацца нарэшце адсюль!

— А з чаго ты ўзяў, што мы зможам адсюль выбрацца? — ціха спытала Лёля.

— Так, — грозна сказаў Антон, — ты гэта кінь! Мы павінны адсюль выбрацца, зразумела? А калі табе тут так падабаецца, дык ідзі да свайго гэтага... Гаспадара.

Лёля пакрыўджана адышла ўбок, а Антон па інерцыі прыкрыкнуў на Сеўку:

— Ну што, прыдумаў?

— Не яшчэ, — сказаў Сева. — Калі кіем падчапіць, дык можна неўзнарок збіць камень уніз, і потым яго не дастанеш. Можна было б сканструяваць такую прыладу — каб зверху кій, а ўнізе сачок, як на рыбалцы рыбу з вуды проста ў сачок запіхваюць... З чаго сачок можна зрабіць?

— З баскетбольнай карзіны, — сказала Лёля.

— О! А гэта думка! — узрадаваўся Сеўка.

— Не, не думка, — сказаў Антон, — камень маленькі, ён праз сетку карзіны праваліцца.

— Камень маленькі, камень маленькі, — замармытаў Сева.

Было бачна, што нейкая думка круціцца ў яго галаве, але ён ніяк не можа злавіць яе за хвост.

— А яшчэ нам паветра павінна дапамагчы! — згадала Лёля.

— Паветра, паветра... — працягнуў Сеўка. — А камень маленькі... а паветра дзьме... і можа падхапіць маленькі камень...

Сеўка падскочыў, як апараны Архімед, і закрычаў:

— Так! Дзе Мішка?

— У падвале, — сказаў Антон з надзеяй, — а што?

— У яго гэтая дудка! Даруйце, трубка! У яе трэба падзьмуць! Не, наадварот!

— Чаго? — запыталіся хорам Антон і Лёля.

— Пыласос! — заявіў Сеўка.

— Сам ты пыласос... — сказаў Антон.

І ў гэты момант на дах уварваліся Мішка, Люба і Маша. Яны загаманілі адначасова:

— Мы там...

— Вызвалілі!
— Выпіла ўсю бутлю...
— Яна адчыніла падказку, дакладней, Люба...

* * *

Антону з вялікай цяжкасцю ўдалося аднавіць карціну таго, што адбылося ў падвале. А заадно давялося распавесці пра дзіўную сустрэчу з Гаспадаром.

— Не падабаецца мне гэта... — змрочна сказала Лёля. — Дарэмна вы яе адпусцілі. Трэба было спачатку даведацца, хто і за што яе туды пасадзіў.

— Запытацца ў твайго Гаспадара? — з'едліва пацікавіўся Антон.

— Гэта ўсё лухта! — безапеляцыйна заявіў Сеўка. — Мішка, гані трубку!

Сеўка выхапіў трубку і пачаў яе старанна прадзімаць.

— Чаго гэта ён? — здзівілася Маша.

— Прыдумвае пыласос, — усміхнуўся Антон.

Скончыўшы прадзіманне, Сеўка загадаў Мішку:

— Стань туды!

Мішка хмыкнуў, але, атрымаўшы ўхвальны позірк Антона, падпарадкаваўся. Сеўка спрытна ўскараскаўся на яго, моцна сціскаючы трубку. Уладкаваўшыся на Мішкіных плячах, ён акуратна падвёў трубку вольным канцом да каменьчыка, другі канец паднёс да рота і з усіх сіл уцягнуў у сябе паветра. Камень злёгку прыціснуўся да трубкі, але застаўся вісець.

— Не адліпае, — сказала Лёля.

Мішка ўздыхнуў і запытаўся:

— Так, пыласос, ты яго моцна... усмактаў?

Сеўка нешта прамыкаў, працягваючы ўцягваць у сябе паветра. Мішка крактануў і рэзка прысеў. Камень тузануўся следам за трубкаю — і адарваўся.

— Вось гэтак вось! — горда сказаў Мішка.

Сеўка саскочыў з яго плячэй, узяў здабычу ў рукі, пакруціў і... стала бачна, што лішні пясок асыпаўся, а ў Сеўкі ў руках засталася бірулька...

— Каму аддаць? — запытаўся Сеўка, круцячы ў руках гэтую цацачку.

— Сабе пакінь, — сказала Лёля. — Калі яна ў цябе адкрылася, значыцца, твая.

Сеўка пачаў разважаць, куды б яму прыладкаваць сваю бірульку, Мішка праверыў сваю ўлюбёную трубку, Маша ў фарбах пераказвала Лёлі сустрэчу з Паляндрай...

— Паслухайце, — усклікнуў Антон, — у нас жа цяпер усе чатыры часткі ключа ёсць! Пайшлі сейф адчыняць!

Спачатку ішлі спакойна. Потым, зразумеўшы важнасць моманту, паскорылі хаду і да кабінета дырэктара амаль падбеглі. Антон расчыніў дзверы, уляцеў у кабінет і затармазіў ужо непасрэдна каля сейфа, калі не сказаць — аб сейф.

— Бацюхна-дамавік! — гаркнуў Антон. — Ану-тка выйдзі да нас!

— Ты чаго гарлапаніш, Волкаў? — запытаўся паменшаны Мікалай Іванавіч, выходзячы з-пад стала. — Будзеш гарлапаніць, вылеціш з кабінета.

— Даруй, бацюхна-дамавік, — умяшалася Лёля. — Мы знайшлі ўсе чатыры часткі ключа.

— Так? — здзівіўся дамавік. Якія ж вы спрытныя! Відаць, дапамог нехта... Добра, добра, Волкаў, адкінь панурасць. Давайце сюды медальёны і бірульку.

Кабінетавік хутка сабраў з усіх чатырох запчастак штосьці накшталт ключа.

— Гатовыя? — урачыста запытаўся ён.

Усе сінхронна пагадзіліся. Дамавік плаўна ўставіў «ключ» у замок сейфа і павярнуў яго.

Усярэдзіне нешта шчоўкнула. Паменшаны дырэктар усё з тым жа ўрачыстым выглядам расчыніў сейф, зазірнуў унутр, хіхікнуў і адышоў.

Антон пацягнуў на сябе дзверцы, усе астатнія ледзьве не паразбівалі галовы, спрабуючы зазірнуць унутр.

Зазірнулі. Замоўклі.

— Ледавіковы перыяд вяртаецца? — парушыў нядоўгае маўчанне Мішка.

— Дык мы чатыры дні носімся па школе, каб вось ГЭТА знайсці? — закіпеў ад злосці Антон.

— Пачакай, — сказала Лёля, — можа, там яшчэ якая-небудзь падказка ёсць.

Яна нырнула ў сейф і выцягнула адтуль два жалуды. Два вялізныя жалуды. Вельмі вялікія жалуды. Восенню жалудамі быў усыпаны ўвесь школьны двор, але гэтыя аказаліся выдатнымі экземплярамі. Глянцавыя, прыгожыя, бліскучыя, з цвёрдымі акуратнымі шапачкамі. І калі б яны знайшлі ў двары такія жалуды ў сваім звычайным жыцці, дык доўга б цокалі над імі языкамі, паказваючы адно аднаму і прамаўляючы: «Вух ты!», «Крута!», «Афігець!», і перадавалі б з рук у рукі.

— Уся справа у дубе, так? — бясколерным голасам запыталася Лёля.

Мікалай Іванавіч кіўнуў.

— Дык мы пра гэта з самага пачатку ведалі! — усклікнуў Антон.

Мікалай Іванавіч моўчкі развёў рукамі.

— Ды яны проста здзекуюцца з нас, гэтыя вашы дамавікі, — закрычаў Мішка. — Ды я зараз адзін разок як трэсну...

Люба не дала Мішку дагаварыць і выцягнула яго ў калідор.

— Бацюхна-дамавік, — сказала Лёля зрывістым голасам, — ты хоць намякні, што нам далей рабіць.

Кабінетавік дэманстратыўна ўтаропіўся ў столь. Лёля пакруціла ў руках адзін з жалудоў.

— Вой, тут нейкая літара! — выгукнула яна. — Літара «П»?

— І на другім таксама, — пацвердзіла Маша. — І што гэта азначае?

Дамавік перасмыкнуў плячыма.

— А ў каго нам запытацца? — адчаілася Лёля.

— У ката, — з’едліва сказаў Антон. — Нешта ж мы даўно з коцікам не размаўлялі.

— І што гэтая старажытнаславянская жывёліна нам скажа? — нервова хіхікнуў Сеўка. — Зноў будзе несці сваю лухту пра багоў.

Тут Маша замахала рукамі, як млын, і закруцілася на месцы.

— Паслухайце! Паслухайце! — засакатала яна. — Гісторыя, шосты клас, параграф нумар 4, «Язычніцкія вераванні і абрады»!

— І што? — асуджана запытаўся Антон. — Ты яго на памяць памятаеш? Мы цябе віншуем.

— Паслухайце! — усклікнула Маша. — Язычнікі ўяўлялі сабе дрэвы і камяні жывымі істотамі! А самым галоўным дрэвам быў дуб! У ім жыў іх вярхоўны бог, па-мойму...

— Хто? — ціха запыталася Лёля.

— Пярун... — успомніла Маша.

— Пярун на літару «П», — сказала Лёля.

Усе моўчкі ўтаропіліся на жолуд, які ляжаў на Лёлінай далоні і ззяў паліраваным бокам. Маша спалохалася і сунула Лёлі другі жолуд.

— Гэта значыць, рэзюміруючы ўсё прамоўленае, — сказаў Сеўка, адкашляўшыся, — мы ведаем, што патрывожылі старажытнае славянскае дрэва, у якім жыў вярхоўны бог Пярун, правільна?

— Вядома! — азарыла Лёлю. — Гэта ж усё славянскае — і дамавікі, і зелле, і абярэгі! Як жа я раней не скеміла!

— Менавіта! — пацвердзіў Кабінетавік.

— І пра гэта напісана ў нашым школьным падручніку? — запытаўся Сеўка.

— Менавіта! — зноў пацвердзіў Кабінетавік.

— І мы пра гэта ведалі ад самага пачатку? — запытаўся Антон. — І калі б мы ўспомнілі гэты параграф адразу, нам не трэба было б лётаць па школе, збіраць усе гэтыя ключы...

— Урокі вучыць трэба, зразумела? А то толькі і чуецца: гісторыя нікому не патрэбна... Гісторыя нам ніколі не спатрэбіцца... Вось вам, зразумела? Цяпер будзеце ведаць!

І Кабінетавік пайшоў да сябе пад стол, фанабэрыста задраўшы галаву.

## ЧАСТКА 2
## ЧОРНА-БЕЛАЯ БЛЫТАНІНА

### Глава 13
### ХТО Ж ПАЛОННЫ?

— У табе, Машка, — сказаў Сеўка, старанна перагортваючы старонкі падручніка гісторыі, — памёр вялікі педагог.

— Лепш бы ён і не нараджаўся! — буркнуў Мішка.

Яму, як самаму дужаму, дасталася «Энцыклапедыя фальклору» — важкая кніга старонак на шэсцьсот. Мішка старанна корпаўся ў ёй, раз-пораз закладваючы ў патрэбныя месцы шматкі паперы.

Усе астатнія таксама былі па вушы паглыблены ў гісторыю. Маша ледзь не сілаю прыцягнула іх у бібліятэку і раздала падручнікі, слоўнікі і даведнікі.

— Хопіць! — заявіла яна. — Мы ўжо шмат часу страцілі толькі таму, што не дадумаліся зазірнуць у кніжку!

За час, праведзены за чытаннем роднага падручніка, удалося высветліць не так ужо і мала.

Што дуб — святое дрэва Перуна, і што акрамя яго яшчэ існавалі бог неба — Сварог, бог святла і сонца — Дажджбог, і Вялес — бог жывёлагадоўлі і ўрадлівасці.

Сеўка, які чытаў тоненькую кніжачку «Старажытныя славяне. Што мы пра іх ведаем?», раптам ускочыў і загаласіў:

— Звар’яцець можна! Машка, ты — геній!

— Чаму? — шчыра здзівілася Маша.

— Таму што нас сюды прыцягнула. Вось ужо не чакаў, што ў бібліятэцы столькі можна знайсці, проста інтэрнэт нейкі!

Маша нават пачырванела ад задавальнення.

— «Прежде убо словене не имеху книг, но чротами и резами четеху и гатааху, погани суще», — з цяжкасцю прачытаў Сеўка.

— Што? — хорам запыталіся астатнія.

— Чротамі і рэзамі што рабілі? — вырашыў удакладніць Мішка.

— Гатааху... — адказаў Сеўка.

— А тое! Вядома! — з’яхіднічаў Мішка. — Калі мне даць чротаў і рэзаў, я імі як гатаахну!

— І чацеху, — удакладніў Сеўка.

— І чацехну таксама, — дадаў Мішка.

— Крута... — сказаў Сеўка.

— Што крута? — абурыўся Антон, загарнуўшы сваю кніжку. — Ты хоць бы сам зразумеў, што прачытаў?

— Ага, — сказаў Сеўка, — тут пераклад ёсць... Карацей, пакуль у славян не было кніжак, яны пісалі і варажылі рысамі і рэзамі. Мяркуюць, што рысы і рэзы — гэта руны, але гэта не галоўнае! Галоўнае — вось!

Сеўка выцягнуў з кішэні сваю бірульку і прыклаў яе да кніжкі.

— Паслухайце! Тут усе руны намаляваны. Гэта аказваецца, не проста стрэлачка, гэта руна Ветру! «Руна ўзыходжання да вяршыні, руна волі і натхнення, магічнага і паэтычнага». О як!..

— Пакажы-тка ! — падскочыла да яго Лёля. — А ў мяне таксама руна?

— Ого! — прысвіснуў Сеўка, пазіраючы на Лёліну падвеску, — твая так і называецца — Лёля. Гэта руна вады... Напісана, што гэта руна інтуіцыі, ведаў па-за розумам.

— Правільна напісана, — прабурчаў Антон. — З розумам у некаторых месцамі напруга...

— Мне здаецца, я зразумеў, — выгукнуў Сеўка. — У Любы павінна быць руна зямлі, а ў Машы — руна агню.

— Дай пачытаць, — выхапіла ў яго кніжку Маша. — «Руна Крада, руна Агню... Гэта яшчэ і руна раскрывання, руна страты знешняга, наноснага...»

— А ў мяне? — запыталася Люба.

— «Берагіня. Руна Берагіні — гэта руна Багіні-Маці, яна распараджаецца і ўрадлівасцю, і лёсамі ўсяго жывога».

— Дык вось хто ў нас галоўны! — сказаў Мішка. — Вось, ад каго залежаць нашы лёсы! І чаго мы тады да гэтага часу тут сядзім?

— Ды што ты ўсё злуешся, Міш? — запыталася Люба. — Пакрыўдзіўся, што табе руны не дасталося?

— А можа і пакрыўдзіўся! — адказаў Мішка. — Ды і ўвогуле мне ўсё надакучыла! Бегаем, бегаем, нешта шукаем. Я лепш бы капаў. Альбо сцяну разбіў бы.

Люба дастала з сумачкі бутэрброд, які загадзя прызапасіла, і працягнула Мішку.

— На!

Мішка недаверліва зірнуў на Любу, узяў ежу і адсунуў ад сябе энцыклапедыю.

— А ты пачытай пакуль, што я там пра Перуна знайшоў, — сказаў Мішка і куснуў бутэрброд. — Дарэчы, калі ты мяне будзеш карміць, дык мой лёс у тваіх руках, так таму і быць.

— «Пярун, — гучна прачытала Люба, — вярхоўны бог...» гэта мы ведаем... «славяне ўяўлялі яго сабе ў выглядзе немаладога мужчыны з сівой галавой і залатымі вусамі ды барадой...»

— Вой... — ціха сказала Лёля. — Мы ўжо яго бачылі...

— Дзе? — запыталася Люба.

— На даху.

Усе замоўклі. Нават Мішка перастаў жаваць. Ён не мог успрыняць адначасова і бутэрброд, і інфармацыю пра тое, што па даху роднай гімназіі блукае вярхоўны бог старажытных славян.

— А ў вас саміх дах... — нарэшце прамовіў ён, — не таго? Не паехаў?

Машка абурылася:

— А што такога? Дамавікі па кабінетах, кот, які размаўляе, разрыў-трава — усё гэта нармальна, так?

— Ну ты сказала! — запярэчыў Мішка. — То кот, а то... Пярун!

— Слухайце, — раптам прамовіў Сеўка, перакладваючы з рукі на руку свой «Вецер», — а мы ж не проста так усе гэтыя руны знайшлі. Я нават думаю, гэта не мы іх, гэта яны нас знайшлі. Першая ж руна не адкрылася, пакуль яе Лёля ў рукі не ўзяла. І астатнія таксама!

Лёля, Маша і Люба, не згаворваючыся, схапілі свае руны і пачалі ўважліва іх разглядваць. Як быццам нанава знаёміліся.

— Дзіўна, — запыталася Маша ў Сеўкі, — а чаму мая Крада мне не адразу раскрылася?

— Чаму-чаму? — наморшчыў лоб Сеўка. — А! Ну так і ты ж раскрылася не адразу! Калі перастала зануднічаць і пачала шпагай размахваць, дык і руна зразумела — яшчэ той чалавек!

Мішка і Антон зайздросліва ўздыхнулі. Мішка са злосцю пачаў угрызацца ў рэшткі бутэрброда, а Антон уваткнуўся ў кніжку.

— Вы не перажывайце, — спагадліва сказала Люба, — вашы руны вас яшчэ знойдуць, вось пабачыце!

— Ну-тка! — раптам загарэўся Сеўка. — Ганіце ўсе руны мне! Давайце-давайце, не назусім адбіраю!

Дзяўчынкі без асаблівай ахвоты падпарадкаваліся, і Сеўка, звяраючыся з кніжкаю, пачаў раскладваць руны. Праўда, вельмі скора расчараваўся ў сваёй задуме і вярнуў руны гаспадыням:

— Не, тут адны зычныя, ніякага слова не атрымаецца. Давядзецца чакаць Мішкавай і Антохінай рунаў.

Антон тут жа адчуў прыступ надзеі і раззлаваўся на сябе за гэта. Не для яго руны — і не трэба! Ён і без руны тут самы галоўны!

— Хопіць балбатаць! — сказаў ён трошкі больш рэзка, чым гэта трэба было. — Давайце шукаць інфармацыю.

Усе беспярэчна падпарадкаваліся, нават Мішка, паспешліва запіхнуўшы апошні кавалак у рот, пацягнуўся па кніжку. Але наткнуўся на насоўку, якую працягнула яму Маша.

— Гэта кнігі! — зашыпела яна. — Іх нельга тлустымі рукамі мацаць!

— Як была зануда, так і засталася, — буркнуў Мішка.

— Цыц! — Антоха перапыніў сварку ў самым пачатку.

* * *

Каля гадзіны яны моўчкі корпаліся ў кніжках, стараючыся знайсці яшчэ штонебудзь карыснае. Нарэшце Мішка не вытрымаў і загарнуў энцыклапедыю, якую ён адужаў толькі на трэць:

— Не магу больш! Антоха, нават у школе перапынкі ёсць, давай перапынімся.

Антон і сам падумваў ужо пра адпачынак, але не мог жа ён першым здацца.

— Добра, — ён з паказной неахвотаю адклаў падручнік, — дзесяць хвілін адпачываем.

Усе, акрамя Машы, з гатоўнасцю адарваліся ад сваіх кніжак. Маша, падобна, нічога не чула і не бачыла, з галавою паглыбіўшыся ў чытанне.

— Зубрылка! — з пагардаю сказаў Мішка. — Добра, што яна ўнізе была, хоць перад Перуном нас не абняславіла сваім зубрэннем!

Маша не адрэагавала.

— Дарэчы, — задумліва прамовіла Лёля, — калі на даху быў Пярун, дык каго гэта вы вызвалілі з падвала?

Сеўка маланкава выхапіў з кучы прачытанай літаратуры падручнік па гісторыі. Мішка пакутліва закаціў вочы і расцягнуўся проста на падлозе з выглядам: «Рабіце, што хочаце, а я ў столь пляваць буду!»

— Тааак... дзе тут... — мармытаў Сеўка. — Блін, няўжо цяжка было зрабіць поўнатэкставы пошук, як у інтэрнэце... Ага! Вось, славянскія багі... Хто тут у нас жаночага полу? Не, ніводная не падыходзіць!

Сеўка вінавата паглядзеў на Антоху. Той перасмыкнуў плячыма:

— Ну, значыцца, не вельмі важная багіня. Ці ўвогуле, не багіня, а так...

— Яе Паляндра завуць! — нагадала Люба.

— Ніякай Паляндры тут і блізка няма!

— І Паланянкай, — дадала Люба.

— І Паланянкі таксама.

Сеўка раздражнёна з трэскам загарнуў падручнік. Маша ўздрыгнула і адарвалася нарэшце ад чытання.

— Вой, — збянтэжана сказала яна, — тут гісторыя вельмі кранальная. Пра дзяўчынку і палоннага, Кашчэя... Ну Кашчэй — гэта і ёсць палонны на нейкай там мове... Яны...

Маша збіралася ў некалькіх словах пераказаць кранальную гісторыю, але Антон і Сеўка адначасова схапілі яе за руку.

— Палонны? — запытаўся Сеўка.

— Гэта Кашчэй? — удакладніў Антон.

Яны з Лёляю заціхлі, уражаныя здагадкай.

— Ну так, — адказала Маша, і раптам вочы яе пачалі акругляцца. — Дык вы думаеце...

— Вы вызвалілі Кашчэя, — зніякавелым голасам пацвердзіла Лёля.

Мішка, не паднімаючыся з падлогі, пачаў рагатаць.

— Чаго ты рагочаш? — абурана выгукнуў Антон. — Ты хоць разумееш, што вы зрабілі?

— Але ж мы не ведалі! — у сваю чаргу абурылася Люба.

— А галавой падумаць можна было? Перш чым вызваляць немаведама каго...

— Што ты адразу наязджаеш? — узлаваў Мішка.

— Я не наязджаю! — агрызнуўся Антон. — Я проста кажу. — І раптам перайшоў на крык. — Вы што, не маглі параіцца? Вы запытацца не маглі? Мала нам было праблем, дык яшчэ і Кашчэй дабавіўся!

Машка адарвалася ад кніжкі, Люба ўцягнула галаву ў плечы, а Мішка перастаў смяяцца і падняўся, дэманстратыўна паціраючы рукі.

— Ты чаго на нас гарлапаніш? — крыкнуў ён. — Ты ж нас сам у падвал адправіў. У наступны раз я ўвогуле цябе слухацца не буду! Гарлапаніць ён... Камандзір знайшоўся...

Антон увесь падцягнуўся, рыхтуючыся да таго, каб урэзаць нахабніку, і Мішка, зразумеўшы гэта, ужо сціснуў кулакі...

— Антон, паслухай, — як нічога не было запыталася Люба, — а як ты думаеш, чаму Кашчэй назваўся Паляндрай?

Дзяўчынка стала якраз паміж Мішкам і Антонам, прычым так, што яны не маглі дастаць адзін аднаго.

— Адстань, — буркнуў Антон і паспрабаваў зрушыць Любу.

Але дзе там, яна стаяла як скала.

— І чаго ён жанчына? — умяшалася Лёля. — Антон, давай падумаем, калі ласка. Тут патрэбна мужчынская логіка, мы з Машаю без цябе не здолеем.

Лёля ціхенька падштурхнула Антоху да разгорнутага перад Машаю падручніка.

— Кашчэй — ён усюды апісваецца як худы дзед. Відаць, таму яго і не пазналі, як ты думаеш?

Антон паспрабаваў выкруціцца і паглядзець, што там робіць Мішка, і пабачыў, што Люба ўжо адвяла яго за стол і скормлівае яму другі бутэрброд.

Антон зірнуў у падручнік, потым у шчырыя Лёліны вочы, потым зноў у падручнік. Дзесьці ў падсвядомасці мільганула думка пра тое, што яму пудраць мазгі, але з другога боку — як быццам дзяўчынкі папрасілі дапамагчы...

— А Сеўка вам што, не дапаможа? — буркнуў Антон.

— Я без пошуку не працую, — зласліва сказаў Сеўка. — Не ў кожнай кніжцы нават алфавітны ўказальнік ёсць! Як гэтую Паляндру знайсці, проста розуму не дабяру...

— Як жылі старажытныя славяне без інтэрнэта? — з’едліва прамовіў Антон. — Можа, у іх быў спецыяльны бог? Бог пошуку?

Лёля на імгненне задумалася, а потым схапіла Антона за руку.

— Антон! Які ж ты разумнік! Ты — малайчына! Я ж казала, што ты нам дапаможаш! Бога пошуку ў іх, вядома ж, не было, але тут жа бібліятэчны дамавік ёсць напэўна! Бацюхна дамавік, выйдзі да нас, з’явіся! Прымі наш пачастунак!

Лёля падскочыла да Мішкі і амаль вырвала ў яго з рукі рэшту бутэрброда.

— Ну тут я, тут, — пачуўся хрыплы голас з кніжнай паліцы. — Навошта прыйшлі-завіталі? Вой, колькі ж вас! Што ж здарылася? Ніяк інтэрнэт паламаўся?

— Ты ведаеш пра інтэрнэт? — падзівіўся Сеўка.

— А тое! — фыркнуў Бібліятэкавік. — Я ж пра яго толькі і чую! У інтэрнэце — тое, у інтэрнэце — сёе, у вашай бібліятэцы такога няма... Эхе-хе... Хутка дарога сюды бур’ян-травою зарасце...

— Не зарасце, — сказала Маша.

— О! А я цябе ведаю! — радасна паведаміў Бібліятэкавік.

— Мяне Маша завуць, — адрэкамендавалася дзяўчынка.

— Дык, што ж трэба? — запытаўся дамавік.

— Трэба знайсці кніжкі, дзе згадваецца Паляндра. Гэта нешта са старажытных славян, мы кучу кніжак перакапалі...

Бібліятэкавік азірнуў стос на стале.

— Не там шукаеце, — сказаў ён.

— А дзе трэба? — запытаўся Антон.

— А вось цябе я не ведаю, — адмахнуўся Бібліятэкавік, — ты ідзі ў свой інтэрнэт.

— Добра, добра, ён зараз пойдзе, — адцясніла Маша Антона, — а я вось мінулым разам такую цікавую кніжку тут узяла... Бацюхна-дамавік, відаць жа ты мне параіў?

— Вядома я! — раздзьмуўся ад гордасці дамавік. — Я ўсіх сваіх чытачоў ведаю. І калі хто часта прыходзіць, спецыяльна кніжку пад руку падштурхоўваю, я ж ведаю, што чалавеку патрэбна.

— Дык, дзе пра Паляндру шукаць?

— А ты сама падумай, — сказаў дамавік. — Яна ж ПАляндра, ці ж гэта пarуску?

— Не вельмі, — пагадзілася Маша, — па-руску была б ПОляндра.

— Ну вось, — задаволена сказаў дамавік.

— Чакай, чакай, — пачала кеміць Маша. — Паляндра — так бы мы напісалі гэтае слова па-беларуску... Можа, нам у беларускім фальклоры пашукаць?

— Ну вось, бачыш, і сама да ўсяго дайшла! — узрадаваўся Бібліятэкавік. — Дарэчы, нехта мне пачастунак абяцаў?

Лёля зараз жа падсунула Машы хлеб, Сеўка кінуўся да паліц з беларускімі кніжкамі, Люба пад шумок павяла Мішку ў сталоўку, а Антон стаяў каля дзвярэй і ціха злаваўся. Пабіцца не далі, Бібліятэкавік з ім вадзіцца не хоча... Як быццам усё добра складваецца, нібыта амаль яго была ідэя знайсці дамавіка ў бібліятэцы, але адчуванне, што яго ашукалі, не праходзіла.

— Ёсць! — закрычаў Сеўка, і прачытаў, — «Паляндра — багіня псуцця, гніцця і гнілое гарачкі...» Кашмар нейкі! Нам трэба нешта рабіць! Мы ж не можам пакінуць яе на волі!

Антон, якога цяпер усё раздражняла, прабурчаў:

— Чаго ты тут мітынг учыніў? Ты яшчэ плакат напішы: «Смерць Паляндры!»

— Альбо, — ціха сказала Лёля, — «Смерць...»

І яна чакальна паглядзела на Антона са спадзевам, што ён скеміць першым. Аднак скеміць паспеў не толькі Антон, але і Сеўка з Машаю.

— Смерць Кашчэю! — крыкнулі яны ўтраіх.

— У яйку! — пстрыкнула пальцамі Маша.

— ...яйка ў качцы... — працягнуў Сеўка.

— Карацей, — перапыніў іх Антон, — куфар на дубе. Пайшлі!

***Працяг у наступным нумары.***

***Пераклад з рускай Раісы БАРАВІКОВАЙ.***

*Ян РАДВАН*

# РАДЗІВІЛІЯДА,*

## або ПРА ЖЫЦЦЁ І ДЗЕІ, СЛАЎНЫЯ ПОДЗВІГІ БЕССМЯРОТНАЙ ПАМЯЦІ НАЙСВЯТЛЕЙШАГА ПАНА Мікалая Радзівіла, князя ў Дубінках і Біржы Віленскага княства, а таксама наймацнейшага ваяводы войскаў Вялікага Княства Літоўскага

### *Кніга другая*

Чую, як зброя звініць, твая зброя, о ратная Слава!
Зброя спявае, звініць, поле бітвы сабой асвятляе…
Скончыўшы песню адну, я ўжо вычарпаў творчыя сілы,
Моцную стому адчуў… Дык прашу я, славуты Смінтэю[1],
Сэрца маё напаі жыватворнай пярмескай вадою.
Маю патрэбу цяпер у катурнах тваіх, Мельпамена[2].
Песні спрыяйце маёй і натхняйце мяне з Гелікона.
Мудрага Аўгуста панам прызналі лівонцы. Як вынік, —
Бог таму сведка! — спакой дабрадатны заззяў у дзяржаве.
Мірна ды шчасна жылі аб'яднаныя разам народы,
З боку ліцвінаў цяпер не было ўжо ваеннай пагрозы.
Праўда, суровей яшчэ пагражаў небяспекай масковец.
Так завіруху вайны лёс прынёс тым няшчасным народам.
Люты жахлівы Іван панаваў над маскоўцамі грозна,
Небам самім пагарджаў; для сваіх і для ўсіх іншаземцаў
Гэткай пачвараю быў, што страшнейшай не ведаю. Сэрца
Прагным было да крыві. Ад народаў такую навалу
Вы адвядзіце, багі! З нараджэння ён, мусіць, у Фурый
Піў са стыгійскіх сасцоў малако тартарыйскае прагна.
Думаю так, бо наўрад хтосьці іншы для гэтых народаў
Болей абрыдлівым быў. Значыць, Фурыі смагай крывавай
Сэрца яго і душу распалілі ў стыгійскіх сутоннях.
Што я магу прыгадаць? Нечуваныя зверствы тырана?
Як мардаваў грамадзян і саноўнікаў першых сената?
Мноства распусных піроў, гранне трубаў, крывавыя стравы?
Што ж?.. Гарады без людзей, без аратага плодныя нівы,
Край неаглядны, які апусцеў ад бясконцых забойстваў?
Трупы на брамах сядзіб? Ён, шалёны, на звязаных бэльках
Мёртвых, забітых людзей пры ўваходах развешваў… Дык гэтай
Дзікай задумай сваёй ён тыранаў усіх пераплюнуў;
Сёння ж пякельны ён цень, спадарожнік ліхіх алаідаў.

---

* *Пачатак Кнігі другой.*

[1] *Смінтэй* — Апалон.

[2] *Мельпамена* — Муза трагедыі ў антычнай міфалогіі.

Гэтак прызначыў быў лёс, што ўварваўся з вайной у дзяржаву
Люты масковец, і нам не спазнаць Усявышняга волю…
Чым жа, злачынствам якім угнявіла Лівонія Бога?
Ён жа ўсім светам, Адзіны, кіруе і лёсы змяняе…
Хмарай вялізнай ліхой уварвалася войска маскоўцаў,
Хутка агонь узбуяў, як насенне ад подыху Аўстра[1].
Енкі чуваць адусюль, галашэнні і плач па забітых.
Прагнае полымя жне ўсе сады пладаносныя й нівы.
Попел пакрыў гарады, скрозь свавольная зброя лютуе.
Гіне народ, над якім Марс літоўскі раней злітава́ўся.
Хто зможа тут ацаніць вашы страты пры гэткай паразе,
Меру лівонскіх пакут, ліхадзейныя ўчынкі тырана?
Хто пералічыць на слёзы пякельныя, страшныя мукі?
Як распачаць мне аповед, з чаго? Што на потым пакінуць?
Можа, аплакаць цяпер грамадзян, што загінулі ў бітвах?
Можа, забітых дзяцей, мацярынскай крывёю залітых?
Можа, жанок і дзяўчат, паланёных бязбожна? О гора!
Шэрагі знішчаных ніў, гарады ў непадымных руінах?..
Спляміла кроў алтары, а святыні паходнямі сталі,
Бераг шырокі Рубона[2] заліты крывёю забітых…
Гэткай краіны няма, дзе не чулі б пра вашы пакуты!
Краю гаротны! Цяпер ты суцэльнай магілаю стаўся!
Горка аплач паланёных людзей і разбітае войска,
Тых маладых ваяроў, што загінулі з Марсам, — ды мноства!
Дзетак маленькіх аплач, што знямелі ад моцнага страху.
Жудасна бачыць было, як, счапіўшыся з ворагам разам,
Падаў забіты ваяр — так спадае пад подыхам ветру
Свежы пялёстак вясны, і яго для жыцця не адродзіш.
Што стала большай бядой: як, узнятыя выбухам моцным,
Людзі з зямлёй узляцелі ў паветра, не здаўшыся кату
(Прагай гарэлі, зірнуўшы ў шалёныя вочы тырана,
Разам пакінуць жыццё ў ненавіснай няволі)[3], ці, можа,
Горшай была разнастайнасць прыдуманых відаў забойстваў?
Гэтулькі відаў не ведалі нават ліхія тыраны, —
Столькі не ўжыў Фаларыд ды алтар Бузірыда не ўбачыў.
Бура-чырвоная кроў — тут і там, і кругом, і паўсюдна;
Купамі свежых магіл уздымаюцца землі навокал.
Ці ж не занадта сурова на здзек чужаземцу ліхому

---

[1] *Аўстр* — паўднёвы вецер.

[2] *Рубон* — антычная назва Заходняй Дзвіны.

[3] Гэты фрагмент Ян Радван суправадзіў глосай: «Жыхары Вендэна, заклаўшы ў будынак магістрата гарматны порах, узарвалі самі сябе разам з жонкамі і дзецьмі перад небяспекаю [захопу] тырана». Вендэн — горад у Лівоніі (сучасны Цэсіс у Латвіі). Сюжэт пра тое, як грамадзяне, не жадаючы здавацца ворагу, сумесна прымаюць добраахвотную смерць, сустракаецца з часоў антычнасці. У гісторыі старажытнай Літвы падобным зыходам скончылася абарона Пілены (Пулена) у 1336 г. Менавіта гэтае паданне паэтычна апрацаваў Уладзіслаў Сыракомля, зрабіўшы сюжэтнай асновай сваёй паэмы «Маргер». Цяжка сказаць, аднак, пра які канкрэтны выпадак з часоў Лівонскай вайны распавядае тут Ян Радван: адпаведнай па часе інфармацыі няма ў гістарычных крыніцах.

Выдалі ў гневе багі гарады ды прыгожыя замкі?
Гэткую страту прынёс ты, Іван, валадар найлюцейшы.
Грэх адкупаў ты злачынствам, забойства лагодзіў забойствам.
Мусіць, вялікі магістр атрымаў гэткі лёс па заслугах,
Здзівіцца будучы час тым падзеям часоў пракаветных:
Моцныя крэпасці вораг аддаў пад бязбожную ўладу, —
Так у вялікім няшчасці Лівонія ўся заняпала.
Што за ганебная Ата, — не знаю! — узрушыла розум
Гора-нашчадка таго Фюрстэмберга: закрыўся ў Феліне,
Крэпасці дробнай; сваю галаву і надзею народа
Там ён хацеў бараніць. Але ж ясна, што здрадлівы вораг
Націскам моцным муры разбурыў і магутныя вежы.
Вось адчыняецца крэпасць; маскоўцаў, аднак, не хвалюе
Золата бляск; урываюцца грозна, выводзяць магістра.
Спэцкана брудным пяском валасоў сівізна, — што за ганьба!
Так ён, няшчасны, пакінуў айчынныя землі навечна.
Прыклад для ўсіх, як падманная зводзіць людзей Рамнусійка[1].
Плач усчыняецца горкі па цэлай краіне лівонцаў.
З лямантам рукі ўздымаюць, дзясніцай калоцяць у грудзі.
Тая ж выява была, калі Пір, мірмідонцаў сабраўшы,
Выйшаў з агнём і мячом пад муры Іліёна. Праз гэта
З вежы высокай зляцеў у гаротнейшы попел Айчыны
Гектараў хлопчык[2]. Тады пацямнелі ад пылу нябёсы…
Гэтак стаяў уваччу страшны вобраз лівонскай паразы.
Чуліся скрушныя енкі, іх рэха разносіла Дуна[3]
Як па ўзбярэжжы рачным, так па пушчах-лясах неаглядных.
Вось выпраўляюць лівонцы заможных мужоў, каб у гэткіх
Словах прасіць караля і ліцвінаў прыслаць дапамогу:
«Вось надышла на набожны народ дабрародны знянацку
Кара з нябеснага дому ды гнеў непазбежны ад Бога.
О найвялікшы кароль! Мы пакорна тваёй дапамогі
Просім цяпер, бо калі адвернешся ад нас і пакінеш, —
Будзе апошнім той дзень і для нас, і для краю лівонцаў:
Шведы на моры, а тут уздымаецца зброя маскоўцаў.
Скрозь грамадзяне забітыя землі свае пакрываюць…
Разам пакінулі нас і Хвала, і Збаўленне, і Воля,
Слава бацькоў і дзядоў, што ў вяках зіхацела высока.
Мы прыпадаем да ног, о кароль, суайчыннікі нашы
Верацьь табе, дастаткова за ўсе заплаціўшы злачынствы.
Збаў нас ад гэткага ліха — хоць тых, хто яшчэ засталіся!
З засені смерці нас вырві, бо мы — твой народ, і пра гэта
Зоры высокія сведчаць. Не дай, каб над краем узняўся
Люты Масковец[4], плябейскі ўладар ды Эрынія злая
Люду бязвіннага — не! Адвядзі ж ад усіх небяспеку!

[1] *Рамнусійка* — Немезіда, багіня нянавісці.

[2] *Гектараў хлопчык* — маецца на ўвазе Астыянакс, сын Гектара.

[3] *Дуна* — старажытная назва Заходняй Дзвіны.

[4] *Люты Масковец…* — маецца на ўвазе Іван Жахлівы.

Мора прыкрые цябе, абароніць шматлікіх падданых.
Так ты здабудзеш хвалу, будзе жыць твая слава, о Аўгуст!»
Прагай вайны закіпелі ад гэтай прамовы вайскоўцы.
«Безліч злачынных забойстваў! А вораг пад носам! Дык годзе!
Мір, безумоўна, — святы, даражэйшы за ўсе перамогі,
Толькі на сённяшні дзень нам за мір ваяваць давядзецца.
Хопіць затрымак цяпер, ад вайны ўся Лівонія стогне.
Гэй, дапаможам саюзнікам!..» Так і саспела рашэнне[1].
Вера святая сама пачынае вайну, і цяжкую
Браму штурхае рукой, патрабуе адпомсціць маскоўцам.
«З Богам, наперад, браты!..» О, з якім жа гарачым памкненнем
Ратнікі выйшлі, калі вораг кінуўся ў наступ з імпэтам.
Спрытна адбілі напад, з Божай волі цяпер атакуюць.
Лейцы ваеннай улады трымаў Радзівіл. Самі Паркі
Ніткі няспынна прадуць і пра гетмана гучна спяваюць:
«Ён будзе ведаць адзін, як адолець плямёны маскоўцаў;
Ён пераможа ў вайне гэты дзёрзкі народ беззаконны».
Ратнікі выйшлі — і вось новым войскам Лівонія ззяе,
Сталі гаротнымі ўраз і пабеглі на ўцёкі маскоўцы.
Вось перад імі Тарваст[2] — бастыён на шляху небяспекі.
Ён наклікае вайну на муры і на ратнікаў мужных.
З розных бакоў да Тарваста збіралася войска ліцвінаў.
Вораг закрыўся ўнутры, і тады пачалася аблога.
Кліча на бой Радзівіл, прыгадаўшы злачынствы тырана:
«Мірных людзей рабаваць ён не скончыць нідзе і ніколі,
Будзе й далей пагражаць гарадам і краінам шматлікім,
Зброяй жалезнаю скрозь будзе месцічаў нішчыць бязвінных.
Што ж, і цяпер не пасмеюць на ворага ўзняцца ліцвіны?
Вас, каго моцны кароль адарыў супакоем жаданым,
Прагне ён знішчыць цяпер у вайне бессэнсоўнай і лютай!
Кара павінна прыйсці! Вонкі зброю! Муры разбурайце!
Дайце паходні! Крывёй напаіце дзікунскае войска!
Гэтую крэпасць, калі яна браму сваю не адчыніць,
Я разбуру, хоць яна ўмацавана і ма́е гарматы,
Скіну ўсё роўна на дол гэтай крэпасці гонкія вежы!»
Так ён сказаў і ўзмахнуў сваім жэзлам з каштоўным каменнем.
Моцны запал ахапіў ваяроў: пад муры прабірацца
Разам яны пачалі, каб або зваяваць ганарысты
Горад-аплот, або ўсім годнай смерцю загінуць у бітве.
Штурм пачынаюць яны вельмі моцным гарматным абстрэлам,
Гэтак — за ўдарам удар — разбураюць высокія вежы,
Нішчаць аздобу муроў; вылятаюць маланкі ў паветра.
Выбухам гэткім, бадай, нават замак Цыклопа паддаўся б!
Спрэчку гарматы вядуць, хто паболей зруйнуе, і разам
З грукатам ломяць муры. Страшны га́лас пануе навокал.

[1] Пры гэтых радках — глоса: «Мікалай Радзівіл з ліцвінскімі войскамі выпраўляецца на абарону Лівоніі ў 1561 г.».

[2] *Тарваст* — горад у Лівоніі (цяпер — *Tarvastu* у Эстоніі). У ліпені 1561 г. войска пад камандаваннем Мікалая Радзівіла Рудога асадзіла Тарваст, заняты маскоўскім войскам.

Градам ашчэпы ляцяць, мора зломкаў зямлю засцілае.
Стогне ў пакутах зямля, стурбавана высокае неба.
Коцяцца з крэпасці ўніз ледзь жывыя маскоўцы, сваволяць
Страшная лютасць і гнеў гэтых ядраў лятучых (дрыжу я
Сам ад расказаў сваіх). Як нябёсы не знішчаць такога!
Як Усявышні Айцец землятрус не падыме навокал!
Частка ўцалелых муроў пад напорам гарматным трывае:
Высяцца цёмным хрыбтом, як каменныя глыбы кентаўраў;
Выбухаў быццам няма, не зважаюць яны на маланкі;
Буру, што ўзнікла праз іх, пераносяць на дзіва спакойна.
Хтосьці з ліцвінаў шпурляе агнём у муры, надарэмна
Хочучы іх разбурыць ды зрабіць там праход, — немагчыма!
Нават у пекле такім не спыняюць ліхія маскоўцы
Справы крывавай сваёй, адпачыць ад забойстваў не хочуць.[1]
Кінуць стараюцца ўніз хоць якую стралу або піку,
Ядры пускаюць з гармат, падпаліўшы агнём, у паветра.
Чорны і жудасны дым вылятае з байніц, а часам
Льецца гарачы свінец патаемнай гвалтоўнаю смерцю.
Многа магутных мужоў палягло ў абароне Тарваста;
Сцята нямала і тых, хто імкнуўся забрацца на вежы.
Так, як ліцвіны тады аб’ядналі ўсе сілы, каб толькі
Штурмам Тарваст захапіць, разбурыць яго прагнулі моцна, —
Гэткі ж рашучы адпор ім сукупна давалі маскоўцы.
Столькі ў вайне з маскавітам пакладзена сілы і зброі!
Што ж засталося? РАЗВАЖНАЯ ЦНОТА. І гэта нямала:
З ёю знікае адчай — ХАЙ ПАКІНУЛІ МАРС І ФАРТУНА.
Большая СЛАВА заўжды ПРАЗ ЦЯЖКІЯ ПАКУТЫ прыходзіць.[2]
«Троя аж дзесяць гадоў пазірала на мачты данайцаў;
Бралі Месэну спартанцы так доўга, што нават нашчадкаў
Там дачакаліся… Што ж? Ці ж цяпер, пасля першай паразы,
Мне адступіць? І няхай людажэр чыніць новыя бойні?
Хай ён саюзнікаў нашых пазбавіць жыцця беззаконна?
Не, не для гэтага я столькі рупіўся, столькі стараўся!»
Гэтак пра ўсё Радзівіл разважаў днём і ноччу, вагаўся…
Раптам рашэнне прыйшло: скарыстацца з падземнага ходу.
Так, засталося адно — пад зямлёю пралезці. (А зрэшты,
Што ёсць бяссмерце душы? Прага славы свяшчэнная ў сэрцы!)
Росшукі ўпарта вядуць, адкрываюць шляхі там, дзе шляху
Быць не магло — у зямлі, паступова глыбей пранікаюць,
Порах у нетры кладуць патаемна — пагібель для вежаў.
Вось, паглынаючы ўсё, вылятае агонь з сутарэнняў.
Выдала выбух зямля, глыбіню, равучы, паказала.
Жудасна глеба рычыць, уздрыгаецца моцна паветра.

*Пераклад з лацінскай*
***Жанны НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЙ***

[1] Пры гэтых радках — глоса: «Маскоўцы надзвычай вопытныя ў абароне гарадоў».

[2] Глоса: «У вайне нельга губляць надзею».

# ЯК ДАПАМАГЧЫ ТВОРЦАМ?

***На пытанні «Маладосці» адказвае Алесь Бадак, старшыня секцыі па рабоце з моладдзю Саюза пісьменнікаў Беларусі***

**Алесь Мікалаевіч, ці патрэбна сёння падтрымка маладому творцу з боку старэйшых калег?**

Лепш пра гэта, вядома, спытаць у саміх маладых творцаў, але я не сумняваюся, што іх думкі на гэты конт будуць самыя розныя. Нехта чакае падтрымкі, нехта лічыць, што апека з боку старэйшых яму не патрэбна. У маёй рэдактарскай практыцы хапае прыкладаў, калі вершы ці прозу прыносілі не самі аўтары, а іх родзічы альбо знаёмыя, бо тыя саромеліся, хоць, здаралася, ужо выйшлі са школьнага ўзросту. Зразумела, з такімі маладымі асобамі любому рэдактару працаваць лягчэй, чым з тымі, хто перакананы, што сапраўдная літаратура пачынаецца з іх, і не прымаюць ніякіх крытычных заўваг на свой адрас. Але, калі творы цікавыя, арыгінальныя, то, у любым выпадку, нельга заставацца абыякавым да творчага лёсу іх аўтара.

**Чым можа дапамагчы ім секцыя па рабоце з маладымі літаратарамі пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі?**

Кожнаму маладому творцу хочацца, каб яго заўважылі. Для таго, хто толькі пачынае, публікацыя ў аўтарытэтным выданні — ужо вялікі стымул для далейшай творчасці, да самаўдасканалення. Тым больш — перамога ў літаратурным конкурсе ці выхад уласнай кнігі. На гэта — праз пошук таленавітых, перспектыўных аўтараў — і накіравана дзейнасць секцыі ў цесным кантакце з РВУ «Літаратура і Мастацтва». Возьмем, для прыкладу, часопіс «Полымя». У першую чаргу ён друкуе сталых, вопытных аўтараў — у гэтым яго галоўнае прызначэнне. Разам з тым, толькі за апошнія гады ён адкрыў свайму чытачу імёны Паўла Барахвостава, Рагнеда Малахоўскага, Аляксея Бруя, Дар'і Дарошкі, Алеся Спіцына, Маргарыты Латышкевіч і іншых маладых творцаў. Альбо возьмем «Нёман». У ім апошнім часам упершыню з'явіліся творы Аляксея Клакоцкага, Людмілы Шумскай, Аляксандра Рыжова, Дзмітрыя Рыбака, Міхаіла Пегасіна, Жаны Мілановіч, Андрэя Вязава, Вольгі Семяненкі, Вольгі Злотнікавай і многіх іншых. Бадай, ніводзін нумар «ЛіМа» не абыходзіцца без імёнаў маладых творцаў. Больш за тое, школу рэдактарскай працы ў «ЛіМе» праходзілі альбо праходзяць зараз многія маладыя творцы: Янка Лайкоў, Марына Весялуха, Ціхан Чарнякевіч, Алена Мальчэўская, Аляксандра Халопік, Кацярына Бязмацерных... Магу без усялякага перабольшвання сказаць, што раней маладыя пра такое маглі толькі марыць. А калі ўвогуле гаварыць пра нашу ўстанову, то апроч вышэй згаданых імёнаў я магу назваць яшчэ і Віку Трэнас, і Яну Явіч, і Алену Карп, і Дзяніса Марціновіча, і Вераніку Марук... Няма сумнення, што калі ў маладога чалавека ёсць стабільная праца, у яго і з творчасцю атрымліваецца лепш.

**Ці магчыма сёння маладому аўтару выдаць кнігу не за ўласныя сродкі?**

Вядома, магчыма. Калі творы цікавыя, то зусім не мае значэння, напісаў іх малады ці сталы аўтар.

**Каго з маладых пісьменнікаў Вы ўжо сёння, нават пры адсутнасці кнігі, маглі б парэкамендаваць для ўступлення ў Саюз пісьменнікаў Беларусі?**

Калі вярнуцца назад, яшчэ ў савецкую эпоху, то можна пералічыць па пальцах тых пісьменнікаў, каго прынялі ў саюз яшчэ да выхаду іх уласных кніжак. І, наадварот, куды больш было тых, хто да ўступлення ў пісьменніцкую арганізацыю меў па дзве-тры кнігі. Калі мець на ўвазе не буйныя літаратурныя жанры, то ўсё-ткі менавіта кніга дае найбольш поўную і аб'ектыўную характарыстыку творчасці аўтара, а не публікацыі ў перыёдыцы.

**Калі параўнаць з пачаткам Вашай літаратурнай кар'еры, маладым сёння лягчэй ці цяжэй прабіваць свой шлях у літаратуру?**

Гэта не залежыць ад часу, ад эпохі, у якой жывеш. Ва ўсе часы літаратурная дзейнасць — гэта цяжкая карпатлівая праца і для пачаткоўца, і для прызнанага майстра слова. Іншая справа, што сёння менш чытачоў, асабліва ў паэзіі, але гэта ўжо крыху іншая тэма.

**Што б Вы маглі пажадаць аўтарам і чытачам «Маладосці»?**

Аўтарам — натхнення, а чытачам — новых сустрэч з цудоўнымі творамі.



# АНДРЭЙ СУЗІНЬ: «ПІШУ Ў ФОРМАХ, АД ЯКІХ НЕ СТАНОВІЦЦА СУМНА»

***Звычайны хлопец — неардынарны паэт. Думаю, герой нашай сённяшняй гутаркі не пакрыўдзіцца на нас за такое прадстаўленне. Бо, па-першае, пра «звычайнасць» і пра тое, як з ёй змагацца, мы якраз і размаўлялі з Андрэем за столікам ва ўтульнай мінскай кавярні. Па-другое, менавіта на старонках часопіса «Маладосць» яшчэ ў снежні 2007 года ўпершыню былі надрукаваны ягоныя вершы. Акрыццё новага яркага імені для нас, канечне, вялікая радасць.***

***Андрэй Сузінь нарадзіўся ў 1987 годзе ў вёсцы Лазы Талачынскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў гімназію № 1 г. Віцебска, пасля — геаграфічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Цяпер жыве ў Мінску, працуе ў турыстычнай фірме. Любіць глядзець футбол і гуляць у баскетбол, а яшчэ — падчас шматлікіх вандровак — каштаваць экзатычныя замежныя напоі. Слухае рок-музыку.***

***Сёння Андрэй дзеліцца з намі сваім літаратурным і жыццёвым досведам, а таксама ўменнем быць сціплым — ён ні разу не назваў сябе паэтам, а толькі падкрэсліваў, што яму яшчэ расці і расці.***

**Калі ты пачаў пісаць і навошта? Як ты ўвогуле прыйшоў да паэзіі, чым яна цябе ўзбагачае?**

Першыя спробы я рабіў яшчэ малым, толькі гэтага амаль не памятаю, але знаходзіў сшыткі, дзе друкаванымі, няпэўнымі літарамі былі напісаны словы паміж малюнкамі звяроў і птушачак. Пасля быў вялікі перапынак, можа быць, некалькі гадоў, калі я зусім нічога не пісаў. У 9 класе зноў з'явіліся вершы, і хоць яны былі недасканалымі, але з таго часу больш-менш пастаянна займаюся вершаваннем — спадзяюся, мае творы сталі трохі лепш. Паэзія для мяне — накшталт адлюстравання таго, што адбываецца ў мяне ўнутры. Моцнае ўражанне само сабой ператвараецца ў форму верша, кожны з якіх для мяне — мой жыццяпіс, тое, што я перажыў і пабачыў. Канечне, гэта не зусім дзённікавыя запісы, бо за паэзіяй хаваюцца канкрэтныя перажыванні і сітуацыі, зразумелыя толькі мне.

**Якім чынам твая адукацыя географа адбіваецца на тваёй творчасці?**

Мая прафесія хутчэй звязана з тым, што я вельмі люблю вандраваць. Спачатку сядзіш, сядзіш на адным месцы, пасля раптам зрываешся і мкнешся далёка ці не, можа нават проста выбіраешся за горад — такі ўнутраны стан. На творчасці адбіваецца не столькі прафесія, колькі любоў да падарожжаў.

**Шмат у якіх краінах паспеў пабываць?**

Можа, і не шмат у якіх, але наведаў Еўропу, а Беларусь аб'ездзіў амаль што ўсю, хіба толькі маленькія закуткі засталіся, дзе я не быў.

**Ты сам родам не з Мінска, але твая паэзія — гарадская, паэзія мегаполіса. Як ты прыйшоў да ўрбаністыкі, і ці важная для цябе аўтэнтыка, твае карані? Чаму ў вершах толькі гарадскія пейзажы? Чаму няма прыроды, якая цябе акаляла ў маленстве?**

Першыя гады жыцця мы з бацькамі жылі ў вёсцы на Віцебшчыне, але я гэтага не

памятаю. Юнацтва правёў ужо ў Віцебску — менавіта з ім звязаны самыя яркія ўспаміны. У пэўны момант зразумеў, што мне патрэбны горад і я магу жыць толькі ў горадзе, прычым, у чым большым, тым лепш. Калі быў падлеткам, адчуў, што не магу знаходзіцца адзін. Кажуць, паэтам неабходна адзінота, нібыта людзі мастацтва адчужаныя ад грамадства, але гэта не пра мяне. Мне трэба прастора, напоўненая людзьмі ці тымі прадметамі, якія былі зроблены чалавекам. Мне падабаецца рух, дынаміка. Мінск мне найболей падыходзіць. Не аднойчы бываў у Маскве, але чамусьці яна не прывабіла. Берлін і Прага мне аказаліся бліжэй. Усе гэтыя гарады, зрэшты, залішне розныя, каб іх параўноўваць. Тэматыку сваіх вершаў я не кантралюю — прыходзіць само, і калі настане іншы час, я, прыкладам, пачну ідэалізаваць аэрапорты або штосьці іншае — як падкажа душа.

**Якія літаратурныя традыцыі ты бярэш за ўзор? Ці цікавішся заходнееўрапейскімі, сусветнымі кніжнымі навінкамі?**

Чытаю не вельмі шмат, на жаль, бо не заўсёды хапае часу на сістэматычнае знаёмства з літаратурай. Але ёсць звычка чытаць усё, што трапіцца пад руку ў вольную хвіліну, або тое, што парэкамендавалі сябры. Цікаўлюся Кундэрам і Букоўскім. У апошняга мне падабаецца мужчынскі характар яго кніг. Што датычыцца паэзіі, то апошнім часам менавіта ў нас развіваюцца вельмі цікавыя плыні. Пасля вершаў Хадановіча і Глобуса мне хочацца кінуць і ніколі больш не брацца за пяро. Люблю паэзію Маякоўскага, які стварыў нешта прынцыпова новае, хаця яго і лічаць прадстаўніком савецкасці ў негатыўным сэнсе. Ягоныя паэтычныя формы мяне заварожваюць.

**Ці ўдзельнічаеш ты ў сучасным літаратурным працэсе? Запомніліся твае перамогі на Фестывалі аднаго верша. Ці павінен паэт часта выступаць, быць на публіцы? Або яму дастаткова знаходзіцца з самім сабой, пішучы чарговыя тэксты?**

Паэту неабходна выступаць і адчуваць сваіх чытачоў, сваю публіку, бо які сэнс ягонай працы, калі няма для каго пісаць або ён не бачыць чытацкай рэакцыі і не можа зрабіць слушных высноў са свайго наробку, вызначыць і выправіць свае памылкі. Але я сам яшчэ няспелы паэт, каб паўнавартасна ўдзельнічаць у імпрэзах. Калі з маіх твораў атрымаецца нешта прыстойнае, я, напэўна, сам гэта адчую і далучуся да літаратурнага працэсу. Пакуль што я назіральнік. Шмат часу адбірае праца.

**Ты акрэсліў, што паэт не можа існаваць без уласнай публікі, калі ён не бачыць яе, не глядзіць ёй у вочы. Як ты ўяўляеш сваіх чытачоў?**

Хачу, каб маёй аўдыторыяй былі маладыя людзі. Чамусьці мне здаецца, што старэйшаму пакаленню мае вершы будуць не даспадобы — такое адчуванне. Люблю ўрбаністыку, але не люблю акадэмізму. Пішу ў формах, ад якіх не становіцца сумна. Бываюць вершы вельмі правільныя і «гладзенькія» — можна заснуць, пакуль чытаеш. Люблю ўнутраную дынаміку, калі ідзеш за вершам і не ведаеш, што далей.

**Ці павінна быць у пісьменніка філалагічная адукацыя? Ці абавязаны ён адрозніваць, агульна кажучы, ямб ад харэя?**

Ямб ад харэя у прынцыпе можа адрозніць малодшы школьнік. Галоўнае, каб ён вывучыў гэтыя тэрміны, іх нямнога. Але спецыялізаваная адукацыя паэту, мне здаецца, не трэба, як і любому іншаму творцу. Усяго ў гэтым выпадку можна дабіцца самаразвіццём. Канечне, калі ты зможаш папярэдні досвед сваіх калег правільна ўспрыняць, то не абавязкова, думаю, мець «дыплом пісьменніка».

**Але ж табе як географу патрэбна была адукацыя. Ці ўспрымаеш пісьменніцтва як прафесію?**

Не, не ўспрымаю.

**А як можна дасягнуць высокага прафесійнага ўзроўню, калі не маеш тэарэтычнай базы?**

Калі чалавек знаходзіцца ў кантэксце і ўсё бачыць, ён можа набыць веды сам — дастаткова толькі прыкласці пэўныя намаганні. Адукацыя ні ў якім разе не зашкодзіць, але

я паэзію, магчыма, пакуль што не ўспрымаю як прафесію. Гэта хобі. Аддаш усяго сябе сваёй справе — і дасягнеш прафесійнасці. Але я не аддаю. Прызнаюся, што працую не ў поўную сілу. Не стае цярплівасці. Шмат матэрыялу захоўваецца ў чарнавіках. Гатовы буду калі-небудзь прызнаць сваю памылку, але зараз маё жыццё ў іншым.

**Аднак ты, пры ўсім пры тым, не адпрэчваеш магчымасць паэтычнай кар'еры?**

Не, канечне. Ніхто не ведае, што будзе заўтра. Магчыма ўсё. Абы з мяне атрымаўся чалавек, а паэт ці не — тое ўжо іншая справа.

**Ці патрэбна нашай літаратуры папулярызацыя? Калі так, то якія ёсць спосабы?**

Папулярызацыя патрэбна, безумоўна. Тым больш, што літаратура можа быць моднай. Але ёсць адзін момант: ніколі твор высокага мастацтва нельга будзе распаўсюдзіць на кожнага. Літаратура належнай якасці — элітарная. Тое-сёе, нягледзячы на складанасці, мы можам зрабіць. Найперш, канечне, задумацца пра лёс беларускай мовы. Тады стануць вядомыя і наступныя крокі ў папулярызацыі і развіцці нашай культуры.

**Што значыць быць паспяховым? Ці лічыш ты сябе такім, ці імкнешся да гэтага? Якімі трэба валодаць якасцямі, каб дабіцца запаветнай мэты?**

Як толькі чалавек сказаў, што ён паспяховы, ён спыніўся ў сваім развіцці. Поспех — калі дасягаеш таго, чаго хочаш, будзь то жаданні прыватныя ці глабальныя. У залежнасці ад мэты будуць розныя метады яе рэалізацыі. Паспяховы чалавек не толькі ведае, чаго хоча, але і дабіваецца гэтага.

Я сам у працэсе, бо не рэалізаваўся яшчэ ні ў адной са сфер, у якіх планую гэта зрабіць, у паэзіі ў тым ліку. Буду старацца, канечне, але ў літаратуры я яшчэ школьнік, шмат чаго не ўмею або ўмею не так, як трэба.

**Што параіш пачаткоўцам?**

Па-першае, смеласці, каб наведаць рэдакцыю часопіса «Маладосць», бо мне, напрыклад, гэта было вельмі складана, я наважваўся некалькі год. Няёмка было прыйсці і паказаць свой унутраны свет іншым людзям. Па-другое, не спыняцца і не паддавацца так званай зоркавай хваробе, бо творца можа нізрынуцца ў бездань вельмі хутка, калі будзе залішне самаўлюбёным. Прагрэс — гэта, вобразна кажучы, адзін сантыметр у дзень, а дэградаваць можна метрамі і кіламетрамі. Таму не здавайцеся і ідзіце толькі наперад!

***Гутарыла Віка ТРЭНАС***

## *Андрэй СУЗІНЬ*

* * *

Падыдзі да мяне.  
Але асцярожна.  
Не зламай цішыню,  
Што трымае сусвет.  
Ты не хвалюйся —  
Мне  
Ўсё можна,  
Бо я вар'ят,  
Хоць здаецца — паэт.

Падыдзі да мяне.  
Чуеш?  
Гэта сэрца  
Побач з табой  
Поўніць вены —  
Віном.  
Яно любіць цябе.  
А можа — толькі здаецца.  
Бо часам вяршыня  
З'яўляецца дном.

Падыдзі да мяне.  
Не трэба баяцца.  
Не ўсё немагчыма,  
Што дзіўна гучыць.  
Толькі месяц  
У вокнах —  
Нібы папарацы.  
І я яго выключу.  
Няхай свет  
Памаўчыць!

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

# ПРА ГАРАДЗЕНСКІ КЛУБ ПАЭТАЎ, або ЛАБІРЫНТЫ ПРЫВІДНАГА ЗАМКА

***З** часу выхаду ў Беластоку літаратурнага праекта «Лабірынты прывіднага замка» мінула больш за дзесяць гадоў. І гэта сталася адзіным выданнем, што сабрала тыя, безумоўна, цікавыя імёны пад адной вокладкай. Не, гэта не проста кніга вершаў. І тым больш не вершаваны зборнік. Гэта, як мне падаецца, надзвычай яркая прэзентацыя паэзіі гарадзенскіх аўтараў апошняга дзесяцігоддзя прамінулага стагоддзя. Своеасаблівы, увасоблены ў папяровым варыянце (каб захаваўся назаўсёды), перформанс — тварэнне прывіднага замка, дзе ў кожнага аўтара сваё: і лабірынт-схова, і лесвіца-выйсце, і вежа-вышыня. І свая таямніца...*

Каб дайсці да месца, дзе будзе адбывацца дзейства, не трэба спяшацца перагарнуць, пераступіць праз тое, што ў звычайных кнігах называецца прадмовай, напісанай кімсьці, хто ўжо мэтр або такім сябе ўяўляе. Таму часцей тыя прадмовы крыху сумнаватыя. Тут інакш. Бо, па-першае, гэта таксама твор, безумоўна таленавіты, па-другое, ключ, што прыадчыняе лабірынты, без якога проста немагчыма знайсці хоць нейкае разуменне: і што такое Гарадзенскі клуб паэтаў, і па якіх законах-сувязях гэтая аб'ектыўна-віртуальная рэальнасць выбраных стварылася.

Далей зрок мусіць затрымацца (надоўга) на фотаздымку стромай лесвіцы ў адным са старых гарадзенскіх дамоў. Куды вядзе гэтая лесвіца? Зразумела: у Гарадзенскі клуб паэтаў, якога няма і які ёсць. Бо галоўнае, што ёсць яны, паэты, тыя, што зараз, па адным, бо ў тлуме ім не месца, будуць узыходзіць па гэтай лесвіцы. Яны будуць існі сваімі лабірынтамі ў прывідны замак.

Першым да зачараваных чытачоў-гледачоў (незачараваным тут няма чаго рабіць) узыходзіць Анатоль Брусевіч, наймаладзейшы, на той час 23-гадовы паэт, які, аднак, ужо паспеў зняверыцца. І не дзіва: разбуральная стыхія дэкадансу знайшла ў ягонай асобе шчырага і свядомага апалагета. Але паглядзіце, як ён усміхаецца. І вы паверылі, што гэты малады чалавек можа цалкам належаць чаму-небудзь? Абмежаваць сябе нейкімі рамкамі?..

**Д**арма мне не вераць
**Э**ксмоцныя людзі,
**К**алі я смяюся
**А**д суму ў вачах.
**Д**арога праз шэрасць
**Э**кзотыкай будзе,
**Н**адзённасць патушыць
**Т**ужлівы мой шлях.

Згадаем між іншым, што Анатоль Брусевіч непераўзыдзены да гэтага часу рэкардсмен у гісторыі нашага прыгожага пісьменства: сваю першую паэтычную кнігу «Дуэль» ён выдаў у 1992-м, на пятнаццатым годзе жыцця. Малады ўпэўнены голас працягвае:

**Б**ясконцая восень.
**Р**азмытая поўнач.
**У** чорным паветры
**С**івыя вятры.
**Э**легія злосці
**В**аляецца побач,
**І**люзія веры
**Ч**атуе ўнутры.

Так, гэта акраверш, дзе не надта каб далёка схавана самае галоўнае — ён сам і

ягонае разуменне таго, з чым ён сябе пазіцыянуе. Пазней ён будзе гэтак жа проста эксперыментаваць з яшчэ больш складанымі формамі, між якіх акратэлевершы і нават мультыакравершы. Адзін з асноўных матываў, што характэрны эстэтыцы дэкадансу, разгубленасці, няўпэўненасці і няпэўнасці ў варожым чалавеку свеце, у паэзіі Анатоля Брусевіча амаль адсутнічае. Ягоны герой — асоба ўпэўненая ў сабе, варожае акружэнне па-за ім. Ён глядзіць на зямны свет з вяршыні, куды імкнецца, якую сам і стварыў. Адпрэчвае здрабнелае зямное існаванне, якому недасяжны вяршыні, напоўненыя таямніцай нябеснай (размова не ідзе пра хрысціянскія матывы). Але адначасна застаецца цікавасць да жыцця ва ўсіх ягоных праявах, апроч мізэрнасці, непасрэдны ўдзел у ягоных вабнасцях.

Пошук сябе, самаідэнтыфікацыя сябе ў сабе, саматоеснасць — на гэтым шляху ў паэта адбывалася адмаўленне традыцыі, што ўзнікла ў нашай літаратуры з часоў Максіма Гарэцкага, калі матыў раздваення душы стаў вызначальным у творчасці многіх аўтараў.

Наступны паэт — Юры Гумянюк, таксама, як і Анатоль Брусевіч, ад самага пачатку гарадзенскі гарадзенец, бо ўсе астатнія народжаныя хто далей, а хто бліжэй, але не ў Гародні. Эстэт. Толькі б закончыць раман «Апосталы нірваны» і пачаць яшчэ нешта, не менш геніяльнае:

Давай, назаві мяне геніем
проста так, пасярод аўтастанцыі!

бо, зразумела ж, не месца ўпрыгожвае чалавека, а... Правільна! Юры Гумянюк здольны ўпрыгожыць усялякае месца. Гэта ён самаахвярна (верш так называецца — «Самаахвярнасць») падараваў клубу ідэю назвы кнігі, а мастаку-афарміцелю вобраз лесвіцы:

Хай самаахвярнасць залічыцца,
як вынік суіснавання,
а крокі на прывідных лесвіцах
застыгнуць сымболем кахання.

Крокі майстра постмадэрнісцкай паэзіі Юры Гумянюка «застыгваюць» на прывіднай лесвіцы пад шквал апладысментаў, бо на сыходзе з яе паэт галантна падае руку, перадаючы эстафету, адзінай між паэтамі паэтцы Анжаліне Дабравольскай. Яна сапраўды вартая таго, каб быць тут. Яе белыя вершы (тэорыя літаратуры тут ні пры чым) светлыя і сцішаныя, як і яе вера. Тут многа нябеснага, тут асвечаная заўсёднай прагай Красы, Пяшчоты жаночая эмацыйна-вытанчаная ўзнёсласць:

І прагну запытацца на Сустрэчы:
Ці выраклася свету Прыгажосць?

Жанчына пачуваецца сцішана-супакоенай, бо ўжо знайшла тое месца, дзе вечна будзе панаваць каханне. Верш прысвечаны паэтцы Ларысе Раманавай, бо толькі паэткі здольны ў такое паверыць:

А там, па-за светам, —
пяшчота, пяшчота, пяшчота.
А там, па-за светам, —
бяздонне, святло і каханне...

Апошні верш хораша ўпісваецца ў паэтычную Гарадніяну. Мне ж ён бачыцца знакавым. Анжаліка неўзабаве пакінула наш горад, але і засталася тут, бо хіба ж не стаў ён яе «*воляю і лёсам*»? І больш за тое:

Мы —
я і Горад —
станем з двух —
адно.

Адзіны, з кім я не знаёмая з Гарадзенскага клуба паэтаў, — Васіль Дзівашэвіч. Вельмі розны. У вершах знойдзем змрочны пейзаж і гэткае ж змрочнае прароцтва:

Княгіня пэндзлем стварае далі.
Колеру цвілі лясны пейзаж.
Лясныя фарбы дрэвы злізалі.
Нам не сустрэцца. Няўтульна аж.

А побач зусім іншы настрой, з якога так і пульсуе радасна-светлае пачуццё, бясконцая, нястрымная захопленасць: «*Хораша, таемна-ўзнята, // што ёсць каханне, лета, свята...*»

Вытанчана-прыгожы Эдзік Мазько нагнятае змрочную таемнасць. Недарэмна ж выбудаванае ім «спачатку падаецца жытлом манахаў-чарнарызцаў». Але гэта толькі спачатку. Вобразы, якімі насычаны вершы паэта: чорныя пачвары, морак вечнага развітання, ноч на кургане — адводзяць у прывідна-містычнае, ірэальнае. А вось у вершы «Мур» аддадзена даніна

экзістэнцыяльным матывам, калі ўсялякая спроба асобы выйсці, прарвацца, прабіцца натыкаецца на сцяну, за якою выйсця няма. Між натуральна-знарочыстай паэтычнай неўладкаванасці вылучаецца «правільны» верш-прысвячэнне «Багушэвічу», сустрэць які на гэтай паэтычнай дзялянцы крыху дзіўна, але ніяк не «чыста дзеля забавы»:

і Слова Ваша (толькі Ваша Слова)
зрабіла светам і краем край
дало асуджаным на немач зброю
і запаліла ранішні ліхтар

Юрась Пацюпа лічыць (не ведаю, як зараз, але калісьці лічыў), што вершы выразна чытаць непатрэбна, бо тады слухаюць голас, інтанацыю, мелодыю. А тое галоўнае, што хочаш данесці, не пачуюць. Мяркую, сёння гэтая прапазіцыя перагледжана. Самы вялікі прыхільнік Красы ва ўсіх яе праявах, у адзінстве зместу і формы, гэтак зграбна і лёгка нясе «аброк неакласіцызму», што хіба ніхто і веры не дасць, быццам гэта і сапраўды аброк. Хутчэй надзвычай грунтоўныя веды літаратуразнаўцы і мовазнаўцы і, бясспрэчна, талент, з якім можна «вытвараць» (у вышэйшым сэнсе слова «тварыць») усё, што захочаш і як захочаш. Бо лёгка і проста насыціць радок водарамі, адначасна і святлом, і цемрай, калі не кветкі нясцерпна пахнуць, а нясцерпна застацца ўдалечыні ад той, якая (у гэтым часе) адзіная каханая:

Нясцерпна пахне бэз.
Я тут даўно нікога не чакаю,
мінаюць дні, мінаюць без
цябе, святло у цемру адлятае.
Пазбыўшыся упадкаў я адным жыву:
табой адною.

Постаці — гэта звесткі пра аўтараў, што пададзены напрыканцы кнігі. Бо і сапраўды — постаці. Значныя, адметныя ў нашай мастацкай гарадзенскай (ніяк не правінцыйнай!) прасторы.

Святлана МАРОЗАВА

# СТЭФАН БАТОРЫЙ І ГРОДНА

***Стэфан Баторый** — кароль польскі і вялікі князь літоўскі, рускі і жамойцкі з'яўляецца адной з найбольш вядомых і значных асоб у гісторыі Беларусі XVI стагоддзя. Сапраўднае імя і прозвішча Стэфана Баторыя — Іштван Батары або, як правільна будзе па-венгерску, Батары Іштван, бо ў мадзьяраў спачатку пішацца прозвішча, а потым імя. Гэта быў чалавек незвычайнага лёсу, які панаваў у трох краінах і паўсюль зваўся па-рознаму. На Беларусі ж яго называлі Сцяпан Батура. Каралём ён быў толькі адзінаццаць гадоў. Але за час свайго панавання ў Польшчы і Беларуска-Літоўскай дзяржаве, аб'яднаных тады ў канфедэратыўную Рэч Паспалітую, ён праславіўся як палкаводзец, дыпламат, рэфарматар і мецэнат. З найбольш важных яго рэформ трэба адзначыць утварэнне галоўных судоў — Трыбунала Кароннага ў Польшчы і Галоўнага Трыбунала Літоўскага ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве, склад якіх выбіраўся з шляхецкіх дэпутатаў, а не прызначаўся якім-небудзь органам улады. Вялікім крокам у пашырэнні адукацыі ў нашым краі было ўтварэнне Баторыем 1 красавіка 1579 г. Віленскай акадэміі — вышэйшай навучальнай установы, роўнай у правах з Ягелонскім універсітэтам у Кракаве. У гэтай акадэміі вучыліся сотні студэнтаў з Беларусі, Жамойціі і іншых нашых земляў на працягу больш чым 250 гадоў.*



*Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Стэфан Баторый. Партрэт работы Яна Матэйкі.*

## «І ДЛЯ ЧАСОВАГА ЖЫХАРСТВА, І ДЛЯ ВЕЧНАГА СПАЧЫНКУ...»

Кандыдатура манарха на трон Рэчы Паспалітай — Стэфана Баторыя, князя Сяміграддзя (або Трансільваніі), нашчадка старажытнага венгерскага роду — разглядалася ўжо ў 1573 г. Аднак тады быў абраны Генрых Валуа. Падчас выбараў 1576 г. стаўку на Баторыя зрабіла шляхта, прапанаваўшы яму ажаніцца з Ганнай Ягелонкай — апошняй прадстаўніцай дынастыі. Такім чынам ствараласяя бачнасць працягу праўлення Ягелонаў. 1 мая 1576 г. сяміградскага князя ўрачыста каранавалі ў Кракаве, хоць элекцыя была двайной — Сенат абраў каралём Максіміліяна Габсбурга. Аднак той не спяшаўся ў сваю новую сталіцу, а ў хуткім часе памёр.

На трон Рэчы Паспалітай сеў сталы, адукаваны, з выразнымі поглядамі на ролю ўладара ў дзяржаве і на палітычную сітуацыю ў Еўропе чалавек, да таго ж дасведчаны палкаводзец і дыпламат. Стэфан Баторый некаторы час вучыўся ў Падуанскім універсітэце ў Італіі, дзе ў свой час Францішак Скарына абараніў доктарскую дысертацыю. Ён добра размаўляў на нямецкай, лацінскай, італьянскай і, зразумела, венгерскай мовах. А вось па-польску і па-беларуску гаварыць так і не навучыўся. Калі быў абраны каралём, то стасаваўся

з мясцовымі жыхарамі на лацінскай мове альбо праз перакладчыка.

Гародню Стэфан упершыню наведаў у 1579 г. Ён прыбыў сюды 3 лютага дзеля ўдзелу ў пашыранай нарадзе Сената разам з прадстаўнікамі шляхты. Ішла Лівонская вайна. Абмяркоўваўся далейшы ход вайны з Масквой і фінансавы ўклад у яе Вялікага Княства Літоўскага. Гадавы падатак з усяго абшару мог прынесці толькі 150 тысяч злотых. Прысаромленыя станам свайго войска і фінансаў, ліцвінскія магнаты абавязаліся выставіць 10 тысяч жаўнераў. Вырашалі, на які фарпост, што адгароджвае Масковію ад Інфлянтаў, ударыць: Полацк, Вялікія Лукі ці Пскоў. Ян Замойскі, зыходзячы са старога выслоўя «бяры, што бліжэй», раіў ісці на Полацк, які 17 год таму Масква адабрала ў Княства.

Пасля нарады ў Гародні Баторый накіраваў пасла ў Маскву для прапаганды ідэі ўніі з Рэччу Паспалітай. Гэта ідэя прыхільна ўспрымалася шляхецкай супольнасцю і часткай маскоўскага баярства.

2 сакавіка 1579 г. Баторый быў ужо ў сталіцы ВКЛ. З часоў той нарады ён зрабіў Гародню сваёй прыватнай сталіцай. Неспакойны духам правіцель, які нідзе не мог доўга ўседзець, найлепш адчуваў сябе тут, у сэрцы вялізных пушчаў, дзе мог уволю папаляваць. Паляванне было яго ўлюбёным заняткам і найбольшай радасцю. З прыдворнай казны пастаянна выдаткоўвалі сродкі на паляўнічых сабак і сокалаў. Сам кароль, напэўна, самы рухлівы наш уладар. Не было пушчаў і лясоў, якія б Стэфан сам не перамераў на кані ў час падарожжаў.

Яму спадабаўся Стары замак Вітаўта на стромкім беразе Нёмана, і ён загадаў яго перабудаваць. Дзеля гэтага ў Гародню былі выкліканы знакамітыя італьянскія архітэктары: Скота з Пармы і Антонія дэ Грэта. Як пісаў тагачасны храніст біскуп Павел Пясецкі, кароль часцей за ўсё жыў у Гародні, бо насамрэч пазбягаў нямілага сужыцця са сваёй жонкай, каралевай Ганнай, старэйшай за яго на 10 гадоў. А яшчэ Баторый баяўся атрымаць атруту ад жонкі, якая, па чутках, спасцігала ў маці — Боны Сфорца — майстэрства атручвання.

Ганна не мела ўплыву на палітыку мужа, але інтрыгі пляла. Яна, напэўна, прагнула ўлады, але не мела ніякай гарантыі пераджыць Стэфана. Каралева пастаянна хварэла: да даўняй неўралгіі далучылася хвароба сэрца, пастаянна балелі вочы. Калі Ганне споўнілася 60 гадоў, яна пачала рыхтаваць сабе грабовец на Вавелі ў Кракаве. Рыхтавала яго толькі на сябе, бо разлічвала, што ў мужа яшчэ будзе час паклапаціцца пра месца ўласнага пахавання. Многія былі перакананы, што Стэфан пераджыве Ганну. Было б неасцярожна сцвярджаць, што так лічыў і сам кароль. Меў ён дзіўную прагу да тастаментаў — напісаў іх тры.

Мяркуюць, што ў Гародні ў караля была каханка — прыгожая дачка ляснічага, якая нарадзіла яму сына. Пазашлюбнага каралевіча звалі Княбоўскі, а паводле іншай версіі, — Князёўскі. Ён меў у Гародні маёмасць. Пры Жыгімонце III удзельнічаў у вайне з Масковіяй з уласным атрадам у 12 коннікаў і прывёз з-пад Крамля сабе сяброўку. Праўда, яму адмаўлялі ў шляхецкім званні.

Некаторыя сцвярджаюць, што ад той сувязі нарадзіўся будучы цар Дзмітрый I Самазванец. Іншыя лічаць усё гэта плёткамі, не пацверджанымі больш сур'ёзнымі крыніцамі: караля характарызавала нечуваная ў тую эпоху сексуальная стрыманасць. Затое Стэфан не цураўся віна, нягледзячы на просьбы лекараў разбаўляць або запіваць яго вадой. Праўда, ніхто не бачыў яго моцна п'яным.

Кароль любіў Гародню. Тут ён, пазбавіўшыся прыдворных уплываў, мог праводзіць самастойную палітыку. Тут быў бліжэй да тэатра баявых дзеянняў Лівонскай вайны. Налічваюць да 10 прыездаў Стэфана Баторыя ў гэты горад. Неаднойчы ён збіраў тут войска, адсюль рушыў на пераможныя бітвы з царом Іванам Жахлівым. Стэфан лічыў Гародню наймілейшым горадам «і для часовага жыхарства, і для вечнага спачынку».

## ДЗЁРЗКІ ВАЯР, ПРАДБАЧЛІВЫ ЎЛАДАР, ДАСВЕДЧАНЫ ДЫПЛАМАТ

Пасля шасці гадоў знаходжання на троне Баторый стаў адным з найбольш знакамітых манархаў Еўропы, з асобай якога каталіцкі свет звязваў вялікія надзеі. Паходам 1581—1582 гг. на Пскоў ён аслабіў Маскоўскую дзяржаву, адсунуў яе на ўзбочыну еўрапейскай палітыкі і амаль на паўстагоддзя даў



*Стэфан Баторый пад Псковам. Малюнак Яна Матэйкі.*

магчымасць Рэчы Паспалітай праводзіць сваю ўсходнюю палітыку. Перамогі войска, якім камандаваў Стэфан Баторый, ўратавалі Вялікае Княства Літоўскае ад спусташэння і зруйнавання, ад жудаснай акупацыі і ўнутранай палітыкі Івана Жахлівага — апрычніны са знішчэннем як баяр, так і іншых груп насельніцтва, уключаючы сялян. Для беларускай шляхты перамога над Масковіяй азначала не толькі захаванне жыцця і маёмасці, але і мясцовага самакіравання, заканадаўчага прадстаўніцтва, Статута Вялікага Княства Літоўскага 1566 г., асабістых правоў з правам асабістай недатыкальнасці. Весткі пра караля-ваяра, выдатнага стратэга, рэфарматара войска пашыралі людзі пяра, канцылярысты і вайскоўцы.

Баторый пільна сачыў за палітычнымі падзеямі ў Еўропе. Смерць Івана Жахлівага зноў звярнула яго ўвагу на знясіленую апрычнінай Маскоўскую дзяржаву. Войска Рэчы Паспалітай мела тады перавагу над рускім у полі, славілася сваёй конніцай. Кароль вырашыў выкарыстаць сітуацыю і нанесці апошні ўдар, каб потым ударыць на Канстанцінопаль і разбіць небяспечную для ўсяго хрысціянства турэцкую сілу, атрымаць для сваёй краіны доступ да Чорнага мора і аб’яднаць пад уласным скіпетрам падзеленую Венгрыю, вызваліўшы яе ад апякунства Габсбургаў.

На з’ездзе ў Любліне ў жніўні 1584 г. Баторый імкнуўся пераканаць сенатараў у неабходнасці барацьбы за шапку Манамаха. Ён накіраваў у Маскву пасла — мінскага кашталяна Гарабурду — з праектам уніі пад скіпетрам Баторыя. А калі тая не захоча прыстаць, тады нагадаць ёй пра Смаленск і Сіверскую зямлю. Маскоўскія паслы адмовіліся — дзверы для вайны былі адчынены. Але планы караля сустрэлі ў Польшчы адмову. Не падтрымаў яго задумы і Папа Рымскі Грыгорый XIII.

Крыху пазней Баторый агучыў свой дзёрзкі план перад новым Папам Сікстам V Праз папскага нунцыя ён паведамляў у Рым пра намер ударыць на Смаленск і Маскву. Сікст V паабяцаў 25 тысяч скуда на падтрымку гэтых грандыёзных намераў. Пратэстанты распаўсюджвалі чуткі, што Папа выставіў умовай фінансавай дапамогі Баторыю ў вайне з Масквой і Турцыяй знішчэнне пратэстантызму ў Рэчы Паспалітай.

У верасні 1585 г. кароль накіраваўся ў Вялікае Княства Літоўскае, спадзеючыся, што ліцвінскія паны дадуць схіліць сябе да вайны. 2 лістапада ён быў ужо ў Гародні. Цешыўся новым будынкам на Замкавай гары, з якога адкрываўся маляўнічы від на лясы, што шчыльна атулялі горад з усіх бакоў. Тут ён пражыў цэлы год: паляваў, піў і рыхтаваў паход праз Маскву на Стамбул. У Гародні Баторый разгарнуў інтэнсіўную дыпламатычную дзейнасць, рыхтуючы міжнародную глебу для паходу, вёў перамовы з Рымам, Масквой, а таксама з Рыгай, дзе тады абвастрылася каляндарнае пытанне, падтрымліваў пастаянную сувязь з Кракавам і Вільняй.

У жніўні 1586 г. Баторый сустракаў у Гародні пасольства рускага цара Фёдара. Пра ўнію цар гаварыць не хацеў, але дамагаўся працягу мірных перамоў з умовай тэрытарыяльных саступак на карысць Масквы. Гэта было абураючае і нават смешнае жаданне ў момант, калі Масква перажывала не лепшы час, а Рэч Паспалітая ўжо ў думках далучала яе да сябе. Перамовы былі спынены.

Вайна ўжо лунала ў паветры. Ужо шляхецкія соймікі па ваяводствах схіляліся да падтрымкі задум караля і ўхвалялі ўсталяванне новага падатку на вайну. Ужо былі абраны дэпутаты, якія спрыялі палітыцы караля, на вальны сойм Рэчы Паспалітай. Прызначаны на люты 1587 г., той сойм павінен быў стаць трыумфам Баторыя. У Рыме ўжо грузілі на калёсы абяцаныя грошы... Калі раптам, як гром, разышлося па свеце нечаканае паведамленне, што памёр ініцыятар гэтых смелых планаў. 12 снежня 1586 г. манарх, чые спартанскія звычаі і нявыкарыстаная сіла здзіўлялі акружэнне, чый размах задум і энергія зачароўвалі сучаснікаў, спачыў вечным сном у Гарадзенскім замку.

### ЖАЛЕЗНАЕ ЗДАРОЎЕ БАТОРЫЯ — МІФ ЦІ РЭАЛЬНАСЦЬ?

Гіганцкія планы выбудоўваў чалавек, чыё жалезнае здароўе было міфам, ад якога залежала будучыня дзяржавы.

Насамрэч ён усё сваё жыццё пакутаваў. Яшчэ ў маладосці Стэфана ўкусіў сабака, з таго часу ён меў на правай назе цякучую рану. Яе прыпальвалі агнём, рабілі крывапусканне, забаранялі спажыванне моцных напояў — нічога не дапамагала. Медыкі: Бляндрата і Бучэла вырашылі рану не загойваць, а, наадварот, пашырыць, каб даць выхад «злой матэрыі». На назе ўстанавілі прыстасаванне, якое пастаянна бярэдзіла рану, і, як ні дзіўна, з ім кароль адчуваў сябе лягчэй.

У спадчыну ад бацькі Стэфану дасталася яшчэ адна хвароба — эпілепсія. Ужо ў Сяміграддзі ў яго здараліся прыступы са стратай прытомнасці. Рэзкі прыступ здарыўся з ім незадоўга да каранацыі. Тыя, хто былі да караля бліжэй, ведалі рэальны стан яго здароўя, заўважалі, як часам ён трывожна бляднеў. Аднак на паляваннях і войнах ён трымаўся так, нібыта яго нічога не турбавала. Яго паводзіны не пакідалі сумневу ў жалезным здароўі.

Прыдворны медык Мікола Бучэла з Падуі, хоць і быў вялікім майстрам лекарскай справы, але, ведаючы стан здароўя свайго пацыента і баючыся адказнасці, у 1583 г. угаварыў Баторыя прыняць у двор вядомага лекара і філосафа Сімона Сімонія з Луккі. Адносіны паміж лекарамі, якія разыходзіліся ў дыягназе і ў метадах лячэння, складваліся па меры змены стану здароўя караля: пагаршаліся марудна, але безупынна. Бучэла нават хацеў пакінуць двор, але Баторый стрымаў яго, адпісаўшы маёнтак.

У лісце падканцлеру Льву Сапегу ад 23 красавіка 1583 г. Баторый пісаў: «Не думаю, што мне дадзена жыцця яшчэ 10 гадоў», але ён, відаць, з усіх сіл адганяў думкі пра смерць. У той жа час фатальная хвароба стала істотным рухавіком пачынанняў і планаў Баторыя: ён спяшаўся…

Баторый, напэўна, прадчуваў свой канец. 12 мая 1585 г. напісаў тастамент, у якім завяшчаў 96 тысяч злотых Сяміграддзю, 30 тысяч — любімай Гародні, 20 тысяч — на шпіталь для старых салдат, закладзены ім у Варшаве. Баторый на некалькі месяцаў схаваўся ад надакучлівых вачэй у Непаломіцах (на тэрыторыі Польшчы). У канцы лета яму стала лепей, і ён 6 верасня выехаў з Непаломіц праз Корчын-Сандамір-Варшаву ў Гародню, якую ўжо больш не пакінуў. Тут ён далей лячыўся на паляваннях ветрам, марозам, стомай і келіхам добрага віна. Адно з такіх паляванняў, у лютым 1586 г., ледзь не скончылася трагічна. Пад каралеўскімі санямі праламіўся лёд. Манарх цудам уратаваўся ад смерці. Крыкнуў прыдворным, каб ніхто не спрабаваў рызыкаваць жыццём — ісці яму на дапамогу. Сам поўз па ненадзейным лёдзе ў халоднай вадзе да берага. Зноў выклікаў уражанне чалавека надзвычайнай моцы, спрыту і здароўя.

### АПОШНІЯ ДНІ ПЕРАД СМЕРЦЮ

Дні з 25 лістапада па 7—8 снежня 1586 г. (паводле новага календара) былі на Гарадзеншчыне выключна марознымі, ветранымі, імглістымі. Баторыя непагадзь не палохала. Кожную раніцу, пасля сняданку, нягледзячы на забарону прыдворных лекараў, ён выязджаў на паляванне. Вяртаўся зацемна і ледзь адаграваўся каля агню. 3 снежня выехаў на світанку і да прыцемкаў забіў 20 дзікоў. Паляваў і ўвесь дзень 4 снежня.

З апошняга палявання кароль вярнуўся хворы, з ціскам у грудзях і прыступамі задышкі. На наступны дзень застаўся дома. Аднак у нядзелю, 7 снежня, пагрэбаваўшы перасцярогай медыка, зноў сеў на каня і паехаў у Фару Вітаўта на набажэнства. Не ведаў, што сядае на каня апошні раз.



*Сучасны выгляд Старога замка ў Гродне.*

медыкі павінны былі трымаць у таямніцы, і прысутныя ў Гародні сенатары не маглі нават падумаць, што манарх такі хворы, хоць і бачылі, што той слабее. 10 снежня ён прыняў кароннага падканцлера і пярэмышльскага біскупа. Назаўтра паклікаў да сябе літоўскага канцлера Астафія Валовіча разам з падканцлерам Львом Сапегам — саноўнікі пакінулі яго з упэўненасцю, што стан каралеўскага здароўя здавальняючы.

12 снежня медыкі засведчылі ў хворага змучаны выгляд і ліхаманкавы няроўны пульс, чаго раней не здаралася. Яго мучыла страшэнная смага — загадаў прынесці сабе віна. Медыкам адказаў: «Ужо аддаўся ў рукі Бога, падрыхтаваны да смерці, не бярэ мяне яна; гэта з-за таго, што мне гняце галаву і хацеў бы заснуць». Вырашыў назаўтра спавядацца і прыняць апошняе таінства.

Занепакоеныя прыдворныя, нягледзячы на каралеўскую забарону, паведамілі пра небяспеку абодвум канцлерам. Тыя прыбылі ў каралеўскія пакоі і пачалі выгаворваць прыдворным за ўтойванне праўды. Але яны не хацелі пускаць іх далей, у спачывальню. А ў гэты час там паміраў Баторый. Заліты слязьмі Францішак Вясельны выйшаў да сенатараў і правёў іх да нежывога ўжо караля. Была шостая гадзіна вечара…

З 7 па 12 снежня гэта было ўжо паляванне на смерць.

Апоўдні 7 снежня Баторый адчуў сябе кепска, адправіў прыдворных з пакоя і сеў за чарговы тастамент. Задышку і боль суцішаў вінам. Заснуць не мог. Пайшоў у суседні пакой, дзе былі адчынены вокны. Хацеў глытнуць свежага паветра. Але страціў прытомнасць, паваліўся і пабіўся аб лаву. На грукат прыбег прыдворны. Да ложка кароль вярнуўся сам. Казаць пра начны выпадак забараніў.

У аўторак, 9 снежня, пасля вячэры і змены павязак, Сімоній суцешыў манарха: «Будзь, ваша каралеўская міласць, спакойны, ніякай небяспекі няма». «Добра ведаю, што няма», — нецярпліва парыраваў кароль. Але тут жа аслупянеў, закаціў вочы, пачаў скрыгатаць зубамі. Абодва лекары і прыдворны Францішак Вясельны кінуліся вяртаць яго да прытомнасці.

Далей паміж прафесіяналамі не стала аднадумства. Яны не маглі пагадзіцца ні адносна дыягназу, ні ў метадах лячэння. Прыступы з сутаргамі і стратай прытомнасці, якія паўтараліся, адзін з іх прыпісваў астме, другі — эпілепсіі. Спасылаліся і на віно, якое пацыент пастаянна патрабаваў. Згадзіліся на лекі, якія не маглі пашкодзіць ніводнай з хвароб, — паставілі на плечы п'яўкі.

У перапынках паміж прыступамі кароль адчуваў сябе няблага. Стан яго здароўя

## ХТО СМУТКАВАЎ І АПЛАКВАЎ, А ХТО І ЦЕШЫЎСЯ

Назаўтра паведамленне пра смерць Баторыя хутка разышлося па Гародні. З усіх бакоў пачалі сыходзіцца да каралеўскай рэзідэнцыі людзі.

У розныя канцы краіны паскакалі з Гародні кур'еры з данясеннем пра смерць: да Ганны Ягелонкі, кароннага канцлера і вялікага гетмана Яна Замойскага, да біскупаў і сенатараў.

Жалобная вестка разнеслася па ўсёй Рэчы Паспалітай. Многія шчыра смуткавалі.

Яшчэ большы жаль выклікала смерць Стэфана Баторыя за мяжой. У Рыме аплак-

валі яго, бо зноў гінула надзея на стварэнне антытурэцкай лігі. У адзін дзень Сікст V выслаў з Рыма 17 лістоў у розныя бакі свету з інфармацыяй пра смутнае здарэнне. Удаве Стэфана ён паслаў Залатую Ружу — папскі сімвал з VIII стагоддзя. Наколькі папулярным было імя Баторыя за мяжой, сведчыць перадрук пахавальнай прамовы каралеўскага сакратара Крыштафа Варшавіцкага ў шасці гарадах Заходняй Еўропы.

Затое цешыўся аўстрыйскі двор. Радавалася Масква: яна пазбавілася суперніка, які ў хуткім часе збіраўся прывесці яе да пагібелі. «Стэфан Баторый, — пісаў вядомы расійскі гісторык Мікалай Карамзін, — быў адным з найбольш знакамітых манархаў свету, адзін з самых небяспечных ворагаў Расіі, чыя смерць больш нас пацешыла, чым дзяржаве, у якой панаваў, смутку прынесла...»

## ЦІ СВАЁЙ СМЕРЦЮ ПАМЁР КАРОЛЬ?

Блізкае акружэнне караля ведала пра яго хваробу, але вобраз уладара, моцнага і здаровага, у свядомасці людзей не даваў паверыць у паведамленне пра ягоную смерць. Раптоўны адыход выклікаў плёткі пра атручванне. Успомнілі, што Баторый, быццам і не бярог здароўя, але баяўся атруты, у тым ліку з рук сваёй жонкі.

Прыдворных лекараў абвінавачвалі ў нядбайным лячэнні і нават у атруце караля. Падазравалі ўсіх з блізкага акружэння. Вясельнага наогул абвінавацілі ў тым, што не дапускаў прыдворных і сенатараў да каралеўскай асобы і што менавіта ён спрычыніўся да смерці. Найбольш абвінавачвалі Сімонія, які, маўляў, сваёй лекарскай няздольнасцю загубіў манарха. Той хацеў выступіць на канвакацыйным сойме з апраўданнем, але яму не далі слова. Тады па парадзе літоўскага надворнага маршалка А. Радзівіла ён апублікаваў брашуру, у якой апісаў хваробу караля і яго апошнія хвіліны.

У сваю чаргу Мікола Бучэла ўсклаў усю віну на свайго калегу. Даўняя ўзаемная непрыязнасць знайшла аўдыторыю. Паленіка медыкаў расцягнулася на 3 гады і вылілася на 1000 старонак паперы. Так што апісанне хваробы Баторыя атрымалася вялікім, праўда, каламутным, і, хоць з’яўляецца важнай гістарычнай крыніцай, аднак на прычыну смерці святла не пралівае.

Дзеля высвятлення ісціны праз некалькі дзён пасля смерці цела нябожчыка анатаміравалі. Дарэчы, менавіта тады медыцынскае ўскрыццё цела памерлага ў Беларусі было праведзена ўпершыню. Раней царква не дазваляла гэтага. Але пры каралеўскім двары былі людзі з еўрапейскай адукацыяй, і дазвол быў атрыманы. Прысутныя пры гэтым лекары Якуб Гаслаўскі і Мікола Бучэла выявілі, што Баторый «меў ныркі надта вялікія, як валовыя». Але і пратакол ускрыцця не высветліў прычыны смерці, бо гэта было зроблена хутчэй у мэтах бальзаміравання, чым у навуковых.

Скрозь стагоддзі дайшлі да нас тры версіі: сардэчны прыступ, атрута або ўрэмія.

Ці выклікана смерць натуральнымі прычынамі, ці гэта было забойства — адно з пытанняў нашай гісторыі. Вось ўжо пятае стагоддзе трымаецца ўпартае падазрэнне, што кароль быў атручаны. Ён памёр без споведзі і прычашчэння, бо не адчуваў сябе



*Каралеўскі замак у Гродне часоў Баторыя. Гравюра Томаша Макоўскага, 1600 г.*

смяротна хворым. Усе сучаснікі Баторыя пішуць пра ягоную смерць як пра нечаканую і раптоўную.

Урач і гісторык-аматар Ц. Шэўрынг сабраў 13 прыкмет, што сведчаць пра атручванне Баторыя па замове магутных пратэстанцкіх колаў, якія баяліся ўзмацнення каталіцызму пасля заваёвы ім Масковіі. Дасягаючы сваёй палітычнай мэты, як сцвярджае даследчык, Баторый — хацеў ён таго ці не — спарадзіў бы барацьбу гігантаў. Спачатку займеў бы звáду з Габсбургамі, якія карысталіся падтрымкай Папы Рымскага Грыгорыя XIII. Калі Стэфан быў абраны каралём, яго галоўным праціўнікам стала Масква. Патэнцыйнай пагрозай для Рэчы Паспалітай з'яўлялася і Турцыя. Кароль, на думку Шэўрынга, заплаціў жыццём за тое, што ўмацаваў свае пазіцыі ва ўнутранай палітыцы, а пазіцыі Рэчы Паспалітай — на міжнароднай арэне. Магутны ўладар, ініцыятар і арганізатар плана «праз Маскву на Царград», ён памёр напярэдадні ажыццяўлення вялікіх планаў. Польскія гісторыкі згаджаюцца, што калі б Баторыя не атруцілі, Рэч Паспалітая вырасла б у магутную дзяржаву і, напэўна, змагла б пазбегнуць навал, якія на яе абрынуліся.

Так, Баторый меў шмат ворагаў, але ж прычынай яго заўчаснай смерці, хутчэй за ўсё, была ўрэмія. Ён не быў такім геркулесам, за якога сябе выдаваў. Умеў толькі сапраўды па-мужчынску пераносіць пакуты. Ён сам неасцярожна прыспешваў смерць: мёрз іператамляўся на паляваннях, лячыўся вінom.

Вынікі анатаміравання, дакладна апісанага ў снежні 1586 г. і прааналізаванага кракаўскімі прафесарамі медыцыны ў 1934 г., не пакідаюць сумневу: хворыя ныркі. Яго арганізм не змог справіцца з атрутнымі прадуктамі абмену рэчываў. Баторыя забіла віно, моцнае венгерскае віно, ад якога, нягледзячы на перасцярогі прыдворных лекараў, ён так і не здолеў адрачыся. 51 бочка гэтага напою была знойдзена пасля смерці караля ў сутарэннях гарадзенскага замка.

Цела Баторыя доўга спачывала ў Гродне, дзе ён завяшчаў сябе пахаваць. Але ў маі 1588 г. ягоныя парэшткі былі перавезены на Вавель у Кракаве.

*11 гадоў панавання Баторыя моцна адбіліся ў свядомасці народаў Рэчы Паспалітай, Венгрыі і ўсёй Еўропы.*

*З часам гэты кароль стаў сімвалам моцы Рэчы Паспалітай. Калі дзяржава пачала хіліцца да заняпаду, успамін пра энергічнага манарха стаў для народа дарагім, а памяць пра яго паходы амаль святой. У XVIII ст. з'явілася легенда пра апошняга караля-рэфарматара, які змог стварыць моцную дзяржаву і прыпыніць яе ўнутраны распад.*

*«Стэфан Баторый перамог Івана Жахлівага. Памятай сваю гісторыю!», — такі надпіс на гіганцкім плакаце я ўбачыла аднойчы ў цэнтры Варшавы. А што ведаюць пра Баторыя беларусы?*

# КАЛЕДЖ ДЛЯ ТВОРЦАЎ





*Маршрут экспедыцыі «Дарога да Святыняў», якая штогод ладзіцца ў рамках Дня беларускага пісьменства, праходзіў па шматлікіх гарадах і вёсках Гродзеншчыны. Паўсюль нас сустракалі творчыя людзі: фальклорныя ансамблі, танцавальныя калектывы... Мне падказалі, што там, дзе свята, песні і танцы, абавязкова знойдуцца выпускнікі ці сённяшнія навучэнцы* ***Гродзенскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў****.*

*Цяпер шмат увагі надаецца навучанню, разлічанаму на атрыманне грошай. А дзе ж тое духоўнае, што парадуе сэрца ў наш практычны час? Маё знаёмства з калектывам каледжа мастацтваў адбылося вясной, пасля цікавай сустрэчы з чытачамі і супрацоўнікамі Гродзенскай абласной бібліятэкі падчас свята дзіцячай кнігі. Разам з намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце* ***Аксанай Генрыхаўнай Жураўскай*** *і намеснікам дырэктара па вучэбнай рабоце* ***Аксанай Іванаўнай Пярылавай*** *мы прайшліся па класах каледжа. Навучэнцы з гонарам паказвалі свае нацюрморты, а ў класе дызайну яны разам з выкладчыкам разглядалі на ватмане праект, які з цягам часу выпускнікі каледжа змогуць ажыццявіць на практыцы.*

*Сёлета каледжу — 63 гады. За гэты час адбылося шмат падзей, напоўненых адкрыццямі ды перамогамі. Прайшло некалькі рэарганізацый установы, і сёння каледж мастацтваў — адна з вядучых сярэдніх спецыяльных устаноў краіны па падрыхтоўцы спецыялістаў у галіне культуры і мастацтва.*

*Аднаўленне матэрыяльна-тэхнічнай базы, удасканаленне вучэбна-метадычнага комплекса, адкрыццё новых спецыяльнасцей, з'яўленне смелых праектаў — вынік намаганняў усіх, каго лёс у свой час прывёў у каледж на працу. Педагогі не толькі якасна забяспечваюць вучэбна-выхаваўчы працэс, але і ўкладаюць часцінку душы ў працу з моладдзю. Выпускнікі каледжа працуюць выкладчыкамі ў роднай установе, кіруюць прафесійнымі калектывамі, арганізуюць творчае жыццё дамоў культуры ва ўсіх куточках краіны, працуюць у сферы сучаснага дызайну, спяваюць на эстрадзе, іграюць у тэатрах, бяруць удзел у дзейнасці харэаграфічных, харавых і культурных калектываў.*

*Навучэнцы каледжа — пастаянныя дыпламанты і лаўрэаты фестываляў і конкурсаў: «Еўрабачанне», «Славянскі базар», «Еўрафэст», «Зорны дыліжанс», «Песня над Нёманам», «Беларусь — мая песня» і інш. Некаторыя — стыпендыяты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.*

Сёння калектыў каледжа ўзначальвае **Вадзім Сяргеевіч БУТКЕВІЧ**. Ён адказаў на нашыя пытанні.



*Заслужаны дзеяч культуры Беларусі*
*У. М. Сяргейчык*

**— Якія спецыяльнасці ёсць у каледжы і які тэрмін навучання на іх?**

— Набіраем навучэнцаў на два аддзяленні — **«НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ»** і **«МАСТАЦТВА»**. Тэрмін навучання на базе сярэдняй школы — 2 гады 10 месяцаў, а на аснове агульнай базавай адукацыі — 3 гады 10 месяцаў.

Аддзяленне «Народная творчасць» узначальвае загадчык **Наталля Уладзіміраўна Якавец**. Яно было адкрыта ў 1959 годзе як спецыяльнасць. Рыхтуюць на ім па чатырох накірунках: «харавая музыка», «народныя абрады і святы», «фальклор», «інструментальная музыка». Выпускнікі атрымліваюць кваліфікацыю: «Кіраўнік народнага хору. Арганізатар культурна-дасугавай дзейнасці», «Арганізатар культурна-дасугавай дзейнасці. Рэжысёр народных абрадаў і свят», «Арганізатар культурна-дасугавай дзейнасці. Кіраўнік фальклорнага калектыву», «Арганізатар культурна-дасугавай дзейнасці. Кіраўнік інструментальна-аматарскага калектыву».

Аддзяленне «Мастацтва» створана ў 1999 годзе, яго ўзначальвае загадчык **Таццяна Фёдараўна Паўчобат**. Тут рыхтуюць спецыялістаў па чатырох спецыяльнасцях: «Дызайн (аб'ёмны)», «Харэаграфічнае мастацтва (народны танец)», «Мастацтва эстрады (спевы)», «Мастацтва эстрады (інструментальная музыка)», «Акцёрскае майстэрства». Выпускнікі атрымліваюць наступную кваліфікацыю: «Дызайнер, выкладчык», «Артыст, выкладчык», «Кіраўнік, артыст эстраднага калектыву, выкладчык», «Артыст, выкладчык».

У каледжы існуе завочнае аддзяленне, якое ўзначальвае загадчык **Ірына Генадзьеўна Ваўранюк**, на ім вядзецца падрыхтоўка па спецыяльнасцях «Народная творчасць (народныя абрады і святы)» і «Бібліятэказнаўства і бібліязнаўства».

Сфера прафесійнай дзейнасці спецыялістаў — цэнтры народнай творчасці, эстэтычныя цэнтры, дамы адпачынку, аматарскія народныя, інструментальныя, аркестровыя, фальклорныя і тэатральныя калектывы.

За час існавання каледжа падрыхтавана больш за 6 тысяч спецыялістаў, якія працуюць у сферы арганізацыі культурнага адпачынку насельніцтва ў розных раёнах нашай краіны. Сёлета выпусцілі 107 спецыялістаў. Плануем набраць на новы навучальны год каля 100 навучэнцаў.

**— Вадзім Сяргеевіч, на пасадзе дырэктара Вы амаль пяць гадоў. Гэта час, за які можна трымаць справаздачу. Як Вам працуецца?**

— Цікавае мне задалі пытанне. Адкажу шчыра. Вучэбна-выхаваўчую работу з навучэнцамі ажыццяўляе працавіты, таленавіты і высокакваліфікаваны педагагічны калектыў. А гэта больш за 150 выкладчыкаў, якія не толькі аддаюць свае веды моладзі, але і самі бяруць чынны ўдзел у культурна-масавых мерапрыемствах, што праходзяць у горадзе, вобласці, краіне, кіруюць творчымі калектывамі і аб'яднаннямі, вучацца ў іншых і выступаюць на рэспубліканскіх навукова-практычных канферэнцыях, семінарах.

Намеснік дырэктара па працоўным навучанні, у мінулым дырэктар каледжа **Уладзімір Міхайлавіч Сяргейчык** і выкладчык харэаграфічных дысцыплін **Ніна Канстанцінаўна Залеўская** носяць ганаровае званне «Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь», ветэран працы **Ніна Пятроўна Жыткова** — «Заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь». Сярод выклад-

чыкаў ёсць узнагароджаныя ордэнам і медалём Францыска Скарыны: **Уладзімір Міхайлавіч Сяргейчык, Наталля Паўлаўна Парахневіч**, нагруднымі знакамі Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі, уладальнікі прэмій спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за дасягненні ў галіне культуры і мастацтва: **Зоя Іванаўна Паўлава, Аліна Іосіфаўна Буйко**, уладальнікі прэмій Гродзенскага аблвыканкама імя Аляксандра Дубко «За творчыя дасягненні ў галіне культуры і мастацтва» ў намінацыях «Настаўнік года», «Пісьменнік года», «Музыкант года», «Рэжысёр года»: **Мікалай Трафімавіч Бандарчук, Валерый Аляксеевіч Ключэня, Уладзімір Міхайлавіч Сяргейчык, Лідзія Аляксандраўна Шах, Зінаіда Іосіфаўна Малевіч**. Каледж багаты на ветэранаў працы, якія і сёння працуюць у калектыве: **Валерый Віктаравіч Іваноў, Вера Мікалаеўна Гармаш, Алена Мікалаеўна Галубінская, Маргарыта Леанідаўна Антропава, Зоя Аляксандраўна Кур'яновіч, Аляўціна Іванаўна Казакова, Святлана Ісаеўна Кармазіна, Валерый Аляксеевіч Ключэня, Святлана Эдуардаўна Ажарэдава, Ніна Серафімаўна Макарэвіч, Уладзімір Сцяпанавіч Трушко, Тамара Аляксееўна Цвяткова, Надзея Ільінічна Сербул, Наталля Уладзіміраўна Целяпнева, Галіна Сяргееўна Чаркасава, Уладзімір Уладзіміравіч Яндоўскі, Ніна Паўлаўна Домань, Васіль Іванавіч Хандожка.**

Былы намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце **Людміла Кебіч** з'яўляецца старшынёй Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**— Сёння ніводнае свята не абыходзіцца без творчых калектываў. А каго з іх выхавала Ваша навучальная ўстанова?**

— Паказчыкам высокага ўзроўню падрыхтоўкі з'яўляецца тое, што выпускнікі каледжа самі ствараюць творчыя калектывы. Некаторыя з іх носяць ганаровыя званні «Заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь», «народны», «узорны», і сёння былыя ўдзельнікі самі кіруюць імі.

Вядомы ў краіне і за яе межамі ансамбль танца «Белыя Росы» Гродзенскай абласной філармоніі скамплектаваны амаль цалкам з выпускнікоў каледжа, як і група сучаснай харэаграфіі «ТАД» нашай філармоніі, якая атрымала спецыяльную прэмію Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Харэаграфічнае мастацтва». Мастацкі кіраўнік групы — выкладчык каледжа **Дзмітрый Сяргеевіч Куракулаў** — уладальнік спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва «За духоўнае адраджэнне».



*Гонар каледжа — ансамбль «Гарадзенскія карункі».*



*Выпускнік каледжа — Аляксандр Яфімік (Саша Нэма).*

Мы ганарымся поспехамі выпускнікоў каледжа: артыстамі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа **Святланы Жукоўскай, Раісы Грыбовіч, Генадзя Гайдука**, артысткі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы **Юліі Міхневіч**, заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь, мастацкага кіраўніка «Заслужанага аматарскага калектыва Рэспублікі Беларусь "Лялечкі"» **Надзеі Урукінай**, выканаўчага дырэктара Міжнароднага дзіцячага кінафестывалю «Лістападзік» **Генадзя Плескацэвіча**, артыстаў Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору **Лідзіі Рылач, Аксаны Пахабавай, Алены Мінінай**. Нашы выпускнікі працуюць у Дзяржаўным ансамблі танца і ў Дзяржаўным ансамблі танца «Харошкі», у ансамблі народнай музыкі «Свята». **Дзмітрый Карпінчык** (**Герман Цітоў**) — вядомы беларускі эстрадны спявак і тэлевядучы праграмы «Наша раніца» канала АНТ, **Аляксандр Яфімік** больш вядомы на Беларусі як папулярны спявак **Саша Нэма**. Таленавіты кампазітар і эстрадны спявак **Юрый Вашчук** працуе ў эстрадным аркестры пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Нашыя выпускнікі працягваюць навучанне і за межамі краіны.

Навучэнцы каледжа бяруць удзел у міжнародных, нацыянальных, абласных канцэртах і фестывалях. У 2010 г. былы навучэнец, а зараз студэнт Маскоўскага каледжа эстраднага і джазавага мастацтва імя Гнесіных **Віктар Садоўскі** атрымаў дыплом І ступені ў намінацыі «Рок-гітара» і дыплом за тэхніку выканання «Хуткасная ігра» на Усерасійскім конкурсе (г. Масква), а таксама стаў лаўрэатам ІІ ступені ў намінацыях «Электрагітара» і «Акустычная гітара» на міжнародным фестывале-конкурсе «Віртуозы гітары» (г. Санкт-Пецярбург). Іншы наш выпускнік **Іван Белазерцаў** — цяпер студэнт балетмайстарскага факультэта Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі. У красавіку 2011 г. на VII міжнародным фестывалі юных талентаў «Зямля пад белымі крыламі» дыпломам І ступені была ўзнагароджана **Кацярына Ганчарова**, спецыяльным прызам журы — **Улляна Максімава.**

**— Вы з такім захапленнем расказваеце пра міжнародныя конкурсы. Але ж асноўнае поле дзейнасці — нацыянальнае?**

— Вядома ж, без нас тут не абыходзіцца. Год таму на заключным этапе Рэспубліканскага конкурса маладых талентаў «Зорка ўзышла над Беларуссю» ў намінацыі «Народныя спевы» фальклорны ансамбль «Верас» быў узнагароджаны дыпломам лаўрэата ІІІ ступені. Ці прыгадаць VIII Усебеларускі фестываль нацыянальных культур! Практычна ўся рэжысёрска-пастановачная група, якую ўзначальваў **Уладзімір Сяргейчык**, складалася з выкладчыкаў каледжа. У святочных мерапрыемствах браў удзел заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь ансамбль танца «Гарадзенскія карункі» — кіраўнік **Наталля Парахневіч**, стыпендыят спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, народны хор «Верас» — кіраўнік **Сяргей Міхайлавіч Беражноў**, мужчынскі вакальны ансамбль «Гасары» — кіраўнік **Таццяна Віктараўна Макарава**. Без нас не абыходзяцца і «Дажынкі»! А ў 2009 годзе ў Кобрыне мы адзіныя з усіх астатніх каледжаў бралі ўдзел у святочных мерапрыемствах. Галоўным рэжысёрам «Дажынак-2010» у Лідзе выступіў Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь, намеснік дырэктара каледжа **Уладзімір Сяргейчык**. Спынімся на гэтай інфармацыі?

**— Поспехі значныя, навучэнцы таленавітыя. А як паступіць у каледж?**

— Прыём ідзе на конкурснай аснове. Гэта і адзнакі, і талент, які абітурыенты дэманструюць на творчым экзамене. У каледжы працуюць тры дзіцячыя студыі: харэаграфічная, эстрадных спеваў і эстрадных інструментаў. У іх займаецца 60 выхаванцаў. Гэта наш рэзерв. Педагогі ўдзельнічаюць у творчых конкурсах, якія праходзяць у школах, раёнах, шукаюць там таленты. Сярод сённяшніх таленавітых навучэнцаў хочацца вызначыць стыпендыятаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладдзі: **Дар'ю Кудрыцкую, Рубіну Язапчук, Вольгу Горлаву**, стыпендыята абласной прэміі імя А. Дубко **Таццяну Шкрабко.** Доўга можна пералічваць усіх — у нас шмат таленавітых навучэнцаў, якія маюць поспехі, якімі мы, я ўпэўнены, яшчэ будзем ганарыцца.

**— Выступленні калектываў адбываюцца і па-за межамі краіны?**

— Так, навучэнцы бралі ўдзел у XXIV Міжнародным фальклорным фестывалі ў Турцыі. Шмат канцэртаў было ў Польшчы, у тым ліку на свяце «Купалле» ў Белавежы. А Заслужаны аматарскі калектыў ансамбля танца «Гарадзенскія карункі» выступіў у польскім горадзе Бельск-Падляскі. Культурныя візіты спрыяюць развіццю мясцовых традыцый і добрасуседскіх адносін паміж краінамі.

Годна прадставіў нашу краіну на Міжнародным конкурсе песні «Еўрабачанне — 2010» у сталіцы Нарвегіі Осла ансамбль «3+2», у склад якога ўвайшоў і наш выпускнік **Арцём Міхаленка**. Адзначу таксама, што **Мухамед Асланаў** у верасні 2010 года апынуўся ў фінале рэспубліканскага адборачнага туру Міжнароднага конкурсу «Дзіцячае Еўрабачанне — 2010».

**— У сённяшніх умовах трэба і грошы зарабляць. Якім чынам Вы з гэтым спраўляецеся?**



*Выпускнік каледжа — Дзмітрый Карпінчык, ён жа Герман.*

— У культуры грошы не самамэта, але не ўсе нашы канцэрты бясплатныя. На працягу года калектывамі дадзена больш за 120 канцэртаў. Акрамя ўдзелу ў мерапрыемствах, прысвечаных юбілейным датам і ўрачыстасцям, выступалі на прадпрыемствах горада, у медыцынскіх установах, школах, сельскагаспадарчых калектывах.

Студэнцкі будаўнічы атрад каледжа існуе з 1963 года, яго нязменны кіраўнік — выкладчык каледжа, выхавацель інтэрната ***Іна Ільінічна Енджэеўская.*** Штогод навучэнцы выязджаюць на будоўлі Беларусі, Расіі, Украіны. Байцы зводнага студэнцкага атрада, якія працавалі на УДП «Гродзенскі кансервавы завод», па выніках гарадскога і абласнога этапаў конкурсу «Трэці працоўны» сталі пераможцамі ў намінацыі «Лепшы сервісны атрад».

**— Дзякуй Вам, і поспехаў у працы!**

***Гутарыла***
***Валянціна СМАНЦАР.***

# У МОДЗЕ — БЕЛАРУСКАЕ!

*Многія з нас з задавальненнем узімку абуліся ў лёгкія і цёплыя валёнкі, але ведаеце вы, з чаго і як іх вырабляюць ці, дакладней, валяюць? А між тым, у свеце цяпер вельмі модныя і надта дарагія ўпрыгожванні і вопратка з натуральнай воўны, бавоўны альбо лёну, а найбольшай папулярнасцю карыстаюцца ўборы і аксесуары з лямцу, ды і наогул, рэчы «ручной работы». Таму што, па-першае, гэта эксклюзіў, па-другое, такія рэчы нясуць у сабе адметную энергетыку. Нездарма работы вядомай шведскай мастачкі па тэкстылі Гунілы Пэтаў Шоберг можна ўбачыць у шэрагу музеяў і афіцыйных устаноў, а таксама ў прыватных калекцыях. За сваё мастацтва яна атрымала шмат узнагарод і грантаў. Менавіта Гуніла ператварыла старажытную манеру валяння лямцу ў мастацтва. Дарэчы, мастачка вывучала мясцовыя тэхнікі валяння лямцу не толькі ў Манголіі, Турцыі, Туркменіі, Венгрыі, але і ў Беларусі. У нас да гэтай пары ўручную робяць абутак з лямцу — знакамітыя валёнкі. Адметныя майстры ёсць і ў беларускай сталіцы. Напрыклад, Наталля Ярмалінская, якая валяе і робіць незвычайнай прыгажосці аксесуары, аздобленыя традыцыйнай беларускай вышыўкай.*

*Вандруючы па прасторах інтэрнэту, я раптоўна натрапіла на фотаздымкі яе работ. Стыльныя сучасныя аксесуары: пульсэткі, шалікі, рукавіцы, а таксама арыгінальныя пацеркі, зробленыя з натуральных матэрыялаў і ўпрыгожаныя беларускім арнаментам. Усё гэта дзіўным чынам спалучалася з сучаснай вопраткай. Я дазналася, што іх аўтар — Наталля Ярмалінская, з якой я сустрэлася і распытала пра яе творчасць. Шчыра кажучы, зрабіла і для сябе шмат адкрыццяў. Спадзяюся, што вы таксама даведаецеся шмат цікавага.*

**— Наталля, раскажы, калі ласка, пра сваю справу.**

— Я займаюся традыцыйнымі рамёствамі, у прыватнасці, працай з рознымі відамі тэкстылю. Пачынала я з аднаўлення традыцыйнага адзення, так бы мовіць, з рэканструкцыі. Пасля з'явілася патрэба ў творчасці і я пачала рабіць больш сучасныя рэчы з выкарыстаннем традыцыйных дызайнаў і тэхнік.

**— Ці карыстаюцца яны сёння попытам?**

— Так. У апошнія гады попыт на такія рэчы павялічыўся, таму што, у свеце, дзе людзі апранаюцца і выглядаюць аднолькава, хочацца праз свой знешні выгляд паказаць нацыянальную прыналежнасць і адметнасць. Вядома, што традыцыйны строй у сучасным жыцці не заўжды глядзіцца дарэчы, але некаторыя яго элементы могуць добра пасаваць якраз да сучаснага адзення.

**— Хто набывае такія аксесуары?**

— У асноўным моладзь. У першую чаргу тая, якая цікавіцца традыцыйнай культурай. Яны робяць гэта, менавіта каб паказаць сваю адметнасць. Але сярод пакупнікоў ёсць і людзі, якія проста хочуць модна выглядаць.

**— Наталля, адкуль прыходзіць да цябе натхненне?**

— Натхненне... — смяецца. — Ну, вядома, я натхняюся традыцыйным тэкстылем, традыцыйнай арнаментыкай. Гэта настолькі невычарпальная тэма! Увесь час з'яўляецца штосьці новае, і я ўсё больш і больш пачынаю цікавіцца традыцыйным адзеннем іншых краін. Вялікае натхненне мне дае, да прыкладу, шведскі касцюм.

**— Дарэчы, наколькі я ведаю, ты добра знаёмая са шведскай мастачкай па тэкстылі Гунілай Пэтаў Шоберг. Не аднойчы яна праводзіла ў Беларусі майстар класы менавіта па валянні. А як вы сустрэліся?**

— Акурат на адным з такіх майстар класаў. Іх ладзіла Студэнцкае Этнаграфічнае Таварыства. Мы з ёй пасябравалі, бо яна проста фантастычны чалавек з велізарнай колькасцю ўнутранай энергіі, пазітыўны, творчы, які шчыра дзеліцца сваімі ведамі. Мне здаецца, што Гуніла яшчэ і геніяльны педагог: яна вучыць, як зрабіць рэч ідэальнай якасці і бездакорнага дызайну.

Сустракаліся мы з ёй і непасрэдна ў Швецыі. І, прызнаюся, сталі вельмі добрымі сябрамі.

**— Наталля, дзе ты навучалася?**

— Я скончыла Універсітэт культуры, але мая спецыялізацыя не мае аніякага дачынення да той справы, якой я займаюся зараз.

**— Добра, а хто тады быў тваім настаўнікам у гэтай справе?**

— У першую чаргу я займалася самаадукацыяй. Калі з'яўляецца патрэба даследаваць якую-небудзь новую тэхніку, я першнаперш спрабую даведацца аб ёй сама, распытаць іншых майстроў. Мы ўвесь час вучымся адзін у аднаго. Але калі няма гэтага ўнутранага жадання самаўдасканальвацца, то, напэўна, ніхто не навучыць.

**— А ў якой тэхніцы ты працуеш?**

— Я працую з рознымі тэхнікамі. Паколькі займаюся рэканструкцыяй традыцыйных беларускіх строяў, адпаведна займаюся традыцыйным шытвом і вышыўкай, ткацтвам і пляценнем паясоў, а таксама вязаннем, у тым ліку і архаічнай тэхнікай — вязаннем іголкай. Гэта вельмі старажытная тэхніка. Яна існавала ў прынцыпе па ўсім свеце, але больш-менш захавалася толькі ў балцкім рэгіёне — гэта Скандынавія, трохі — Прыбалтыка. Магчыма, што ў нас, на Беларусі, таксама была такая тэхніка, бо ў Віцебску была знойдзена рукавіца, здаецца



X стагоддзя, звязаная іголкай. У нас, вядома, вікінгаў у той час «тусавалася багата». Магчыма, гэта яны яе завезлі. Але ж была такая тэхніка, а значыць, мы таксама можам яе выкарыстоўваць. Да таго ж, я займаюся яшчэ ткацтвам і валяннем.

**— Ці цяжка спалучыць традыцыйнае з сучасным?**

— Напэўна, не. У першую чаргу, трэба ўвабраць у сябе гэтую сістэму арнаменту, прынцыпы традыцыйнага дызайну. А пасля заўжды знаходзяцца нейкія пункты судакранання. І аксесуары, зробленыя традыцыйнай тэхнікай, з традыцыйных матэрыялаў глядзяцца арганічна з сучасным адзеннем. Вядома, не ўсё можна выкарыстаць, але большасць, дакладна.

**— Я, калі глядзела фотаздымкі на тваёй старонцы ў інтэрнэце, упершыню ўбачыла так званыя «пульсэткі». Што гэта за аксесуар такі?**

— Пульсэткі — гэта вельмі зручны і традыцыйны аксесуар, характэрны для народаў



— Сёлета я натхнілася ізноў жа шведскімі пульсэткамі і падгледзела новы для мяне дызайн — дэкор з авечага футра. Мне вельмі спадабалася гэта ідэя, таму што такі аксесуар вельмі прыгожа глядзіцца як з верхняй вопраткай, як дадатковае аздабленне, так і з іншым адзеннем. Таксама мяне натхнілі новыя каваныя іголкі, якія былі зроблены ўручную. Іх мне падараваў мой сябра, шведскі каваль Мікаэль Майзінг. Я вырашыла зрабіць новую серыю пульсэтак у скандынаўскай тэхніцы, звязаць іх іголкай. Гэта, можна так сказаць, мой брэндавы прадукт на гэты год.

Таксама я раблю паясы, як традыцыйныя, так і сучасныя. Зімою я вельмі шчыльна працую з лямцам.

**— А што да адзення?**

— У асноўным я займаюся аксесуарамі: рукавічкі, шалікі, біжутэрыя, таму што адзенне, ведаеце, — гэта вельмі спецыфічная рэч, ніколі не хочацца рабіць масавы прадукт. Абавязкова індывідуальная замова, а для гэтага трэба сапраўды шмат працаваць. Не кожны можа гэта сабе дазволіць.

**— Раскажы, калі ласка, чым адрозніваецца падыход да рамёстваў у нас і, скажам, у Швецыі?**

— У адрозненне ад Швецыі, традыцыйныя рамёствы ў Беларусі ўсё яшчэ захаваліся ў іх аўтэнтычным выглядзе. А ў іх гэты перыяд скончыўся гадоў на 100 раней. І цяпер ідзе пераасэнсаванне традыцыйных рамёстваў у рэчышчы сучаснага дызайну. У нашым усведамленні рамёствы — гэта штосьці традыцыйнае, а яны маюць на ўвазе фактычна любую рэч, зробленую рукамі, не машынай. А што да традыцыйных рамёстваў, то з’явілася нават такое паняцце, як шведскі стыль. Ён спалучае ў сабе ўсе навінкі сучаснага дызайну і традыцыйныя шведскія элементы. У нас такога яшчэ няма. Але жаданне вялікае ёсць, і мы над гэтым працуем.

**— Што ў такім выпадку «беларускі стыль»?**

— Ведаеце, я думаю, што калі наша традыцыйная культура ў савецкі перыяд ішла

Балтыі. Мы іх падгледзелі ў шведаў, але таксама яны ёсць і ў нарвежцаў, літоўцаў, латышоў. І мы проста ў іх закахаліся, таму што яны сапраўды вельмі зручныя і цёплыя, асабліва, калі ў вас кароткія рукавіцы ці шырокія свабодныя рукавы, якія, вядома, прадуваюцца і тады без пульсэтак не абысціся. Ствараючы іх, я паспрабавала спалучыць тэхніку вязання з бісерам і беларускі арнамент, які я брала з паясоў, ручнікоў. Карацей, традыцыйныя беларускія тэкстыльныя арнаменты. Дарэчы, бісер — гэтыя дробныя пацеркі, каралі — вельмі архаічны сродак упрыгожвання. І калі тыя самыя вязаныя пульсэткі з бісерам мы можам бачыць, як элемент туалету XIX стагоддзя, то традыцыйныя бісерныя ўпрыгожанні маюць нават даўжэйшую гісторыю. Сучасны элемент у маіх пульсэтках — гэта, напэўна, матэрыял. Я выкарыстоўваю паўвоўну, таму што пульсэтка павінна ляжаць вельмі шчыльна на запясці, не калоцца. Таксама я стараюся падбіраць пэўны вобраз. Гэта ўжо сучасны падыход да дызайну.

**— Якія аксесуары ты яшчэ робіш?**

шляхам да спрашчэння, да ўніфікацыі, то цяпер беларускі стыль — калі мы будзем ісці ад агульнага да прыватнага. Напрыклад, наша арнаментыка — вельмі важны сімвал. Напэўна, беларускі стыль — гэта ўзгадаць усю глыбінную сутнасць, якая праяўлялася ў нашай матэрыяльнай культуры, і ісці менавіта да таго, што яна значыць у духоўным плане.

**— З якімі матэрыяламі ты сама працуеш?**

— У асноўным, гэта лён, воўна. Я лічу, што сёння выкарыстоўваць натуральныя матэрыялы проста жыццёва неабходна. Вось, напрыклад, лён — і гіпаалергенны, і бактэрыцыдны, і абараняе ад ультрафіялету. Гэта абсалютна ўнікальная тканіна. А воўна — гэта тое, што сагрэе заўжды.

**— Якія колеры выкарыстоўваеш?**

— Мае любімыя — гэта, у першую чаргу, колеры натуральных матэрыялаў, тая ж самая воўна бывае настолькі розных адценняў!

**— Да таго ж, кожны колер мае сваю сімволіку.**

— Так, ёсць шмат розных тэорый наконт сімволікі колеру. Напэўна, ва ўсіх народаў чырвоны — гэта колер жыцця, белы — чысціня і бясконцасць, чорны — таксама добры колер, ды і астатнія кожны «прачытвае» па-свойму.

**— Наконт урыгожванняў, што і з чаго ты робіш?**

— Я люблю рабіць валяныя пацеркі, таму што гэта такі аксесуар, які добра пасуе, як да штодзённага адзення, так і да святочнага. У той жа час, гэта тое, што грэе, дае рысу нейкай хуліганістасці. Таму што гэта не золата і не брыльянты...

**— Але ўсё роўна гэта вельмі стыльна! А ці выстаўляла ты дзе-небудзь свае працы? Увогуле, хацела б зладзіць выставу сваіх работ?**

— Я б не сказала, што займаюся мастацтвам, я займаюся менавіта рамяством. Але, канечне, было б цікава зрабіць нейкую канцэптуальную выставу. Скажам, мне даўно хацелася зрабіць дэфіле з традыцыйнымі строямі ў іх сучасным увасабленні, але гэта досыць складаная праца. Шмат патрэбна часу і высілкаў. Магчыма, калі-небудзь атрымаецца гэта здзейсніць.

**— Штосьці падобнае рабіла Святлана Длатоўская, якая прэзентавала калекцыю адзення, зробленую ў традыцыйна-мадэрновым стылі. І мне здаецца, у вас бы атрымаўся вельмі добры тандэм.**

— Так, напэўна для такіх вялікіх праектаў патрэбна добрая каманда.

**— А калі ты зразумела, што дызайн аксесуараў — гэта менавіта тая справа, якой ты хочаш займацца? Мне здаецца, што для цябе гэта ўжо не хоббі, а філасофія жыцця.**

— Так-так. Напэўна, у нейкі момант, калі я адчула, што мне ўжо больш нічога не цікава, я зразумела, што магу зарабляць



гэтым на жыццё, а значыць, цалкам засяродзіцца на знойдзеным. Але гэта не толькі праца рукамі. Паспяховы майстра мусіць праводзіць майстар класы.

**— Ты ладзіш майстар класы?**

— Так. Некалькі ўжо было. Я спадзяюся, што іх будзе болей. Калі ты дзелішся сваімі ведамі, то прыбытак памнажаецца і не толькі грашовы, але і эмацыйны.

**— Мне здаецца, прыемна дзяліцца вопытам.**

— Зразумела, гэта таксама вельмі важна, таму што я ведаю некалькіх майстроў, якія катэгарычна адмаўляюцца дзяліцца ведамі. Мусіць, гэта проста іх няўпэўненасць у сабе, у тым, што калі хтосьці яшчэ будзе умець тое самае, то ты не зможаш прыдумаць штосьці новае.

Мы зладзілі летнік рамёстваў для гаспадароў аграсядзіб у межах праекта па ўстойлівым развіцці. І выбралі тэму «лямец» у сувязі з тым, што ў гэтым рэгіёне — Мёрскі раён Віцебскай вобласці — багата гадуецца авечак і даўно існуе шапавальны промысел — выраб валёнкаў. Зараз, на жаль, там аўтэнтычных майстроў не засталося, але сітуацыя натхніла нас, каб пачаць працаваць з воўнай, паколькі воўна — гэта экалагічны матэрыял, вельмі цікавы ў працы. Акрамя таго, гэта шлях, каб паказаць мясцовым фермерам, якім чынам яны могуць атрымліваць дадатковы заробак.



Справа ў тым, што ў нас склалася такая сітуацыя, што воўну з авечак проста выкідаюць, «закопваюць у зямлю». Паколькі не ведаюць, як яе перапрацоўваць, у дзяржавы попыту на гэты матэрыял няма. А што з ёй рабіць, мясцовыя гаспадары проста не ведаюць. Дэвіз летніка быў — «хопіць закопваць грошы ў зямлю». Мы працавалі пяць дзён, было нас дзесяць чалавек, засвоілі базавыя тэхнікі валяння, пэўныя прыёмы мастацкага валяння і, напэўна, самы лепшы вынік гэтага летніка быў у тым, што людзі змаглі сябе пэўным чынам творча выявіць. Усе гэтыя жанчыны даволі сталага веку працавалі проста не пакладаючы рук на працягу пяці дзён. І ў іх было столькі імпэту, столькі дзіцячай радасці ў вачах, што я лічу гэта найлепшым вынікам. Спадзяюся, што такі летнік будзе праводзіцца ў Пераброддзі Мёрскага раёна штогод. Мы б хацелі падключыць да гэтага праекта і мясцовых фермераў, каб пэўным чынам развіць вытворчасць нашага мясцовага матэрыялу, я маю на ўвазе воўны. Паколькі нават нашыя дзяржаўныя камвольныя фабрыкі амаль усе працуюць з імпартным матэрыялам. У асноўным гэта воўна з Расіі, з Усходу, але ў нас ёсць свая, і наш шапавальны промысел таксама мае вельмі вялікую гісторыю — не хацелася б забываць свае мясцовыя традыцыі.

**— Ёсць планы на будучыя праекты?**

— Так. Ёсць ідэя праекта па падрымцы менавіта фермераў, якія займаюцца авечкагадоўляй. Для таго, каб навучыць іх працаваць з воўнай, стварыць для іх пэўны рынак продажу. Але для таго, каб вырабляць уласны матэрыял, неабходна абсталяванне, часальныя машыны. Што можна зрабіць?



Мне здаецца, варта было б зацікавіць, у першую чаргу, моладзь, даць ёй магчымасць навучыцца прыёмам мастацкага лямцу, даць веды па дызайне, праводзіць майстар класы, выставы, летнікі, святы, прысвечаныя старажытнаму рамяству. Гэта, так скажам, падтрымка маральная, але падтрымка фінансавая таксама неабходна. Фактычна, адна часальная машына выратавала б цэлы рэгіён. Калі раптам знойдуцца спонсары, зацікаўленыя ў захаванні традыцыйнай культуры, было б вельмі здорава пачаць з імі супрацоўнічаць.

**— Дарэчы, валёнкі зараз у модзе, як кажуць.**

— Гэта так. Людзі пачалі вяртацца да традыцыйных дызайнаў і экалагічных матэрыялаў. Вы бачыце, якую папулярнасць набылі аўстралійскія угі, выработныя з натуральнай аўчыны. Але фактычна гэта іх мода, а наша мода — гэта валёнкі. І валёнкі, зробленыя ўручную, зусім іншай якасці, чым фабрычныя. Яны абсалютна не прапускаюць ваду, яны больш пластычныя, лепш сядзяць на назе. І таксама даюць больш магчымасцей для ўнікальнага дызайну. Я ведаю, што ў Расіі ўжо некалькі прадпрыемстваў займаюцца вырабам дызайнерскіх валёнак, і гэтыя эксклюзіўныя рэчы маюць даволі высокія кошты і карыстаюцца велізарным попытам. Пры ўсім пры тым, што ў нас яшчэ ёсць майстры, якія могуць рабіць валёнкі ўнікальнай якасці, якая была гадоў 50 таму, калі іх рабілі не на адзін год, а хаця б на 20! Канечне, падтрымаць такіх майстроў, наладзіць з імі супрацоўніцтва, распачаць вытворчасць калекцыі эксклюзіўнага зімовага абутку з нацыянальным каларытам, мне здаецца, што гэта быў бы вельмі перспектыўны накірунак.

***Гутарыла Алёна ЗЕНЧЫК***

*На фотаздымках —*
*Наталля ЯРМАЛІНСКАЯ*
*і яе вырабы*






## САЛАВЕЙ

Крытык фарсісты, модны,
Каб укусіць зласней,
Дзяўбе, што самы свабодны
Між нас, песняроў, — салавей.

Даруйце, сябры паэты,
Ад вашага я імя
Спытаўся пра гэта
У салаўя.

«Люблю і слаўлю свабоду, —
Згадзіўся спявак лясны, —
Яшчэ слата, непагода
І не чуваць вясны,

А я ўжо з далёкага выраю
Лячу на радзіму сваю
І песню самую шчырую
Роднаму сонцу пяю,

Хоць праз туманы густыя
Яшчэ не прабіўся прамень,
Хоць голас за ноч застыне
І ледзьве адыйдзе за дзень,

Хоць шорсткімі языкамі
Вылізвае снежны сувей
Лёд, учарнелы, як камень,
Намёрзлы крынічны глей.

Узлесак крупой прыцярушвае,
А глянеш — зусім замяло,
Але і ў холадзе мушу я
Жаданае славіць цяпло...»

Не, салавей не жаліўся
І не пажалюся я,
Рады, калі пахвалішся
І ты, можа, песня мая,

Што ў перадвеснюю замяць,
У сквіле халодных завей,
Грэла людскую памяць
Аб тым, як пяе салавей.

Васіль ВІТКА

6

*«Маладосць» № 6, 1958 г.*

Расціслаў БЕНЗЯРУК

# СЕМ УРОКАЎ МУДРАЦА

***У** маі споўнілася 100 гадоў са дня нараджэння Васіля Віткі. Я меў шчасце ведаць яго, назваць сваім настаўнікам. Да 95-годдзя слаўнага пісьменніка мы з ягоным сынам Вісарыёнам Цімафеевічам Крысько выдалі кніжку абразкоў «Жыў на свеце дзед Васіль».*

*Стогадовы юбілей падказаў мне напісаць успаміны, якія прапаную часопісу «Маладосць».*



Слынны пісьменнік Васіль Вітка (Цімох Васільевіч Крысько) і сапраўды вёў на Случчыне, у Мялешкаўскай школе, урокі. Іх паказвалі па тэлебачанні. Але часцей урокі грамадзянскасці, чалавечнасці і дабрыні атрымлівалі тыя, каму пашчасціла ведаць яго, сустракацца з ім.

Калі коратка трэба было б ахарактарызаваць Васіля Вітку, я назваў бы адным словам — Мудрэц. Ссівелыя, аж да белізны, валасы, разумны погляд з-пад інтэлігентных акуляраў, кожнае слова як у размове, так і творах — важкае і трапнае. Такім я ведаў і ўспамінаю сягоння Цімоха Васільевіча.

### Урок першы

### ВУЧЫЦЕСЯ Ў СУХАМЛІНСКАГА

Студзень 1970 года. Я першы раз пераступіў парог рэдакцыі часопіса «Вясёлка», які рэдагаваў Васіль Вітка. Прынёс некалькі апавяданняў, адрасаваных маленькім чытачам. Сур'ёзна і добразычліва разбіраў іх Алесь Пальчэўскі.

Васіль Вітка, які да гэтага быў заняты сваімі справамі, адарваўся ад чытання і запытаў:

— Што вы ведаеце пра Сухамлінскага?

Я ў той час працаваў настаўнікам на Палессі, чытаў артыкулы вядомага педагога. Так і адказаў Цімоху Васільевічу.

— А ці ведаеце, што Васіль Аляксандравіч піша апавяданні для дзяцей? — хітравата ўсміхнуўся Вітка. — І паглядзіце, як піша!..

Цімох Васільевіч падаў мне свежы нумар «Вясёлкі», які пах яшчэ друкарскай фарбаю, з апавяданнямі Сухамлінскага. І зараз, калі чытаю Віткавы словы пра Васіля Аляксандравіча: «Тонкае адчуванне паэзіі маленства, глыбокае пранікненне ў псіхалогію дзіцяці адразу ж выявілі ў ім талент дзіцячага пісьменніка», мне чамусьці здаецца, што яны былі сказаны яшчэ тады, пры першай сустрэчы.

— Калі навучыцеся гэтак пісаць, як Сухамлінскі, — сказаў на развітанне Цімох Васільевіч, — тады можаце лічыць сябе дзіцячым пісьменнікам...

Пазней, купіўшы кніжку В. А. Сухамлінскага «Блакітныя жураўлі», у якой былі сабраны апавяданні, казкі, прыпавесці і

абразкі выдатнага педагога, я зразумеў, як высока Вітка падымаў планку перад творчай моладдзю, заклікаючы яе вучыцца ў Сухамлінскага.

### Урок другі

### ЯК ЗНАЙШЛІ «ЗАЙЦАЎ КАЖУШОК»?

Прайшоў год. Ізноў студзень, у школах канікулы, і я еду ў Мінск. У рэдацыі «Вясёлкі» мяне сустрэў адзін Васіль Вітка. Ведаючы, што я прыехаў здалёку, пасадзіў насупраць і прапанаваў:

— Чытайце, што прывезлі...

І я стаў чытаць. Адно апавяданне, другое, трэцяе... Вітка слухаў уважліва, не перапыняў. Калі скончыў, спытаў:

— І ўсё?..

Я зразумеў, што апавяданні не спадабаліся галоўнаму рэдактару, адчуў, як у адзін момант перахапіла горла, і ледзьве выдавіў:

— Ёсць яшчэ... дзве казкі...

— Прачытайце, калі ласка!

Першая казка называлася «Зайцава футра». Па тым, як я чытаў, мяняўся Цімох Васільевіч. Ён то здымаў акуляры, праціраў шкельцы, быццам тыя ўраз запатнелі, то зноў ускладаў. Рукі яго рухаліся, а твар ажывіўся. Затым Васіль Вітка ўпэўнена сказаў:

— Гэта лепшае з таго, што вы сёння прачыталі, — і праз хвіліну: — А чаму «Зайцава футра»? Футра — у лісы, у мядзведзя, а ў зайца — кажушок. Так-так, кажушок. Падумайце: «Зайцаў кажушок», — і дзіўна прыцмокнуў языком, мусіць, ад сваёй знаходкі.

Я прачытаў і другую казку «Яблыня». Яе таксама ўхваліў рэдактар. Параіў дапрацаваць абедзве і прысланць у «Вясёлку».

Ужо ў красавіцкім нумары часопіса быў надрукаваны «Зайцаў кажушок», а крыху пазней — і «Яблыня». Неўзабаве з лёгкай Віткавай рукі казка «Зайцаў кажушок» з'явілася ў школьным падручніку.

### Урок трэці

### АДКУЛЬ ВІТКАЎ ПСЕЎДАНІМ

Не, ні тады, ні значна пазней не хапіла ў мяне смеласці спытаць Цімоха Васільевіча, калі і як узнікла ў яго жаданне падпісваць свае творы псеўданімам. Значна пазней, калі мы з Віткавым сынам — Вісарыёнам Цімафеевічам Крысько — працавалі над кнігай «Жыў на свеце дзед Васіль», я спытаў пра бацькаў псеўданім.

У лісце прамога адказу не было, але Вісарыён прывёў два ўрывачкі з бацькавых лістоў да маці: «14.03.44 г. Напісаў новыя вершы, і, што галоўнае, з Цімоха Крысько стаў Васіль Вітка». І другое: «28.03.44 г. Выслаў табе № 2 "Беларусі". Там змешчаны два мае вершы пад псеўданімам».

Значыць, у гады ваеннага ліхалецця Цімох Васільевіч паклапаціўся, каб нават псеўданім разіў ворага. Само імя Васіль паэт узяў у бацькі — Васіля Максімавіча, а прозвішча — ад дыялектнага слова «вітка». Гэтак на роднай яму Случчыне, дый не толькі там, называлі вяху — высокую тычку са шматком сена ўверсе, якой аддзялялі ўчасткі, надзелы.

Ёсць і гістарычнае тлумачэнне: з часоў Грунвальда нашы продкі «вогненнымі віткамі (віцамі)» называлі спецыяльныя каралеўскія граматы, якімі падчас вялікай небяспекі склікалі сялянскае апалчэнне. Каралеўскі пасланец на кані з запаленай віткай на дзідзе нёсся па гарадах і весях, абвяшчаючы пра бяду.

Такім чынам, палымянае Віткава слова клікала землякоў-беларусаў на бязлітасную барацьбу з ненавісным ворагам. Гэтае імя даўно ўжо заняло пачэснае месца ў нашай літаратуры. Яго пацешкі, скорагаворкі, загадкі, казкі палюбіліся малечы, увайшлі ў падручнікі і па сёння выхоўваюць хлопчыкаў і дзяўчынак.

### Урок чацвёрты

### МАГІЯ СЛОВА

У далёкія 70-я гады мінулага стагоддзя, напрыканцы сакавіка, у час вясновых канікулаў, праводзіліся Усесаюзныя тыдні літаратуры для дзяцей і юнацтва. У Брэсцкі абласны інстытут, дзе я быў на

курсах перападрыхтоўкі, прыехала група дзіцячых пісьменнікаў з розных рэспублік Савецкага Саюза. Беларусь прадстаўляў Васіль Вітка. Вёў вечарыну Уладзімір Калеснік.

Выступоўцы гаварылі цікава, чыталі свае творы. Калі падышла яго пара, Вітка сказаў пра вялікі абавязак настаўніка перад грамадствам за выхаванне падрастаючага пакалення, пра неабходнасць зазірнуць у дзіцячую душу, дайсці да сэрца. Бо ніхто гэтак, як малыя, не вераць у цудадзейную сілу слова. І прывёў лічылку, якая, перажыўшы стагоддзі, дайшла да нас:

Ены бэны такі пакі
Орбы торбы енцы смакі
Евус дэвус кут натэвус —
Старой бабе за печ спаць!

— Нічога, апроч апошняга радка, — гаварыў тады Вітка, — не зразумела. Мабыць, таму лічылка жыве, што ў ёй ёсць самае галоўнае для дзіцячай гульні — магія слова, магія таямнічасці.

Прачытаўшы гэтую лічылку, сын мой Анатоль аднойчы заявіў:

— Трэці радок можна таксама расшыфраваць... «Евус дэвус кут натэвус» — скажоная лацінская фраза: «Езус Бог любіць нованароджанага». Гэта сведчыць, што з'явілася вельмі даўно. Сотні і тысячы разоў паўтаралася, у тым ліку і дзіцячымі вуснамі, страціўшы свой першапачатковы сэнс...

Затым Вітка прачытаў лічылку сваіх унучак:

Из-за горки катится
Голубое платьице.
На боку зеленый бант —
Меня любит лейтенант.
Лейтенант молоденький,
Звать его Володенькой.
Через месяц, через два
Буду я его жена.
Он жену не полюбил,
Взял топор и зарубил.
А жена не умерла,
Взяла сумку и ушла.

І гэтая сучасная лічылка, як зазначыў Цімох Васільевіч, складзена самімі дзецьмі. Бо ў ёй, нягледзячы на трагічную сітуацыю, усё канчаецца аптымістычна, што характэрна для дзіцячай фантазіі.

У той час, як выступаў Васіль Вітка, на двары бушавала навальніца. Раптам грымнуў гром — можа першы ў тым годзе. У інстытуце згасла святло.

— Вось бачыце, наваражыў! — усміхнуўся Уладзімір Калеснік.

### Урок пяты

## ЯК АДЗЕННЕ НАВЫРОСТ

Снежань 1975 года. Мы ў Доме творчасці беларускіх пісьменнікаў у Каралішчавічах. На гэты раз тут сабраліся маладыя літаратары, якія пішуць для дзяцей.

У адзін дзень да нас прыехалі Алена Васілевіч, Васіль Вітка і Вера Палтаран. Цімох Васільевіч расказваў пра майстэрства дзіцячага пісьменніка:

— Калісьці нам куплялі адзенне навырост, бо за адзін год не зносіш. Для дзяцей і пісаць трэба гэтак жа, як для дарослых, толькі крыху з хітрынкай. Тады і бацькі возьмуць што-небудзь для сябе...

Мы слухалі Васіля Вітку засяроджана. Словы аж звінелі добрай усмешкай.

— Лірыкі, — казаў, між тым, Вітка, — праяўляюць свае здольнасці ў маладым узросце, а дзіцячыя пісьменнікі потым, як становяцца бацькамі. Гэта першая ступенька. Вышэйшая — калі становяцца дзядамі. І найвышэйшая — як прыходзіць пара быць прадзедамі. Я пакуль не прадзед, а таму спадзяюся, што мая галоўная кніга яшчэ наперадзе. Гэта па-першае, а па-другое, дзіцячы пісьменнік павінен мець багаты жыццёвы вопыт. Відаць, не выпадкова, што выхаванне малых спрадвеку давяралі бабулям і дзядулям. А казка — гэта народная педагогіка, якая будзе выхоўваць вечна. Хаця бываюць і выключэнні...

І Цімох Васільевіч расказаў пра тое, што вядомую казку «Канёк-Гарбунок» Пётр Яршоў склаў у дзевятнаццаць гадоў. Пасля надрукаваў шмат твораў, у тым ліку і раманаў, а ў памяці людской так і застаўся аўтарам «Канька-Гарбунка».

Янка Маўр у свае амаль дзевяноста гадоў па характары заставаўся дзіцем. Хто блізка не ведаў яго, здзіўляўся, што Маўр мог залезці пад стол, хаваючыся ад доктара, які па стану здароўя забараніў яму прыходзіць у Дом літаратара.

— Дык што, Цімох Васільевіч, загадаеце гэтым маладым хлопцам і дзяўчатам

не пісаць твораў для дзяцей, пачакаць, калі стануць дзядулямі ды бабулямі? — усміхнулася Алена Васілевіч. — Дык і вы яшчэ дзедам не былі, як напісалі казку «Вавёрчына гора»?

— Казка ўзнікла па неабходнасці, — прызнаўся Вітка. — Дзедам, і праўда, я яшчэ не быў, а бацькам ужо быў. Паехалі мы з сынам Вісарыёнам, якога ўсе блізкія звалі Вілікам, да бабулі ў вёску. Прыехалі ў Слуцк раніцай, а да маіх Еўлічаў транспарту не было. Пайшлі пеша, а гэта кіламетраў дванаццаць, не менш...

Вілік стараўся не адставаць, аж пакуль ногі не стаміліся. Захныкаў, сеў на дарозе і кажа: «Пайду, калі будзеш казку расказваць!» Я яму адну, другую, трэцюю... дзясятую — і ўсё, скончыліся! А сын ужо без казкі ісці не можа. Тады я стаў фантазіраваць пра вавёрачку, у якой забалелі зубкі. Пачалі з сынам думаць, як дапамагчы беднай, і неўпрымет у Еўлічы прыйшлі.

Там я залез на вышкі, дзе звычайна працаваў, як прыязджаў дадому, і стаў пераводзіць прыдуманае ў дарозе ў вершаваную форму. Так і казка з’явілася...

Значна пазней, успамінаючы гэтую размову, я склаў верш «Па дарозе ў Еўлічы»:

Сам нагамі палічы,
Крокаў колькі ў Еўлічы.
Можа, тысяча? Мільён?
Раз ішоў са Слуцка Вітка.
На ім новенькая світка,
А з ім сын — Вісарыён.

Жаўрукі ўгары звінелі,
І палі, здаецца, пелі,
Лёгкая паклажа,
Ды няблізкая дарога
Прытаміла ўсё ж малога.
Сын да бацькі й кажа:

— Як без казкі, не прасі,
Не пайду — тады нясі!..
Расказаў адну, другую
І няведама якую...
Скончыліся казкі!
Можа, сваю скласці?..

Як да Еўлічаў дайшлі,
Казку новую знайшлі...
Ад сяла і да сяла
Пра вавёрку і бусла
Казка дзіўная пайшла.
І яе (таму я сведка)
Любяць і бацькі, і дзеткі.

Затым пачалі разбіраць нашы творы. Калі прачыталі апавяданні аднаго з маладых і нехта выказаўся, што задума ёсць, ды мова аўтара падводзіць, Цімох Васільевіч рашуча заявіў:

— Не можа быць пісьменніка, калі чалавек дасканала не валодае мовай. А тут дзеці гавораць, як дзядзькі дарослыя, прымаюць пастановы. А чым яны будуць займацца, як вырастуць?..

На нарадзе ў 1985 годзе свае казкі пра дзеда на наш суд вынес Васіль Шырко. Іх ён пачуў у роднай вёсцы Чурылава, што на Уздзеншчыне. Аналізуючы іх, нехта выказаўся, што ў казках ёсць добры гумар, мова цудоўная, сакавітая, але занадта многа чарцей, ведзьмаў і іншай рознай нечысці.

— А я таксама не баюся пісаць пра чарцей, — адразу парыраваў Вітка і пры гэтым згадаў вядомую казку А. С. Пушкіна і аповесці М. В. Гогаля.

З вершамі, пацешкамі і лічылкамі знаёміла нас Ганна Іванова. Маладая паэтка добра ведала дзіцячую псіхалогію, творы былі такія натуральныя, што дзяўчаты нават заапладзіравалі, калі скончыла чытаць, а Эдзі Агняцвет сказала:

— Цудоўныя Ганніны вершы ад добрага ведання творчасці Віткі.

Але сам Цімох Васільевіч з гэтым не пагадзіўся:

— Не, я думаю, яе творы падказалі самі дзеткі. Дзякуй вам, што пішаце цудоўныя вершы і выхоўваеце дзяцей, — і шырока, шчыра, шчасліва ўсміхнуўся.

## Урок шосты

## ЦЕСНЫ СВЕТ!..

Быў яшчэ адзін урок, скіраваны на мяне. Хаця сустрэчы ў сярэдзіне 90-х гадоў і не было. У той час адна жанчына моцна пакрыўдзіла мяне і маю сям’ю. Я сёння не называю яе імя, бо ў 1995 годзе дараваў ёй усё, а тады, здавалася мне, ніколі не змагу забыць нанесенай крыўды.

Але прыйшло ў сям’ю няшчасце: дачка Наташа трапіла ў аварыю. І ў гэты цяжкі момант жанчына зрабіла крок насустрач: яна сказала, што яе стрыечны брат працуе ў Мінску ўрачом-траўматолагам і яна дамовіцца, каб ён агледзеў нашу дачку. У жыцці,

мусіць, і павінна так быць: недалюбліваюць і сварацца людзі, а як прыйдзе бяда — дапамагаюць адзін аднаму.

Наташа была ў такім стане, што везці яе нельга было, а пазней, як знаходзілася ў Мінску ў навукова-даследчым інстытуце, мы ўспомнілі колішнюю прапанову. Якое ж было маё здзіўленне, калі я даведаўся, што той урач-траўматолаг не хто іншы, як Вісарыён Цімафеевіч Крысько — сын Васіля Віткі! Некалькі дзён я быў пад уражаннем гэтага «адкрыцця» і раз-пораз паўтараў два словы:

— Цесны свет! Цесны свет!..

Сапраўды, калісьці Цімох Васільевіч дапамагаў мне як дзіцячаму пісьменніку станавіцца на ногі, а зараз яго сын ратаваў маю дачку. Потым неяк падсвядома прыйшло перакананне ў тым, што Цімох Васільевіч — гэты Мудрэц з вялікай літары — яшчэ раз працягнуў мне руку дапамогі, пастараўся памірыць з чалавекам, каб я не насіў у душы крыўды...

### Урок сёмы

### ...А ПАМЯЦЬ ЗАСТАЛАСЯ

Пятнаццаць гадоў няма з намі шаноўнага Цімоха Васільевіча. Паўвека адзначыла ягонае «дзецішча» — часопіс «Вясёлка». Неўзабаве пасля юбілею рэдакцыя пераехала ў новы будынак.

Аднойчы, будучы ў Мінску, зайшоў да вясёлкаўцаў на вуліцу Кальварыйскую. Галоўнага рэдактара Уладзіміра Ліпскага застаў за працай: ён завяршаў афармленне музея часопіса «Вясёлка».

Адразу ля ўвахода на паўсцяны размясціліся партрэты рэдактараў, і першы ў гэтым радзе Васіль Вітка, а ніжэй — лаўрэаты штогадовай літаратурнай прэміі за лепшы надрукаваны твор, устаноўленай часопісам пасля смерці Цімоха Васільевіча.

Як бы праводзячы экскурсію па музеі, Уладзімір Сцяпанавіч спыніўся ля масіўнага стала і аб’явіў:

— З гэтага стала «Вясёлка» пачыналася: за ім сядзеў Цімох Васільевіч, як падпісваў першыя нумары...

У тую хвіліну мне гэты крыху грубаваты стол здаўся самай галоўнай рэччу ў пакоі. Прыгадалася, што апошні тэлеўрок у Мялешкаўскай школе на Случчыне так і называўся: «Пра самую дарагую рэч у доме». Васіль Вітка заклікаў юных чытачоў «Вясёлкі» расказаць аб прадметах, якія беражліва захоўваюцца ў сям’і.

Даўно «значыцца ў штаце» і Вася Вясёлкін, прыдуманы першым рэдактарам. Колькі добрых спраў здзейснілі з ім хлопчыкі і дзяўчынкі! Колькі іх яшчэ наперадзе!

Пры жыцці імя Васіля Віткі было вядома не толькі ў Беларусі. У 1970 годзе яму было прысвоена званне заслужанага дзеяча культуры нашай рэспублікі, а праз два гады за кнігі «Беларуская калыханка», «Казкі» і «Чытанка-маляванка» ён стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР. Сусветнае прызнанне прыйшло ў 1978 годзе, калі Вітку ўзнагародзілі Ганаровым дыпломам Міжнароднага журы па прэміях Ханса Крысціяна Андэрсена, а яго імя было занесена ў ганаровы спіс дацкага пісьменніка.

Цімох Васільевіч Крысько пахаваны ў Мінску, але вярнуўся-такі ў родныя Еўлічы: на пачатку ўжо гэтага стагоддзя калгас, які насіў імя Чкалава, быў пераўтвораны ў сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў «Агра-Вітка». Значыць, памятае родная зямля свайго слыннага сына!..

# АДВЕЧНАЕ Ў МАНАГРАФІІ МІКОЛЫ МІКУЛІЧА «ПАЭЗІЯ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ (1921—1939)»

Кніга Міколы Мікуліча адразу прыцягвае ўвагу чытача, зацікаўленага праблемамі развіцця беларускай літаратуры. Думаецца, тут дастаткова назваць прозвішчы тых вядомых і папулярных, а таксама менш вядомых і, як на сёння, зусім невядомых шырокай грамадскасці мастакоў слова, пра якіх вядзецца гаворка ў кнізе: Л. Родзевіч, К. Сваяк, У. Жылка, М. Васілёк, М. Машара, Х. Ілляшэвіч, М. Танк, В. Таўлай, А. Смаленец, С. Станкевіч, Ф. Грышкевіч, Уладзімір Ініцкі, А. Бартуль, П. Сяўрук ды іншыя. Пра многае скажуць чытачу і прозвішчы дзеячаў айчыннага літаратуразнаўства, што непасрэдна спрычыніліся да выхаду ў свет манаграфіі таленавітага даследчыка. Навуковы рэдактар выдання — акадэмік У. В. Гніламёдаў, рэцэнзенты — член-карэспандэнт НАН Беларусі М. І. Мушынскі, доктар філалагічных навук, прафесар Т. І. Шамякіна. Імёны, аўтарытэты! (Тут мы маем на ўвазе не толькі пасады, званні ды ступені, а найперш грунтоўнасць навуковага досведу кожнага з гэтых рупліўцаў на ніве беларускай гуманітарыстыкі.)

Калі згадваць выбітных асоб, з думкамі якіх суадносіць свае назіранні і вывады аўтар манаграфіі, дык зазірнём у яе «імянны паказальнік». Сустрэнем там імёны ад антычнага Гесіёда да прадстаўнікоў сучаснага айчыннага і замежнага літаратуразнаўства. Убачым, што пачэснае месца ў адзначаным шэрагу займае асоба класіка тэмы, яе пачынальніка і патрыярха Уладзіміра Калесніка. Працы гэтага даследчыка разглядваюцца і асэнсоўваюцца аўтарам манаграфіі з праніклівай ды сардэчнай глыбінёй. М. Мікуліч (пры ўсёй безумоўнай навізне і самадастатковасці адкрытага і ўстаноўленага ім) годна адчувае сябе тым, хто ідзе ўслед.

Ды і навуковая творчасць самога Міколы Мікуліча для зацікаўленай аўдыторыі — з'ява вядомая і шанаваная. Яго працы, прысвечаныя даследаванню заходнебеларускай паэзіі, — грунтоўная і надзейная падтрымка для ўніверсітэцкіх выкладчыкаў, школьных настаўнікаў, студэнтаў і вучняў. Шырокі розгалас, да прыкладу, выклікала цікавая і арыгінальная кніга аўтара «Максім Танк: на скрыжаваннях стагоддзя», якая выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» яшчэ ў 1999-м годзе.

Так што асэнсаванне манаграфіі М. Мікуліча вельмі патрэбна. Нават удакладнім, неабходна. Прычыннаю таму — наватарства працы. Справа ў тым, што стваральнік тома пра паэзію Заходняй Беларусі спасцігае гістарычнае аблічча і мастацкую прыроду літаратуры шляхам пранікнення ў яе духоўна-этычны змест і дакранаецца такім чынам да праблемы адвечнага. Менавіта таму адным з галоўных тэарэтычных прадметаў даследавання ў кнізе стаў літаратурны і літаратуразнаўчы стыль. Прычым не толькі як праява свядомага пісьменніцкага ці даследчыцкага выбару, але і ў якасці самадастатковага, можа, нават спантаннага раскрыцця маральнай паставы творчай індывідуальнасці, эпохі і адвечнасці. Аўтара манаграфіі ў роўнай ступені цікавяць як рэальныя, фізічныя, так і ірэальныя, метафізічныя складнікі вобразнага зместу паэзіі.

Пры такім асэнсаванні складанага матэрыялу навуковец (на вялікую карысць для даследавання) выходзіць далёка за межы тэмы, пазначанай у загалоўку. Перад намі энцыклапедычна багаты на канкрэтыку літаратурнага жыцця міжваеннага дваццацігоддзя навуковы дыскурс, які ўскосна распавядае і пра духоўны стан сучаснасці. А сучаснасць, як вядома, толькі тады чагосьці вартая, калі яна — сінонім вечнасці. Такім чынам, чытач (персаніфікацыя XXI стагоддзя) міжволі аказваецца суразмоўцам даследчыка.

У святле згаданай акалічнасці вырашальным уяўляецца наступны тэзіс даследчыка: «Як вядома, эмпірычныяназіранні над літаратурнымі з'явамі і працэсамі па вялікім рахунку карысныя толькі да пэўнай мяжы» (С. 40). З такою дакладнаю і трапнаю думкай нельга не пагадзіцца. Праўда, заінтрыгаваны чытач тут не можа ўстрымацца ад пытанняў: «Што за "пэўная мяжа" маецца на ўвазе?» «Хто і дзеля чаго яе вызначае?»

Нельга не заўважыць, што аўтар манаграфіі «Паэзія Заходняй Беларусі (1921—1939)» у сваіх разважаннях пра мастацкі стыль знаходзіцца ў адчувальнай і, відаць, нават нечаканай для сябе блізкасці да тых сутнасцей, акрэсліваць абсалютны маральны першавыток якіх ён (а можа, і ўсё нашае літаратуразнаўства) не рашаецца ці не адчувае патрэбы ў такім акрэсленні. Даследчык ужывае выразы «пэўная мяжа», «пэўная заканамернасць», «пэўны кантэкст», але пры гэтым са шчаслівай рашучасцю вызначае характар суіснавання дадзеных загадкавых «пэўнасцеў» — узаемадзеянне. Якраз на важкасці і неабсяжнасці паняцця «ўзаемадзеянне» трымаецца маральна-этычная глыбіня ўсёй манаграфіі М. Мікуліча. І дзякуй Богу: ці можна спасцігнуць асаблівасці канкрэтна-гістарычнага літаратурнага працэсу без усведамлення яго сувязей з усясветным працэсам быцця?..

Аўтар падкрэслівае: «Духоўна-ірацыянальная стылявая плынь заходнебеларускай паэзіі сцвярджала салідарнасць усяго існага, асновы і прынцыпы станоўчага ці ідэальнага ўсёадзінства як гармонію быцця і свету, дзе кожны кампанент існуе ў сістэме шматлікага многага, у бессвядомым імкненні да суладнасці і ўзгодненасці ўсяго з усім. Яго ўтварае ўзаемазвязанасць усіх космаэвалюцыйных працэсаў, узаемапранікненне астральнага, трансцэндэнтнага, прыродна-біялагічнага і духоўна-чалавечага пачаткаў, якія збіраюць сусвет у адзінае цэлае, абумоўліваюць у ім месца асобы» (С. 331). Назіранні даследчыка (бліскучыя па глыбіні і дакладнасці) амаль ва ўсім супадаюць з сутнасцю трыадзінай эмпатыі — з папраўкаю на тое, што Боскі першапачатак тут названы толькі ўскосна. Ён выступае ў такіх характарыстыках і вызначэннях, як «космаэвалюцыйныя працэсы», «астральнае», «трансцэндэнтнае» і г. д.

Сінтэтычным спасціжэннем літаратуры (імкненнем ратаваць душу працай з мастацкім вобразам) прасякнута ўся кніга М. Мікуліча. Больш за тое: адзначанае імкненне, увасобленае ў глыбокія тэарэтычныя разважанні, трапныя канкрэтна-гістарычныя назіранні і шляхетныя высновы, складае сутнасць маральна-этычнага наватарства даследчыка ў манаграфіі.

Безумоўна, падобная заява патрабуе доказаў. Звернемся да іх.

Пра беларускага паэта Гальяша Леўчыка (падраздзел «У традыцыях масавай паэзіі») чытаем наступнае: «У прысвечаным свайму творчаму пабраціму і настаўніку (маецца на ўвазе Янка Купала. — ***Ю. П.***) санеце "На Купалле" (1907) Г. Леўчык засведчыў далучанасць да адвечных пластоў народнай свядомасці і маралі, інтарэсаў і мэтаімкненняў сацыяльных нізоў грамадства» (С. 78). Калі далучанасць да інтарэсаў «сацыяльных нізоў» мы можам разумець як выяўленне палітычных поглядаў паэта, дык далучанасць да адвечных пластоў маралі і ёсць, на наш погляд, ратаванне душы праз яднанне яе з Божаю задумаю. (А як без гэтай задумы можна ўявіць сабе адвечныя пласты народнай свядомасці?..)

Гаворка ідзе не пра тое, каб абавязкова прамаўляць слова Бог. Боскасць — гэта стан душы, а не практыкаванні ў красамоўстве. Менавіта на такім успрыманні Боскасці грунтуюцца спаконвечныя прынцыпы і нормы народнай маралі і этыкі.

Пра верш А. Смаленца «Выш ня крэсліць самалёт…» (падраздзел «Спасцігаючы канкрэтыку жыцця») у манаграфіі М. Мікуліча чытаем: «Знешняя як бы адстароненасць аўтарскага светабачання і расповеду не выключае, а, наадварот, прадугледжвае наяўнасць шчырай зацікаўленасці, душэўна-чалавечага клопату і ўвагі, чуласці і спагады, якія базуюцца на прынцыпах высакароднасці і гуманізму». У творы паэт «раскрывае складаную і супярэчлівую дыялектыку чалавечага існавання» (С. 120). І гэтай плыні, як бачым, зусім не чужое «імкненне да суладнасці і ўзгодненасці ўсяго з усім». Адстароненасць паэтавага светаўспрымання аказваецца з'явай відавочна знешняй не толькі таму, што А. Смаленец не дазваляе сабе парушаць сувязі з чуласцю і спагадай, але і па прычыне таго, што ён не ў стане парушаць гэтыя сувязі. Возьмем хаця б першы радок верша: «Выш ня крэсліць самалёт...» «Выш» тут трэба разумець не толькі

як фізічную праяву («неба», «атмасферу»), але яшчэ і як метафару адвечнай гармоніі, надчалавечай сімфанічнай дадзенасці, праявы Боскага тварэння. Самалёт жа выступае прыхамаццю д'ябла, задача якога — перакрэсліванне «суладнасці і ўзгодненасці ўсяго з усім».

У падраздзеле «Нацыянальна-адраджэнская лінія» сярод іншых разглядаецца верш Л. Родзевіча «Роспач». Пазіцыю мастака ў гэтым творы М. Мікуліч характарызуе наступнай змястоўнай высновай: «Паспяховая рэалізацыя ідэі самасцвярджэння беларусаў як самастойнага этнасу палягае, на яго думку, праз арганічны сінкрэтызм, дыялектыку духоўнага, сацыяльнага і нацыянальнага фактараў» (С. 212). Трыядзіна суперажывальныя чыннікі мастацкай творчасці тут відавочныя. Праз арганічны сінкрэтызм двух сіл — Боскай (духоўны фактар) і чалавечага крэатыву (сацыяльны і нацыянальны фактар) — паэт ідзе да самасцвярджэння беларусаў як самастойнага этнасу.

Зыходзячы з асноватворнага тэзісу нашага артыкула пра тое, што метафізічны пласт прысутнічае ў кожным без выключэння мастацкім вобразе, трэба меркаваць, што правіла гэтае з'яўляецца актуальным і для рэвалюцыйнай плыні заходнебеларускай паэзіі. Пра творчасць аднаго з паэтаўзмагароў — А. Салагуба — у манаграфіі М. Мікуліча (падраздзел «З ідэяй рэвалюцыйнага радыкалізму») чытаем: «Сапраўды, лірычны герой паэта адчуваў сябе далучаным да магутнай і ўплывовай усеахопнай сілы, якой былі падуладны народы і краіны, якая скарала свет, змяняла жыццё, пераўтварала яго на аснове новых прынцыпаў і каштоўнасных дамінант» (С. 270). Пад магутнай сілай тут маецца на ўвазе ідэя сацыяльнага разнявлолення асобы. Ідэя гэтая народжана людзьмі і, здавалася б, не мае дачынення да трыядзінства. Насамрэч у дадзеным выпадку мы сустракаемся з найбольш яскравай праявай узаемадзеяння трох творчых іпастасяў. Рэвалюцыйная ідэалогія, нягледзячы на атэістычную рыторыку, заўсёды патрабавала ад сваіх адэптаў тых подзвігаў духу, на якія ішлі толькі хрысціянскія пакутнікі. Палітычная ідэя падносілася паэтамі-рэвалюцыянерамі да таго ахвярнага ідэалу любові, які па сутнасці быў ідэалам Божага маральнага Першапачатку.

Калі ўглядаешся ў тытул манаграфіі М. Мікуліча, душу пранізвае ледзь не містычнае перажыванне: слова «паэзія» пачынае ўспрымацца не толькі ў сваім прамым тэарэтыка-літаратурным значэнні, але і ў пераносным — як феномен прыгажосці, вытанчанасці, прызначаны выклікаць пачуцці ўзвышанай чароўнасці. Ці разлічваў аўтар яшчэ і на такое разуменне сваёй кнігі?.. Пытанне паўстае, але *не* чалавеку-крэатару — паважанаму Мікалаю Мікулічу — на яго адказваць. Ён — толькі рэалізатар (таленавіты, арыгінальны і непаўторны) задумы, якая вышэй за яго і за ўсіх нас. Перад намі вытанчана-шляхетны і ў той жа час доказны і грунтоўны, гістарычна і сацыяльна абумоўлены маналог. Ён — пра ўзнёслую і трагедыйную паэзію жыцця. І ў міжваенны перыяд XX стагоддзя, і сёння... Паэзія гэтая — уся наскрозь — прасякнута трыадзіным суперажываннем.

Апошні сказ у манаграфіі гаворыць пра імкненне беларускага народа да духоўна-грамадзянскага і патрыятычнага самасцвярджэння. Гэтае імкненне, вядома, не азначае самаізаляцыі. Успомнім: слова «народ» даводзіць, што жыць трэба *на род*, а не *супраць роду.* Манаграфія «Паэзія Заходняй Беларусі (1921—1939)» напісана менавіта *на род.* Гэта значыць, што ў ёй сцвярджаецца ідэя далучанасці багатага і разнастайнага мастацкага матэрыялу да адвечных духоўных першапачаткаў быцця. І дзякуй за гэта шаноўнаму Міколу Мікулічу.

***Юрый ПАТАЛКОЎ,***
***кандыдат філалагічных навук***

Таццяна СІВЕЦ

# РАЗМОВА НА АДНУ ЦЫГАРЭТУ



*Перакур!*

***Калі вы захочаце наведаць рэдакцыйна-выдавецкую ўстанову «Літаратура і Мастацтва», што знаходзіцца ў Мінску на вуліцы Захарава (так, побач з Лінгвістычным універсітэтам!), то першае, што ўбачыце, — гэта натоўп студэнцкай моладзі каля самых дзвярэй... Няўжо яны ўсе хочуць «запісацца ў паэты»?***

***Не... Яны проста выйшлі «перакурыць» паміж лекцыямі.***

***Я вырашыла даведацца ў некаторых з іх, чаму паміж водарам лета і пахам цыгарэтнага дыму яны выбіраюць — апошні!***

***Найперш я звярнулася да дзвюх сябровак, адна якраз запальвала цыгарэту...***

**— Скажыце, калі ласка, калі Вы пачалі курыць і чаму?**

*Таня:* Проста вырашылі з сябрамі паспрабаваць. Гадоў па 16 было. Можа быць, яшчэ і падсвядома — таму што бацькі курылі. Нават калі дарослыя не хочуць, каб іх дзеці курылі, яны ўсё адно даюць ім адмоўны прыклад сваімі паводзінамі. Праўда, я не лічу, што злоўжываю курэннем: некаторыя па пачку ў дзень паляць, а мне б ад гэтага ўжо кепска стала...

**— Вас не раздражняе, калі Вашая сяброўка курыць?**

*Насця (сама не курыць):* Не, я лічу, што гэта выбар кожнага. Хоча курыць, няхай. Гэта не ўплывае на нейкія маральныя якасці маёй сяброўкі і не перашкаджае нам камунікаваць. Гэта проста шкодная звычка — і ўсё!

*Таня:* Я лічу, што нельга меркаваць пра чалавека «па цыгарэце» — гэта яго праблемы, ён сам адказны за сваё здароўе. Некаторыя лічаць, што калі чалавек курыць, то з ім не варта мець ніякіх стасункаў, але гэта глупства! Курыць, ну і што? Яго здароўе!

**— Дзеля чаго Вы курыце? Каб расслабіцца, падумаць, адпачыць?..**

*Таня:* Так, час ад часу прыемна, але ў асноўным гэта ўжо стала звычкай.

**— Выбар Вашага маладога чалавека залежыць ад таго, курыць ён ці не?**

*Насця:* Калі я ў першае імгненне пабачу яго з цыгарэтай, то гэта, канечне, крыху адштурхне. Але калі чалавек добры, то чаму б і не? Пасля і адвучыць можна.

**— А калі ён пачне Вас прывучваць?.. Наогул, чаму Вы вырашылі для сябе, што не будзеце курыць?**

*Насця:* Таму што мне гэта не падабаецца... І... Бацькі таксама... У таты — рак, і таму я да гэтага зусім па-іншаму стаўлюся. Тым больш, я хачу мець здаровых дзяцей і самой быць здаровай.

**— Тата курыў раней, так?**

*Насця:* Курыў і курыць. Яму нават урачы параілі не кідаць рэзка, бо гэта стрэс. Таму ён цяпер памалу, але курыць... Асабліва калі з-за работы перажывае...

**— Не хацелася сказаць сяброўцы: кінь, каб разам не труціцца?**

*Насця:* Я нават прасіла яе зрабіць мне такі падарунак на дзень нараджэння!..

*Таня:* У нас сесія была! А гэта напружанне і выйсці пакурыць пасля стрэсу — таксама звычка.

**— Але ў будучым Вы плануеце дзяцей, сям'ю?**

*Таня:* Я кіну! Вельмі хачу! Бо пасля гэта будзе надзвычай цяжка зрабіць. Я па сваіх бацьках, па брату ведаю. Мой тата, напрыклад, сам не змог — толькі з дапамогай урачоў, але пры гэтым стаў сябе горш адчуваць, вельмі папраўіўся і наогул... А мама кажа, што ёй гэта не перашкаджае. Хаця, кожны раз, гледзячы ў люстэрка, кажа: «Ах, на трынаццаць гадоў памаладзею, калі кіну!..» Але пакуль не атрымліваецца...

**— А цалавацца з хлопцам, які курыць, ці падабаецца?**

*Таня:* Калі сама перад гэтым не курыла, то не!

**— Ці былі ў Вас хлопцы, якія не курылі, у адрозненне ад Вас?**

*Таня:* Былі, так... Малайцы! Але я не зважаю на гэта, бо сама з сям'і, дзе кураць...

*Яшчэ адна кампанія, з двух хлопцаў і дзяўчыны, таксама не адмовілася адказаць на некалькі пытанняў для «Маладосці», пакуль кураць...*

**— Калі Вы бачыце прыгожую дзяўчыну з цыгарэтай, пра што Вы думаеце?**

*Аляксей:* Прыгожую? Не ведаю... Мне неяк не вельмі падабаецца, калі дзяўчаты кураць.

**— А тое, што Вы самі...**

*Аляксей:* Да гэтага я нармальна стаўлюся. Мужчына з цыгарэтай выглядае брутальна. А дзяўчыне не пасуе. Раней, відаць, модна было дзяўчатам курыць, а цяпер — не.

**— Выбіраючы сваю будучую жонку, Вы будзеце глядзець, курыць яна ці не?**

*Аляксей:* Мая дзяўчына не курыць!

**— Вас не спрабавала адвучыць?**

*Аляксей:* Спрабавала. Але... як бачыце!

**— Як Вы ставіцеся да дзяўчат-курыльшчыц?**

*Дзмітрый:* Без розніцы. Няхай самі вырашаюць. Гэта асабістая справа кожнага. Хто хоча, хай курыць.

**— для сябе не думалі, што здароўе даражэй за пачак цыгарэт?**

*Дзмітрый:* Як кажуць, гуляй пакуль малады! Трэба будзе — завяжу, мажліва, праз год-другі...

**— А Вы памятаеце, як пачалі курыць?**

*Аня:* Так, вельмі добра. Наогул, мяне сябры «скурылі». Але я заўжды ведала, што, раз пачаўшы курыць, буду курыць пастаянна.

**— І не палохаюць шкодныя наступствы для здароўя, знешнасці?**

*Аня:* Палохаюць, але... Пакуль я адмовіцца не магу. Магчыма, у далейшым... А зараз вельмі цяжка.

**— Спрабавалі кідаць?**

*Аня:* Так. Сур'ёзна — адзін раз. Я тады на месяц кінула. Пасля ўсё-ткі не вытрымала...

**— Чаму?**

*Аня:* Не было чым сябе заняць!

**— Чаму Вы зараз курыце?**

*Аня:* Гэта адна з маленькіх радасцей майго жыцця.

*Дзмітрый:* Прабавіць час трэба — бярэш цыгарэту, кепскую адзнаку атрымаў, з бацькамі пасварыўся — зноў рукі цягнуцца да пачка.

**— А калі Вы чуеце, што бацькі ці настаўнікі, выкладчыкі кажуць, што курыць шкодна, вам хочацца ім адказаць?**

*Аляксей:* Ну... Не ведаю...

**— А калі цэнзурна?**

*Аляксей:* Не, цэнзурна не...

**— Што ж можа паўплываць, каб Вы насамрэч кінулі курыць?**

*Дзмітрый:* Ну, калі прыцісне зусім, калі са здароўем нешта, тады — канечне.

**— Каму Вы паверыце ў гэтым сэнсе: бацькам, выкладчыкам, сябрам...**

*Аня:* Сабе. Што да мяне, то праблемы ўжо ёсць, але я з-за гэтага кіну паліць наўрад, а вось калі будзе тычыцца маіх родных, то, магчыма, так!..

*З дзвярэй РВУ выйшаў і закурыў вядомы паэт, былы супрацоўнік часопіса «Маладосць» Віктар Гардзей.*

**— Віктар Канстанцінавіч, Вы даўно курыце?**

— Практычна з дзяцінства...

**— А чаму Вы пачалі? Цяпер жа кураць, таму што модна ці «за кампанію», а ў Вашай маладосці?**

— Я ўмеў тытунь вырошчваць бесарабскі, турэцкі... Развешваў... Заўсёды на якасць глядзеў. Зраблю самакрутку, закуру... Надта моцна адрозніваецца ад сучасных цыгарэт...

**— Кідаць ніколі не думалі?**

— Кідаў... І зараз думаю, што варта кінуць — ганебная справа. Нават няёмка бывае, што я пастаянна куру.

**— Перад блізкімі?**

— Я ў хаце не куру ніколі. Цікава, што ў мяне было пяць братоў — з іх тры не кураць, а два курылі. Неяк так атрымалася...

**— Што б Вы параілі гэтым хлопцам і дзяўчатам, якія кураць зараз побач з намі?**

— Карысці ад гэтага няма ніякай. Гэта прывычка шкодная, і лепш ад яе пазбавіцца, пакуль малады...




*Аляксей Мікалаевіч Курчанкоў у ардынатарскай.*

**— А дзяўчаты, жанчыны, якія вам падабаліся па жыцці, — яны курылі?**

— Ніводная!

***Адказы маіх суразмоўцаў ласкава пагадзіўся пракаменціраваць Аляксей Курчанкоў — навуковы супрацоўнік аддзела таракальнай анкапаталогіі з анэстэзіялагічнай групай Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра анкалогіі і медыцынскай радыялогіі імя М. М. Аляксандрава. Падзяліўся і ўласнымі меркаваннямі...***

**— Аляксей Мікалаевіч, практычна ўсе ведаюць пра шкодныя наступствы курэння. Але малады чалавек кажа: «Я не адчуваю іх зараз — значыць, іх яшчэ няма. А што будзе заўтра, мяне не хвалюе». Ці адразу адбіваюцца гэтыя ўплывы на здароўі і наколькі яны сур'ёзныя ўжо з першых выкураных цыгарэт?**

— Так, канечне. Па-першае, гэта пашкоджанне бронхаў — бранхіт. Далей — уздзеянне на сасуды наогул — курэнне прыводзіць да стойкага спазму, парушэння сасудзістай сценкі і ўтварэнню адкладаў халестэрыну ў артэрыях, а ў выніку мы даволі часта назіраем пацыентаў з аблітэрыруючым атэрасклерозам сасудаў ніжніх канечнасцей. Гэта праяўляецца мышачным болем і можа прывесці нават да гангрэны, ампутацыі і інваліднасці. Акрамя таго, пашкоджваюцца сасуды сэрца, што вядзе да развіцця ішэмічнай хваробы, а таксама запаленне слізістай страўніка, стрававода, адсюль — гастрыт, язвавая хвароба, а ў выніку і рак — стрававода, страўніка, лёгкіх, гартані, ніжняй губы, мочавага пухіра — гэта сістэмнае ўздзеянне, бо сёння ў цыгарэтах знойдзена больш за 4 000 самых розных рэчываў, якія аказваюць шкодны ўплыў на чалавечы арганізм. Гэта і радыёактыўны палоній, і мыш'як, і фармальдэгіды, і нікатын сам па сабе (нікатынавая залежнасць тут таксама прысутнічае).

Акрамя таго, утвараюцца розныя смолы, якія, патрапіўшы ў арганізм, адмоўна на яго ўплываюць.

Сусветная арганізацыя аховы здароўя прыняла пастанову, што курэнне — гэта адна з прычын, якая сур'ёзна пагражае здароўю чалавецтва і адбірае штогод каля мільёна жыццяў. У Рэспубліцы Беларусь курыць прыкладна 40 % насельніцтва. У Еўропе па гэтым паказчыку нас пераўзыходзяць толькі Іспанія і Партугалія. Я думаю, што гэта звязана з тым, што людзі не ўмеюць адпачываць ад праблем і ідуць самым простым шляхам.

**— Лічыцца, што цыгарэта, здымае напружанне...**

— Так, на жаль. Акрамя таго, можна лічыць прапагандай курэння і шматлікія «перакуры». У арміі ці на будоўлі, напрыклад, ёсць такая завядзёнка: той, хто курыць, адпачывае, хто не курыць, той працягвае працаваць. На самай справе, калі б, як раней, ва ўстановах была вытворчая гімнастыка, чалавек атрымаў бы цудоўную магчымасць пераключыцца ад разумовай да фізічнай дзейнасці, размяцца. Тое ж тычыцца і арганізацыі вольнага часу: за цыгарэтай абмяркоўваюцца нейкія пытанні, а чаму б не вырашыць іх, скажам, за кубкам гарбаты? Але ж цыгарэта, як бы гэта хто ні даводзіў, не расслабляе! Нічога падобнага! Наадварот — сасуды звужаюцца, утвараецца стойкі спазм. А шкода ад цыгарэт з living рознай колькасцю нікатыну прыкладна аднолькавая — не толькі ж нікатын уздзейнічае на арганізм — дастаткова шмат у працэсе гарэння тытуню ўтвараецца шкодных рэчываў, так што не бывае «лёгкіх цыгарэт».

**— «Са мной гэтага не здарыцца!» — гэтак у думках адказваюць на расповеды дактароў маладыя курыльшчыкі.**

— Сапраўды, адбываецца ігнараванне. У псіхалогіі першы этап, калі чалавек даведваецца пра сваё анкалагічнае захворванне, — адмаўленне хваробы. Тут тое ж самае. А ўсё таму, што мы нядбайна ставімся да ўласнага здароўя. Хаця гэта павінна выхоўвацца з самага дзяцінства. Нават з'явілася такое меркаванне, што здароўе можна купіць: перасадзіць сэрца, нырку, печань, лёгкае... Але гэта ілюзія, бо насамрэч гэты працэс патрабуе пастаяннага ўжывання адпаведных прэпаратаў, каб не адбылося адтаргнення, так што якасць жыцця тут зусім не адпавядае здароваму чалавеку. Клапаціцца пра здароўе трэба самому. І калі кожны будзе гэта рабіць, то ў нас складзецца ідэальна здаровае грамадства!

**— У многіх фільмах можна пабачыць, як героі прыгожа зацягваюцца, пускаюць дым мужныя хлопцы і прыгожыя дзяўчаты — гэта падсвядома ўплывае, рамантызуе курэнне. Што робіцца сёння, каб ад гэтага адмовіцца?**

— Сусветная арганізацыя аховы здароўя выдала рэкамендацыі, накіраваныя на тое, каб прыбраць рэкламу такога кшталту з медыя-прасторы, бо яна наносіць непапраўную шкоду здароўю людзей.

**— Але ж часам не дапамагаюць ні надпісы на цыгарэтах, ні словы бацькоў, ні забароны выкладчыкаў. Ці можаце Вы распавесці пра тое, што адчувае чалавек, які мае анкалагічнае захворванне?**

— Пра гэта трэба спытаць у людзей, якія перанеслі аперацыю, страцілі лёгкае, якім цяжка дыхаць і кашляць, якім баліць, якія могуць хадзіць, толькі абапіраючыся на мыліцы ці пратэзы. Канечне, можна прывесці маладых курыльшчыкаў у нашае аддзяленне і паказаць ім усё гэта... Наогул, калі чалавеку цяжка прайсці некалькі метраў без задышкі, калі ён задыхаецца пры фізічнай нагрузцы, разумееш, што цыгарэта гэтага не варта. Акрамя таго, для маладых дзяўчат важна, як выглядае твар, рукі, валасы... Да таго ж, сам цыгарэтны пах, ад якога ніяк не пазбавіцца... Няўжо ж прыемна такіх дзяўчат цалаваць, калі адчуванне, быццам цалуешся з попельніцай?!

**— Дарэчы, многія хлопцы з вамі згодны і хочуць, каб іх дзяўчына не курыла, а вось самі яны кідаць не збіраюцца...**

— Гэта кепска, бо яны не толькі сабе робяць шкоду, а і сваім блізкім. Я лічу, гэта вельмі эгаістычна, бо той, хто вымушаны

знаходзіцца побач з курыльшчыкам, сам пасіўна курыць, атрымлівае тыя ж самыя шкодныя рэчывы.

**— Вось некаторыя дзяўчаты кажуць: «Я абавязкова кіну, калі пачну думаць пра сям'ю і дзяцей. Гэта зусім нескладана. Зараз я проста не хачу». Ці так гэта на самай справе? І ці можна казаць пра тэрмін, які трэба «не курыць» перад тым, як заводзіць сям'ю?**

— Адзін з самых яркіх прыкладаў у сусветнай медыцынскай практыцы — гэта дзяўчына, якая курыла на працягу пяці гадоў па два пачкі на дзень, і ў выніку ў яе развіўся рак лёгкага. Што тут можна яшчэ дадаць? Калі ты выбіраеш курэнне, будзь гатовы да яго наступстваў! Да таго ж, калі чалавек курыць даволі доўгі час, то каб рызыка анкалагічных захворванняў стала такой жа, як у людзей, што не кураць, трэба не менш за 10—15 гадоў. Задумвацца трэба не толькі пра сям'ю, але і пра сябе самога.

Калі ж, да прыкладу, чалавек атрымліваў лячэнне з нагоды анкалагічнага захворвання і не кінуў курыць, то рызыка смерці вельмі высокая, ды і іншая пухліна можа развіцца. Таму развітацца з цыгарэтай трэба абавязкова.

**— Як кінуць курыць без дапамогі ўрачоў? Што Вы параіце?**

— Перш за ўсё, павінна быць моцнае ўсвядомленае жаданне. А калі чалавек не разумее, чаму ён мусіць адмовіцца ад курэння, то ніякае кадзіраванне, ніякія псіхалагічныя трэнінгі не дапамогуць. Калі ў яго слабая воля, і сам ён не можа справіцца з залежнасцю, то яму варта звярнуцца да спецыялістаў, псіхолагаў, якія дапамогуць. Можа быць, трэба проста на нешта пераключыцца. Гэта можа быць і жуйка, і нейкія карамелькі... Толькі свядома можна перамагчы гэтую шкодную звычку. А галоўнае — думаць пра сваё здароўе і не паддавацца ўплывам сяброў, знаёмых ці медыявобразаў. Трэба памятаць, што здароўе не купіш, а грошай на лячэнне патрэбна вельмі шмат. Лепш патраціць іх на штосьці больш прыемнае... Але, канечне, лепш не пачынаць курыць наогул!

***Магу толькі далучыцца да гэтых пажаданняў, бо падчас папярэдняй невялікай, даўжынёю прыкладна ў адну цыгарэту, гутаркі ўся мая вопратка прапахла тытунем, а ў горле пачало пяршыць... Ведаю, што падтрымаюць мяне і ўсе, хто працуюць на Захарава, 19. Каб нарэшце ўбачыць за вокнамі не цыгарэтную смугу, а цудоўны летні дзень!***

*Людміла ДУЧЫЦ,*
*Ірына КЛІМКОВІЧ*

# ЧАС ЗБІРАЦЬ КАМЯНІ

***На тэрыторыі Беларусі, як нідзе ў Еўропе, вялікая колькасць камянёў. Гэта характэрны і непаўторны элемент нашага ландшафту, сведкі ледавіковых працэсаў, а таксама помнікі гісторыі і культуры. Дзейнасць чалавека адбіваецца на іх лёсе. На жаль, час ад часу знішчаюцца каштоўныя па складзе і форме буйныя валуны. Камяні заўсёды ўплывалі на творчую фантазію нашых продкаў, фарміравалі духоўны свет беларусаў, з імі звязаны легенды і паданні. Больш за тры сотні валуноў абвешчана помнікамі прыроды і толькі нязначная колькасць помнікамі гісторыі і культуры.***

## СЛЯДЫ КАМЕННАЙ ГІСТОРЫІ

Між іншым, такіх сакральных камянёў налічана больш за паўтысячы! Адна з найцікавейшых разнавіднасцей культавых валуноў — камяні-следавікі. Асаблівасцю такіх камянёў з'яўляюцца адбіткі слядоў на іх паверхні ў выглядзе чалавечага або звярынага следу. Выемкі на камянях падзяляюцца на прыродныя, якія па сваёй форме і сапраўды нагадваюць след пэўнай істоты, і штучныя.

Культ камянёў-следавікоў узнік у другой палове другога тысячагоддзя да нашай эры, у канцы бронзавага веку. У той час існавала строгая забарона ствараць выявы багоў. Але зварот да нябачнага бога вымушаў чалавека шукаць адзнакі яго прысутнасці. У сувязі з гэтым з'явіліся выявы «слядоў бога». Зразумела, што з пашырэннем хрысціянства многія следавікі сталі аб'ектамі пакланення, а слядкі на камянях атаясамліваліся са слядамі Хрыста і хрысціянскіх святых. Уласцівасць камянёў-следавікоў збіраць і доўга захоўваць дажджавую ваду заўважана даўно. І сапраўды, у сухое і спякотнае надвор'е выбіты след заўсёды вільготны. Паўсюдна вада са слядкоў лічыцца гаючай і святой, з ёй звязана мноства легенд.

Тым не менш, нага, а тым больш, ступня лічыліся самымі міфалагізаванымі часткамі цела, звязанымі з іншасветам: падземным светам, куды ўсё сыходзіць, паміраючы, і адкуль усё вяртаецца, нараджаецца наноў. А ногі, як вядома, больш за ўсё набліжаны да зямлі, судакранаюцца з ёю непасрэдна. Таму старажытныя людзі ўспрымалі ступню як частку цела, праз якую душа сыходзіць на той свет. У беларускіх замовах ад хвароб іх таксама выганялі з чалавека праз ногі. Нездарма міфалогія індаеўрапейцаў захоўвае памяць пра культ ступакоў яшчэ з эпохі бронзавага веку. Згадаем, да прыкладу, знахарскія маніпуляцыі са следам для наслання



*Камень-следавік над святой крыніцай у в. Брады, Пружанскі р-н.*



*Камень, на якім адпачываў Бог, в. Маяк, Слуцкі р-н.*

порчы на людзей. У беларускіх міфалагічных расповедах вельмі папулярны матывы слядоў, пакінутых продкамі ў памінальныя дні на папярэдне рассыпаным попеле або жвіры. Дарэчы, у старажытнай традыцыі нашага народа раней існаваў звычай рабіць памінальныя кладкі з выразанымі на іх слядкамі нябожчыка і класці іх у балоцістыя мясціны, якія, паводле дахрысціянскіх вераванняў, былі ўваходам у іншасвет. Лічылася, што душа пасля смерці доўга блукае па свеце, пакуль не знойдзе туды дарогу. Кладкі ж павінны былі дапамагчы ёй у такой сітуацыі. А загадкавыя валуны са слядкамі, што раскіданы па Беларусі, звычайна месцяцца ў нізінных і балоцістых мясцінах, побач з крыніцай ці ручаём. Ці не яны былі сведкамі далёкіх і таямнічых памінальных абрадаў нашых продкаў?

На тэрыторыі Беларусі камянёў са слядкамі на іх паверхні налічылі ўжо больш за сотню. У асноўным яны маюць невялікія памеры. Найчасцей на камені месціцца адзін слядок, але зрэдку сустракаюцца і два, і нават тры. Валуны з адбіткамі далоні — адзінкавыя.

## МАЦІ БОЖАЯ «ХАДЗІЛА» ПА БЕЛАРУСІ

Вельмі папулярныя ў народзе слядкі Божай Маці. Мяркуючы па тых легендах і паданнях, якія прыйшлі да нас з глыбінь стагоддзяў, і якія мы прывядзём як прыклад пазней, беларусы заўсёды верылі ў тое, што Божая Маці час ад часу спускаецца з нябёсаў і ходзіць па нашай зямлі, таемна дапамагае ўсім нямоглым і пакутным. Адным з доказаў таго, што Багародзіца «хадзіла» па Беларусі, лічацца сляды з адбіткамі Яе ног на камянях. Паводле сабранай навукоўцамі інфармацыі, у нас такіх валуноў некалькі дзясяткаў, і ў розных куточках Беларусі іх называюць па-рознаму: След Маткі Боскай, След Божай Маці (такіх зафіксавана больш за дваццаць), След Багародзіцы, Стапа Божай Маці, След Святой Дзевы, След Найсвяцейшай Панны, След Дзевы Марыі, а таксама след святой Магдаленкі і інш. У некаторых месцах ямку побач са слядком лічаць за след Яе кіёчка.

На культавых камянях можна пабачыць не толькі след Багародзіцы. Адзін з самых вядомых следавікоў з выявай Яе далоні знаходзіцца ў Жыровічах. Паводле падання, на гэтым камені адбылося другое з'яўленне абраза Жыровіцкай Божай Маці ў XVI ст., пасля чаго там засталіся сляды далоні і пальцаў правай рукі Найсвяцейшай Багародзіцы. Сёння гэты камень захоўваецца ў алтары галоўнага храма Жыровіцкага манастыра. Ён месціцца пад высокім прастолам, што стаіць пасярэдзіне царкоўнага алтара і завецца — Святы Прастол. Некалі ў народзе хадзіла пагалоска, што святы камень лекуе ад усялякіх хвароб, а таксама дапамагае бяздзетным жанчынам ад бясплоддзя, а маладой дзяўчыне пашле добрага жаніха. Нават дочкі ўсясільных магнатаў Вялікага Княства Літоўскага маліліся каменю аб удалым шлюбе.

Камень са слядком Божай Маці ляжыць на ўзгорку каля вёсак Добры Бор і Падгорная Баранавіцкага раёна. Яшчэ не так даўно хрысціянскія паломнікі па дарозе да цудатворнага абраза Жыровіцкай Божай Маці абавязкова заходзілі пакланіцца і святому каменю. Сёння на камень кладуць грошы, а вакол на кустоўе вешаюць стужкі, амулеты, нізкі пацерак, ружанцы. Прычым, грошы кладуць розныя, апроч беларускіх — расійскія, польскія, украінскія, літоўскія і інш.

Згодна з паданнем, калісьці ў навакольных мясцінах праходзіла Багародзіца, спатыкнулася аб камень і параніла нагу. Тады Божая Маці спусцілася з узгорка да ручая, які працякае ніжэй, і абмыла там рану. У народнай памяці захавалася і больш старадаўняе паданне, якое звязана з дахрысціянскім персанажам — волатам або асілкам. Таму і камень гэты часам завуць Асілкавым. Распавядаюць, быццам некалі каля камня заснуў волат, а ў той самы час тут праходзіў атрад татарскіх вершнікаў. Яны вырашылі ўзяць соннага волата ў палон. Пачалася бойка, падчас якой асілак ступіў адной нагой на камень. Раптам ягоная сіла ўдзесяцярылася, і ён перамог ворагаў. Пасля таго, як пра незвычайную падзею даведаліся людзі, яны пачалі хадзіць да каменя і ўшаноўваць яго. Прайшлі часы, а гаючая сіла каменя і дагэтуль жыве ў народнай памяці. Верацъ, што ён лекуе не толькі людзей, але і жывёл. Старажылы расказваюць, што нядаўна да святыні прыводзілі на лячэнне кароў і авечак.

У вёсцы Малькавічы Ганцавіцкага раёна метровы камень са следам Божай Маці ляжыць на ўзгорку каля старых могілак. Захавалася і паданне. Быццам тут, непадалёк ад каменя, у невялікай рачулцы пад гарой, Божая Маці, стаміўшыся, мыла свае ногі, а потым на камені абцірала іх, ад чаго на валуне застаўся след. У вёсцы Канюхі Бераставіцкага раёна камень са следам Божай Маці знаходзіцца сярод балота. У вёсцы распавядаюць: даўным-даўно быў час, калі людзі перасталі верыць у Бога. Тады Бог разззлаваўся і наслаў патоп. Божая Маці, наадварот, па глыбокім перакананні простага народа, заўсёды шкадавала людзей, таму выправілася ў падарожжа. Але паўсюль было поўна вады, таму яна ішла па камянях. Дзе ступала нага Божай Маці, заставаўся след, а дзе Яна абапіралася на кіёчак — утварылася дзірачка.

На ўзгорку сярод поля над крыніцай непадалёк ад вёскі Брады Пружанскага раёна ляжыць камень, які ў народзе завецца «Слядок Божай Маці». Побач растуць маладыя бярозкі і стаяць некалькі металічных крыжоў. Увесь комплекс абнесены плотам. Па звестках мясцовых жыхароў, вада з крыніцы лічыцца лекавай, «ставіць на ногі», а раней тут на свята Зелянец адбываліся паломніцтвы, але цяпер, калі крыніца перасыхае, людзей прыходзіць усё менeй і меней. Яшчэ пасля Другой сусветнай вайны, калі людзям не было чаго есці, да каменя хадзілі прасіць дастатку і дабрабыту.

У вёсцы Камайск Докшыцкага раёна сляпому жабраку быццам бы некалі з'явілася Прасвятая Багародзіца, якая стаяла на мясцовым камені. Яна паклікала старога і загадала яму ісці да ўладальніка гэтай мясцовасці, каб патрабаваць ад таго пабудовы царквы на месцы Яе з'яўлення. Жабрак так і зрабіў, пасля чаго стаў відушчым. Над каменем узвялі храм у гонар Багародзіцы. У вёсцы Пятровічы Смалявіцкага раёна некалі шанавалі авальны камень даўжынёй 70 см і шырынёй каля паўметра. Па расповедах вяскоўцаў, на камені выразна быў бачны адбітак правай нагі Божай Маці і след ад Яе кіёчка. Па легендзе, калі Багародзіца праходзіла па беларускай зямлі і ішла праз Ляды і Пятровічы, Яна спынялася адпачыць ў гэтых месцах. І паўсюль, дзе ступала нага Божай Маці, пачыналі біць крынічкі, а на камянях адбіліся сляды Яе ног. Доўгі час каля камня ў Пятровічах была добраўладкаваная крыніца, вада якой лічылася лекавай. Але пасля правядзення меліярацыйных работ яе засыпалі, а камень прыціснулі бетоннай плітой.



*Камень са следам святога Антонія каля касцёла, в. Струбніца, Мастоўскі р-н.*



*Культавы камень на вясковых могілках у в. Сянежычы, Навагрудскі р-н.*

## І САМ БОГ «АДПАЧЫВАЎ» ТУТ

Некалі на Случчыне, непадалёк ад вёскі Маяк (былая Дзюрдзева), ва ўрочышчы Стары гасцінец, ляжаў агромністы камень. У народзе яго называлі Святым і казалі, што там раней стаяў крыж. І быццам на гэтым камені адпачываў сам Бог, абапёршыся локцем на яго. Вераць, што паглыбленне на камені засталося ад Яго локця. Людзі прыходзілі да святыні пакланіцца і памаліцца. І дапамагала, асабліва дзецям. Калі хто пакутаваў ад перапуду ці праклёну, прыходзілі да каменя і клалі на яго ў каго што было: каласок, абаранячак, хлеб, сыр... А яшчэ мох, якім абрастаў камень, беражліва саскрэбвалі, гатуючы з яго напоі ад усялякіх напасцяў. Але прыйшлі савецкія часы, і, калі будавалі дарогу, паспрабавалі разбіць той камень на дробныя кавалкі. Але камень быў незвычайна трывалы. Таму з цяжкасцю ўдалося разбіць яго толькі на тры вялікія часткі. Куды падзеліся дзве, ніхто не ведае, а трэцяя ляжыць цяпер у канцы вёскі Маяк і зберагае ў сабе таямніцы мінулага.

Пра сляды на некаторых камянях кажуць, што іх пакінуў «нейкі святы». У мястэчку Грозава Капыльскага раёна расказвалі, што след на валуне пакінуў святы Мікалай, калі ішоў у бліжэйшую царкву «тварыць цуды». Такое ж паданне можна было пачуць і пра камень у вёсцы Куцаўшчына Капыльскага раёна. У апошнім выпадку над каменем была пабудавана спачатку драўляная каплічка, а потым яе замянілі цаглянай.

Хутчэй за ўсё, сляды на камянях, якія прыпісваюць мужчынскім персанажам, у старажытнасці звязвалі з культамі тых боствaў, што адносіліся да хтанічнай сферы. Так, існуе меркаванне пра сувязь камянёў-следавікоў з культам Вялеса, апекуна свойскай жывёлы, які потым трансфармаваўся ў шанаванне святога Мікалая або святога Уласія. Апроч таго, ёсць інфармацыя пра сляды, якія пакінулі святыя Пётр і Антоні. Так, камень-следавік пад назвай «Нага Пятра» яшчэ ў пачатку XIX ст. ляжаў на вяршыні Траецкай Гары, што над ракой Свіслаччу ў Мінску. Цяпер, як вядома, на вяршыні гары — Тэатр оперы і балету. Камень са следам святога Антонія ляжыць у наш час каля ўваходных касцельных дзвярэй у вёсцы Струбніца Мастоўскага раёна. З другога боку ад уваходу стаіць архаічная каменная кропельніца. Але паданне пра гэты камень узгадвае чамусьці каралеву Бону. Нібыта раней у гэтай мясцовасці быў густы і непралазны лес, дзе любіла час ад часу паляваць сама каралева. Аднойчы падчас палявання яна згубіла сваіх улюбёных семярых сабак. Спынілася каля каменя і пачала маліцца. Неўзабаве выжалы знайшліся. Тады быццам і вырашылі пабудаваць на гэтым месцы касцёл.

## ПОМНЯЦЬ КАМЯНІ І ТАКОЕ...

Цікавы камень ляжыць каля вёскі Сянежыцы Навагрудскага раёна. На ім — два слядкі. Адзін лічаць выявай пальцаў, а другі — пяткі. Пальцы нібыта пакінула Багародзіца, а пятку — чорт, які гнаўся за Ёй. Дагнаць Божую Маці чорт не змог, таму што яна схавалася ў манастыр і стала чыніць там цуды. Існуе і другое паданне, якое тлумачыць знакі на камені тым, што іх пакінулі шведы, каб паказаць, куды яны накіроўваюцца. Камень ляжыць на ўзгорку вялікага могільніка. Па расповедах мясцовых людзей, некалі побач стаяла яшчэ і каплічка. У тыя ж часы да каменя збіраліся на Пакроў, на гары ладзіўся кірмаш. Яшчэ ў памяці старажылаў і тое, як у гэты дзень спачатку маліліся каля

каменя, штосьці ў яго прасілі. Потым прыносілі яму ахвяру — воўну, лён, палотны, яйкі, грошы, цукеркі. Пасля малітваў і ахвяраванняў жанчыны на каленях паўзлі да каплічкі, дзе святары спраўлялі набажэнствы. Капліча, дарэчы, знаходзілася за кіламетр ад следавіка, у рове з крыніцай. Цікава, што цяпер у вёсцы можна пачуць і другое паданне, якое падрабязна тлумачыць паходжанне і Святога рова, і Святой крынічкі і следу... Божай Маці.

«У аднаго старога пана не было дзяцей. Пачуўшы, што ў ягонага служкі з'явілася немаўлятка, вырашыў адабраць яго. Маладая жанчына схавала сыночка. Але хтосьці падказаў пану, дзе шукаць. Калі ён прыйшоў на патрэбнае месца, знайшоў "жаданы цуд". Жанчына схапіла дзіця і пабегла, пан за ёй. Прабягаючы каля царквы, убачыла, што дарогу "замінае камень". Пераскокваючы праз яго, яна адной нагой зачапілася і ўпала, пакінуўшы след. Не ў стане падняцца, жанчына папаўзла на каленях. Дабраўшыся да гары, яна пачала плакаць, сунуцца далей яна не магла. Дзе падалі слёзы — з'явілася крынічка. Каб дапамагчы жанчыне, гара расступілася, аддзяліўшы яе ад праследавальніка. Жанчына знікла, а тое месца "Святым рвом завуць". Жанчыну ў народзе празвалі Маці Божай, а пана — чортам».

У гэтай вёсачцы вераць таксама, што камень можа дапамагчы і ад бясплоднасці. Тут расказваюць пра адну жанчыну, якая ніяк не магла абзавесціся дзеткамі. Усё ёй не шанцавала. То мёртвае народзіца, то пачне расці на радасць бацькам, а потым яго не стане. Неяк «старэйшыя параілі гэтай гаспадыньцы дзетак у каменя папрасіць. На Пакровы прынесла ахвяру, папаўзла ў Святы роў. Пяцёх выгадавала...» Вернікі каля каменя моляцца і цяпер, прычым, след Божай Маці цалуюць, а ў след чорта плююць. У наш час каля камня адбываюцца маленні на Радаўніцу, і нават прыязджае святар. Як і раней, каменю прыносяць ахвяры, але сёння гэта ў асноўным грошы і кветкі.

*Безумоўна, што прыведзеныя вышэй паданні аформіліся пад уплывам хрысціянскай рэлігійнай свядомасці. Аднак наўрад ці яны адэкватна адлюстроўваюць першапачатковае прызначэнне дадзеных помнікаў — камянёў са слядкамі. Нягледзячы на тысячагоддзе з часу прыняцця хрысціянства, у нашай краіне дагэтуль захаваліся старадаўнія абрады і звычаі. Жыхары вёсак, мястэчак ды гарадоў і пасёння лічаць камяні-следавікі святымі і лекавымі. Калі ж такі камень знаходзіцца побач з водным патокам, то і вада тая ўшаноўваецца як «жывая» і цудадзейная. Яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя этнографы пераканаліся, наколькі старыя вераванні і звычаі жывыя і неўмiручыя. Прычым, камяні шанавалі і шануюць людзі розных хрысціянскіх канфесій: як праваслаўныя, так і каталікі.*

# «РОДНАЙ НІВЫ Я МІЛЬЁННАЯ ЧАСЦІНА...»

## *Вязынка — калыска Янкі Купалы*

Літаратурны музей Янкі Купалы быў заснаваны 25 мая 1944 года. Першапачаткова ён размяшчаўся ў будынку Дома прафсаюзаў на плошчы Свабоды, 23. Там распачаўся збор матэрыялаў для будучага музея, там стваралася першая выстава, прысвечаная жыццю і творчасці народнага песняра.

Калі я з дачкой Жанай вярнулася з Новасібірска ў Мінск, я ведала з ліставанняў, што цёця Уладзя — Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, распачала актыўную працу па захаванні памяці Янкі Купалы. І першае, што было зроблена, — гэта ўшанаванне мясціны, дзе нарадзіўся будучы паэт — хлопчык Ясь Луцэвіч — і адкуль павяла яго па жыцці пуцявіна лёсу.



*Станіслаў Замбжыцкі з жонкай Алімпіяй.*

Першае ўпамінанне пра фальварак ад-носіцца да 1815 года, калі па рашэнні Заслаўскага суда Вязынка перайшла да пана Валянціна Замбжыцкага. Потым фальварак апынуўся ва ўладанні яго сына — Станіслава Валянцінавіча Замбжыцкага (1823—1907) — беларускага краязнаўца, фалькларыста, які паходзіў з беларускай шляхты. Станіслаў быў інвалідам і здаваў свой даволі вялікі фальварак у арэнду.

У цэнтры фальварка Замбжыцкіх стаяў драўляны дом (афіцына). Галоўны фасад з парадным ганкам і чатырма драўлянымі калонамі глядзеў на поўдзень. Другі ўваход («чорны») быў пабудаваны ў выглядзе ганка-веранды. У доме было 10 пакояў. Асноўныя гаспадарчыя пабудовы знаходзіліся побач.

У Замбжыцкіх было многа зямлі, каля 300 дзесяцін, і для яе апрацоўкі наймалі арандатараў. Сюды, у Вязынку, у пошуках працы пераехала сям'я Даменіка Луцэвіча. Было гэта ранняй вясной 1881 года, калі пачынала прыграваць сонейка, і чуліся спевы першых жаўрукоў. У Вязынцы жылі сваякі бацькі Янкі Купалы: дзядзькі Антон, Юльян, Міхал і Адам, бабуля Валерыя, цёткі Марыя, Эмілія і Садалія Луцэвічы. Зямлю ў Вязынцы Дамінік Ануфрыевіч арандаваў разам з братам Міхалам.

Пасяліўся Дамінік Луцэвіч з жонкай Бянігнай у звычайнай сялянскай хаце, што стаяла на беразе рэчкі Вязынкі.

7 ліпеня (*25 чэрвеня*) 1882 года ў сям'і Дамініка і Багумілы (Бянігны) нарадзіўся сын, якому далі імя Ясь, у гонар дзеда па матчынай лініі. Бабуля-павітуха, якая прымала дзіця, сказала, што па ўсіх прыкметах гэты хлопчык будзе вялікім чалавекам. Словы бабулі спраўдзіліся, ён стаў слынным паэтам Беларусі — Янкам Купалам.

Вядома, што 4 жніўня 1945 года Савет Народных Камісараў Беларускай ССР і ЦККП(б) Беларусі прынялі пастанову аб увекавечанні памяці народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. А ў 1946 годзе ў Вязынку прыехала Уладзіслава Францаўна. Яна сустрэлася з сынам Станіслава Замбжыцкага — Юзафам. Захаваўся ўнікальны фотаздымак, на якім Юзаф Станіслававіч паказвае Уладзіславе Францаўне радзінную хату Купалы.

На доме паэта 30.06.1946 г. была ўстаноўлена мемарыяльная дошка. На гэту ўрачыстасць цёця Уладзя павезла і нас, сваякоў Янкі Купалы. Сабралася даволі шмат гасцей. Прыйшлі жыхары навакольных



*Устанаўленне мемарыяльнай дошкі на дом Паэта. 1946 г.*

вёсак Сяледчыкаў і Гурнавічаў. Прысутнічалі беларускія пісьменнікі Піліп Пестрак і Кандрат Крапіва. Мемарыяльную дошку ўсталявалі на хаце, адкрыў яе народны пісьменнік Беларусі, акадэмік К. Крапіва. Усе былі ўзрушаны. Фотаздымак засведчыў прысутнасць родных Янкі Купалы. Сярод іх Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, жонка паэта; родная сястра Я. Купалы Леакадзія Дамінікаўна Раманоўская і яе дзеці Ядвіга і Янка Раманоўскія. На руках у Янкі пляменніца — 5-гадовая Жана Каспяровіч.

20 чэрвеня 1948 года ў Вязынцы адкрыўся філіял Літаратурнага музея Янкі Купалы. Работай музея кіравала Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. Філіял рос і развіваўся, ствараліся экспазіцыі, прымаліся экскурсіі, праводзіліся святы. Павялічвалася і тэрыторыя філіяла.

У 1972 годзе ў сувязі з 90-годдзем са дня нараджэння Янкі Купалы ўрад Беларусі прыняў рашэнне аб стварэнні Купалаўскага мемарыяльнага запаведніка «Вязынка» ў Маладзечанскім раёне. Агульная плошча запаведніка 21 гектар. Сюды быў перавезены з Мінска бюст-помнік Янку Купалу (скульптар З. Азгур).

Хата, у якой нарадзіўся паэт, патрабавала рэстаўрацыйных работ. Пачалася праца па навуковым апісанні сядзібы, запісваліся ўспаміны старажылаў Вязынкі. Сталі аднаўляцца і іншыя будынкі фальварка Замбжыцкіх (свіран, хатка дваровых), праведзена было і добраўпарадкаванне тэрыторыі.

Стала вядома, што ў Ольштыне (Польшча) знаходзіцца ўнучка Станіслава Замбжыцкага Марыя Айова (1900—1993), якая яшчэ дзяўчынкай жыла ў Вязынцы і добра памятала атмасферу тагачаснага жыцця.

Кіраўніцтва музея накіравала мяне ў камандзіроўку ў Варшаву. З прыхільнасцю і разуменнем мяне сустрэлі прадстаўнікі культуры Польшчы. Разам з перакладчыкам мы накіраваліся на вуліцу Ягелонскую, 83.

Гэта была ўжо немаладая жанчына, але вельмі прыгожая, энергічная. Марыя Іосіфаўна вельмі ўзрадавалася нашай сустрэчы. У размове з ёй мне ўдалося ўдакладніць многія пытанні з таго, што тычылася жыцця Вязынкі на пачатку XX стагоддзя.

Мы гаварылі пра Вязынку, дзе прайшлі яе дзіцячыя і юнацкія гады. Яна добра памятала хату, у якой нарадзіўся Янка Луцэвіч, нават зрабіла накіды на паперы. З захапленнем апавядала пра дзеда Станіслава і яго добрую і ласкавую жонку Алімпію. Асабліва яскрава расказвала пра святы, якія праводзіліся ў Вязынцы: Каляды, Вялікдзень, Купалле.

Яна згадала, што самым любімым святам было Купалле. Звычайна яно праходзіла на паляне, каля гары «Арарат» (так некалі яе назваў Станіслаў Замбжыцкі). З-пад гэтай гары бруіла крынічка, вада з якой бегла ў Вязынку. Некалі рэчка гэта была даволі вялікая і чыстая, у ёй вадзілася фарэль.

Рыхтаваліся да свята дарослыя і дзеці. Дарослыя збіралі дровы і галлё для вогнішча, дзеці плялі вяночкі. У лесе каля Вязынкі ў той час цвілі невялічкія шэра-блакітныя кветачкі, якія называліся купалкамі-купалінкамі. На іх варажылі на сваё шчасце-долю.

Як толькі вечарэла, усе — хлопцы і дзяўчаты, мужчыны і жанчыны — збіраліся на паляне. Раскладвалі вогнішча, скакалі праз агонь, вадзілі карагоды, спявалі песні, а потым ішлі ў лес шукаць папараць-кветку. Многа было шуму, смеху. А як віднела, босыя ішлі па расе ў капусту і сціскалі качаны, каб былі вялікія і сакавітыя.



*Марыя Айова з пляменніцай Бернадэтай Шэдлоўскай. Польшча, Ольштын. 1957 г.*

Марыя Айова многа цікавага ўспомніла пра дзеда, Станіслава Замбжыцкага, які захапляўся помнікамі старажытнасці, падтрымліваў сувязь з археолагамі, вывучаў мясцовыя курганы і першы апісаў гарадзішча ў Вязынцы.

Прыпомніла яна і як «дзядок Станіслаў» прывіваў любоў да ўсяго нацыянальнага, беларускага. У гэтым яму дапамагала і бабуля Алімпія. Так яна арганізавала моладзь займацца рукадзеллем: ткаць, вышываць, вязаць.

Ткалі палатно: з воўны — посцілкі, з ільну — сурвэткі. Гатовыя вырабы прадавалі.

Дзеда Станіслава ўсе любілі, паважалі ды слухаліся. Ён кіраваў жыццём у фальварку. Сам працаваць не мог: была пашкоджана рука і нага. Усю зямлю, што яму належала, здаваў у арэнду. Такімі арандатарамі былі і Луцэвічы.

Марыя Айова ўзгадала, што яе бацька не любіў гаспадарыць, і дзед аддаў яго вучыцца «на машыніста». Пасля вучобы ён працаваў на паравозе на Ніжне-Тагільскай чыгунцы ў Расіі. Каля Вязынкі раней чыгункі не было. Пры дзеду Станіславу толькі пачалі пракладваць рэйкі. Ён даваў рабочым прадукты. Пасля высветлілася, што з-за выдаткаў далей утрымліваць рабочых на сваім харчаванні Станіслаў Замбжыцкі не зможа. Тады чыгуначнікі заявілі, што калі не будуць выдавацца харчы, то чыгунку павядуць праз сядзібу і нават праз хату. Так, Станіслаў Замбжыцкі быў вымушаны прадоўжыць карміць рабочых, а дарога зрабіла дугу каля Вязынкі.

Калі была пракладзена Лібава-Роменская чыгунка, то і жыццё ў Вязынцы стала весялейшым, успамінала пані Марыя. Уся дзейнасць фальварка звяралася не па гадзінніку, а прыстасоўвалася да руху цягнікоў. У нядзелю ўсе выходзілі на шпацыр да чыгункі. Не хадзіў толькі дзед Станіслаў: здароўе не дазваляла.

Дзядуля Станіслаў, працягвала ўспамінаць пані Марыя, прывучаў унукаў да працы. На сядзібе быў вызначаны кавалак зямлі, акуратна зроблены градкі, на якіх садзілі ўсё, што хацелі. Пасевы даглядалі, восенню збіралі ўраджай.

Марыя Іосіфаўна прыпомніла адно здарэнне ў Вязынцы: насоўвалася навальніца, усхадзілася бура, якая ўсё ламала і крышыла. Нарэшце наляцела на вялізнае дрэва, што расло на сядзібе. Зламала, злажыла на зямлю. Дзеці вельмі шкадавалі дрэва, таму што любілі гуляць каля яго, хавацца ад сонца. Застаўся ад дрэва апрацаваны пянёк. І дзеці яго абсыпалі зямлёй, а вясной садзілі пахучы гарошак.

Так, год за годам, ішло жыццё ў Вязынцы. Але праз некаторы час гаспадар фальварка напісаў пісьмо сыну Юзафу, у якім прасіў прыехаць і пераняць гаспадарку.

У 1901 годзе памерла Алімпія Замбжыцкая, якая была хроснай маці маленькага Яся Луцэвіча. Страта яе зусім знясіліла Станіслава.

У 1907 годзе гаспадарыў у Вязынцы Юзаф Замбжыцкі, а дапамагала яму жонка Зоф'я з Віткоўскіх.

Аднойчы пан Станіслаў устаў рана, апрануўся па-святочнаму і сказаў Зоф'і: «Мы сягоння будзем адзначаць вялікае свята — 100-годдзе Вязынкі. Падрыхтуйце святочнае снеданне!» А сам пайшоў у спальню. Хутка сняданак быў падрыхтаваны, усё стаяла на стале, пайшлі клікаць Станіслава. Зайшлі ў пакой і ўбачылі, што ён нерухома ляжыць на ложку і не дыхае.

Пахавалі яго на могілках у Радашковічах, побач з жонкай Алімпіяй. Юзаф Замбжыцкі (12.08.1861—25.11.1948) — апошні гаспадар фальварка памёр у Котлінцы, што каля Вязынкі, па другі бок чыгункі.

На такой сумнай ноце закончылася размова пра Вязынку з цудоўнай жанчынай Марыяй Айовай. На развітанне Марыя Язэпаўна перадала ў дарунак гліняны гарлачык, які захаваўся ў яе з Вязынкі. «Няхай ён захоўваецца на нашай радзіме, у філіяле Літаратурнага музея Янкі Купалы — Купалаўскай Вязынцы» — дадала пані Марыя.

Пасля мы яшчэ доўга ліставаліся. У кожным лісце размова ішла пра Вязынку.



*Ядвіга Раманоўская.*

Сёння Купалаўскі мемарыяльны запаведнік сустракае нас прыгожай дубровай са 100 дубоў. Гэты помнік Песняру быў створаны беларускімі пісьменнікамі ў год 100-годдзя са дня нараджэння Янкі Купалы.

Падковай блішчыць ставок, над якім схіліліся ніцыя вербы, а крыху далей бруіць крыніца. Адноўлены свіран, у якім размяшчаецца сезонная экспазіцыя, прысвечаная беларускім народным абрадам і святам у творчасці Янкі Купалы.

У 2002 годзе ў будынку філіяла музея была створана новая літаратурна-дакументальная экспазіцыя, дзе шырока паказана гісторыя сем'яў Луцэвічаў і Замбжыцкіх.

З 1972 года штогод на пачатку ліпеня ў Вязынцы збіраюцца прыхільнікі творчасці Купалы на Рэспубліканскае свята паэзіі. Праводзяцца злёты студэнтаў-філолагаў БДУ. Радзіма Купалы вабіць і шматлікіх турыстаў з усяго свету, нават з ЗША, Канады і г. д. Наведваюць Вязынку і госці з далёкага і блізкага замежжа. Памятаю, якой вялікай падзеяй на Купалаўскай зямлі стаў прыезд удзельнікаў Міжнароднага праекта «Літаратурны экспрэс Еўропа-2000». Пісьменнікі, прадстаўнікі 43-х краін Еўропы, якія пачалі свой рух па чыгунцы з Партугаліі, праехалі праз усю Еўропу з прыпынкамі для правядзення літаратурных акцый у Іспаніі, Францыі, Бельгіі, Германіі, Польшчы, Літве, Латвіі, Эстоніі і Расіі.

Госці-пісьменнікі прыехалі ў Вязынку, каб пакланіцца той зямлі, якая нарадзіла выдатнага паэта Еўропы, генія беларускай літаратуры, змагара за нацыянальны гонар беларусаў.

Наведвалі Вязынку ў розныя часы пісьменнікі з Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі, Грузіі, Арменіі і іншых краін. Многія паэты прысвячалі свае вершы Вязынцы. Захоплены прыгожымі беларускімі краявідамі і ўзрушаны ад сустрэчы з паэзіяй Янкі Купалы, англійскі паэт Уолтэр Мэй у кнізе водгукаў філіяла музея пакінуў цёплыя і шчырыя паэтычныя радкі:

Прымі маю падзяку,
шчодры лёс,
Што ты прывёў мяне
з канца Еўропы
У гэты кут
пад засень вербалоз.
З настою агурочніку і кропу.
Што тут,
над ціхай Вязынкай ракой,
Нібы дыханне краю
чуўшы зблізку
Я скалыхнуў удзячнаю рукой
Далёкі пілігрым, яго калыску.

І сёння Вязынка застаецца для наведвальнікаў і нашчадкаў Купалавай паэзіі светлым успамінам пра творцу, трапяткой повяззю дзён, што злучае Купалу і Беларусь.

*2011 г.*

***Ядвіга РАМАНОЎСКАЯ***

***6 мая 2011 г. Ядвігі Раманоўскай — пляменніцы знакамітага песняра зямлі беларускай Янкі Купалы — не стала. Рэдакцыя часопіса выказвае спачуванні яе родным і блізкім.***

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## МЯДЗЕЛЬСКІ РАЁН

* * *

**Вёска Альшэва** Свірскага пассавета

**Альшэўскі летапіс** — помнік беларускага летапісання XVI ст. Гэта спіс пашыранай рэдакцыі «Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага», перакладзены на польскую мову, аналагічны тэксту Кракаўскага (на польскай мове) і Румянцаўскага спісаў. У XIX ст. захоўваўся ў бібліятэцы землеўласніка Хамінскага ў маёнтку Альшэва (адсюль і назва). Цяпер зберагаецца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве. Датуецца 1550 г. Альшэўскі летапіс — самы ранні пераклад на польскую мову беларуска-літоўскага летапісу.

**Хамінскага Людвіка** (1.2.1896—28.1.1958), польскага літаратара, выдаўца, публіцыста, грамадскага дзеяча, агранома, уладальніка «Альшэўскага летапісу», радзіма. У 1908 г. з адзнакай скончыў Свянцянскую гімназію. У 1908—1912 гг. вучыўся ў Ягелонскім універсітэце (Кракаў) адразу на двух факультэтах: інжынерна-агранамічным і гуманітарных навук. З 1915 г. жыў у Вільні і рэгулярна наведваўся ў Альшэва. З'яўляўся членам Польскай народнай партыі «Вызваленне». Ад яе ў 1923 г. быў выбраны дэпутатам польскага сейма. У час суда над дзеячамі Беларускай сялянска-работніцкай грамады выступаў у абарону Б. Тарашкевіча. У 1918 г. заснаваў у Вільні друкарню «Lux». Рэдагаваў і выдаваў польскія штотыднёвік «Унія» (1919), часопіс «Наш край», «Краёвую газету», акадэмічны альманах «Alma mater Vilnensis». У 1929—1939 гг. займаў пасаду прэзідэнта Таварыства бібліяфілаў Вільні. У Альшэве стварыў прыватную бібліятэку, якая ў канцы 1938 г. налічвала каля 12 000 тамоў. Аўтар кніг-даследаванняў «Сярэдняя Літва і Польшча», «Лад Літвы». У 1939 г. Хамінскія пакінулі Альшэва. У час апошняй вайны жыў у Вільнюсе. Падпольна выдаваў «Віленскі бюлетэнь», у якім змяшчаў матэрыялы антыфашысцкага накірунку. У канцы 1944 г. быў арыштаваны органамі НКУС і сасланы ў Данбас на шахты. Там прабыў да 1946 г., пакуль яго, як польскага падданага, не дэпартавалі. У Варшаве быў прызначаны дырэктарам Цэнтральнага інстытута культуры. Стаў сузаснавальнікам кааператыўнага выдавецтва інстытута «Мастацтва», з'яўляўся адначасова старшынёй управы гэтага выдавецтва. За актыўную, плённую і патрыятычную дзейнасць урад Польшчы ганараваў яго афіцэрскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы.

Спадчыну Альшэўскіх даследуе жыхар вёскі Камарова таго ж р-на пісьменнік, аўтар некалькіх краязнаўчых кніг, педагог **Драўніцкі Янка,** ураджэнец в. *Гвоздавічы* Пастаўскага р-на Віцебскай вобл.

**Вёска Бадзені** Старагабскага сельсавета

**Шабовіча Мікалая** (н. 4.1.1959), паэта, радзіма. З сям'і калгаснікаў. Скончыў Дзягільскую васьмігадовую і Мядзельскую сярэднюю школы. У 1981 г. скончыў Мінскі педа-

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—12 за 2010 г. № 1, 2, 3, 4, 5 за 2011 г.

гагічны інстытут. У 1981—1986 гг. настаўнічаў. Затым закончыў аспірантуру Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута (1989). Там жа абараніў кандыдацкую дысертацыю, выкладаў на кафедры беларускага мовазнаўства. З 2005 г. дацэнт таго ж калектыву. З 1992 да 2002 г. адначасова працаваў загадчыкам літаратурна-драматычнай часткі Мінскага абласнога драматычнага тэатра ў Маладзечне. Друкуецца з 1976 г. Аўтар паэтычных зборнікаў «Дом» (1996), «Яшчэ пакуль не лістапад...» (1996), «Падары мне сваю адзіноту» (2002), «Мая надзея» (2006), «Хор болей не спявае» (2008). Многа вершаў прысвяціў сваёй роднай вёсцы.

**Вёска Брусы** Вузлянскага сельсавета

**Каўруса Алеся** (н. 18.5.1935), беларускага мовазнаўца, публіцыста, радзіма. Вучыўся ў Бруснянскай сямігадовай і Мядзельскай сярэдняй школах. У 1959 г. скончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя М. Горкага. Працаваў дырэктарам Мікольскай (1959—1960), настаўнікам Бруснянскай (1960—1962) васьмігадовых школ. У 1962—1965 гг. вучыўся ў аспірантуры пры Мінскім педінстытуце. З 1965 г. выкладаў у Мазырскім педінстытуце. З 1968 г. — у Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі, з 1974 г. — у выдавецтве «Народная асвета», з 1981 — у Беларускім педуніверсітэце. Аўтар кніг «З крыніц народнай мовы» (1980, 2-е выд. 1987, 3-е выд. 1992), «Культура слова» (1983), «Слова наша роднае» (1986), «Мова народа, мова пісьменніка» (1989), «Дакумент па-беларуску» (1994) і інш. Жыве ў Мінску.

**Пасёлак Будслаў,** цэнтр сельсавета

**Будзькі Эдварда** (22.3.1882—14.8.1958), паэта, публіцыста, выдаўца, радзіма. Вучыўся ў Рыжскім політэхнічным інстытуце, які пакінуў з-за беднасці. Служыў у Рызе паштовым чыноўнікам. У 1916 г. у Петраградзе выдаваў газету «Светач», разам з Ц. Гартным супрацоўнічаў у газеце «Дзянніца». Друкаваў там вершы пад псеўданімам Акцюб. Удзельнік 1-га Усебеларускага кангрэса 1917 г. у Мінску. У 1918 г. арганізаваў беларускую гімназію ў Будславе. Кіраваў настаўніцкімі курсамі ў Дзвінску (1921—1922). У Заходняй Беларусі быў актывістам кааперацыйнага руху. У Вільні аб’явіў конкурс на лепшы беларускі твор (1932). У Айчынную вайну настаўнічаў у Мінску і Баранавічах. З 1944 г. — у Ватэнштэце (Германія), з 1950 г. — у ЗША. Дэбютаваў вершамі ў 1906 г. у газеце «Наша ніва». У эміграцыі друкаваўся ў газеце «Бацькаўшчына» і інш. Пахаваны на могілках святога Войцеха ў Чыкага.

**Касцевіча Янука** (18.5.1857—1926), паэта, радзіма. Скончыў Будслаўскае прыходскае вучылішча. Пасля службы ў войску з 1882 да 1913 г. жыў у Лібаве (Латвія), потым пераехаў у Палангу (Літва). Пісаў на беларускай мове. Аўтар паэмы «Князь Вітаўт». Сябраваў з літоўскімі грамадскімі і культурнымі дзеячамі — паэтам Майронісам, вучоным Ё. Басанавічусам, публіцыстам К. Прыпялянісам.

**Мядзёлкі Паўліны** (24.9.1893—13.2.1974), артысткі, пісьменніцы, педагога, грамадскай дзяячкі, радзіма. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1966). Скончыла Вышэйшыя камерныя курсы ў Пецярбургу. Сябравала з **Купалам Янкам**. Адна з першых выканаўцаў ролі Паўлінкі ў яго аднайменнай п’есе (1913, Пецярбург). Пісала вершы, паэмы, песні, п’есы. Аўтар успамінаў «Сцежкамі жыцця» (1974). У Будславе кіравала драматычным гуртком (1947—1958). Тут жыла апошнія гады і пахавана.

**Вёска Зані** Старагабскага сельсавета

**Жука Ігара** (н. 13. 6.1957), літаратуразнаўца, крытыка, педагога, радзіма. Доктар філалагічных навук (2004). Закончыў Будслаўскую сярэднюю школу, філфак БДУ (1979), аспірантуру пры кафедры беларускай літаратуры БДУ (1982). Быў накіраваны на кафедру беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы, з 1990 г. — яе дацэнт, з 1991 — дэкан факультэта беларускай філалогіі і культуры, цяпер прафесар кафедры. Першая публікацыя, рэцэнзія на кнігу «Такі ён быў», надрукавана ў 1976 г. Удзельнік семі-

нара маладых пісьменнікаў у Каралішчавічах (1983). Кіраваў літаратурным аб'яднаннем «Наднёманскія галасы». Выступае ў друку па пытаннях развіцця беларускай прозы. Аўтар больш за 100 навуковых публікацый, сярод якіх — метадычныя распрацоўкі «Беларуская крытыка і літаратуразнаўства (20—30-я гг.)» (1997), «Беларуская літаратуразнаўчая школа» (1998), манаграфіі «Сустрэчны рух» (1998), «Празаічны тэкст: дынаміка рытмаванага існавання» (2003). Узнагароджаны граматамі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

**Вёска Засвір** Свірскага пассавета

**Казімір Сваяк** (19.2.1890—6.5.1926), паэт, драматург, публіцыст, беларускі каталіцкі святар, ураджэнец в. *Барані* Астравецкага р-на Гродзенскай вобл., у 1920 г. атрымаў прызначэнне пробашчам у гэтую вёску, дзе і правёў у працы астатняе жыццё. Да гэтага перыяду адносіцца выхад адзінай прыжыццёвай кнігі паэта «Мая ліра» (Вільня, 1924). У 2007 г. у касцёле была ўстаноўлена памятная дошка, прысвечаная Казіміру Сваяку. Імшу за яго душу адслужыў біскуп Антоній Дзям'янка.

**Былы фальв. Кавалькі** Слабодскага сельсавета

**Гурыновіча Адама Гілярыя** (25.1.1869—23.1.1894), паэта-дэмакрата, фалькларыста, радзіма. Вучыўся ў Віленскім рэальным вучылішчы (1879—1887). У 1887 г. паступіў у Пецярбургскі тэхналагічны інстытут. У студзені 1888 г. захварэў на тыф і вымушаны быў часова звольніцца з інстытута, вярнуцца на радзіму. Увосень 1888 г. зноў паступіў на 1 курс. Член, кіраўнік створанага ў 1889 г. нелегальнага «Гуртка моладзі польска-літоўскай, беларускай і маларускай», які аб'ядноўваў студэнтаў шэрагу пецярбургскіх ВНУ і быў звязаны з Г. Пляханавым. У 1893 г. арыштаваны і зняволены. З-за хваробы адпраўлены пад нагляд паліцыі ў бацькоўскі фальварак *Крыстынопаль*, дзе і памёр ад чорнай воспы. Пахаваны ў *Зольках* (Вілейскі р-н). Пісаў на беларускай, польскай і рускай мовах. У Свянцянскім павеце зрабіў шмат запісаў беларускага фальклору («Зборнік беларускіх твораў...», 1893). Упершыню яго творы апублікаваны (з уступным словам Б. Тарашкевіча) у газеце «Беларускі звон» (1921). Частка рукапіснай спадчыны Гурыновіча зберагаецца ў БДАМЛіМ і Цэнтральнай бібліятэцы АН Літвы, бібліятэцы Таруньскага ўніверсітэта (Польшча). Пісьменніку прысвечаны два выданні кнігі вілейскага краязнаўца Анатоля Рогача «Адам Гурыновіч».

**Фальв. Каладзянка,** не існуе

**Каравацкага Францішка** (14.5.1907—1988), беларускага і польскага паэта, журналіста, радзіма. З 1925 г. член Незалежнай сялянскай партыі. З 1926 г. — член КПЗБ, з 1928 г. — член Пастаўскага падпольнага райкама КПЗБ. За рэвалюцыйную дзейнасць быў зняволены на 7 гадоў. У 1936 г. вызвалены, да 1938 г. быў у складзе падпольнага Краёвага сакратарыята ЦК КПЗБ. У Другую сусветную вайну супрацоўнічаў з польскім патрыятычным рухам, з 1943 г. — у падполлі акупаванай Варшавы. Пасля вайны арыштаваны па ілжывым абвінавачванні, 5 гадоў быў у зняволенні ў СССР. Рэабілітаваны. З 1952 г. — у вільнюскай польскай газеце «Czerwony Sztandar» («Чырвоны сцяг»). З 1957 г. у Польшчы. Пісаў вершы на беларускай і польскай мовах. Некаторыя з іх, напісаныя ў 1927 г., сталі рэвалюцыйнымі песнямі («Мы ішлі ў цяжкім змаганні», «Стары год пражыўшы, жывём новы год» і інш.); якія былі ананімна апублікаваны ў зборніку «Сцягі і паходні» (1965).

**Вёска Калодзіна** Занарацкага сельсавета

**Шабана Яўгена** (29.12.1936—30.7.1982), драматурга, паэта, акцёра, рэжысёра, радзіма. Скончыў Мядзельскую СШ (1954), Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (1958). Працаваў акцёрам, загадчыкам літаратурнай часткі Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску (1958—1965), рэжысёрам студыі Беларускага тэлебачання (1965—1976). З 1976 г. — загадчык літаратурнай часткі Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы. Літаратурную працу пачаў у 1960 г. Аўтар зборнікаў

«Нарачанка» (1969), «Чырвоныя сумёты» (1977), п'ес «Ракіроўка» (1975), «Чахарда» (напісана ў 1976), «Сіні снег» (пастаўлена Беларускім рэспубліканскім тэатрам юнага гледача ў 1975 г., апублікавана ў 1976 г., у 1978 г. на Усесаюзным конкурсе «Карчагінцы-70» адзначана прэміяй ЦК ВЛКСМ), «Шрамы» (апублікавана і пастаўлена Беларускім тэатрам імя Янкі Купалы ў 1977 г., пазней пастаўлена ў 28 тэатрах СССР і Чэхаславакіі), «Чалавек з легенды» (напісана разам з І. Рыжковым і пастаўлена Беларускім тэатрам імя Янкі Купалы ў 1978), «Аўтограф на пласцінцы», «Вячэра» (напісаны ў 1982), «Востраў Алены» (апублікавана і пастаўлена ў 1982 г. Беларускім тэатрам імя Якуба Коласа), лібрэта тэлеоперы «Ранак» (па матывах паэмы А. Куляшова «Песня аб слаўным паходзе», музыка Г. Вагнера). Стварыў шэраг тэлевізійных інсцэніровак.

**Вёска Каракулічы** Сырмежскага сельсавета

**Дуксы Мар'яна** (н. 5.4.1943), паэта, радзіма. Рос на хутары каля вёскі. У 1946 г. застаўся без бацькі. У 1958 г. скончыў сямігодку і паступіў у вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, пасля заканчэння якога (1960) працаваў учотчыкам трактарнай брыгады і адначасова вучыўся завочна ў сярэдняй школе. Скончыў БДУ (1969). Да 1987 г. настаўнічаў у вёсцы Солы Ашмянскага р-на Гродзенскай вобл. Друкуецца з 1960 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Спатканне» (1967), «Крокі» (1972), «Прыгаршчы суніц» (1976), «Зона супрацíўлення» (1982), «Твая пара сяўбы» (1985), «Заснежаныя ягады» (1989, Літаратурная прэмія імя А. Куляшова, 1990), «Горн прымірэння» (1993), «Валуны на пагорках» (1994), кніг для дзяцей «Зялёны акварыум» (1980), «Нябесны караван» (1998), «Прыйсці да алтара» (2003). Жыве ў вёсцы Солы Ашмянскага р-на Гродзенскай вобл. Шмат твораў прысвяціў родным мясцінам.

З верша «Мядзельшчына» (зборнік «Спатканне», 1967):

Калі неба старанна палошча
дываны залатыя зары,
Я цябе пазнаю па вогнішчах,
партызанскай зямлянцы ў бары,
тапаліных старых прысадах,
ручаю, што выбежа з лесу.
А вясною з вішнёвага саду
ўдыхаю я водар лекавы.

**Шляпо Івана** (н. 15.1.1939), паэта, радзіма. Падпалкоўнік у адстаўцы. Жыве ў Малдове. Актыўны сябар беларускай супольнасці ў гэтай краіне, намеснік старшыні арганізацыі. Першую кнігу «Анталогія аднаго жыцця» выдаў у 2003 г. Аўтар кніг на рускай мове «Шляхі-дарогі» (2005) і «Успаміны» (2006).

**Вёска Качаны** Старагабскага сельсавета

**Шаранговіча Васіля** (н. 14.1.1939), народнага мастака Беларусі (1991), радзіма. Аўтар аўтабіяграфічнай аповесці «Ген жыцця» (2009). Ілюстраваў творы беларускіх пісьменнікаў Я. Коласа, Я. Купалы, М. Багдановіча, У. Караткевіча, А. Міцкевіча. Закончыўшы Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут (1966), выкладаў у ім (1967—1998, у 1989—1997 — рэктар). З 1997 г. — дырэктар Музея сучаснага выяўленчага мастацтва. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Прафесар (1981).

**Гарадскі пасёлак Крывічы,** цэнтр пассавета

**Ходзькі Аляксандра Барэйкі** (30.8.1804—27.12.1891), польскага паэта, фальклярыста, славіста, усходазнаўца, радзіма. Сын **Ходзькі Яна**. У 1825 г. скончыў са ступенню кандыдата філасофіі Віленскі ўніверсітэт, у 1829 г. — вучэбнае аддзяленне жывых моў пры Азіяцкім дэпартаменце Міністэрства замежных спраў у Пецярбургу. У 1823—1824 гг. за ўдзел у таварыстве філарэтаў быў арыштаваны. Аўтар зборніка «Паэзія» (1829). З 1842 г. — у Парыжы, у 1857—1883 гг. — прафесар славянскіх літаратур універсітэта Калеж дэ Франс. Запісваў

успаміны **Міцкевіча Адама**, памагаў яму выдаваць іх. Першым з еўрапейцаў апісаў і прааналізаваў фальклор туркменаў, эпас Кёр-Аглы, вершы туркменскіх паэтаў. Адкрыў сваімі перакладамі для Еўропы персідскую (фарсі) паэзію.

**Ходзькі Міхала Барэйкі** (1808—2.5.1889), польскага перакладчыка, радзіма. Удзельнік паўстання 1830 г. Супрацоўнічаў са шматлікімі перыядычнымі выданнямі. Аўтар паэм «Дзесяць карцін з экспедыцыі ў Польшчу 1833 года», «Шыман Канарскі» (1845), успамінаў «Экспедыцыя ў Польшчу ў 1833 г. аднаго з эмісараў» (1835), «Міцкевіч і польскі легіён у Італіі» (1862). Пераклаў на польскую мову творы Дж. Байрана «Мазепа» і «Манфрэд». Памёр у Парыжы.

**Ходзькі Яна Барэйкі** (псеўд. Ян са Свіслачы; 24.6.1777—10.11.1851), польскага пісьменніка, драматурга, грамадскага дзеяча, радзіма. З 1793 г. быў цывільна-вайсковым камісарам Ашмянскага пав., з 1795 г. асэсарам суда ў Паставах, з 1798 г. падсудкам, з 1808 г. падкаморым Вілейскага пав., з 1811 г. старшынёй Галоўнага грамадзянскага суда ў Мінску, інспектарам школ у Віленскай, Магілёўскай і Віцебскай губ. Адзін з арганізатараў масонскіх ложаў у Мінску і Вільні. За сувязь з Таварыствам філаматаў у 1826 г. зняволены. За ўдзел у паўстанні 1830—1831 гг. сасланы на Урал (1830—1834). Аўтар камедыі «Вызваленая Літва, або Пераход Нёмана» (1812), трагедыі «Кракус» (напісана ў 1816), аповесцей «Пан Ян са Свіслачы» (1821), «Брат і сястра» (1845), трактата «Аб эксдывізіях, або Аб судовым падзеле маёнтка даўжніка на карысць крэдытораў» (1816), успамінаў і артыкулаў па гісторыі Міншчыны. П'есы Я. Ходзькі ставіліся ў Мінску на аматарскай сцэне ў 1812 г. У 2008 г. адбыліся трэція Ходзькаўскія чытанні пад назвай «Дзень Ходзькаў у Крывічах».

**Шаховіча Мечыслава** (н. 9.1.1933), паэта, радзіма (па іншых звестках — хутар Галоўшчызна). Працаваў у Крывіцкім райкаме камсамола, настаўнікам. У 1962 г. скончыў факультэт журналістыкі БДУ, а ў 1968 г. — Мінскую ВПШ. Быў накіраваны на Старадарожчыну. Да 1978 г. працаваў рэдактарам раённай газеты «Поступ Кастрычніка». З 1978 г. жыве ў Смалявічах. Выдаў кнігі паэзіі «Па загаду сэрца» (1975), «Паклон зямлі» (1979), «Бераг дабрыні» (1990), кніжкі для дзяцей «Падарунак» (1976), «Сунічная палянка» (1981).

**Вёска Круці** Мядзельскага сельсавета

**Чарняўскага Міхаіла** (н. 7.3.1938), археолага, пісьменніка, радзіма. Кандыдат гістарычных навук (1971). Скончыў Мінскі педагагічны інстытут (1960). З 1966 г. працуе ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі (у 1990—2001 гг. — загадчык аддзела археалогіі каменнага і бронзавага вякоў). Аўтар мастацкай кнігі «Страла Расамахі» (1985), навукова-папулярных кніг «Вогнепаклоннікі» (1996), «Правадыр крылатых вершнікаў: Ян Кароль Хадкевіч» (1998) і інш.

**Вёска Мікольцы** Мядзельскага пассавета

**Варановіча Адольфа** (н. 15.6.1940), пісьменніка, радзіма. Вучыўся ў Мядзельскай сярэдняй школе. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча (1960). Да 1989 г. працаваў мастаком на Аршанскім ільнокамбінаце. З 1991 — у часопісе «Полымя». Дэбютаваў вершамі ў 1957 г. З 1970 г. выступае як празаік. Аўтар кніг «Высокі падмурак» (1978), «Агні хат» (1986), «Жывая душа» (1993).

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары.***